# Янка Купала

*Поўны збор твораў у дзевяці тамах*



# Янка Купала

*Поўны збор твораў*



*Том*

**8**

**АРТЫКУЛЫ, НАТАТКІ, ВЫСТУПЛЕННІ**
**КАЛЕКТЫЎНЫЯ ТВОРЫ**

Рэдактары тома
**МУШЫНСКІ М. І., СКАЛАБАН В. У.**

Падрыхтоўка тэкстаў
**ЯКАЎЛЕВАЙ Г. В.**

Каментарыі
**ЗАБРОДСКАЙ С. В., ЗОЛАВАЙ Э. А., СТРОЕВАЙ Т. Р.,
ШАМЯКІНАЙ А. І., ЯКАЎЛЕВАЙ Г. В.**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
2002



## 1907

* * *

Беніцкая валасць, Ашмянскага павету, Віл<енскай> губ<ерні>. Дзеці па вёсках растуць без школ, без навукі. Добрая школа павінна падымаць душу і сэрца чалавека, павінна так рабіць, каб чалавек быў справядлівы, абхадзіўся добра з усякім; усё гэта дасць добрая школа. Школы няма, вучэння няма, і сядзіць вёска ў цемнаце, а хлопцы вучацца — галавы разбіваюць адзін аднаму. Напрыклад, нядаўна ў в. Хатуцічах нейкі хлопец забіў камнем другога ў сварцы.

Каля вёскі Рэдзек чалавек 10 разбойнікаў напалі на фальварак, забілі арандатара і яго жонку, забралі пяць тысяч рублёў. Разбойнікаў яшчэ не злавілі.

## СТАРЫЯ ПРАЎДЫ НА НОВЫ ЛАД

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

9. Гаворачы слова «свабода», дадавай заўсягды «не тут спамінаючы», бо, як кажуць: не вызывай ліха, калі яно спіць!

10. Аб «Думе» можаш думаць колькі ўлезе, але гаварыць голасна асцерагайся: гэта не ўсіх па шэрсці гладзіць, авечку стрыгуць, а цякун (баран) дрыжыць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

14. Калі маеш брата ці дарослага сына, абыходзься з імі ласкава, бо як высвенціцца часам каторы на стражніка, то аддасць за лычка раменьчыкам.

15. Не старайся зямлі, хаця бы і купіць, бо са старані часам могуць падумаць, што дамагаешся «зямлі і свабоды»; хто парасё ўкраў, таму і ў вушах пішчыць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

20. Не праціўся, калі гоняць дарогу правіць не сваю дый дарма: можа, часам і цябе будуць па ёй весці, дык не будзеш каяцца; кінь за сабою, знойдзеш перад сабою.

21. Калі гэта ўсё чыста перачытаў, добра ў сваіх думках раскалупай, каб не збіўся, што да чаго і к чаму; людзей слухай і свой розум мей!

## ХТО К ЛЕСУ, А ХТО К БЕСУ

— Ці ты бачыў калі слабоду? — пытае адзін мужык другога.

— Бачыў,— кажа другі.

— Ну, а як яна выглядае?

— Не самавіта,— калі табе праўду сказаць. Стаіць у нейкім балоце; будынкі пападгнівалі, у зямлю паўязджалі; стрэхі саламяныя; мох на іх парос, шчыты вецер пазрываў; вокны ў хатах лучынкамі ды анучамі пазалатываны; людзі нейкія абарваныя, у лапцёх, зацяганыя, згаладалыя і перапужаўшыся,— бо трэба табе ведаць, што пад той час, як я быў, наехалі там «госці» і пасвойму слабаджанаў абучалі нагайкамі...

— Аб якой ты гэта вярзеш слабодзе?

— Ну, аб Слабодзе, Нагайкаўскай воласці, Усмірыцельскага вуезду, што недалёка ад Прыгонава і Вісельнева.

— Ну і заехаў жа ты, брат! Я пытаю аб слабодзе, што нам дарована маніфэстам?!

— Ага! Зразумеў!.. Ну, выбачай, сватка, гэтакай слабоды мне яшчэ не здарылася бачыць!..

## ПРАПАЎШАЕ ДЗІЦЯ

Нядаўна ў Маскве было такое здарэнне.

Да багатай пані і афіцэра, каторыя толькі што выйшлі з карэты, падыйшла дзяўчынка — убогая і працягнула да іх руку, каб падарылі. Пані стала даставаць грошы, пазіраючы на дзяўчынку. Яна ўдруг страшна закрычала і кінулася да дзяўчынкі, каторая зараз жа апынулася на руках пані і афіцэра. Сабралася многа цікавых, і вот яны што пачулі.

У час ляоянскай бітвы афіцэр камандаваў ротаю і жыў з жонкаю і дачкою ў кітайскім доме (фанзе). Як пачалося адступленне рускага войска, следам за японскімі салдатамі набеглі хунхузы і пачалі паліць афіцэрскія кватэры. У гэтай страшнай калатэчы дзяўчынка згубілася і папала да хунхузаў. Потым у стычцы пабілі часць хунхузаў, другія кінуліся ўцякаць і пакінулі дзяўчынку, каторую забралі нашы салдаты. Яе даглядаў салдат Грыцко. Раненага, яго адправілі ў Маскву. Ён узяў з сабою і дзяўчынку. У Маскве Грыцко доўга шукаў месца, дайшоў да торбы і стаў жабраваць з дзіцём. Нядаўна Грыцко памёр, а беднаму дзіцяці прыйшлося ісці на вуліцу, покі доля ізноў не звяла яе з бацькам і маткаю.

---

* * *

Ніхто і нішто не выцягае так многа грошай з мужыцкай кішэні, як праклятая манаполька. Не шкода б было гэтых грошай, каб яны шлі на карысць чалавеку. Але ў гарэлцы якая карысць?

Наш мужык беларус не пазнаў яшчэ смаку ў чытанні газет, кніг, і на газету і кнігу ён пазірае як на пустую забаўку, страціць лішні грош на гэтыя рэчы нашаму беларусу і ў галаву не прыходзіць. Затое ён знае смак у гарэлцы і на гарэлку гатоў аддаць апошні грош, зароблены крывавай працай.

Так, у сяле Мікалаеўшчыне Мін<скай> губ<ерні> прапіта грошай ад Новага года да 1 аўгуста (за 6 мес.) 5012 руб. $94^1/_2$ кап.

У м<ястэчку> Новым Свержэне, таго самага уезда, манаполька таргуе за год на 20 000 руб. Дзе мужыкі больш свядомы і граматны, там шмат меней прапіваюць грошай і больш чытаюць кніг і газет.

Так, літоўцы (клэўсі) цяпер паразумнелі і цэлымі вёскамі адракаюцца піць гарэлку, так што манапольки закрываюцца ў Літве, бо няма гандлю. Затое скрозь па вёсках чытаюць газеты.

## 1908

* * *

М<ястэчка> Мір Мінск<ай> губ<ерні>. Тут аштрафавалі вучыцеля Сямёна С-а за «незаконнае сабранне» на 50 руб. Уся «незаконнасць» была ў тым, што к гаспадыні, дзе жыве С., прыходзілі многа маладых людзей у госці, бо ў яе ёсць дочка. Як паліцыя рабіла вобыск у гэтай кватэры, дык С. не было дома.

* * *

М<ястэчка> Астрашыцкі Гарадок Мінс<кай> г<уберні> і пав<ету> належыць да графоў Тышкевічаў; покуль жыла старая графіня, то ўсёй шляхце арэндоўнай і слугам жылося напол з бядой і яны верылі, што такія парадкі будуць на вякі. Але калі сёлета вясной прыехаў новы камісар М., усё змянілася. І вось давай ён па-своему рабіць суд і расправу: падбаўляць чуць не ў два разы арэнду, адбіраць сенажаці без ніякага права на гэта і т. д. Новы камісар жнеям з в<ёскі> Б. хацеў заплаціць па 30 к., але бабы адракліся ад грошай, бо скрозь у нас плацілі па 45—50 кап. Нарэшце прыехаў старшы камісар і перарабіў некаторыя парадкі пастараму, а М. астаўся надалей.

* * *

М<ястэчка> Гарадок, Вілен<скай> г<уберні> Вілейск<ага> п<авету>. 7 акцябра ўдзень напалі 3 зладзеі на майстра, што робіць загаркі, Вітала і рэзніка Лапідуса, каторыя ішлі з Гарадка ў Радашковічы. Разбойнікі адабралі ад беднага майстра тры загаркі і грошы, а ў Лапідуса грошы і дакументы.

3 акцябра на гасцінцы Гарадок — Ракаў ізноў аграбілі 5 купцоў. Зладзеі пабілі купцоў, парвалі на іх адзежу, шукаючы грошы, прастрэлілі каню вушы, відаць, хацелі забіць яго. Нашы сталыя беларусы на такія зладзейства не адважаюцца, бо маюць яшчэ старасвецкае сумленне. Малодшыя людзі старасвецкія правілы адкінулі, а новых ім ніхто не ўлажыў у галаву. Каб было добрае ўстройства жыцця, былі школы добрыя, грамадскія суполкі, чытанне, бібліятэкі, газеты, то нічога такога не было бы. Болей вучоныя людзі (інтэлігенцыя) і хацелі бы што рабіць для вёскі, але рукі яе звязаны. Дык вось некаторыя хлопцы так дзічэюць, што ўжо ідуць на ўсялякую распусту.

Какісь адзін нямецкі вучоны сказаў: «Будуйце больш вучылішч, шпіталяў, завадзіце помач бедным, тады і астрогаў менш трэба будзе».

## 1909

### ПИСЬМО В РЕДАКЦИЮ <ГАЗЕТЫ «НОВАЯ РУСЬ»>

М<илостивый> Г<осударь>, на днях я случайно прочел в календаре «Календарь-Альманах для всех» между другими свои два стихотворения, переведенные с белорусского на русский язык, взятые из моей книги «Жалейка» и напечатанные в этом «Альманахе».

Хотя перевод сделан и халатно в стилистическом отношении и в отношении точности с оригиналом, а также и без моего ведома, что, кажется, в культурных странах не практикуется, я вынужден мириться благодаря хаотическому состоянию наших законов вообще и, в частности, временных правил о печати с нарушением

моей авторской собственности. Но изобретательное книгоиздательство пошло в своем и так непомерном увлечении еще дальше: оно поместило в этом же календаре чью-то фотографию, подписав под нею мою фамилию «Янка Купала». Это уже переходит все пределы вежливости, тем паче, что моя фотографическая карточка нигде еще не печаталась. Мне хотелось бы спросить только об одном редакцию календаря, что она имела в виду, устраивая мистификацию с чьим-то изображением и моей фамилией? Надеюсь, что в будущем издательство «Разум» будет более благоразумно относиться к произведениям и фотографиям чужим, хотя бы то и другое принадлежало забытому Богом и людьми печальнику-белорусу.

К стране, в которой идет тяжелая непомерная борьба за свою национальную и культурную независимость, а также и к ее представителям, каковые трудятся только для идеи, а не для каких-либо афер, должны быть люди, у коих еще не погасло чувство человеческого достоинства, относиться более корректно и с более благородным уважением.

* * *

М<ястэчка> Здарэнне, Віленскай губ<ерні> Вілейскага п<авету>.— Каму не вядомы нашы дарогі — горы, каменне, пяскі, грэблі ды канавы? Каму яны не вынімаюць дух найбардзей мокрай восенню ды вясной? Хто не праклінаў і сваё жыццё, і сваю долю, і ўсе дарожныя парадкі? А парадкі гэтыя ўсё-ткі астаюцца ў непарадку, праўду кажа тая прыказка: «Ты іграеш, як сам знаеш, а я скачу, як сам хачу».

Да гэтых дарог, што дух вынімаюць, належыць і наш Даўгінаўскі гасцінец, што ідзе з Мінска на Даўгінава. Перш яго хоць гады ў рады возьмуць дзе-нідзе ды паправяць, а цяпер і гэтага нічога не відаць і не чуць... Паводкі павымывалі канавы, пазносілі масткі, а некаторыя праз старасць знайшлі сваю пагібель у рэчках ды канавах, над якімі мелі няшчасце быць праведзенымі. Праўда, у найгоршых месцах зрабілі шасэ на некалькі вёрст, але што гэта значыць на які дзесятак міль?

Калі не думаюць скрозь будаваць шасэ, дык варта было б хаця гасцінец акуратна паправіць: каля м<ястэчка> Карпілаўкі — грэблі, каля вёскі Жукоўкі — масткі, пад Мацкамі — размоіны пад гарой, а ізноў у в. Лускаве вельмі трэба выбрукаваць вуліцу, бо там увосень і вясной чыстае пекла, дый, як кажуць, і жыцелі гэтай вёскі, маючы ў сабе манапольку, не вельмі падчас бываюць спакойнага духу, найбардзей гэта цёмнай ночкай...

## 1910

### З ФІНЛЯНДЫІ

I

Раніцой 20 чэрвеня, запасшыся білетамі і драбніцай фінскіх грошай, селі мы ў Пецярбурзе на Фінляндскім вакзале ў поезд і — бывай здарова, наднеўская сталіца! Ужо купіўшы білеты, мы ўбачылі, што едзем за граніцу, бо на білетах стаялі напісы па-фінляндску; такія ж напісы зверху і ўсярэдзіне былі на вагонах і на станцыі. Расійскія напісы стаялі на трэцім месцы. Форма ў служачых інакшая, як па нашых дарогах, і гукаюць яны, шапяляючы; значна адразу, што не рускі народ гукаюць.

Дарога спачатку ідзе прадмесцем Пецярбурга — налева бачыш астрог, направа — комін фабрычны, а там — так нейкі цагляны мур. Але штораз далей — штораз меней пахне гарадской культурай, і пачынаецца незавідная фінляндская прырода: як вокам кінуць — тарфяная балотная нізіна, паросшая мохам, асочнай травой ды прыземістымі карлюкаватымі сасонкамі і бярозкамі. Па гэтай нізіне дзе-нідзе ўбачыш каменны ўзгорак (сапраўды, узгорак з аднаго цэлага каменя), а к яму ўнізе прыляпілася пунька або хатка — невыдумная сяліба працавітага фіна; зрэдку толькі пападаюцца прыгожыя дачныя домікі.

Але як толькі мы выехалі, то не абышлося і без знаёмства ў вагоне, каторае вельмі нас узрадавала.

З Пецярбурга на адной з намі лаўцы сеў нейкі з погляду важны чыноўнік. Спачатку ехалі моўчкі, але калі мы пачалі гукаць між сабой па-беларуску, як мы тут, хоць і на чужыне, з сабой гукаем, то бачым, што гэты важны чыноўнік заварушыўся і неяк прыветна ўсміхнуўся да нас. Па нейкім часе загаварыў з намі і ён, і што ж — аказаўся гэта такі шчыры беларус, якога і ў родным краі са свечкай пашукаць! Мы так усцешыліся з гэтага свайго адкрыцця, што, здаецца, абнялі б і пацалавалі ў абедзве шчокі свайго новага знаёмага. Аб чым мы толькі ні гукалі: і аб сваёй старонцы, і аб сваім народзе, і аб нашай беларускай справе, і аб усім, усім родным, блізкім сэрцу і думкам. Яшчэ больш ён нас усцешыў, калі са сваёй торбачкі дастаў і паказаў нам беларускія кніжкі.

Пан К. (гэтак зваўся наш спадарожны) урадзіўся і правёў маладосць на Беларусі, але пасля, шукаючы хлеба, выехаў на чужыну, недзе ў палудзенныя губерні Расіі, і служыць там цяпер на чыгунцы. Там ён пасівеў, дачакаўся дзяцей і ўнукаў... Даўно жыве ў чужыне, а як пекна гаварыў па-беларуску! Калі ў гутарцы аб роднай старонцы ўспомніў аб дзецях, то мімаволі вырвалася ў яго: «Яны ўжо не тое, не так прывязаны к сваёй бацькаўшчыне, як я». Сказаўшы гэта, неяк спахмурнеў. Мы нешта дабавілі яму на пацеху, але ўжо і расстацца прыйшлося: поезд затрымаўся і яму трэба было сысці на гэтай станцыі, дзе жыў на дачы яго сын, к катораму ён ехаў у госці. Расставаліся мы, як якія найраднейшыя сваякі. Ужо на развітанні спытаўся ён нас, ці не ведаем да прадання якога кусочка зямелькі на Беларусі. «Хацеў бы,— кажа,— купіць, каб хоць на старасці лет пасяліцца ў роднай старонцы і там палажыць свае косці».

І як тут даць веры тым, што рады гукаць, быццам можна таго апалячыць ці абрусіць, каго маці беларуская ўзгадавала?!

На станцыі, дзе прыйшлося нам расстацца са сваім дарагім знаёмым, прачыталі мы напіс па-фінляндску лацінскімі літарамі: «Тэрыёкі». У Тэрыёках мы ўбачылі толькі аднаго і то ўжо, здаецца, апошняга нашага жандара, далей, у глыб Фінляндыі, не прыйшлося нам іх сустрэць.

Як і на ўсіх меншых фінляндскіх станцыях, поезд тут затрымліваецца нядоўга, і мы зноў імчымся на ўсе пары далей. Едзем мы — і скрозь тая самая аднаабразная

балотная і лясістая фінская прырода, толькі дзе-нідзе, як бы для прыкрасы, убачыш яшчэ ў большай нізіне вялікае, найболей стаячае возера ды яшчэ большую каменную гару, на якой як бы цудам прычэпяцца і растуць незавідныя сасонкі. Але як ні ўбога гэта зямелька, яна нам здавалася куды мілейшай ад пакінутых цагляных муроў вялікага сталічнага горада.

Часта недалёка ад палатна дарогі бачылі мы чысценька апранутых маленькіх дзетак, каторыя, стоячы ў асочнай траве, махалі нам удагонку белымі кветкамі і як бы гаварылі на сваёй непанятнай мове: «Як маецеся, пілігрымы з далёкага і невядомага нам краю?..»

Сустракаюцца дзе-нідзе і абсеяныя палі, але якія гэта палі?! Найболей робіцца так: накапае дагадлівы фін торфу, намяшае з лісцямі і, нацягаўшы на каменную пліту, сее там сваё дабрыцо. Разумеецца, якога ж тут і спадзявацца ўроду? Жытцо мы бачылі скрозь невысокае, хоць і не зусім рэдкае, а ярына толькі абыходзіла, і гэта 20-га чэрвеня, па-іхняму 3-га ліпеня.

Вёсак, як у нас, у фінляндцаў няма, а толькі адзінокія хаткі, параскіданыя па адной і падчас меншыя за нашы; толькі саламянай страхі не відзелі мы нідзе.

Як жа багацейша і пякнейша наша зямелька, калі яе параўнаць з фінскай, хаця людзі тут лепей апрануўшыся і весялей, свабадней выглядаюць, як нашы. Дзіўна і несправядліва звініць гэта наша безупыннае: «Край наш бедны! Зямлі мала!» Мне здаецца, што не край наш бедны, а толькі мы яго абяднілі ды наша мачыха-доля...

Стоячы на прылаўках вагонаў і аглядаючы ваколіцы, мы пераехалі некалькі станцый і затрымаліся даўжэй у Выбарзе. Станцыя гэта выглядае бядней, як расійскія вялікія вакзалы, і ўсярэдзіне парадак іншы.

Прыехалі мы сюды ❚ гадзіне 3-й па паўдні, у пару, у якую хіба кожны ўспомне аб по́лудні. Хоцькі-няхоцькі пайшлі мы к буфету і бачым: на стале чаго толькі душа хоча: і рыба, і мяса, і сыр, і масла, і ўсякія прыправы к гэтаму; людзі падыходзяць, бяруць самі на талеркі, што хочуць, і ядуць колькі ўлезе. Ніхто нікога ні аб чым не пытаецца, ніхто нікога не пільнуе; еш, колькі душа прымае. Я, гледзячы на гэта, падумаў: папрабуй такі парадак завесці і ў нас, то другі б не забыўся кумпяк які і пад палу захапіць з сабою або так пастараўся б, што назаўтра і рыцына не памагла б,— а тут нічога. Пры стале і мы сваёй працы не пашкадавалі. Падмаца-

ваўшыся, што называецца, падышлі да касы і па сумленню прызналіся там, што і мы былі каля стала. Нам сказалі заплаціць па паўтары маркі (марка — каля 40 кап.) з брата. Каб прыйшлося ў нас паядаць гэтак на станцыі, то не выкупіўся б і трыма рублямі з носа. Толькі тутака так заведзена, што ні за якія грошы не дастанеш і напарстка гарэлкі.

Паабедаўшы, прыселі мы закурыць папяросы; на нашу просьбу прынесла цэлы пачак светла-русая поўненькая фіначка. Але вось званок, другі, трэці, і мы ўжо зноў у вагоне і едзем далей. Тыя самыя нізіны і зараснікі бягуць перад намі, толькі ўжо тут часцей сустракаюцца азёры і каменныя ўзгоры.

Дзіўныя, сапраўды, гэтыя каменныя горы. Здалёку бачыш, быццам узгорак падобен і да нашага, и прыгледзішся — ляжыць камень-гара або з аднэй пліты вялізнай, або з некалькіх у крушню зваленых камянёў велічынёю з добрую хату, а то і большых нават; відаць, і тут была таксама цэлая гара, але час ці пярун пашчапаў яе на кускі.

Праз гэткую гару-камень бывае падчас прасечана ў некалькі сажняў глыбінёю калдобіна і праложаны рэйкі, па каторых бегае чыгунка. Дзіву толькі даешся, колькі гэта трэба было трудоў руцэ чалавечай, каб выдзяўбсці цэлыя дзесяткі чатырохкантных сажняў цвёрдага, як сталь, каменя.

Нарэшце, пасля якіх 2—3 гадзін язды з Выбарга, дамчаў нас поезд да апошняй нашай астаноўкі. Як толькі сышлі мы з вагона, то зараз жа пачулі, што нешта ўдалі небывала і незвычайна шуміць.

Гэта ўжо так вітаў нас вадаспад Іматра.

## II

Апісаць Іматру, гэту велічыню і разгон бушуючай вады, трудна. Трэба яе бачыць сваімі вачыма, каб пераканацца, як тут усясільная прырода паказала сваю моц, выкапаўшы ў каменнай гары канаву-грамадзіну і кінуўшы па ёй расшалелыя хвалі ракі Вуоксы.

Рака гэта, падплываючы к таму месцу, дзе б'е сам вадаспад, патроху звужаецца і, напатыкаючы пад сабой каменныя глыбы, пачынае грозна клакатаць, як бы глуха клясці, што ёй асмельваюцца спыніваць разгон і прастор. Але ўсё-такі гэты прастор штораз вузее, спад

штораз болей робіцца прытным, вадзе прыходзіцца прабіваць сабе дарогу ў каменнай скале, і тут гэта рака пачынае ўжо бяспамятна, безаглядна, апраметна кідаць свае буйныя хвалі, шумець, стагнаць дзіка, жутка. Прад сабой бачыш не звычайную ваду, а белую як снег кіпучую пену. Хваля ўскаквае на хвалю, гоніць, прэ, перагане; тая тую кідае ўверх цэлай пякельнай гарой, разаб'е ў пух, у пыл, скруціць, зверне; зноў тая тую кіне ўвысь, як бы грозячы самому сонцу; тая тую абмые шалёным абняццем, здавіць, скруціць, ізноў пусціць, ліне, ізноў так далей хваля за хваляй, а ўсё з грозным шумам, дзікім рогатам, жутка, магуча. Аж вось выбіўшыся зноў на большы прастор, Вуокса пачынае цішэць, як бы пераводзіць дух пасля такога шалёна-п'янага разгулу-барацьбы.

У фінскім народзе аб гэтай мясціне ходзіць такая легенда. Непадалёку ад вадаспада стаяла на востраве ракі Вуоксы непрыступная крэпасць (за́мак), каторую фінскі народ пастроіў, каб загарадзіць дарогу і не дапускаць расійцаў у Фінляндыю. Адзін раз,— даўно ўжо, даўно,— на гэту крэпасць расійцы такі напалі і хацелі яе ўзяць. Доўга-доўга бараніліся фіны, запёршыся ў ёй, але вораг аказаўся дужэйшым, і прыйшлося здацца. Расійцы са злосці і дзеля помсты, што крэпасць доўга ім не паддавалася, забралі ў няволю ўсіх адважных яе абаронцаў, павязалі і, пасадзіўшы на чоўны, не даўшы ні вёслаў, ні рулёў, пусцілі лодкі ў вадаспад Іматру. Праз колькі мінут не асталося і следу смелых ваякаў. З таго часу, як кажуць тамтэйшыя людзі, часта ўночы выходзяць з вады гэтыя нявінна загубленыя душы, блудзяць па беразе і пужаюць ваколіцу сваім страшэнным стагнаннем і нараканнем, як бы прыпамінаюць жывым пакаленням аб сваёй страшэннай крыўдзе.

Праз самы вадаспад перакінут вісячы жалезны мост, і мы па ім маглі пераходзіць на абодва бакі бушуючай Іматры і, чапляючыся па вострых засеках каменнай скалы, узірацца ўніз, услухоўвацца ў клакатанне вод. Глядзіш, слухаеш, і штосьці незразумела-зводнае прыкоўвае цябе да гэтай апраменнай вады. Забываешся на свет, на людзей, на жыццё, на долю, а ўсё глядзіш і слухаеш, слухаеш і глядзіш... Да позняй ночы мы тут праседзелі, а як надышла пара падумаць аб спачынку ды павароце дамоў, то так не хацелася расставацца, як бы тут нешта сваё дарагое, роднае кідаў...

Назаўтра раніцай былі мы ўжо на ст. Іматра, і грохат вагонных колаў змяніў нам магучыя шумы грознага вадаспада. Білеты мы ўзялі толькі да Выбарга, бо маніліся там даўжэй астанавіцца і агледзець горад. А гадзіне 10-й раніцы былі мы ўжо ў ім і глядзелі на яго асаблівасці.

Горад Выбарг і крэпасць пабудаваны над Фінскім залівам на гарыстым каменным месцы. Ваколіцы яго вельмі прынадныя і пекныя. Займае ён прасцяг абшару немалы, толькі будоўлі яго не вельмі згушчаны і вуліцы параскіданы. Стары гэта ўжо горад, многа ў сабе мае памятак даўно ўгасшага ваеннага жыцця і на каменных узгорах выглядае, быццам яго тут выкавалі, узнеслі каменныя рукі. Драўляных дамоў бадай зусім няма. Вуліцы забрукаваны ўсе. Кругом чыстата, парадак, спакой. Піўной, тракціра, жабрака і п'янага хулігана не знойдзеш; калі дзе які рэстаран і ёсць, то і той без гарэлкі. Затое мы часта сустракалі над дзвярыма такія напісы, як, напрыклад, школа, гімназія, рэальнае вучылішча, хаўрусная крама, хаўрусны банк і г. д. Агледаючы горад, зайшлі мы ў фінскі музей. За невялічкую плату, па 25 пені (каля 10 кап.) з чалавека, агледзелі ўсе тут сабраныя фінляндскія асаблівасці — ад найдаўнейшага часу да нашых дзён. Бачылі мы там апраткі, аружжа, старыя грошы, абразы пекныя, вырабы з каменю, гліны, медзі, жалеза і т. п. Цікавы вельмі аддзел, дзе сабраны ўсе патрэбныя прылады вясковага хатняга жыцця фінскіх сялян. Многа бачылі мы там рэчаў, вельмі падобных да вырабаў нашых беларускіх хлебаробаў, як, напрыклад, начоўкі, ступа, кросны, лыжкі і др., не відаць было толькі сахі і бараны. Сам музей выстраены пекна — мураваны, у тры этажы.

З музея пайшлі мы на ўзбярэжжа Фінскага заліва, праходзячы, убачылі на адной вуліцы вежу касцёла, у каторым цяпер знаходзіцца расійскі арсенал. Паказалі нам фінляндцы дом, у каторым дэпутаты першай Гас. Думы падпісалі Выбаргскую адозву да народа. Ад набережнай палезлі мы на каменны ўзгорак, дзе нядаўна, у памяць 200-леццтя здабыцця расійскімі войскамі Выбарга, паставілі расійцы памятнік цару Пятру I. Каля яго ходзіць з вінтоўкай салдат. Кінуўшы яшчэ вокам на памятнік у чэсць Кнутсана, каторы змагаўся за незалежнасць Фінляндыі, пайшлі мы назад на станцыю і праз якую паўгадзіны сядзелі ўжо ізноў у вагоне

і аглядалі загарадныя выбаргскія ваколіцы, пакуль горад зусім не скрыўся з нашых вачэй.

Мінуўшы Тэрыёкі, на другой станцыі, у Белаастраве (па-фінску Валкасары), затрымліваецца поезд даўжэй. Тут праходзіць граніца Расіі з Фінляндыяй, і тут ёсць расійская таможня. Трэба ведаць, што ў Фінляндыі гандаль свабодны і ўсе тавары, якія туды прыходзяць, не кантралююцца і не абкладаюцца ніякімі таможнымі зборамі. Пашпартоў такжа ў іх не знаюць. Але тут, калі затрымаўся поезд, пры кожным вагоне стаў жандар, а па нейкім часе і ў вагоны прыйшлі расійскія таможныя чыноўнікі са стражай правяраць рэчы падарожных. Сталі ўсе выцягваць клункі, адчыняць куфэркі, паказваць свае манаткі; адзін з падарожных так шчыра паказваў, што нават пачак запалак фінляндскіх, каторыя меў пры сабе, выняў з кішэні, бо, як пасля ён нам расказаў, летась знайшлі ў яго фінляндскія карты і сказалі заплаціць 15 рублёў штрафу.

Калі ва ўсіх ужо ўсё перагледзелі, а ў некаторых і пашпартоў запыталіся, поезд рушыўся, і мы сталі набліжацца к Пецярбургу. Паказаліся фабрычныя коміны, заблішчэлі стрэхі цэркваў, прамчаўся поезд каля нейкага чырвонага дома, у каторым мы ўбачылі жалезныя краты, і г. д. Нарэшце вось мы і ў Пецярбурзе. Ідзём па вуліцы: над дзвярыма на першым месцы напісы — тракцір, піўная, піўная, тракцір... Абарваны басяк працягнуў да нас руку, а сам гарэлкай так і чуцён...

## <У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «НАША НІВА»>

Вельмі паважаная рэдакцыя.

Атрымаў я ад Вас пісульку і, дзякуючы шчыра за памяць, адпісваю. Што выбраць для календара, то, папраўдзе, і сам я добра не ведаю, для мяне мае вершы ўсе, праве, адзінакавы, а як Вам са стараны здаецца лепей, так і выбірайце, прытом — я вельмі не маю часу нічаго новага Вам напісаць, ні рыцца ў сваіх старых шпаргалах. Па абычаю мінуўшых гадоў я напісаў сезонны вершык к юбілейнаму нумару, каторы з гэтым пасылаю, і можаце надрукаваць (у юб<ілейным> № ),

разумеецца, калі падойдзе. Пасылаю Вам такжа «Курган»,— гэтую штучку, па праўдзе гаворачы, я бы хацеў убачыць надрукованай у календары. Калі б баяліся яе запусціць з прычыны неблаганадзёжнасці, то 32-ю заротку, дзе гаворыцца аб вісельні, выкіньце саўсім і заміняце точкамі. Калі ж «Курган» не падойдзе, то выбірайце самі з таго матэрыялу, які я Вам паслаў. Матэрыял гэты мной перагледжаны, так што вялікіх недачотаў у ім не найдзецца. Адно прасіў бы не памяшчаць рэчаў, ужо друкаваных дзе-небудзь.

Жычучы ўсяго Вам найлепшага, астаюся ў Піцеры
Ваш слуга *І. Луцэвіч.*

P. S. Калі хочаце, дык прышліце трохі матэрыялу для аплаты білету, а ■ прывязу Вам Калядамі ў Вільню сваю персону для ліцэзрэнія і словаабмену.

Нізкі і шчыры паклон п. Бульбе. Які чорт яго выпер з Кіева? Перадайце яму з сваёй ласкі, каб толькі граматна пісаў аб маім вялічы. *Я. К.*

## 1911

### <БЕЛАРУСКАЯ ВЕЧАРЫНКА Ў ПЕЦЯРБУРГУ>

15 лютага ў нас тут, як і тыя гады, згулялі беларускую вечарынку. Як папраўдзе адзначыла газета «Речь», «зал «Пальма» прадстаўляў сабой маленькую часціну Беларусі: беларуская гутарка, беларускія танцы, беларускія нацыянальныя апраткі». І папраўдзе, не аднаму беларусу гэты вечар перанёс думкі ў яго далёкую родную старонку.

На пачатак пастаўлена была камедыя Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні». Сыгралі яе весела, дружна і шчыра. Пасля камедыі пяяў хор беларускія песні: «Чаму ж мне не пець», «Ой, ляцелі гусі», «Вяселле» і др. Тутэйшы беларускі хор з кожным годам штораз большую і большую здабывае сабе прыхільнасць не толькі сярод беларусаў, але і другія пецярбуржцы шчыра цікавяцца нашай народнай песняй. Хорам кіруе п. С. Шымкус. За хорам ішлі на сцэне пастаўленыя п. Ігнатам Буйніцкім

беларускія танцы пад дуду, цымбалы і скрыпку. Тут, бадай, ці не першы раз убачыў Піцер вясёлую, поўную жыцця гульню нашага народа. «Юрка», «Мельнік», «Чабор», «Мяцеліца» і др. так лоўка ішлі, што аж, здаецца, увесь зал хадыром хадзіў. Не будзе лішнім сказаць шчырае дзякуй п. Ігнату Буйніцкаму і яго дачцэ, каторыя здалёку прыехалі сюды, каб даць можнасць тутэйшым беларусам пацешыцца роднай гульнёй. І камеды, і хору, і танцам публіка дружна і шчыра біла «брава!» і выклікала па некалькі разоў нашых артыстаў.

Пасля прадстаўлення на сцэне пачалася агульная гульня ў зале. Беларускія невыдумныя апраткі змяшаліся з ядвабнымі сукнямі і чорнымі сурдутамі гасцей, і здавалася, што не было тут ні пана, ні хама, а былі толькі людзі і людзі.

Вясёла і радасна чулася на сэрцы, гледзячы на гэту грамаду, каторая ў гэтым зале жыла як бы адной думкай нечагась святога, братняга...

Гледзячы на танцы п. Буйніцкага, мае ўражанні самі сабой вылiліся ў гэтым вершы:

Важна рэй Ігнат Буйніцкі
Ў танцах нашых водзіць,
Аж здаецца — усё чыста
Хадыром з ім ходзіць.

Калі пусціцца скакаці —
Ажно сэрца скача;
Лепшых танцаў і ўвесь Піцер
Бадай што не бачыў.

Ці «Мяцеліца», ці «Юрка»,
«Мельнік» ці «Антошка» —
Ўсё ў яго сыходзіць гладка,
Не змыліць ні трошка.

Пад дуду і пад цымбалы
Топне, прыспявае...
Сцеражыцеся, ўсе людзі:
Беларус гуляе!

Не ўнімайся ж і скачы нам,
Покі сілы хваціць,
Мо пачнуць і думкі нашы
Весялей скакаці!

# З ГУТЫ «ЗАЛЕССЕ»

Нядаўна мне прыйшлося пабываць у тутэйшай гуце «Залессе», каторую завуць яшчэ Ільскай (Віл. губ., Вілейск. пав.), і хачу вынесенымі адтуль думкамі падзяліцца з чытачамі «Н<ашай> н<івы>». Не кожнаму вядома, з чаго і як робіцца шкло ўсякага гатунку, каторае мы ўсюды бачым і карыстаемся, і якой страшэннай працы вымагае ад людскіх рук і грудзей, пакуль яно выйдзе з гуты прыгодным для нашага ўжытку. Маса, з якой пасля выходзіць шкло, прыгатаўляецца з пяску, соды, солі і др. рэчываў. Усё гэта мяшаецца і гатуецца ў гліняных катлах, пастаўленых у агромнай печы, дзе безупынку гарыць агонь. Гатуюць гадзін 18—20, а як растопіцца акуратна, тады пачынаюць рабіць шкло, але і ў часе работы, каб не застыла маса, агонь таксама не спыняецца. Пры гэткай працы — зімой яшчэ якнебудзь, але ўлетку — праўдзівае пекла. Трэба браць масу з печы жалезнымі дудкамі і выдуваць: перш так — у паветры, а пасля — у форме. Калі ўжо гатова бутэлька ці так якая пасудзіна шкляная, тады яе нясуць у другую печ, дзе шкло гартуецца, а адтуль — або ў шліфарню, або — проста ў склад. Найцяжэй тут майстрам і іх памочнікам, што стаяць пры катлах і выдзьмухваюць шкло: бо і найгарачэй, і найболей духу вымае з грудзей. Жаль глядзець і на дзяцей, каторыя тут ці ўжо памочнікамі, ці адносчыкамі, ці сядзяць і ціскаюць форму.

Пасярод дзераўлянага будынка, як змяя, распаленая да белага,— агромная печ; абапал печы — мігатня, як маланак, растопленага белага шкла на жалезных дудках... Пякельная гарачыня, безустанная бегатня, бразгатня бітага шкла; калі-нікалі крык або плач апечанага дзіцяці,— а над усім гэтым пракоціцца часта-густа жудасная, як летняя бура, і сумная, як восенная ноч, гутняцкая песня. Вось вам, мілыя чытачы, і малюнак таго пекла, скуль выходзіць шыбіна да акна, камінок да лямпы, чарка да гарэлкі...

Заработкі гутнікаў болей-меней такія бываюць: майстра бярэ паштучна і выганяе ў месяц руб. 35—50,— а як каторы; памочнікі майстра бяруць падзённа 50—80 к.; адносчыкі, фармоўшчыкі (што ціскаюць форму) зарабляюць 15—20 к. у дзень — гэта значыць за той час, пакуль вырабяць усё шкло, што зварыцца за адзін раз у катлах (трывае гэта гадзін 10—11,— як калі). У шлі-

фарні дзяўчаты таксама бяруць падзённа — па 20—30 к. Як бачым, найболей зарабляюць майстры, але калі ўзяць пад увагу, колькі такая праца вымае духу і ўкарочвае веку, ■ такжа і тое, што з гэтага трэба адзецца і пракарміцца, бо адміністрацыя фабрыкі дае толькі кватэру, апал і гародчык на адну бочку бульбы,— дык такая плата саўсім малая. Але і пры ёй можна было б як-колечы жыць, каб часта-густа не марнаваліся гутнікамі грошы на непатрэбныя рэчы, як гарэлка і... строі (чуў, што тутэйшыя гутнянкі залішне любяць строіцца), а такжа, каб адміністрацыя была крышку акуратнейшай і болей звяртала ўвагі на людзей, што для яе карысці працуюць.

Па ст. 97* закона аб работніках і фабрыкантах заробленая плата павінна выдавацца не радзей як адзін раз у месяц — пры найме на срок болей як на месяц, і не меней двух раз у месяц — пры найме на не ўстаноўлены срок. Тым часам у тутэйшай канторы зацягваюць плату на 2—3, а то і болей месяцаў, ды і пасля выдаюць не ўсё, а толькі часцінамі. Калі вельмі патрэбны на штонебудзь гутніку грошы, то яму даюць квіткі або кажуць купляць у фабрычнай краме, каторая належыць да гаспадароў фабрыкі. Карысць з гэтага, канешне, не гутніку, бо ў фабрычнай краме, карыстаючы з таго, што самі ж не даюць грошы, дзяруць за ўсякую рэч, а з квіткоў, на каторыя можна купляць толькі ў вядомых (?) 3—4 крамах м. Ільі, скідаюць (?) па 15 к. з рубля і таксама не стыдаюцца браць даражэй, як купляючы за гатоўку. Усё на свеце палітыка, хоць выдаваць заместа грошы квіткі і расплачвацца таварам з сваёй крамы па ст. 99 гэтага ж закона фабрыцы не пазваляецца. Не пазваляецца такжа па ст. 108 працаваць дзецям, каторым няма яшчэ 12 гадкоў, а на тутэйшай гуце гэта не забаронена. Віна і тут фабрыкі, бо каб яна лепей або хоць акуратней плаціла, то гутняк не быў бы змушаны пасылаць на работу свайго малога дзіцяці, а пасылаў бы яго ў школу.

Што датыча да крамы, то, праўду кажучы, маглі б гутнікі ўстроіць самі сваю хаўрусную, як гэта я бачыў на адным казённым гарэлачным заводзе, дзе самі работнікі ўстроілі сваю хаўрусную краму і сталовую і ўсім гэтым самі заведуюць. Але з фабрычных квіткоў ніхто крамы хаўруснай не заложа.

---

* Извл. из уст. о промышл. св. зак., т. XI, ч. II, изд. 1893 г.

Ёсць пры гуце паравая машына (лакамабіль), каторай пускаюцца ў ход станкі ў шліфарні. Да гэтай машыны фабрыка дагадалася і прыстроіла пілоўку досак, не дагадаецца адно даставаць ваду машынай, што вельмі лёгка зрабіць. Тым часам ваду цягаюць з глыбокіх студняў дапатопнымі вочапамі малыя дзеці, каторых можна на мінуту адрываць ад работы і пасылаць з вёдрамі. А вады расходзіцца шмат: бо і пры абработцы шкла патрэбна, і ў такой гарачыні піць кожнаму хочацца.

Збіваць заработак гутніка фабрыка яшчэ ўхітраецца, прымаючы ад яго паштучную работу, калі пускае ў брак часта добрае шкло — з тэй прычыны, што або яго залішне ёсць у запасе, або каб гутніку залішне не плаціць. Гэты брак страшэнна звялічыўся ў апошнія гады. Не пахваляцца гутнікі і добрымі прыказчыкамі ад фабрыкі. Беспатрэбных прычэпак, лаянак і т. п. не жалее адміністрацыя для нікога, а найбардзей — для дзяцей. Фабрычная інспекцыя глядзіць на ўсё праз пальцы або і саўсім не глядзіць. Казалі толькі, што ў вядомым часе болей расходзіцца шклянак і кілішкаў...

Канешне, усё гэта магло быць іначай, нарыхтавана лепей самімі гутнікамі, але, як той кажа, пакуль да Бога, дык анёлы душу выймуць. А колькі такіх гут на беднай Беларусі!..

P. S. Працуе ў гуце больш 300 чалавек.

## 1912

### СВЯТКАВАННЕ КУПАЛЫ Ў ВІЛЬНІ

Беларускі музыкальна-драматычны кружок за прымерам леташняга года ўстроіў і сёлета ў Вільні ў ноч з 23 на 24 чэрвеня (юня) Купальскае свята. Апісаць ці абмаляваць абход гэтага беларускага народнага свята вельмі цяжка, і толькі трэба гэта ўсё сваімі вачыма бачыць, каб магчы адчуць, што можа пры тым адчуваць і перажываць кожнае шчырае сэрца і душа беларуская.

Вечарам 23 чэрвеня ўсе ўчаснікі забавы і ваенная

музыка былі ўжо на Антокалі, дзе расселіся ў дзвюх грамадных барках і ў чоўнах і паплылі Віліяй праз увесь горад аж да лесу «Закрэт». Баркі і чоўны былі ўсе ўбраны ў зелень і абвешаны рознакалёрнымі ліхтарнічкамі. Музыка іграла праз усю дарогу агульныя і беларускія музыкальныя творы, і праз усю дарогу ўчаснікі пускалі па Віліі вянкі з запаленымі свечкамі, а такжа пускалі фееверкі і палілі бенгальскія агні. Дзесяткі тысяч народу высыпалі на абодва бакі Віліі-ракі і любаваліся гэтым нявіданым і найпрыгажэйшым у свеце відавіскам.

Дзесяткі тысяч людзей віталі жывымі і радаснымі воплескамі і шчырымі крыкамі «брава!», спатыкалі і праводзілі вялікае святкаванне беларусамі свайго нацыянальнага свята. Уся рака ад Антокаля да лесу «Закрэт» выглядала нейкім зачараваным, як з арабскай казкі, усеяным рознакалёрнымі агнямі месцам, па каторым плывуць у пазалочаных чоўнах казачныя рыцарыбагатыры. У «Закрэце» над ракой была абвешана абшырная палянка гэтаксама рознакалёрнымі ліхтарыкамі. Пасярод палянкі былі запалены бочкі са смалой, адкуль непадалёку ўстроілі буфет і дзе пасля распалажыўся аркестр ваеннай музыкі.

А гадзіне 11-й прыплылі к «Закрэту» ўчаснікі забавы і сталі пад гул музыкі выходзіць на бераг на апісаную раней палянку. І тут, у лесе, сабраліся тысячы народу любавацца беларускімі гульнямі. Многа трэба было старання прывесці сякі-такі парадак і даць можнасць учаснікам распачаць гульню на месцы. І тут усё было: і беларускія песні, і беларускія народныя танцы ў беларускіх народных апратках, скакалі праз агонь і г. д. і г. д.

Вельмі прыгожа выглядалі дзяўчаты ў беларускіх нацыянальных апратках, ды і самі дзяўчынкі былі ўсе прыгожыя і цвілі ў сваіх яркіх шнуровачках, у вянках з кветак і жытніх каласоў, як майскія кветачкі. Адным словам, гульня ўдалася як не трэба лепей і працягнулася да самага белага дня, калі ўжо заместа штучнага агню зайграла на небе яснае купальскае сонца сваімі агністымі праменнямі.

Варочаўся многа хто з гэтай гульні з нейкай сумнай жальбой, і так, здаецца, хацелася б, каб гэткае Купалле было не адзін раз у год і не ў адной Вільні, а колькі раз і па ўсіх гарадах, мястэчках і вёсках вялікай і багатай

вяковым цярпеннем роднай старонкі — Маці-Беларусі. Пара скінуць многамільённаму беларускаму народу свой векавечны сон, пара распусціць свае сакаліныя крыллі і дружна, па-арлінаму сягнуць па свае законныя правы на вольнае і грамадзянскае самапачуццё. Хай свята Купалы станецца паўсямесным святам беларускага нацыянальнага адраджэння — гэта наша шчырае жычанне ўсім жывым.

# 1913

## ЧАМУ ПЛАЧА ПЕСНЯ НАША?

*(Адказ Юрцы Верашчаку)*

Дужа цікавую рэч адкрыў дзядзьку Верашчаку нейкі тульскі ягомасць, каторы кожнае лета праводзіць у Беларусі! Выходзіць, што мы, беларусы, ад яго першага даведаліся аб вялікім багацці нашай бацькаўшчыны, што ў нас такое ўсё, як кажуць французы, «bon ton». Ой, ці не ёсць гэта толькі погляд бацькоў сентыменталізму, што, уміляючыся над жыццём сялянскім, бачылі ў ім адны толькі радасці.

Але не першы ягомасць з Тулы зразумеў і адчуў усё хараство Беларусі: аб гэтым шмат ёсць сказана ў Міцкевіча, у Сыракомлі і др., каторыя, дзякуючы запанаваўшай у нас чужой культуры, апяялі гэтае хараство ў незразумелых для беларуса песнях. Бо, як ведаем, да пачатку XX-га сталецця нашы «прарокі» служылі і цяпер служаць многія Варшаве і Маскве, астаўляючы свой народ у забыцці і нацыянальнай несвядомасці.

Беларускія баяры і князі пераніцаваліся на польскіх паноў, а за імі і цяперашняя краёвая «польская» інтэлігенцыя нічога супольнага з народам тутэйшым мець не хоча. Частка ж невялікая інтэлігенцыі, каторая прыйшла да нас з Расіі, таксама глядзіць на нас як на матэрыял, добры для пераварачвання на свой капыл. Такім парадкам, людзей светлых, шчыра адданых нашай старонцы і нашаму народу мы не мелі. Пракокі былі

разам здраднікамі свайго народа і кланяліся за чырвонцы чужому дужэйшаму богу.

Калі ў памятны 1905 г. зрабілася завіруха, калі ў Расіі ў кожнага чалавека стала будзіцца душа да новага жыцця, да новага шчасця, то і ў беларуса будзіцца стала пачуццё свайго «я», стала лунаць доўга дрэмлючая думка, што і мы людзі. Паявіліся паэты, песняры свайго, забытага Богам і людзьмі, краю і долі народнай. Прарокі яны ці не прарокі — аб гэтым скажа будучыня, але што яны косць з косці свайго народа — аб гэтым і рэчы быць не можа.

Вот гэтыя паэты, уссаўшы з малаком абнядоленых і абняволеных матак усё гора жыцця Беларусі дэмакратычнай,— ці ж маглі ў першых сваіх словах апяваць толькі хараство сваёй бацькаўшчыны, не заглянуўшы спачатку на рэальны быт яе сыноў?! Канешне, душа паэта перш-наперш запяяла тое, што ў ёй накіпела праз доўгія гады цярпення і акружаючай беспрасветнай нядолі.

Не думайце, што «парнаснікі» не бачылі і не адчувалі ўсёй багатай красы нашай зямелькі з яе горамі, далінамі, рэчкамі і лясамі. Але што маглі казаць, калі большая палавіна гэтага прыроднага багацця, гэтай неапетай красы была і ёсць не наша, а нашых сытых «культурнікаў», крывавай працай на каторых беларус асляпіў сабе вочы, атуманіў думкі. Гледзячы на гэту несправядлівасць, у паэты радзіўся толькі жаль, што побач з лішняй раскошай народ яго гібее ў хатах, дзе «вокны затканы анучай», што яго шнуры — «гразь, балота ды пясок», што людзі — «Янка ды Сымонка» — мужыкі беззарадныя, пакінутыя сваёй інтэлігенцыяй. У беднаце матэрыяльнай трудна багацець.

Невясёлая цяперашчына не магла настроіць у вясёлы тон думку паэты. Душа яго лунала над бацькаўшчынай, як над безгранічным абшарам, дзе пошасць і пажары аставілі на зямлі груды непахаваных касцей, п неба — пачарнеўшае ад дыму. Мінуўшчыну ўспамінаць — гэта ўспамінаць паншчыну, бо нашае свабоднае жыццё, калі гудзелі вечавыя званы, прыдавіла чуць не паўтузіна сталеццяў. Углыбіцца ў народныя песні? Праўда, у іх ёсць хараство яшчэ некратанае, але так жа сумнаплачлівае, як доля беларуса, як шум пушчы ўвосень, і калі прабіваецца вясёлая нотка, то толькі ў песнях карчомных, бяседных. Скажаце: сягаць у будучыню. Але

народ, каторы не знайшоў яшчэ веры ў сябе, ці ж захоча паверыць у казкі аб будучыні? І паэта воляй-няволяй не можа абмінаць і замоўчваць цяперашняга жыцця. Не да пацераў, калі хата гарыць.

Такім вось парадкам не магла не зляжыцца, трохі, можа, і залішне наракаючая на цяжкую людскую долю, наша сучасная песня; але яна вечна такой не будзе, як і народ жывы вечна не будзе спаць мёртвым сном.

Яшчэ адзін адказ на «Сплачыванне доўгу».

Гадоў тры таму польскі крытык закінуў аднаму нашаму пісьменніку, што гэтак бедаваць над доляй беларуса можа толькі «інтэлігент у пастуховай скуры», ну, дзядзька Верашчака робіць прытычкі, што нашы некаторыя белетрысты і паэты плачуць, «цыбуляй хіба крыху паціраючы вочы». На гэта апошняе адкажу, што кідаць такое скарапечанае абвінавачанне на сваіх сяброў па пяру — трохі і рызыкоўна, і на фактах не аснавана. Бо, як мне ведама, не ва ўсіх нашых, што плачуць, белетрыстаў і паэтаў ёсць на чым садзіць цыбулю і не ва ўсіх ёсць за што яе купляць. А плачуць яны, бо іх прымушаюць плакаць часта не толькі чужыя, але і свае, як я ўжо гэта выказаў.

Астаецца нам толькі адна вера ў тое, што не за гарамі ўжо той час, калі ўзбудзіцца наш беларускі народ як адзін к новаму, светламу жыццю, а яго паэтыпрарокі настрояць струны сваіх думак на іншы лад: будуць пяяць аб вялікім багацці і красе сваёй бацькаўшчыны і аб вялікіх радасцях яе верных сыноў.

Думка паэты вольная, як вецер, і безгранічная, як даль гэта ўсясветная, сэрца яго напоўнена вечным міласаваннем к бліжняму, як сонца вечным цяплом і святлом, а душа яго глыбокая, як гэтае мора-акіян, у глыбінах каторага крыюцца багатыя, недасціглыя чалавечаму воку скарбы. З гэтага святла і агню, што палае ў сэрцы, і з гэтых скарбаў, што крыюцца ў глыбіні душы яго, патрапіць паэта свабоднай думкай дабыць усе хараствы свету і ўсе асалоды жыцця людскога на гэтым свеце і перадаць усё гэта ў бяссмертнай песні свайму народу. Толькі вы, празаікі, устрайвайце хутчэй матэрыяльны быт гэтага народа паводле Божых і чалавечых праўд і законаў.

## ЯК ЯНЫ ВАЮЮЦЬ

Ізноў паднімаецца справа навукі дзяцей веры ў іх роднай мові, ізноў ідзе змаганне аб тое, у якой мові павінны беларусы маліцца і слухаць слова Божае ў касцёле.

Павэдлуг цыркуляра міністра народнай прасветы Кассо, каторы скасаваў для беларусаў маніфест 17 апреля 1905 г. аб навуцы рэлігіі ў роднай мові дзяцей, нашы дзеці павінны вучыцца не ў тэй мові, якой яны, іх бацькі, дзяды і прадзеды гаварылі, а па-расейску. Беларускую мову выганяюць зусім з школы і заместа чужой, польскай, мовы хочуць завясці такую ж — расейскую.

Беларус ахвотна вучыўся бы па-свойму; па-расейску — не. І калі яму замест польшчыны навязываюць расейшчыну, ён адракаецца ад гэтай перамены, хоць яму кажуць, быццам гэта ратуюць яго ад палякаў!..

Але калі беларус-каталік трымаецца польшчыны затым, што да яе прывык, што праз паўвека ніхто да яго ў касцёле іначай не казаў ні слова, як толькі па-польску,— дык каталіцкія ксяндзы-палякі, каторым роўна не люба як беларушчына, так і расейская мова, зусім свядома — дзеля апалячывання нашага народа — стараюцца і далей вучыць па-польску. За гэта іх уласці караюць, и цёмны народ, бачачы гэта, пачынае яшчэ крапчэй дзяржацца польшчыны, бо не верыць у шчырасць тых, хто яго родную гутарку топча і гоніць вон з школы, як непатрэбнае смеццё... І выходзіць, што ўвесь «ратунак» беларусаў ад польшчыны — гэта адно ашуканства, гэта жаданне расейскіх нацыяналістаў захапіць у свае рукі тую ўласць над нашым народам, якую праз доўгія гады забіралі палякі.

Фальшывай «дружбай» хочуць расейскія «патрыоты» ашукаць беларусаў, каб лягчэй звясці іх зусім са свету. Брахнёй ваююць і «істінно польскіе» людзі, каб забіць жаданне беларусаў маліцца па-беларуску — дома і ў касцёле.

Гэтымі днямі з'явілася ў Вільні кніжка Гіпаліта Корвіна-Мілеўскага аб жаданнях літвінаў, каб у касцёле ў Літве панавала літоўская мова, з каторымі яны звярнуліся да папежа. Востра выступіў проці іх К.-М. і надрукаваў у гэтай кніжцы свой адказ, каб ён дайшоў да папежа. Пан К.-М. не толькі ваюе з літвінамі: ён накінуўся зразу і на беларусаў, ды ў гэтым карыстаўся

фальшэм і няпраўдай. Для п. К.-М. адраджэнне беларусаў страшней, чым адраджэнне літвінаў: літвіны ўжо крэпка стаяць на нагах, і іх нічым не скранеш з месца, а беларусы толькі нядаўна пачалі будзіцца, дык чаму не папрабаваць іх зацiснуць, пакуль слабыя? І п. К.-М. клiча палякаў да вайны з літвінамі затым, што калі яны пераважаць у касцёле, дык за іх прыкладам пойдуць і беларусы, дамагаючыся правоў для сваёй мовы. Каб жа забiць мiж палякамi веру ў шчырасць беларускай справы, гэты пан — быўшы член Гасударственнай Рады — друкуе нягодную выдумку, што быццам беларускую мову ў касцёле хоча завясці расейскі ўрад, а не беларусы.

Усім вядома, што яшчэ цар Мікалай І забараніў гаварыць казання ў касцёлах беларускіх па-беларуску, і з таго часу расейскі ўрад і ўсе «істінно рускіе» людзі — Солоневічы, Кавалюкі, Тепловы ды ўся хэўра нацыяналістаў — усімі спосабамі дабіваюцца таго, штоб завясці ў касцёле *расейскую мову.* Усім ведама, што гэтаму праціўіўся і працівіцца папеж, каторы пазволіў маліцца і казаць казання ў беларускіх касцёлах *па-беларуску,* але ніколі не па-расейску. Аб гэтым у прошлым гаду было надрукавана ў касцёльнай газеце «Dwutygodnik Djecezjalny», і пан Корвін-Мілеўскі *павінен быў ведаць* аб гэтым, а калі запраўды не ведаў, дык не меў права пiсаць і друкаваць *няпраўды.*

Гэты прыклад павінен паказаць беларусам, якіх спосабаў ужываюць ворагі беларушчыны ў змаганні з адраджэннем нашага народа. І мы, бачачы гэта, клiчам яшчэ раз усіх беларусаў *цвёрда дзяржацца роднай мовы сваёй* і стаяць за яе правы ў школе і ў касцёле, бо ліхія часы павінны мінуцца, а хто іх перабудзе, той даб'ецца свайго!

P. S. Пан Корвін-Мілеўскі лічыцца самым разумным чалавекам у парціі польскіх вялікшых паноў: ён камандуе заўсёды на выбарах у Гасударственную Думу, што ён скажа, так яго хаўруснікі робяць, адным словам, лічыцца самай мудрай галавой. З яго астатняй кніжкі відаць, што ён яшчэ думае, што яго партыя трымае ў руцэ ўсё жыццё і долю нашага краю. Але гэтаму панаванню, на шчасце, прыходзіць ужо канец: па ўсёй старонцы будзіцца просты народ, растуць сілы дэмакратыі, і яна бярэ ў свае моцныя рукі кіраванне краем, ды мо і не выпусціць.

Мы тлумачым ці дзяцінай наіўнасцю п. К.-М., ці простым магнацкім хамствам такое «прымечанне» на яго кніжцы на стар. 40: «выходзіць у Вільні (а цяпер і ў Гродне) газетка беларуская, каторай напэўна дае грошы казна...» У Гродне беларускай газеты няма, а ў Вільні выходзіць «Наша ніва». Значыць, п. К.-М. пазваляе сабе двойчы лгаць і абкідаць паскудным балотам «Нашу ніву», як яшчэ ніколі ніхто, у каго ёсць трохі сумлення, не асмеліўся рабіць,— спаміж людзей, каторыя не знаюць жыцця нашай газеты.

Друкуючы гэту стаццю, мы хочам звярнуць увагу ўсяго сумленнага *польскага грамадзянства*, што брэхнівымі ведамасцямі паны таго гатунку, як Гіпаліт Корвін-Мілеўскі, толькі распаляюць вайну між *славянскімі народамі.*

## ЧЫМ ЧОРТ НЕ ШУЦІЦЬ

Яснавяльможны пан рэдактар яснавяльможнай газеты «Kurjer Litewski» сядзеў у сваім пакоі на пуховай пярыне і горка, горка плакаў. Як чорная поліўка, ліліся яго буйныя слёзы на васкаваную падлогу, каціліся за дзверы на вуліцу і, як свой з сваім, мяшаліся з расхляпаным балотам віленскіх каркаломных брукаў.

Рэдактар плакаў і плакаў...

І было чаго плакаць! — Вычытаў ён у сваей жа газеце, што ў Прусах Заходніх бязбожнікі немцы вучаць дзяцей-палякаў па-нямецку; забараняюць бедным дзеткам чытаць і маліцца Богу ў сваёй роднай мове. Кожны мала-веле справядлівы чалавек заплача над гэткай нямецкай несправядлівасцю.

І рэдактар плакаў, плакаў і... думаў. У канцы ўзяў пяро, набожна перахрысціўся, набожна пацалаваў крыж і напісаў у сваю яснавяльможную газету горка-слязлівую стаццю пад такім загалоўкам: «Якім парадкам прымусіць дзяцей-беларусаў вучыцца і маліцца па-польску».

І паліліся ізноў па віленскім каркаломным бруку гаротныя слёзы, слёзы кракадзілавы.

## АГЛЯД КНІГ

Апошнімі часамі выйшла колькі новых беларускіх кніг, аб каторых не лішне будзе напомніць нашым паважаным чытачам.

1) «Маладая Беларусь». Серыя 1-я, сшытак 3-ці. У гэтым зборніку знаходзім вершы К. Буйло, Я. Журбы, А. Гурло і А. Петрашкевіча; проза: А. Навіны, праф. Э. А. Вальтэра, А. Янулайціса, Галубка, Змітрака Бядулі, Цёткі і Міхалкі С. Асабліва звяртае на сябе ўвагу стацця А. Янулайціса «Аб маладым паэце з Крошына». Аўтар дае многа цэннага матэрыялу да пануючых у пачатку XIX сталецця стасункаў між сялянствам і вышэйшымі класамі ў Беларусі. З другіх аўтараў выдзяляецца найболей сваімі вершамі К. Буйло, жаль толькі, што талентная паэтка не памясціла болей у зборніку сваіх задушэўных песень. З прозы найцікавейшыя — гэта «Абразкі» Змітрака Бядулі, аб каторым пагаворым ніжэй. Сшытак выданы, як і першыя два, рускімі і лацінскімі літарамі, на добрай паперы, апраўлены ў арыгінальную вокладку і заслугоўвае на тое, каб трапіў ва ўсе куткі нашай бацькаўшчыны. Цана зборніка 1 рубель.

2) «Сон на кургане». Драматычная паэма ў 4-х абразах — Я. Купалы. Кніжка выдана старанна, на добрай паперы і з прыгожымі рысункамі слуцкіх паясоў — застаўкамі і віньетамі. Аб самой паэме не прыходзіцца нічога гаварыць, бо гэта заняло бы зашмат месца ў нашым праглядзе. Цана кніжкі 50 кап. (100 стар. друку).

3) «Batrak» і «Jak Jurka zabahacieŭ» Jakuba Kołasa. Невялічкая кніжка (28 стар., цана 10 кап.) гаворыць за сябе іменем вядомага ўсім беларусам аўтара. «Batrak» — апавяданне з жыцця палешукоў, у каторым выказаў сябе Колас не толькі здольным лірыкам, але і добрым расказчыкам. У легендзе «Jak Jurka zabahacieŭ» аўтар патрапіў падгледзець у беларусаў спрытны розум, калі яшчэ і гора да гэтага добра прыцісне.

4) «Abrazki» Zmitraka Biaduli. Першы абразок — «Плач пралескаў»; вось гэтым названнем і можна было б ахрысціць тую кніжачку. Гэта не «абразкі», пісаныя звычайнай прозай, а гэта нейкая дзіўная «песня песняў» беларускай рассумненай душы. Цана кніжачкі даступная — усяго 15 кап. (40 стар.).

5) «Pieśni» Ciški Hartnaha. Каб судзіць аб багацці гаспадара, трэба паглядзець восенню ў яго гумно, каб судзіць аб здольнасці песняра, трэба прачытаць яго творы, сабраныя ў аддзельную кніжачку. Вота ж і зборнічак Цішкі, з кароткім загалоўкам «Pieśni», добра нам асвятляе душу і талент аўтара. Цішка не «майструе вершаў», а пяе, пяе ўсёй сваёй набалелай душой, усім сваім сэрцам гарачым, кіпучым. Нойдзеце тут і галубіныя песні кахання, і сумныя жальбы, і смелыя жаданні, і ва ўсім чуваць песняра праўдзівага, вынасіўшага кожнае слова ў сваіх набалелых грудзях. Пажадаем тут, каб і надалей гэты пясняр з Божай іскрай у душы не закапваў свайго таленту, а стараўся развярнуць яго ва ўсю шыр і глыб, як гэта ён можа, калі толькі захоча. Цана кніжкі 15 кап. (49 стар.).

6) «Амерыканец» — апавяданне А. Новіча. Цана 10 кап. (23 стар.). А. Новіч, вядомы ўжо нам са свайго апавядання «У дому лепей», бярэ чытача за сэрца прастатой і шчырасцю свайго расказу. Няма ў ім ніякіх хітрых выдумак, ■ ўсё міла і спакойна. Умее нязначным спосабам падсунуць чытачу маральную навучку, паказаць добрую незавілую сцежку к лепшаму жыццю, і ўсё гэта так свойска, так родна. І хочацца, здаецца, даказаць аўтара: амерыканцаў на Беларусі так многа, ■ чаму ж так мала такіх, якога вывеў у сваім апавяданні А. Новіч.

7) «Як яны жаніліся» — жарт у 1-м акце А. Валодзьскага, пераклад Власта, 28 стар., літагр., цана 30 кап.

8) «Мядзведзь» — жарт у 1-м акце А. Чэхава, перакл. з расійскага, 27 стар., літагр., цана 30 кап.

Абедзве апошнія кніжкі выданы спецыяльна для тэатра і абедзве — пераклады з чужой мовы. Змест іх многім вядомы ў арыгінале, так што лічым лішне падробней на ім астанаўлівацца.

Усе кніжкі, пералічаныя ў нашым «Праглядзе», выданы беларускай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца». Выданы на добрай паперы, з прыгожымі застаўкамі і віньетамі і ў пекных вокладках.

## ЦІ МАЕМ МЫ ПРАВА ВЫРАКАЦЦА РОДНАЙ МОВЫ?

Калі ўгледзімся на акружаючае нас жыццё, калі ўдумацца ва ўсе яго вялікія праявы, то мімаволі прыходзім да пераканання, што сама па сабе думка «жыць на свеце» вельмі добрая, але людзі часта гэта жыццё пагасяць, накладаючы на яго непатрэбныя путы, ацямраючы яго адвечныя праўды і законы.

Самы важнейшы і непраломны закон жыцця — гэта людская мова, праз каторую чалавек стаў найвышэй ад усякага стварэння пад сонцам. Сягоння мы бачым на свае вочы, як няшчасліў той чалавек, каторы радзіўся глуханямым, з каторым толькі можам разгаварыцца знакамі, на мігі; але і гэтакі чалавек мае душу і ўмее думаць так, як і мы думаем, і калі яму на мігі пакажаш не так, як патрэба даную рэч выразіць,— гэты нямы нас не зразумее і ўсё чыста пойме, калі мы не будзем перад ім крывіць душой.

Але жыццё не стварыла на свеце ўсяго чыста пад адну мерку, пад адзін калібр: не зраўняла яно лесу, не зраўняла птушак і звяроў, а ў вадзе рыб, не зраўняла яно і людзей; дало толькі кожнай жывой істоце вялікае права па-свойму развівацца, не сыходзіць з простай, раз назначанай пуціны.

Рассеяўшы людзей па ўсёй чыста зямлі, жыццё гэтым самым паставіла іх у адменныя варункі бытавання. Патварыліся народы, гасударствы, а з імі свае абычаі, свае парадкі, свае думкі, і, разумеецца, у кожнага такога народа свая родная мова. Дайсці каб да гэткага ладу-парадку на свеце, які мы цяпер бачым, патрэбала цэлыя дзесяткі тысячаў лет, а мо і мільёнаў; тысячы, а мо і мільёны лет ткала жыццё сваю прыгожую на зямлі тканіну.

Сягоння налічваецца больш тысячы ўсякіх народнасцей; кожная з гэтых народнасцей жыве сваімі асобеннымі нацыянальнымі праявамі; кожная народнасць састаўляе як бы, так сказаць, адну вялізную сям'ю-радню, розначыся складам сваім ад суседняй такой народнасці-сям'і. І адлічваем мы кожны такі адзін народ ад другога ўсё той жа яго адвечнай уласнай мовай, той мовай, якую вякі ўсвянцілі і ўкаранілі ў ім, на якой

ён і яго дзяды, з самага пачатку свайго паяўлення на зямлі, узраслі і ўзгадаваліся.

Скажа хто-небудзь: хай бы была адна мова на свеце, бо і праўда — нашто іх гэтулькі? Яно б то, можа, было і добра, а мо і не саўсім. Скажам, каб было аднаго толькі гатунку дзерава або аднаго толькі гатунку жывёліна ці збажына, то, напэўна, лёгка дагадацца, што на свеце было бы далёка не так прыгожа, як цяпер ёсць. Але калі дзерава ці жывёліна ёсць толькі з верхняй аздобай зямлі, то мова людзей ёсць як бы цэнтрам гэтага жыцця, яго душой, яго ўнутранай аздобай.

Для мовы, для гэтай выразіцелькі душы і думак чалавека, не патрэбна ні скіпетраў, ні каронаў, як не патрэбна для сонца якога-небудзь яшчэ пазалочанага абруча, рамак. Сонца само па сабе адна аздобнасць — і золата, і брыльянт. Таксама і мова якога-небудзь народа ёсць для яго і скіпетрам, і каронай, яго нічым не апаганенай аздобнасцяй.

Бачым, што гісторыя некаторым народам выдзерла саўсім іх бацькаўшчыну, як хоць бы ўзяць жыдоў, каля дзвюх ужо тысяч лет беспрыстанна таўпехаюцца яны па цэлым Божым свеце, але гэта ім не замінае, вучачыся той мове, між якога народа жывуць, і сваёй не забывацца і не выракацца. Жыд з вамі будзе гаварыць па-беларуску, а ў сваёй «школе» моліцца не па-беларуску, а па-свойму; дома жыдоўка-маці напявае над калыскай дзіцяці свае родныя напеўкі; самі паміж сабой гавораць па-свойму, а не як іначай. Ёсць яшчэ народы, у каторых і зроду, бадай, ці была свая бацькаўшчына, як, напрыклад, цыганы, але мову сваю мелі, маюць, і згіне яна ў іх толькі тады, як звяліся бы яны самі на свеце, а зводзіцца ж толькі завод якой-небудзь скаціны.

Сам народ можа падпасці пад чужое сільнейшае ўладарства і часам цэлыя вякі насіць на сабе путы няволі, але ніколі ў заваяваным ці забраным народзе не можна выдзерці яго душы і яго роднага слова. Гэта апошняе яму матка, кормлючы дзіцятка сваёй грудзёй, перадае як найсвяцейшы скарб разам са сваім праклянцем таму дзіцяці, каторае, вырасшы, захацела б выракачыся роднага слова, бо гэтым самым выракалася б і роднай маткі. Што падумала б і перажыла хоць бы наша матка-беларуска, каб яе дзіцятка па сваім паяўленні на свет адазвалася першым словам замест «мама», «тата» — «мамаша», «папаша»?.. Як бы таксама

недарэчна выглядала, каб хто над дамавінай свайго роднага пачаў галасіць, прыгаварваць не ў сваёй, а ў чужой мове; або каб на вяселлі шлюбоўнікам пачалі пяяць кабеты чужую, незразумелую песню... А вось глянем яшчэ хоць бы на крылатыя стварэнні: ці ж не смешна б нам паказалася, каб салавейка пачаў кукарэкаць па-петушынаму, а певень пачаў кукаваць, як зязюля? Можа толькі салавейка яшчэ прыгажэйшыя выдумваць таны ў сваёй музыцы-спеве, а певень яшчэ акуратней пачынаць сваё «кукарэку» апоўначы. Ужо так жыццё ад першага паўстання на зямлі быту дало можнасць развівацца кожнай жывучай натуры толькі ў сваім кірунку ды ў вечнай гармоніі з усёй прыродай, акружаючай нас.

Цяпер астановімся на нашай беларускай мове. Нам кажуць, і мы самі часта гэтаму патураем, што мова беларуская п р о с т а я. А па-мойму: ну і дзякаваць Богу, абы не крывая. Але разбяромся ў гэтым лепей. Некалькі соцень лет таму назад, калі Беларусь жыла сваім незалежным жыццём, мела сваіх князёў, сваё веча, ці маглі тады беларусы іначай гаварыць, як не па-беларуску? Ці маглі беларускія земляробы, сабраўшыся на веча ці на вайну проці чужынцаў, ламаць сабе языкі чужой, незразумелай для іх гутаркай? Адказ на гэта хіба кожнаму падыктуе свой розум. Пасля, калі падпала Беларусь пад уладарства Літвы, што выйшла? «Простая» беларуская мова закасавала «крывую» сваіх заваяваццеляў, і законы ў гасударстве Літоўскім пішуцца па-беларуску; слова беларускае становіцца ўрадовым словам пабедніка. А мова наша была і тады не інакшая — была таксама п р о с т а я, але простая ў значэнні — не крывая, дарэчная, незаменная для агулу, для свайго народа. Літоўскі тагачасны ўрад (правіцельства) са сваімі князямі меў — як то кажуць — усе клёпкі ў галаве і не ўзаконіваў бы мовы забранага народа, каб не бачыў у гэтым карысці для сябе і для падбітых зямель.

Калі з часам Літоўска-Беларускае княжаства злучылася з Польшчай і беларускую мову стала з урада выціскаць польская, то гэта нічуць не даводзіць, што яе прызналі горшай ад польскай. Тут была толькі ні болей ні меней сіла кулака, як цяпер часта робяць іншыя гасударствы. Польшча была дужэй, значыць, і старалася гэту сваю моц паказаць, заводзячы свае парадкі

ў прылучаных к ёй землях. I тут выйшла тое, што і сягоння спатыкаецца: беларускія баяры і багацейшыя гаражаны, так называная «знаць», каб заслужыцца на ласку ў польскім урадзе, мець цёпленькае і выгоднае месца, пачалі скідаць з сябе свае родныя аўчынкі і напінаць чужую падробленую, нашываную скуру. Адно народ (сяляне і местачкоўцы) за імі не пайшоў: ён цвёрда трымаўся ўсяго таго, што яму пераказалі на Божай пасцелі дзяды і прадзеды, і не зацёр сваёй асобеннасці, свайго нацыянальнага духу, астаўся да сягоннянгняга дня тым, чым быў з часоў сваёй незалежнасці, хоць і валок на сябе ярмо кольківаковага чужога ўладарства. Не без таго, што і пасля паяўляліся між беларусамі рэнегаты, здрайцы свайго краю і народа, але на іх не звертана ўвагі, як не звяртаецца на ўсякага роду адшчапенцаў, затраціўшых воблік і падабенства Божае.

Яўляецца пытанне: чаму ж так трымаліся беларусы ўсяго свайго роднага? Чаму, калі мо каторы і навучыўся чагосьь чужога ў чужой школе ці так у чужыне,— дома ўсяго чыста забываўся? Ці ж мы мелі кароткую памяць, ці не любілі асветы? Адказ тут, як ні круці мазгамі,— адзін: склад душы беларуса, яго думак, звычаяў, поглядаў на жыццё быў свой, і была ўся тая мова родная, узгадовываўшая яго цэлыя тысячы лет; гэта душа яго душы — мова зраслася з ім, як зрастаецца са сваім каранём дзерава: падкапайцеся пад дзерава, абсячыце дазвання яго карэнні — дзерава завяне, засохне, перастане жыць. Беларус часта мо і не цяміў, чаму ён так трымаецца сваёй гутаркі, але не трымацца яе не мог: выракаючыся мовы сваёй, быў павінен вырачыся самога сябе, выкрывіць сваю душу, выракаючыся, павінен быў ісці проці ўсяго святога, непадменнага на свеце, проці ўсяго таго, што паказвае адменнасць чалавека ад скаціны.

Усё ж колькісотлетняя паняверка, валачэнне ярма чужога ўладарства на сваім набалелым карку не прайшло для нас без ніякага знаку: яно ацямрыла і затрымала на доўгія вякі наша культурнае і нацыянальнае развіццё, яно, пакідаючы нам свае вучыльні і свае «языкі», увялічыла нехаць к знанню, к прасвеце, к пазнаванню вялікіх думак людзей навукі і ідэі; асталіся мы на самым апошнім месцы, ніжэй парога, паміж усіх чыста славянскіх народаў; асталіся мы, як блудныя авечкі, без пуцця, без веры ў новую, светлую будучыню. Але ўсё ж

такі асталіся і мы самі,— як народ, як нацыя, і асталася пры нас наша простая родная мова, праз якую ўсе знаюць, знае свет, што мы не прыблуды якія, а колькімільённы народ — Беларусы, засяляючыя сваю адвечную Бацькаўшчыну — Беларусь.

Ачуняць, глянуць па-арлінаму смела, дружна на свет белы, загаманіць праўдай цэламу свету громка, свабодна, як калісь званы нашых вечаў, мы зможам толькі тады, калі пад саламянымі стрэхамі нашых хат зойме пачэснае месца наша родная беларуская мова, кніжка, звычай і абычай. Праз памяць на магільныя наспы і крыжы, пад якімі бяспечна змарнеўшыя ў нядолі спяць нашы дзяды і прадзеды, праз памяць на сваіх матак, каторыя нас сваёй грудзёй ускармілі,— выракацца роднай мовы не маем права.

## УЛАДЫСЛАЎ, СЫН ІГНАТА ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

*(Пасмертны ўспамін)*

Яшчэ адну ахвяру вырвала бязжаласная смерць з невялічкай сям'і свядомых беларусаў, закінутых нядоляй у далёкую чужыну.

У Пецярбурзе 6 мая гэтага года пасля доўгіх цяжкіх мук памёр (ад рака) Уладыслаў Эпімах-Шыпіла. Радзіўся Уладыслаў у 1864 г. у фал<ьварку> Залессе Лепельскага павета Віцебскай губ<ерні>, непадалёк ад Полацка. Бацька яго і матка — Анна Олецкая — паходзілі з дробнай беларускай шляхты. Навукі праходзіў Уладыслаў спачатку ў Рызе, дзе кончыў гімназію, а потым слухаў лекцыі ў Пецярбургскім універсітэце на фізіка-матэматычным факультэце. Пасля навук паступіў на службу ў Міністэрства фінансаў у Дэпартамент гасударств, казначэйства, у каторым і закончыў сваё жыццё. Асіраціў нябожчык жонку, тры дачушкі і сына, каторы вучыцца ў гімназіі.

Адарваны змалку дзён ад роднай старонкі, шукаючы навукі і хлеба па-за межамі яе, светлай памяці Уладыслаў да самай смерці не парываў духоўнага звязку са сваёй Бацькаўшчынай-маткай. Калі ў 1905 годзе пачало

ўсё жывое, але спячае ў Расіі будзіцца і, між іншым, калі сталі арганізоўвацца ў Пецярбурзе беларускія студэнцкія гурткі дзеля культурнай работы на карысць свайго краю, то ў гэтых гуртках прымае шчырае ўчасце і нябожчык Уладыслаў. У ніякую палітыку ён не мяшаўся ды і не знаўся на ёй, ён быў толькі з Божай ласкі артыст-мастак. І вось, як толькі задумалі беларусы ўстрайваць у Пецярбурзе беларускія прадстаўленні, то Уладыслаў насамперш і найшчырэй бярэцца за гэту святую справу. Роднае беларускае слова было для яго на чужыне ядынай асалодай у жальбе па роднай старонцы. Пад яго загадам і ў многім дзякуючы толькі яму і яго вытрываласці ставяць на пецярбургскіх сцэнах у працягу колькіх апошніх гадоў беларускія прадстаўленні: «У зімовы вечар», «Па рэвізіі», «Пашыліся ў дурні», «Міхалка», «Паўлінка», «Хам» і інш.

Уладыслаў бярэ на сябе найтруднейшыя і найдаўжэйшыя ролі, бярэ іх ён, а ніхто другі, бо тым няма часу, а тыя не могуць гэткую роль сходаць. І дзякуючы гэтаму чалавеку на далёкай чужыне, паміж фінскіх балот, у халоднай і непрыветнай сталіцы, зычыць са сцэны беларускае жывое слова; тысячы беларусаў, адарваных ад роднай зямелькі, і другія тысячы чужынцаў слухалі і дзіву даваліся тэй неапісанай красе — музыцы, зачараванай у зычнай мове нашых прадзедаў.

Пішучы гэтыя словы, сам быў сведкам, якое ўражанне рабілі на слухачоў гэтыя прадстаўленні і як для гэтага ўсяго працаваў Уладыслаў, не апускаючы рук да самай сваёй смерці. Тыпы, створаныя ім у беларускіх сцэнах, застануцца назаўсёды ў памяці жывых. Пецярбургскія беларусы папраўдзе асірацелі: смерць адабрала ім не толькі добрага чалавека і шчырага грамадзяніна, адданага беларускай справе, але страцілі з ім праўдзіва ідэёвага артыста-мастака, адданага ўсёй душой і ўсім сэрцам беларускаму вечна жывому слову.

Гэты шчыры жаль усіх знаючых нябожчыка беларусаў выліваўся і на сумнай апошняй паслузе для яго — на хаўтурах. На хаўтуры сабралася чуць не ўся беларуская калонія, а найболей студэнтаў. На магілку ўзлажылі вянкі, між іншымі — з такімі надпісамі: «Дарагому таварышу і правадыру — пецярбургскія беларусы», «Міламу бацьку — студэнты-беларусы» і шмат др. Ад студэнтаў вянок быў з жывых кветак. Над магілай гаварылі прамовы толькі па-беларуску. Між іншымі ад сту-

дэнтаў-беларусаў сказаў пекную прамову студэнт Тарашкевіч, у каторай зазначыў той глыбокі жаль па нябожчыку і тую вялікую ідэёвую працу, якую Уладыслаў нёс на сваіх плячах. Дэлегатам ад віленскіх беларусаў: ад рэд. «Наша ніва», ад «Беларускага музыкальнага драматычнага кружка» і ад «Беларускага выдавецкага таварыства» быў на хаўтурах Янка Купала, які прачытаў замест прамовы вершы, пасвечаныя памяці нябожчыка. Вершы зрабілі сільнае ўражанне на сабраўшыхся. Калі скончыўся сумны абрадак пахавання, народ яшчэ доўга не расходзіўся, як бы думаў, што гэта ўсё сон, што нябожчык устане з магілкі і пойдзе з жывымі да вялікай працы над Бацькаўшчынай-маткай.

Я стаяў у старане, і слёзы нястрыманага жалю душылі мне горла. Не ведаю чаму, успомніўся мне сумны верш Коласа «Пахаванне»:

...Чую прычытання,
Чую плач ■ нечы.
Скончыўся зарання
Век твой, чалавеча!

Хай жа будзе лёгкай зямелька для цябе, шчыры наш беларусе. Памяць аб табе ніколі не загіне ў сэрцах беларускіх, як не гіне ўсё добрае, светлае, вечнае.

## А ЎСЁ Ж ТАКІ МЫ ЖЫВЁМ!..

Не пагаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе,
Не загіне край забраны,
Покі будуць людзі...
*Я. Купала*

Шчаслівы край гэта — наша бацькаўшчына Беларусь! Які час гістарычны ні возьмем, з якога боку цяпершчыны ні глянем, адусюль, як у Піліпаўку снег, сыпаліся і сыплюцца на яе апекуны. І кожны з гэтых няпрошаных апекуноў цягне душу беларускую на свой млын. Палякі гвалтуюць за свой «stan posiadania» і за сваё былшае ўладарства «od morza do morza», і, канечна — беларусы не хто іншы, як «gałęź» польскага племені. Расейцы? Яшчэ бы! Беларусь — гэта «искони

русский» край, а беларусы — гэта «истинные» расейцы. І вось між гэтымі двума «культурнымі» народамі ідзе ганебны торг, паскудная камедыя над няшчасным, абняволеным беларусам. Забываюцца і братняя міласць, і суседская згода, і роўная воля і доля для кожнага чалавека, забываецца ўсё святое, і ўзводзіцца на пасад брахня: кусі яго, даві яго, запрагай у ярмо, бо ён твой слабейшы брат!

Але ўсё ж такі жыццё ідзе іначай: яго законы сільнейшыя ад якіх бы то ні было законаў чалавецкіх. Старое, струхлеўшае, аджыўшае свой век ідзе проч, на пагібель, а новае, святое, радаснае занімае сваё пачэснае месца і вядзе народы і аддзельных людзей к добраму, вечнаму. Старыя багі ідуць на злом, у архіў, а новыя засядаюць панаваць у сэрцах чалавечых. Гэтак было ад стварэння свету, гэтак і цяпер ёсць.

І наша Бацькаўшчына перажывала і перажывае тое самае. Душылі яе палякі і паншчыну-падняволле ў сэрцах няшчаснага народа засявалі, сягоння душаць яе і польскія, і расейскія нацыяналісты, ведучы між сабой нікчэмны спор за славянскую душу беларуса, але ўсё гэта мела і будзе мець свой канец. Будзіцца самапачуццё народнае, падымае старонка наша свае вочы к сонцу і распрастоўвае свае магучыя плечы. Мілаванне свайго роднага слова, сваёй ядынай бацькаўшчыны Беларусі бярэ верх над адступніцтвам і прадажніцтвам сябе ў чужую няволю. Калі зірнем мы на тое, што за некалькі год зроблена намі, беларусамі, над падняццем свайго нацыянальнага багацтва, то адно толькі душа можа радавацца. У некалькі год мы зрабілі тое, што ў палякаў і расейцаў рабілася чуць не цэлымі сталеццямі. Выходзіць у свет колькі беларускіх газет, друкуюцца кожны год дзесяткі кніжак розных названняў, закладаюцца беларускія выдавецкія суполкі, кнігарні і т. п. І ўсё гэта робіць сам народ ці сваёй шчырай працай для Бацькаўшчыны, ці сваімі запрацаванымі капейкамі, аддаванымі на беларускія газеты, кніжкі. Мы не знаем ні казённых падачак, ні купленых працаўнікоў. Працуем для ідэі і будуем самі сабе новае, лепшае жыццё.

Дык працуйма ж і далей! Сейма на роднай зямельцы здаровыя зярняты праўды, брацтва і свабоды, будзіма жывога народнага духу з магутным клікам: к сонцу і праўдзе! Будзем мець буйны ўраджай і багатае жніво. Не будзе нам страшны гэты паганы над намі торг

нашых нязваных і няспаных апекуноў. Ужо цяпер мы можам смела сказаць ім, як калісь сказаў Капернік аб зямлі: «А ўсё ж такі яна рухаецца!», т. е. а ўсё ж такі мы жывём і будзем жыць!

## ЗА «А ЎСЁ Ж ТАКІ МЫ ЖЫВЁМ!..»

Наша стацця «А ўсё ж такі мы жывём!..», як і трэ было спадзявацца, дужа не спадабалася тым ягамосцям, каторыя за ўсялякую цану хацелі б, каб мы, беларусы, не жылі. І вось паслухайма, якімі спосабамі гэтыя праціўнікі беларускага жыцця выяўляюць сваё нездаволенне.

Начнём ад «господина» Саланевіча. Прыводзячы ў сваёй газеце «Северо-Западная жизнь», № 129 г. г. першую часць нашай стацці (у перакладзе не зусім граматным), у яго вырываецца крык:

«Читая эту галиматью, никак не разберешься, о чем, собственно, речь, каких новых богов выдумал «рэдактар-выдавец І. Луцэвіч».

Крык гэты дужа шчыры, і мы яму верым. Совы і начніцы сонца не бачаць. Панам саланевічам усё будзе «галиматья», што толькі па-беларуску ні напішацца. Для перакінчыкаў законы жыцця і праўда-справядлівасць у рахунак не ідуць. Але паглядзім далей. Вось ён друкуе адрывак нашай стацці:

«І наша Бацькаўшчына перажывала і перажывае тое самае. Душылі яе палякі, цяпер душаць яе і польскія, і расійскія нацыяналісты, ведучы між сабой нікчэмны спор за славянскую душу беларуса, але ўсё гэта мела і будзе мець свой канец. Будзіцца самапачуццё народнае, падымае старонка наша свае вочы к сонцу і распрастоўвае свае магучыя плечы».

І што ж за адказ на гэта выдумаў п. Саланевіч? Ды проста па-«истинно русски»:

«Что вы скажете на это, читатель? Разве не просится на уста ваши нецензурное ругательство?»

Важна сказана. За словы «падымае старонка наша свае вочы к сонцу» грозяць нам паскуднай лаянкай. Не будзь губернатарскіх пастанаўленняў аб хуліганстве

і цэнзурнага ўстава, то «нецензурных ругательств» «Сев<еро>-Зап<адная> жизнь», як відаць, не пажалела б для сваіх чытачоў.

Далей п. Саланевіч распінаецца, што беларусы ад расейскіх нацыяналістаў, апрача аднаго дабра, нічога благога і не мелі, і, як прымер, прыводзіць гаспадарку ў нашым краі вялікага нацыяналіста Мураўёва. Мы не будзем спрачацца з «Севера-Западнай жызняй» аб Мураўёве — нашто нябожчыка трывожыць,— мы толькі звернем увагу жывых, што калі Мураўёў гаспадарыў у Беларусі, то ў тым часе і паміну яшчэ не было аб тых патэнтаваных расейскіх нацыяналістах, створаных на абраз і падобіе саланевічаў, пурышкевічаў, замыслоўскіх і таму падобных. Іх, гэтых патэнтаваных «валяй-патриотов», вытварылі нашы апошнія часы: безупынная рэакцыя, наступіўшая пасля светлых пробліскаў 1905 г. Аб гэтых нацыяналістах, каторыя хацелі б усё чыстае і светлае ў Расіі апаганіць, запыніць і павярнуць усё яе жыццё назад — у крэпасніцтва,— мы і гаварылі ў сваёй стацці. Але п. Саланевіч прыкідваецца нязнайкаю (па-расейску — «валяет дурака») і лжэ, перакручваючы нашу шчырую думку на свой нацыяналістычны капыл. Супакойся, п. нацыяналіст! Беларус добра патрапіць раскумекаць, хто і як да яго гаворыць і хто яму болей родны і вечны, а хто чужы і дачасны. А што да «лганья», якое вы быццам знаходзіце ў «Н<ашай> н<іве>», то... астаўляем гэты інтарэс тым, каму за «лганьё» добра плацяць, а мы і з бясплатнай праўдай неяк жылі і будзем жыць. Казённых падачак не шукалі мы і шукаць не збіраемся.

За «Сев<еро>-Зап<адной> жизнью» и «Виленский вестник» наваліўся на нас і сфабрыкаваў на сваіх страніцах чуць не маленькі данос на «Н<ашу> н<іву>» і яе рэдактара. «Виленскому вестнику» ўкалолі ў пяты і соллю сталі ў воку словы з надпісі над стаццёй у «Н<ашай> н<іве>» — «забраны край». І вось у № ад 15 чэрвеня г. г. давай плясці па-свойму, што вось у «Н<ашай> н<іве>» новы рэдактар, дык і новы курс узяла газета. Прыплёў к чамусьці сюды тутэйшых палякаў, ад каторых мы, апрача нападак на манер саланевічаўскіх, нічога іншага не знаем. Адным словам, «Вил<енский> вест<ник>» падняў цэлы гвалт. І найболей усё б'е на фразу «забраны край», каторай быццам

дагэтуль не спатыкалася ў «Н<ашай> н<іве>» і катораю быццам у рэдакцыі цяпер сфабрыкавалі.

Вот жа скажу тут, што «Вил<енский> вест<ник>» праспаў у шапку свае абавязкі даносніцтва. Верш, з каторага частку прыводзіць «Вил<енский> в<естник>», быў надрукаваны цалкам у «Нашай ніве» ў 1911 г., № 47—48. Словы ж «забраны край» не простая выдумка аўтара, а ўзяты з этнаграфічнага зборніка «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Собранные и приведенные в порядок П. В. Шейном, СПб, 1902 г., изд. императорской Академии наук». Там, у гэтым зборніку Акадэміі навук, т. III, стар. 97, сказана: «Вообще о себе и своей стране они (селяне Гродненской губ.) выражаются так: «Мы тутэйшыя, наша страна ні руска, ні польска, але «забраны край!».

## ВЕРА І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ

Нашай Бацькаўшчыне вечна ні ў чым не шанцавала; вечна павінна была несці на сваіх плячах ярмо такой ці іншай няволі. Палітычна і эканамічна пападала ў залежнасць чужынцаў; народ — гаспадар свайго краю — гнуўся пад непасільнай ношкай паншчыны, а цяпер служыць парабкам у сваёй старонцы. Мала таго, нашаму народу зацямнілі вочы, атуманілі лганнём свядомасць, хто ён такі: ці чалавек-грамадзянін сваёй Бацькаўшчыны, ці рабочая і дойная жывёла.

Апрача палітычнай і эканамічнай залежнасці, была і другая прычына, асляпіўшая светапогляд беларуса,— гэта рэлігійная нязгода двух хрысціянскіх абрадаў у нашым краі: каталіцтва і праваслаўя. Гэтыя дзве царквы — заходняя і ўсходняя, ведучы вечную спрэчку паміж сабою, раздзяляюць наш ядыны народ на дзве часці, адных і тых жа дзяцей сваёй маткі-зямлі водзяць паміж сабой, даводзячы нават часта да бойкі за святы знак хрысціянства — крыж. Прыкладаў далёка шукаць не трэба: узяць бы хоць справу з Рубяжэвіцкім крыжам і іншыя. Гэта змаганне дзвюх вер не толькі дзеліць беларусаў на дзве часці па рэлігіі, але, самае важнае,

забівае ў іх свядомасць і пачуццё нацыянальнай еднасці. Беларусу каталіку ўгаварваюць, што раз ён каталік, то ён — паляк і не павінны братацца з тым, хто іншай веры; беларусу праваслаўнаму кажуць, што раз ён праваслаўны, то ён — расіец і каталіка беларуса павінен сцерагчыся, бо ён — паляк. І што з гэтага выходзіць? Расце нязгода, расце нянавісць — рэчы, нікому не патрэбныя, апрача хіба ворагам нашага народа.

Беларус каталік ці беларус праваслаўны павінны тое помніць, што ў іх адна Бацькаўшчына — Беларусь, адна мова родная — беларуская, адны звычаі і абычаі, ад веку перадаваныя з пакалення ў пакаленне.

Ці беларус праваслаўны, ці беларус каталік павінен ясна сабе ўсведамляць, што ён сын сваёй Бацькаўшчыны, гаспадар свайго краю і для дабра гэтай сваёй Бацькаўшчыны, для лепшай і святлейшай сваёй долі не павінен слухаць падшэптаў нянавісці да свайго брата, адкуль бы гэтыя шэпты ні выходзілі. У нас на Беларусі і так, дзякаваць Богу і добрым людзям, бяды і гора ўсякага хоць гаць гаці, дык нашто яшчэ падліваць смалы ў агонь?

Спольна і згодна працаваць над адраджэннем сваёй вялікай старонкі, здабываць для сябе лепшую долю — вось наша праўдзівая мэта ў жыцці.

Помніма, братцы, ці мы каталікі, ці мы праваслаўныя,— мы беларусы, а Бацькаўшчына наша — Беларусь. Не мяшайма справы рэлігіі з нацыянальнасцю.

## ХАЙ РУНЬ КРАСУЕ...

Шырокаю хваляй разлілося мора вайны па цэлым свеце. Перажываем нешта такое, чаго ніхто і ніколі як свет светам не перажываў. Здалёку і зблізку далятаюць да нас і добрыя і благія весткі аб вялікіх бітвах, аб змаганнях мільёнаў ваяк. Мімаволі родзіцца трывога перад заўтрашнім днём. Слабыя душою і целам апускаюць рукі і, як вол доўбні, чакаюць нечага негаданага, благога, наводзячы гэтым і на іншых сум ды трывогу. А трывога — гэта чарвяк, які падточвае сілу і ахвоту да жыцця, да працы на ніве і ў хаце.

Вось жа ўсе тыя, што асталіся дома, што не маюць магчымасці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на полі бітвы, павінны адкінуць ад сябе ўсякую слабасць душы і цела, усякую непатрэбную трывогу ды дружна ісці да працы на сваіх загонах, да чаго кліча яшчэ нас святая павіннасць працаваць і за тых, што аддаюць сваё жыццё дзесь там далёка ці блізка. Не слухайма благіх языкоў, што рассяваюць такія ці сякія плёткі, бо, як кажуць, у мор намруцца, [redacted] ў вайну налгуцца. Не спыняйма працы дома і за домам, якая ішла да вайны і якая павінна далей ісці. Цяперака час жытняй сяўбы. Дык жыва за плуг і севалку! Памагайма тым, у каго няма каму выйсці на поле з сяўнёю. Кожны ведаць павінен сваё дзела: ваяка — вайну, [redacted] гаспадар — гаспадарку.

Што хто ні кажа, а мы як мага засевайма свае шнуры. Хай, як і летась, закрасуе і сёлета рунь. Вайна вечна трываць не будзе; вернуцца нашы браты і сыны дамоў, можа, некаторыя раненыя, не здольныя да працы. Хай жа дома знойдуць усё ў парадку — неапушчаную хату, хлеб на стале.

Такім ладам мы споўнім святы свой абавязак перад Бацькаўшчынай і перад яе сынамі на вайне. І будзем смела тады глядзець свету ў вочы са святым пераконаннем, што і мы, астаўшыеся дома, не спалі ў шапку ў гэты час трывожны. Скончыцца вайна. З па-над яе пажарнага і крывавага дыму выгляне добрае, прыветлівае сонца і ажывіць сваімі праменямі нашы загоны і сенажаці. А цяпер — ведай кожны сваё дзела: ваяка — вайну, [redacted] гаспадар — гаспадарку. Засявайма свае нівы — хай рунь красуе.

## ВАЙНА І САМАПОМАЧ

Вайна захапіла ўсе нашы думкі і засланіла сабою ўсе іншыя праявы нашага грамадзянскага жыцця. На ўсіх установах, на кожным чалавеку з асобна вайна адклікнулася ў той ці іншай форме. А жыццё не глядзіць: яно мусіць ісці сваім чарадом, хоць і адменным, як у час спакойны. Гаспадарка цэлага краю ці аддзельных людзей павінна па сіле магчымасці не спыняцца,

а ісці далей і шырэй, каб, як скончыцца вайна, не асталіся мы быццам пасля пажару: зусім знішчожаны і на духу і на целе. Мы ведаем, што вайна, якая б яна ні была, патрабуе шмат ахвяр, шмат высілкаў маральных і матэр'яльных, але таксама ведаем, што кожная вайна мае свой канец. Дык не трэба апушчаць рук і глядзець зусім безнадзейна на сваю і сваёй Бацькаўшчыны будучыню. Трэба горда цягнуць лямку жыцця, як цягнулі яе і да вайны, ды болей яшчэ адзін аднаму паддаваць духу да вытрываласці на сваім загоне, у сваіх жыццёвых мэтах.

На першай чарадзе стаіць у нас пытанне, як забяспечыцца перад магчымай нястачай харчоў для сябе і для жывёлы. Аб гэтым ужо трэба падумаць і не чакаць, пакуль бясхлебіца загляне ў хату. Мусім лучыцца ў гурткі і гэткім манерам закупліваць збожжа для цэлай вёскі там, дзе яго ёсць лішніца. У хаўрусе шмат лягчэй і карысней гэта рабіць. «Няшчасце людзей лучыць»,— кажа прыказка. Хай жа гэта прыказка і тут сябе пакажа, каб у супольнай згодзе забяспечыць сябе ад голаду і холаду. Што мы сваім стараннем зробім — тое толькі будзе мець для нас вагу і цану. Апрача хаўруснага закупу харчоў, шмат можа прынесці ў гэтым помачы наша воласць. У абчэственных магазінах ёсць нямала ў запасе ўсялякага збожжа. Вось жа калі з толкам пажычаць будзе магазін гэта збожжа, то не адна сям'я запаснога будзе як след накормлена. Хай бяруць з магазінаў толькі тыя, хто папраўдзе не мае за што купіць, а сем'яніны яго на ваеннай службе. На земства малая надзея — яно нядаўна ў нашым краю заведзена і дзеля таго не можа яшчэ аказаць вялікай падмогі. На земствах ляжыць яшчэ іншы важны абавязак — гэта агранамічная і лекарская помач сялянам. Трудны цяпер час на гэта, але ўсё ж такі што-колечы ды можна рабіць, тым болей што і ўрад пры добрым парадку памагае земствам.

Яшчэ трэба сказаць тут аб хаўрусных крамах і банчках па вёсках. Гэтыя дзве ўстановы і як яшчэ могуць прыйсці на помач бяднейшым сялянам, толькі трэба, каб і самі сяляне гарнуліся да іх і дзе можна закладалі новыя такія крамы і банчкі. Хай багацейшыя ўкладаюць у гэта свае грошы (каторыя, дабаўлю тут, ніякім спосабам прапасці не могуць), каб бяднейшыя маглі з іх у гэты цяжкі час карыстаць.

Агулам кажучы, трэба больш за ўсё надзеіцца на свае сілы і не агіляцца па баках. На помач са стараны малая надзея, калі ідзе на цэлым свеце крывавае змаганне за існаванне цэлых народаў, цэлых гасударстваў. Хай кожны беларус цвёрда верыць, што завіруха ваенная так ці сяк скончыцца, а што для яго самога і для Бацькаўшчыны прыйдзе лепшая доля, лепшая слава. Толькі разам усе да працы і самапомачы, бо грамада — вялікі чалавек!

## ВАЙНА І НАЛОГІ

Вялікую цяпер перажываем вайну, вялікіх і ахвяр патрабуе яна. Мала таго, што грамадзянства дае сваіх сыноў на абарону гасударства, але яно, гэта грамадзянства, павінна яшчэ так ці іначай даваць грошы на ваенныя расходы. Бо толькі тое гасударства зможа не дацца ў крыўду або і перамагчы свайго праціўніка, каторае не толькі выставіць вялікую лічбу добра абучаных ваеннаму дзелу салдат, але калі яно побач з гэтым мае за сабою сілу эканамічную.

Але як бы казна ні была багата, то пры надзвычайных здарэннях, як, напрыклад, вайна, голад, патрабуюцца і надзвычайныя расходы. Пры гэтым вышукваюцца спосабы, адкуль і як дабываць грошы на гэтыя расходы. Спосабы ёсць два: або пазычыць у суседзяў, або падвышыць старыя ці прыдумаць новыя налогі. Пазычыць у гэту ўсясветную завіруху няма дзе, бо тыя ваююць і самі павінны дабываць грошы на расходы, а тыя рыхтуюцца к абароне ці вайне і таксама пазычаць іншым не могуць. Астаюцца толькі налогі. Гасударственныя налогі бываюць дваякія: простыя (беспасрэдныя) і пабочныя. Простыя налогі — гэта падаткі з зямлі, з фабрык, з наследства і інш. Агулам простыя налогі — гэта такія, дзе кожны ўласнік плаціць беспасрэдна пэўныя падаткі за сваё дабро. І разумеецца, чым ён больш мае — напр<ыклад>, дзесяцін зямлі,— тым болей і выплачывае. Пабочныя ж налогі зусім іншыя: збіраюцца яны не з таго, хто штось мае, а з таго, што паступае на продаж, як, напр<ыклад>, акцыз на таба-

ку, цукар, гарбату і інш., або таможанны збор з загранічных тавараў. Пабочныя налогі аднолькава плацяць і бедны, і багаты. Гэтак расейскі ўрад у сваім часе шмат збіраў (каля тысячы мільёнаў руб.) налогаў з акцызу на гарэлку. Цяперака, калі спынены продаж на гарэлку, урад павінен не толькі дастаць грошы на гасударственныя расходы, каб пакрыць гэту акцызную нядоімку, але яшчэ павінен дастаць іх і на ваенныя расходы.

І вось мы бачым, што ўжо на некаторыя рэчы падвышаны ў нас да канца вайны акцыз, як, напр<ыклад>, на табаку, падвышана пачтовая аплата і інш. Гэтыя падвышкі, канечна, не павінны нас пужаць, бо і палавіны не прыйдзецца нам плаціць таго лішняга, што мы выкідалі ў сваім часе на гарэлку, затручваючы ў дадатку сваё здароўе і часта-густа пападаючы на «скам'ю падсудзімых». Апрача падвышэння некаторых пабочных налогаў, урад маніцца яшчэ ў скорым часе завясці падаходны і асабісты ваенны налог.

Падаходны налог падобны простаму, выбіраецца з тых, хто болей зарабляе, ці хто болей з чаго мае даходу, той болей і плаціць. Гэтым налогам будуць ападаткаваны толькі багацейшыя людзі, маючыя не меней 2000 р. у год даходу. Асабісты ваенны налог будзе выбірацца з тых, хто па якой-колечы прычыне ўвольнены ад адбывання воінскай павіннасці, і кожны гэткі плаціць будзе 6 рублёў. Першы падатак будуць уносіць тыя, што прызываліся ў апошнія 4 гады. Таксама маніцца ўрад зрабіць новую пераацэнку зямлі і падвышыць, стасоўна да яе вартасці, гасударственны пазямельны налог. Усе гэтыя новыя налогі і падвышэнні старых урад праводзіць па 87 стацці асноўных законаў.

Трэба яшчэ тут сказаць, што праект закону аб падаходным налогу быў даўно ўнесены на разгляд Гасударственнай Думы, і толькі цяпер дзякуючы вайне гэты закон увойдзе ў жыццё. Але як бы сабе там ні было, мы ва ўсім гэтым бачым адну вельмі карысную для ўсіх рэч — гэта падаходны налог. І вось, вітаючы яго, нам астаецца толькі цешыцца, што думка шчырага расейскага грамадзянства дарма не згінула, і гэты налог, аснованы на справядлівасці, знойдзе нарэшце сабе мейсца ў Расейскім гасударстве.

# ЧВЭРЦЬ ГОДА ВАЙНЫ

Чвэрць года крывавых змаганняў паміж мільёнамі! Сто дзён без мала ліецца чалавечая цёплая кроў. Сто дзён кладуцца покатам без часу тысячы нябожчыкаў ды з дымам пажараў ідуць сялібы і ў поце запрацаванае дабро людское. Сто дзён на пабоішчах над трупамі лунаюць груганы ды ваўкі выюць. Паміж трупамі сцікаюцца-сочуць маці і жонка з дзіцём: сына, мужа ды бацькі шукаюць! Шал нейкі апанаваў усю Еўропу. Уваружаны мір-супакой здрадзіў яе. Людзі захлёбываюцца ў сваёй жа свянцонай крыві і гінуць у вогнішчах, сваімі ж рукамі распаленых...

Разважаючы трохмесячныя бароцьбы дзевяці многамільённых народаў, бачым, што бітвы ішлі і ідуць не на жарты. Пасля асілкавых, на жыццё і смерць, змаганняў Бельгія здалася; нямецкае войска загарнула амаль не ўсю гэту гераічную старонку, а бельгійскае войска злучылася з французскім і англіцкім. На французскай граніцы бітвы французаў, англічан і бельгійцаў з немцамі не спыняюцца, і вялікай переваргі на тую ці іншую старану не відаць. Тры пабеданосныя спачатку паходы аўстрыякаў і немцаў у граніцы Расіі не ўдаліся. Першы паход — гэта аўстрыякаў у Люблінскую і Ломжынскую губ.— расейцы не толькі адбілі, але яшчэ самі заваявалі ў Аўстрыі амаль не ўсю Галіччыну. Другі паход — нямецкі — у Сувальскую і Ломжынскую губ<ерні> — таксама не пашэнціў: каля Нёмана расейскае войска змусіла немцаў адступіць да сваіх граніцаў. Трэці паход — нямецкі — на Варшаву — расейцы спынілі, перамаглі нямецкае войска і цяперака адпіраюць яго назад, к Нямеччыне, адбіраючы па дарозе захопленыя немцамі польскія гарады і сялібы. Сербы і чарнагорцы далей змагаюцца з Аўстрыяй. Японцы бамбардуюць Цындао, у якім немцы яшчэ трымаюцца. На моры і ў паветры таксама ідуць бітвы: пайшло за гэты час на дно мораў і акіянаў нямала караблёй і людзей, і нямала з-пад воблакаў на зямлю грымнулася самалётаў і летуноў. Урэшце да дзевяці ваюючых дзяржаў прылучылася апошнімі днямі і дзесятая — Турэччына. Па загаду немцаў туркі рынуліся ў бітву, бадай, для сябе няроўную. У даўнейшых войнах Расіі з Турэччынай за апошнюю часта-густа заступаліся Англія і інш. Цяпер жа Англія — хаўрусніца... Расіі.

І вось, як бачым, светавая вайна не змяншаецца, а павялічваецца. Што дала яна ваюючым народам — пакуль што падлічыць немагчыма. Адно ведаем, што Бельгія, Галіччына, Польшча і часць Літвы заліты крывёй, засеяны трупамі і засыпаны попелам спаленых ворагам сялібаў. Скарыстаў з гэтага хіба толькі які злодзей-марадзёр, злупіўшы з забітага ваякі апошнюю вопратку.

Тыя варожбы перад вайной, што вайна доўга не працягнецца, развеяліся, як дым. Канца праліванню крыві не відаць. Цяпер некаторыя кажуць, што не пазней восені будучага года прыйдзе замірэнне. Ці толькі прыйдзе? Кроў ап'яняе людзей.

Астаецца толькі адно — гэта верыць, што пасля кожнай вялікай буры-навальніцы заўсёды наступае доўгая сонечная пагода.

# 1915

## «ЗАЛЁТЫ», АПЕРЭТКА ВІНЦУКА ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА

> ...у адраджэнні ўсякага народа (украінцы) тэатр — сіла непамерная, а ў адраджэнні беларусаў, пры іх псіхіцы, пры іх дэмакратызме, ён можа сыграць вялікую ролю.
>
> *Максім Гарэцкі*

25 студзеня Беларускі музыкальна-драматычны гурток выставіў на сцэне аперэтку «Залёты», напісаную каля паўвека таму назад (у 1870 г.) праз В. Марцінкевіча,— толькі музыку да слоў аперэткі п. М. Кімант дапасавала цяпер.

Змест аперэткі дужа просты: Сабковіч, дабіўшыся праўдай і няпраўдай «з пастуха» да панства, дзеля збольшання свайго багацця хоча жаніцца з Адэляй, дачкой шанаванага ў павеце суддзі. Але дзякуючы сваёй хцівасці, Сабковіч па дарозе ў сваты к Адэлі купляе крадзенага каня, што і губіць яго ў тым часе, калі ён

госціць у суддзі. К таму ж Маршалак раскрывае перад суддзёю ўсю горкую мінуўшчыну Сабковіча.

Аўтар аперэткі В. Марцінкевіч, сам шляхціц, шчыра стаяў на стражы інтарэсаў гербоўнай шляхты-паноў, і хаця бачыў усе іх недастаткі, усё ж такі ў сваіх творах выказваў думку, што ўся бяда беларускай беднаты паходзіць не ад паноў, а ад панскіх слуг: аканомаў, цівуноў і іншай марноты. Пры шчырай сваёй прыхільнасці да народа Марцінкевіч не мог стаць усёй душою на старане дэмасу, на старане толькі што выпушчанага з-пад панскай няволі мужыка-беларуса. Для Марцінкевіча гэты мужык ёсць мужык: можна даць яму і асвету, можна яму пазволіць дайсці да сякога-такога дабрабыту, але няможна дапусціць яго да раўні з панамі. Нават у сваіх літарацкіх працах гэта дзяльба панскіх ад мужыцкіх душ перабягае скрозь чырвонай нітачкай, асабліва ў творах сцэнічных. Гэтак у «Залётах» паны, і той нават пан з мужыкоў Сабковіч, павінны гаварыць па-польску*, а толькі слугі іх гавораць па-беларуску,— ды нягледзячы на тое, што ў той час шмат дзе па якіх дварах паны гаварылі паміж сабой па-беларуску.

Марцінкевіч бачыў, што сярод мужыкоў пачынаецца эвалюцыя, што колькісотлетняя паншчына не забіла да апошняга ў мужыцкай душы жадання падняцца вышэй са свайго паніжэння, са сваёй беднаты-цемнаты. Паяўляюцца сабковічы, тыя сабковічы-мужыкі, што багацеюць дабром з крыўдай для разбагацеўшых паноў на мужыцкім дабры. Калізіі гэтай Марцінкевіч яшчэ не хоча ці не можа ўразумець, яшчэ аўтара не патрапіла захапіць хваля вызвольнага ветру з Захаду. І Сабковіч у «Залётах» — гэта ёсць шэльма з шэльмаў, узвялічаны аўтарам да нейкага горшага гатунку карыкатуры, а не чалавека з яго добрымі і благімі старонамі. Марцінкевіч не мог падмеціць другіх сабковічаў, другіх дарабковічаў, дарабковічаў не золата, а духу! А ўжо былі на Беларусі і такія,— узяць бы хоць Сыракомлю. Для тых часоў, для сучасных Марцінкевічу чытачоў і слухачоў, «Залёты» напэўна мелі вялікую вартасць, бо напісаны былі не для шырокага беларускага грамадзянства, а толькі для часткі яго, для той касты, што ўмела чытаць і мела за што хадзіць у тэатры. Для цяперашняга

* «Залёты» ў арыгінале напісаны мешанай мовай — беларускай і польскай.

беларускага грамадзянства «Залёты» ёсць ні болей ні меней як *сумны ўспамін* тых часоў, калі людзі думалі і верылі, што ў адных станоў белая косць у целе, а ў другіх — чорная. Сягоння пачынае рунець другая рунь, выходзяць на поле бітвы за лепшую долю для чалавецтва іншыя сабковічы, сабковічы духу, і чакаюць не «Залётаў», а вяселля, на якім бы адбылося вялікае свята, свята беларускай вызваленай з пут векавечных душы. Былі залёты пакляпаць мужычка белай рукой па зморшчаным твары ды паказаць яму, як гэта нягодна выбівацца з мужыкоў у паны, дый толькі залёты і засталіся.

Выстаўлены «Залёты» на сцэне былі старанна. Відаць, працаўнікі гуртка не жалелі ні працы, ні часу, каб толькі ўсё добра сышло, каб толькі добра... Але, дзе гэтага «але» няма, апрача двух-трох артыстаў, аб іншых трудна было падумаць, што гэта іграюць беларусы і пабеларуску са сцэны гавораць. Бедная ты мова беларуская, як цябе людзі не ўмеюць шанаваць!

Ігра артыстаў была добрая, або, скарэй, добрае старанне, каб добра сыграць. К. Душэўскі пастараўся стварыць Сабковіча такога, які нябожчыку аўтару напэўна падабаўся бы. Ягучанская ў ролі Даміцэлі троху заядавіта, як выпадае для сястры, кпіла з брата, але ўсё ж такі міла вабіла вока сваёй ігрой. Дужа быў сімпатычны Страздэс, каторы такога слаўнага адтварыў Петрука, што не адна паненка ў залі пальчыкі, гледзячы, аблізвала. З. Бядуля даў тыповага нашага беларускага Мордку і сваёй стараннай ігрой вызываў у публікі шчыры «смех скрозь слёзы». Баневічанка сумленна старалася выказаць настроі пакрыўджанай праз Сабковіча Марысі. Вітась складна прадставіў Гапона, бацьку Марысі, у каторага апошнюю кабылку ўкралі, Маркевічанка, выказаўшая ўжо сваю артыстычную здольнасць у ролі Паўлінкі, міла выпаўніла ролю Куліны, жонкі Гапона. Слабодскі за добрыя спевы ў ролі студэнта Стася атрымаў ад публікі пахвалу — «брава!». Адэлю вытварыла Марачэўская добрай і кахлівай дзяўчынай. Маркевіч важны быў бы Маршалак, каб толькі не гаварыў са сцэны, як прадвадзіцель дваранства, «врэмя», «судья». Бурбіс, як і заўсёды, не папусціў сябе ў крыўду і ў ролі суддзі. Барташэвіч быў ключвойтам, як і трэба быць ключвойту. У сімпатычным Адольфку грым здрадзіў Бурбісовую, каторая, паміма вялікай

працы каля ўстройства гэтага вечара, патрапіла яшчэ і добра сыграць сваю ролю на сцэне.

Вось гэтак болей-меней выдаецца мне ігра артыстаў. Месца не пазваляе выказаць тут болей лепшыя ці слабейшыя староны іх ігры.

Музыку, як я ўжо ўспомніў, напісала да «Залётаў» п. М. Кімант і сама, не жалеючы працы і часу, павывучвала, як трэба пяяць, артыстаў, падчас не знаючых нотаў. За гэту шчырую працу п. М. Кімант належыцца шчырае дзякуй. Што да самай музыкі, то трудна большага вымагаць. Каб у нас быў свой Манюшка і свае Шаляпіны, то, можа, усё іначай было бы, ■ так прыходзіцца дзякаваць за тое, што ёсць, ды чакаць не «Залётаў», а «Вяселля».

## 1919

### ЯК У КАЗЦЫ

Даўно было — мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей,— як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы — дрэговічы, крывічы і палачане.

Важны быў гэты народ, і паміж суседзямі меў ён добрую песню і праўдзівае паважанне. З далёкіх заморскіх старон — з зямлі Варшаўскай, з царства Візантыйскага і з другіх знамянітых гасударстваў і каралеўстваў — прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі — шоўкам, бісерам, янтаром ды іншымі драгацэннымі скарбамі. Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначываўся... Бо не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным; навет калі выходзілі з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць ці з лукам звера пушнага сачыць, то і тады замкоў не зналі, а яшчэ астаўлялі ў хатах пад абрусамі бохана хлеба пшанічнага і дубовыя дзежы

сотаў пчаліных — гэта каб госць меў чым з дарогі пажывіцца.

Вера ў нашых продкаў была трохі іншая, як цяпераka, бо не аднаго бога мелі, а некалькі, і прозвішчы багі мелі не такія, як цяпер; называліся яны: Сонца, Пярун, Каляда ды іншыя яшчэ. Аўтарнымі слугамі багоў гэтых былі варажбіты-вешчуны — старцы мудрыя і ў справах божых кемкаць маючыя. Не было, праўда, узнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных,— былі толькі запаведныя лясы і гаі цяністыя, дзе складаліся ахвяры богам прамудрым. Просты быў народ, і крывадушыць не ўмеў ён у веры сваёй. Ведаў толькі, што найлепей гаварыць з небам, гледзячы ў неба, не зачыняючыся ў ніякія словы будоўлі.

А хто хаваецца ад сонца, у таго на душы цёмна.

А чыстае, відаць, сумленне мелі прадзеды нашы.

Заезджыя госці дзівіліся гэткаму, па-іхняму незвычайнаму, парадку ў справах адносін між людзьмі і багамі; не разумелі, як гэта можна замест аднаго мець некалькі багоў і не мець багатых харомаў, збудаваных у чэсць і хвалу Бога свайго. Дзівіліся, бо госці заезджыя былі веры іншае і звычаёў гэткіх у сябе не мелі.

Мала-памалу заморскія госці сталі прывозіць з сваімі заморскімі скарбамі і думкі іншыя: прывезлі яны новага Бога, Бога з крыжам. Не хацелі спачатку прымаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды палачане ад іх не адставалі, а пасля з дабраты сваёй і рупнасці гасціннай прынялі, падумаўшы, да сваіх старых багоў і новага Бога; адно толькі варажбіты-вешчуны, старцы мудрыя і ў законах веры дасведчанне маючыя, старых толькі багоў трымаліся і народу свайму за яго такую нястрыманую памаўлівасць нядобрыя варожбы выражалі. Намыліліся старцы мудрыя: па іх касцях закрасаваў новы ўсёмагутны Бог, сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму курыць, тысячы з медзі літых званоў хвалу яму разносіць, а так далёка, як зямля наша вяліка, і яшчэ далей, ажно на край свету.

А старыя багі? Яны прыціхлі, прытуліліся, але не памёрлі саўсім у душах свайго народу. Жывуць, як даўней жылі,— у песнях, казках, былінах, і чакаюць... чакаюць на новых старцаў мудрых, на вешчуноў-прарокаў златавустых.

Ці дачакаюцца калі?

## УВАСКРАШЭННЕ ПОЛЬСКАГА УНІВЕРСІТЭТА Ў ВІЛЬНІ

Дні 10, 11, 12 кастрычніка г. г. астануцца навекі не зацертымі ў памяці насялення Літоўска-Беларускай сталіцы — Вільні. У гэтыя дні адбылося вялікае і ўрачыстае свята ўходзін Віленскага Універсітэта імення караля Сцяпана Баторага.

Універсітэт гэты быў заснаваны ў 1578 годзе, за панаваннем польскага караля Сцяпана Баторага, і праіснаваў ён з лішнім два з паловай сталецці — да 1842 года, да часу, калі расійскі царскі ўрад задушыў гэту вучэльню, баючыся ўплываў заходняй культуры на пануючы ў тым часе ў Расіі праізвол і адзічэнне.

77 год была Вільня сіратою, уздыхаючы па тых светлых часінах, калі яе універсітэт кіпеў мудрым жыццём, калі даваў ён і Польшчы, і цэламу свету мудрых і слаўных людзей, як, напр<ыклад>, Адам Міцкевіч, Снядэцкі, Леляваль і шмат іншых.

Але вось надышоў час вялікай усясветнай разрухі, час вялікіх змаганняў за лепшыя ідэалы, калі няволеная сотню год Польшча адважна ўзялася за дзяржаўнае незалежнае жыццё,— рукою яе цяперашняга гаспадара Язэпа Пілсудскага вырвана ад маскалёў Вільня і збуджаны к жыццю спаўшы доўгія гады Батораўскі Універсітэт.

Хай жыве светлая культурная праява, на чыей бы зямлі і ў якім бы народзе яна ні праявілася.

Але на высшую вучэльню ў Вільне звернуты цяпер вочы не толькі польскага народа,— на гэту змясціну навукі і мастацтва пазіраюць цяпер і сумныя вочы літвіноў і беларусаў.

Мы ведалі, што Вільня — гэта спрэчны горад, на каторы тры дзяржавы заяўляюць свае правы — гэта Польшча, Літва і Беларусь.

І вось, не ўходзячы сягодня ў разбор таго, хто мае больш правоў на «грод Гэдыміна», мы скажам толькі, што Віленскі Батораўскі Універсітэт павінен і абавязан здаволіць духоўныя і культурныя патрэбы гэтых усіх трох народаў: палякаў, літвіноў, беларусаў. І калі гэта высокая вучэльня не пойдзе шырокай дарогай талеранцыі і роўных правоў для ўсяго насялення нашага краю,— яна не споўніць таго культурнага назначэння, якое ёй сягодня суліць гісторыя.

Вядомы польскі пісьменнік Баляслаў Ліманоўскі, пішучы аб вялікім праз доўгія годы асветным значэнні Батораўскага Універсітэта, паміж іншым кажа:

«Святло, якім прамянілася гэта вучэльня, захоплівала сабой не толькі край Польска-Літоўска-Беларускі, быўшае Вялікае Літоўска-Беларускае Княжства, але праменні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава...

«Гэта асвета, пашыраная ў вышэйшых школах на польскай мове, не пасягала на апалячванне ані літвіноў, ані беларусаў,— наадварот, будзіла ў іх нацыянальнае пачуццё, прыпамінала ім слаўную гістарычную мінуўшчыну, успамагала іх першыя крокі дзеля збудавання іх уласнай нацыянальнай літаратуры.

«Маем пераканаңне, што гэтая светлая традыцыя будзе панаваць і ў адроджанай сягодня Віленскай Вучэльні.

«Я лічыў бы дзеля гэтага вельмі важным, каб устанавіць у гэтай вучэльні дзве катэдры: літоўскай мовы, літаратуры і літоўскай гісторыі, а такжа такую самую катэдру для Беларушчыны.

«Вельмі было б пажаданым, каб запрасілі на гэныя катэдры прыродных літвіноў і беларусаў, пасвяціўшых сябе гэтым прадметам.

«Значэнне і ўплыў універсітэта гэтакім способам вельмі б павялічыўся».

Хай жа гэтыя шчырыя і справядлівыя словы п. Баляслава Ліманоўскага не будуць голасам, клічучым у пушчы.

## АДБУДОВА БЕЛАРУСІ

Тая вялікая разруха і тое страшэннае знішчажэнне, выкліканыя вайною, найцяжэй адбіліся на нашай Бацькаўшчыне, на нашым полі і на нашых сялібах.

І калі цяпер, хоць яшчэ ваенны віхор бушуе, асабліва на ўсходзе Еўропы, шмат якія дзяржавы, перайшоўшыя на мірнае жыццё, прыступілі к адбудове ваенных руін,— у нашым краі, каторы найбольш вынес на сваіх плячах буру сусветнай вайны, нічога аб гэтым не чуваць, нічога не робіцца, ніхто і не падумае аб тым, як жывуць, што

ядуць, якую маюць страху над галавой людзі нашых вёсак, нашых сёлаў.

Цэлы свет ведае, што самыя крывавыя бітвы, самае дзікае зніштажэнне людзей і іх дабра ў гэту вайну было на Беларусі. Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль дакапала чалавечая рука — яе лапата, яе гарматны пярун. Людзі варочаюцца да сваіх хат, а не знаходзяць іх, шукаюць сваіх гоняў, а іх не відаць: гарматныя стрэлы змялі з вобліку зямлі хаты, зніштожылі межы і граничныя слупы.

Ужо ад нейкага часу ў Францыі працуе паўмільёна людзей над адбудовай таго, што вайна разрушыла. У Бельгіі таксама кіпіць работа ў гэтым напрамку, якой прымушаны дапамагаць немцы,— а ў нас?..

У нас усё спіць, ніхто не падае голасу, ніхто не дамагаецца ад народаў, што наш край здратавалі ні за што ні пра што, каб хоць у частцы прыйшлі з падмогай дзеля яго адбудавання, дзеля яго ратавання ад галоднай і халоднай смерці.

І Беларусь жабруе!

З-пад Смаргоні, з-пад Маладзечна, з-пад Крывічоў і г. д. і г. д. абарваныя, галодныя людзі ходзяць па сваёй Бацькаўшчыне і па чужынцах і просяць...

Так быць не павінна.

Калі тыя, што нас аграбілі, што нашы загоны зрылі на акопы-магілы, не ідуць к нам з дапамогай, каб сплаціць хоць частку таго доўгу, які яны доўжны Беларусі, то павінны мы самі за гэта ўзяцца, і ўзяцца як найхутчэй.

Трэба, каб само нашае грамадства ўзялося шчыра за гэту работу. Трэба стварыць камісію, каторая б аб'ехала і абследавала найболей зніштожаныя месцы, падлічыла ўсе страты і падала рахунак.

Мы гэты рахунак пашлём усім ваяваўшым і ваюючым на нашай зямлі народам, мы гэты рахунак прадставім той дзяржаве, якая будзе ў нас гаспадарыць — ці то свая, ці то чужая. І гэта трэба зрабіць як найхутчэй.

Жыццё не чакае.

## БОЛЬШ САМАЧЫННАСЦІ

Цікавыя людзі мы — беларусы! Трэба прызнацца, што якое бы ліха навокал нас і з намі самімі ні рабілася, якіх бы мы ні пераджывалі нягод і крыўд — мы гэтага як бы не бачым, а калі і бачым, то ціха церпім ды чакаем, што вось нехта прыйдзе і гэта наша ліха забярэ з сабою.

І праўда, вечна хто-небудзь і як-небудзь, а прыходзіў і намі апекаваўся, хоць нашага ліха і не забіраў.

Быў маскоўскі цар, былі ў нас насланыя ім усялякія чыны: земскі, вураднік, стражнік. Усе гэтыя чыны намі «апекаваліся», а мы шчыра служылі ім, як нявольнікі, ды, уздыхаючы і заціскаючы кулакі, стараліся сябе ўгаварыць, што так і трэба, каб хтось панаваў, а часта казалі, што гэта так Бог даў. А самі ж мы і пальцам не кіўнулі, каб гэтым сваім апекунам паказаць іх належнае месца.

Але рэвалюцыя змяла ў сваім ходзе цара, паняслiся ў свет новыя воклікі будавання новага, незалежнага жыцця ўсім народам. А мы як бы нішто і ні ў чым. Пасля царскіх чыноў прыйшлі бальшавіцкія чыны не горш сваіх папярэднікаў, прыйшлі і павялі сваю гаспадарку ў нас, а мы глядзелі і чакалі, што нехта прыйдзе ды бальшавікоў прагоніць. І прычакалі!

Прыйшлі немцы, бальшавікі ўцяклі, мы асталіся. Немец гаспадарыў, як сам хацеў, над намі, над нашым дабром — не горай нават ад царскіх і бальшавіцкіх гаспадароў, а мы што робім? Мы сядзелі злажыўшы рукі і чакалі нейкага цуду, якое з'явіцца і забярэ нашае ліха. І дачакалі...

Прыйшлі ізноў бальшавікі, а немцы ўцяклі, толькі мы сядзім на месцы. Бальшавікі павялі свае парадкі і гаспадарку, нягледзячы на тое, ці смачна нам гэта, ці не смачна. Пайшлі саветы, камітэты, выбары, перавыбары і г. д. А ў рэзультаце што ж? Пастаўленыя намі (як нам гаварылі) нашы саветы пачалі нешта такое разводзіць, што нам цяжка было дыхаць. І мы стагналі, уздыхалі і чакалі.

Прыйшлі палякі, уцяклі саветы, камітэты і «чрезвычайка», а мы ізноў сабе сядзім і чакаем. Праўда, мы, як гаспадары гэтай зямлі, мусім сядзець на ёй. Але як мы гаспадарым на ёй? Ці не час ужо пакінуць благую прывычку сядзець і сядзець, чакаць ды чакаць?..

Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця — гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі,— павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам для нас, як мы самі для сябе.

Не, браты, гэтакім ладам мы далёка не заедзем. Час праявіць нам і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй Бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакалення! Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць тады нас: «Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?»

К такому запытанню трэба нам быць гатовымі. Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ. А які ж мы адказ дадзім, калі мы цяпер на другіх гэты адказ ускладаем.

Дык больш самачыннасці, больш смеласці к будаванню свайго новага, незалежнага жыцця.

## ЗЯМЕЛЬНАЯ СПЕКУЛЯЦЫЯ

Кліч «Зямля і воля працоўнаму люду!», сціхшы сягодня ў нашым краю праз варункі ваеннай завірухі, як бы адышоў на другі план, на апошні закутак. Цяпер другі кліч вынырнуў з балота паўстаючай рэакцыі, кліч «Дзяры з каго можаш і колькі можаш; душы слабейшага, пакуль яму звязаны рукі і ногі!».

Цёмныя людзі, пазбаўленыя гонару і сумлення, п'яныя атрутай нажывы і самалюбствам, не чакаючы ні ладу, ні парадку, з усіх сваіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.

Яшчэ далятае да нас грознае і жуткае водгулле крывавага змагання на беларускім полі, паміж нашымі суседзямі — палякамі ды маскалямі; яшчэ і на тых абшарах беларускіх, дзе польская ўлада так мала зрабіла для бытавання нармальнага жыцця ў краю, а ўжо паны-абшарнікі стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі.

Яны не чакаюць, яны спяшаюць, яны чуюць сваім абшарніцкім пачуццём, што раней ці пазней і тым ці іншым спосабам, але ўся зямля пяройдзе да тых, хто яе сваімі рукамі арэ і засявае. Яны не чакаюць варункаў нармальных, варункаў грамадзянска-палітычнага жыцця ў краю, калі закон і права запануе над беззаконнем і бяспраўем, калі закон і права народныя вырашаць усе балючыя пытанні, пакінутыя нам у спадчыну маскоўскім царызмам і ўсясветнай вайной, ■ з тым разам і пытанне аб зямлі.

Гэта ім не на руку.

Яны добра ведаюць, што польскі сойм выказаўся проці прыватнай вялікай уласнасці на зямлю, што расійскую сацыяльную рэвалюцыю зрабілі беззямельныя і малазямельныя сялянскія грамады; яны таксама ведаюць, што калі збярэцца ўсебеларускі Устаноўчы Сойм, то зямельную рэформу ён правядзе, і правядзе яе напэўна не на карысць паноў-абшарнікаў.

І яны спяшаюцца прадаваць...

Прададзены ўжо (каб не быць галаслоўным) двор Бяларучы ў Менск<ім> павеце, распрадаецца ўраздроб вялікі двор Косіна ў Барыс<аўскім> пав<еце> і г. д. Прадаецца ўсё гэта па спекуляцыйных цэнах. Разумеецца, пакупцамі з'яўляюцца толькі тыя, хто мае вялікія грошы. Купляюць спекулянты з мэтай перапрадаць яшчэ даражэй другому спекулянту; купляюць «цёплыя мужычкі — багатыры», буйныя арандатары, збагацеўшыя непамерна ў вайну і рэвалюцыю на гарадскім галадаючым насяленні. Купляюць усе тыя, каму гэта зямля патрэбна толькі для эксплуатацыі яе чужой працай.

А тыя беззямельныя, убогія земляробы, а тыя малазямельныя вузкашнурыя вёскі і сялібы,— што яны?

Яны пазіраюць толькі сумным вокам, як гэта зямля, каторая па боскаму і чалавечаму праву павінна была дастацца іхнім працавітым мазалям,— зямля пападае ў рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым краю людзей.

Зямельнае пытанне, каторае і дагэтуль было так запутаным у нашым краю, яшчэ больш запутываецца зямельнай спекуляцыяй у нашы дні.

Калішні расійскі царскі ўрад гэту справу развязываў вельмі лёгка. Ён беларусаў-хлебаробаў зманіваў за Урал, у Сібір, у Туркестан, а то і ў Амерыку.

Ці магчыма будзе гэтак устроіцца з галоднымі на зямлю людзьмі і ў будучыне — вось пытанне. Але адказ на яго вельмі просты.

Беларус доўга ў чужыне не ўседзіць. Паказала гэта палітыка царскага ўрада, калі змучаныя, абарваныя перасяленцы варочаліся з далёкай чужыны ў сваю, быўшую ім вечна мачыхай, родную Беларусь. Паказала гэта і цяперашняя вайна, тыя сотні тысяч уцекачоў, хлынуўшыя, як адкрылася граніца, з халодных раўнін Расіі ў свой родны край.

Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі і што гэтай зямлі для яго хопіць, абы толькі падзяліць яе па справядлівасці, як прыстала на добры лад і парадак у дзяржаве.

Цяперашняя ўлада павінна забараніць, як то кажуць — «да разбору дзела», цяперашнюю вакханалію з зямлёй, гэту бессістэмную куплю-прадажу.

Зямельная спекуляцыя небяспечна цяпер для ўсіх — і для тых, што прадаюць, і для тых, што пакупаюць, а навет і для тых, што могуць спыніць гэта злачынства.

## БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА

Надовечы Беларуская Вайсковая Камісія пачала ў нас у Менску рэгістрацыю беларусаў-афіцэраў, дактароў і інш. з той прычыны, што ў хуткім часе мае фармавацца беларуская армія.

З гэтага бачым, што войска беларускае будзе, хоць яно павінна было ўжо даўно быць.

Мы бачым, што нашы суседнія дзяржавы, як Украіна, Літва, Латвія, Эстонія і іншыя, маюць ужо сваю армію. Гэтыя арміі ўжо змагаюцца за незалежнасць сваіх дзяржаваў, змагаюцца стойка і з верай у лепшую будучыню.

А мы, беларусы,— праўда, дзякуючы гістарычным і геаграфічным варункам нашай Бацькаўшчыны,— мы нічога дагэтуль не змаглі зрабіць, каб мець сваё войска, якое бараніла б нашы межы ад чужой навалы.

Калі пасля падзелу Польшчы Беларусь адышла

к Маскоўшчыне, беларусаў гналі ваяваць, хоць аб беларускім войску ніхто не адважыўся і падумаць.

Дэспатычная Расія царскага ўрада адрывала нашых дзецюкоў ад родных хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет, у чужыну, на здзек і знявагу, для павялічання магутнасці маскоўскага самадзяржаўнага цара.

Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты, ішлі пад Царград у Турэччыну і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў, складалі свае буйныя галовы пад чужым пяском. Сеялі свае спрацаваныя косці на полі чужацкім.

Гібнулі, не ведаючы, за што і за каго гібнуць.

Яшчэ і цяпер старыя людзі вам раскажуць аб тых спакрыўджаных і спакутаваных старцах, якія ўсё жыццё сваё загубілі пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая I.

Нават рэвалюцыя 1905 года не змагла адваяваць калі не нацыянальнага беларускага войска, то хоць бы тое, каб беларус адбываў вайсковую павіннасць у Беларусі. Таксама, як пры Мікалаях першых, дзяцей беларускай зямлі гналі за трыдзесяць зямель служыць царам і іх генералам.

I беларус маўчаў, пазіраў сумным вокам і чакаў...

Чакаў і прычакаў... 1917 года.

Бухнула ў Расіі рэвалюцыя. Рынуў царскі пасад. Пасняслісія воклікі ўсялякіх свабод і «незалежнасцей». Загаманілі аб федэрацыі вызваленых з царскага рабства народаў.

I вось рэвалюцыйны, дабальшавіцкі ўрад у Расіі змушаны быў пазволіць фармаванне нацыянальных войск.

Стварылася ў той час польская армія, узышоўшы на зямлю польскую, стварыла пакладзівы для цяперашняй польскай арміі. На Украіне таксама паўстала ўкраінскае войска, каторае, перайшоўшы розныя цяжкія варункі свайго бытавання, сягоння змагаецца за незалежнасць Украіны з маскоўскім наездам — з бальшавікамі і дзянікінцамі.

Былі спробы тады стварыць і беларускую армію. I яна была. Па ўсім тагачасным расійска-нямецкім фронце былі беларускія палкі, дывізіі і г. д. Але што ж? Армія гэта складалася з беларусаў, але ваяваць ёй загадвалі не за Беларусь, а за Расію. Генералы Керанскага іначай на гэта не глядзелі.

А калі бальшавікі ўзялі верх, то па-самадзяржаўнаму расправіліся з усімі нацыянальнымі арміямі і з усякімі незалежнасцямі.

Беларускага войска не стала. Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі пад грозьбай штыка і нагайкі нашых людзей на Мурман, пад Урал і г. д., як і за даўных царскіх часаў.

У адказ на гэта беларуская моладзь пайшла ў «зялёную армію». Яна інстынктыўна, вобмацкам даходзіла да тэй свядомасці аб патрэбе свайго беларускага войска.

Само жыццё гэтага вымагае, вымагае гэтага самаабарона.

Войска беларускае павінна быць, і яно будзе.

Тыя, што трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай нашага краю, павінны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі. Цяперашнія пабеды дзянікінаў, калчакоў, юдэнічаў над бальшавікамі — гэта васкрашаючы труп расійскага самаўласця.

Польшча, каторая ў сваім часе кінула кліч «За нашу і вашу волю», каторая і цяпер кажа суседнім народам, што хоча з імі жыць «як вольны з вольным, роўны з роўным», гэта Польшча павінна даць беларусам магчымасць бараніць свае гранічныя слупы войскам беларускім.

Мы не будзем забягаць наперад у будучыню і варажыць, якімі шляхамі пойдзе гэта справа. Час і жыццё грамадзянска-палітычнае пакажуць гэта.

Мы толькі вітаем радасную вестку і жадаем ад душы, каб як найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь.

## БЕЛАРУСКІ СЦЯГ УВАСКРОС!

Кароценькая вестка, атрыманая намі ўчора з Варшавы, што ў чацвер, 23 кастрычніка сёлетняга года Польшча падпісала дэкрэт аб фармаванні Беларускага нацыянальнага войска, павінна абудзіць у кожнага беларуса і наогул у кожнага грамадзяніна, жывучага

вечна ў нашым краю, вялікае здавальненне і святочную радасць.

Агністымі літарамі гэты надзвычайны дзень будзе ўпісан у векавую кнігу гісторыі народаў і дзяржаў, асабліва гісторыі Беларускага народа і Беларускай Дзяржавы.

У гэты дзень уваскрос беларускі сцяг.

З гэтага дня маем магчымасць будаваць сваю беларускую армію, сваю аружную, нязломную сілу, каторая ў хуткім часе павінна выйсці на ваенныя шляхі і бараніць беларускія акрываўленыя межы.

Хай жа Беларусь пакажа, што яе верныя сыны здольны праліваць сваю гарачую кроў не толькі за чужую карысць і панаванне, але таксама патрапяюць здабыць і для сваёй зямлі лепшую долю і лепшую славу.

Хай пойдзе кліч ад места да места, ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты, хай пойдзе кліч па ўсёй Беларускай зямлі,— па гэты і па той бок ваеннай мяжы,— што надышоў дзень беларускага народа, калі ён можа збройна заступіцца за сябе самога і за сваю Айчыну.

*Ідэя будавання* свайго незалежнага жыцця паднявольнымі народамі, якая загарэлася вечным жывым агнём пасля развалу Расійскай самаўласнай імпэрыі, каторая душыла пад сваёй нагой усе праявы вольнага духу,— гэта ідэя *сягодня* ператвараецца ў жыццё, становіцца жывым дзелам, цвёрдым фактам.

Палажэнне *гістарычнае* і *геаграфічнае* Беларусі было і ёсць пакуль што найцяжэйшае ад усіх іншых падобных да яе, вызваленых з *царска-рабскага* гнёту дзяржаў.

І вось цяпер гэта палажэнне мяняецца на лепшае. Нам даюць наш сцяг, і гэты сцяг мы павінны з трыумфам вынесці на жыватворнае святло будучыні, вынесці з гордасцю, з гонарам і славай,— сцяг не абы-які, а свой, *беларускі.*

Хай жа гэтая думка, што мы будуем сваю Бацькаўшчыну, не толькі для сягодняшняга бурлівага часу, але і для будучых прыхільнейшых вякоў, павядзе нас «к свабодзе, роўнасці і знанню».

Будучы самі вольнымі, мы патрапім ацаніць волю другіх і пайсці з імі, «як вольны з вольным». Стаўшы самі нараўне паміж усіх народаў, мы зможам ім сказаць: ідзем з вамі, «як роўны з роўным».

«Вясна народаў», аб каторай так разліваліся воклікі па цэлым свеце, не была да апошняга часу вясной для

беларусаў. Гэта было цяжкае, галоднае прадвесне, як і кожнае прадвесне ў гаспадара-беларуса. Не вясна, а вясенняя слата была.

Але гісторыя народаў у нашы часы творыцца не гадамі, а днямі. Кожны дзень штось прыносе, кожны дзень творыць штось новае, вялікае.

Выбіла часіна і для нас. Выбіла, можа, у найцяжэйшую мінуту нашага палітычнага жыцця. Дзве вялікія, не нашыя арміі стаяць адна проці другой на беларускіх гонях.

І вось сягодня стане трэцяя армія на гэтых гонях — армія беларуская.

Хай жа гэтая армія стане абаронай свае Айчыны.

Беларускі сцяг уваскрос!

Хай беларуская армія не дасць яму болей памерці.

## ЗАБАБОН

Распасцёр сваё ўсемагутнае ўладанне дзікі звярыны забабон ад краю да краю, па ўсім нязмераным свеце, і пачатку яго не найці і канца яму не пабачыць. Ад гарачых пяскоў агністай Афрыкі, дзе задумны бедуін, едучы ўночы на вярблюдзе, зоры бліскучыя лічыць, і да ледавітага «паўночнага зіяння», дзе на сцюдзёных галодных раўнінах неабнятай тундры набожны шаман муштруе бажкоў сваіх,— як ёсць усюды пануе гэты ясневяльможны бяссмертны забабон.

Творыць праступныя легенды, творыць праступныя веры, творыць крыўду і няславу людскую.

Забабон старадаўняму славяніну загадваў, каб жонка ішла з мужам разам у магілу або нявольнік свайго ўладыкі ўміраў таксама з ім разам.

Забабон стварыў для гішпанскай інквізіцыі крыважаднага ката Тарквомаду*. Забабон спаліў бязлітасна на кастры вялікага светлага Гуса. Урэшце, забабон у наш XX-ты век апляваў паскуднай слінай увесь культурны свет, кінуўшы яму ў вочы працэс Бэйліса. Закалыхалася тады мутнае балота расійскай непрагляднай сучаснасці, закалыхалася і... прыціхла.

А забабон далей ідзе і распасцірае свае павучыныя, неразблытаныя сеці, у якіх душыць і вольнага духу, і светлую праўду, і сумленне людское.

Забабон жыве і на Беларусі, і ўладанне яго тут, бадай, магутнейшае, цяжэйшае і нікчэмнейшае, як на цэлым свеце.

Я кажу аб забабоне, каторы ў нас толькі мог вытварыцца, дзякуючы нашай непрыхільнай гісторыі, дзякуючы нашай доўгія гады бездзяржаўнасці, дзякуючы нашаму паднявольнаму жыццю. Забабон гэты — насмешка і здзек над усім тым, што наша — беларускае: над нашай світкай, над нашай хатай, над нашай душой — мовай, над нашай песняй...

— Хі-хі! — пасміхаецца польскі пан-абшарнік, седзячы на беларускай зямлі. Хі-хі! — паблажліва ён хлопае вам па плячу.— Што ж? — ваша беларускае ўсё добрае, усё нават шаную, але толькі месца яму — у ... «kredensie».

— Хэ-хэ! — патурае яму расійскі чыноўнік, прыдыбаўшы сюды ў дзюравых атопках шукаць кар'еры, і сягодня вайной і рэвалюцыяй загнаны ў гарадскія беспрацоўныя.

— Хэ-хэ! — віляе ён, трымаючы за пазухай камень расійскага самаўласця.— Мы — «рускія дэмакраты» — заўсёды стаялі і стаім за раўнапраўе ўсіх народаў, якія ажывуць у матушцы-Расіі, але вы, беларусы,— ісконі рускія людзі з сваім неразвітым языком, можаце і нашай культурай карміцца, але, калі так хочаце, можна і вам даць правы, але толькі ў ... сенях.

— Ха-ха! — цярэбіць патыліцу засцянковы беларускі шляхціц «польскай культуры», завязваючы аборы ў лапцях. Ха-ха! — узяўшыся за бокі, разводзіць перад ягамосцем у «чорным» сваю падкасцельную філёзофію: — Гэтыя нашы мужыкі нават з панам «па-простаму» гавораць. Якія недалікатныя людзі! У мяне простая мова толькі на... штодзень і для простых людзей.

— Ух-ці! — выйшаў на царкоўны дзядзінец беларускі дзяк «расійскай культуры», напханы за клірасам славянскімі псалмамі Давідавымі. Іх-ці! — бармоча, цалуючыся з сялянамі сваёй вёскі.— Які неразвіты народ вы, мужыкі! Нават «здрастуце» не можаце як следна выгаварыць, а яшчэ... расійцы!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І душыць гэты ўсясільны праступны забабон беларускую акрываўленую зямлю. Аплятае змяіным ланцугом і душы, і сэрцы людскія. Кідае балотам на ўсё святое, спакон веку жывучае, з малаком матчыным упоенае; кідае балотам на адвечнае цярпенне, на крывавыя слёзы, на сум бяскрыўдны, на радасць пявучую вялікага і добрага Беларускага Народа. З кашмарамі спадчыны няўдачнага мінулага паўзе ў пары паганы забабон, і хіхікае з-за вугла, і ў вочы строіць жарты — над кім? Над жывым старасвецкім народам...

Хіхікаюць дурні, хіхікаюць нягодныя. Але чаму ж разумныя і чэсныя маўчаць? Ці ж і над вольным сцягам паўстаючай Белар<ускай> Дзяржавы будзе таксама паношыцца гэты забабон?

Хочацца верыць, што закалышацца беларускае мора і змые сваімі бурлівымі водамі з свайго ўладарства ўсе забабоны, ад якой бы «культуры» яны ў нас ні панавалі.

Хай жа наша шчырая беларуская інтэлігенцыя, выйшаўшая з-пад беларускай саламянай страхі і злучаная святою думкай адбудавання Беларускай Дзяржавы, хай яна скажа жалезнае слова.

І забабон згіне.

## МОЛАДЗЬ ІДЗЕ!

Успамінаюцца страшэнна цяжкія варункі працы на беларускай вызваленчай ніве ў часе панавання ў нашым краю расійска-царскага самаўласця.

Не гаворачы ўжо аб гэтым панаванні да 1905 г., але нават і пасля рэвалюцыі гэтага года здзек вісеў над усім чыста, што светлае, вольнае, беларускае, і душылася кожнае праяўленне беларускай нацыянальнай самабытнасці.

Помніцца, калі ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі «Наша ніва» ўрываліся жандары і «ахраннікі», здзекаваліся над людзьмі, працуючымі там, забіралі рукапісы і ўрэшце цягнулі ў астрог у нічым не віноўных людзей.

І гэтыя людзі мучыліся, працавалі, аддавалі ўсё сваё

найлепшае здароўе, жыццё за беларускае вольнае слова, за беларускую святую справу.

Жылі — як і дзе папала ў падвалах, халодныя і галодныя, нажывалі сабе сухоты і іншыя галодныя-халодныя хваробы і да самае смерці не складалі аружжа барацьбы за беларускую незалежнасць.

Жылі і ўміралі на стражы беларушчыны. Памёр М. Багдановіч, Цётка, Іван Луцкевіч і шмат інш. Памерлі яны, палаючы да апошніх скону хвілін вялікай святой ідэяй.

І вось праца гэтых людзей, праца ў страшэнна пякельных варунках, калі кожнае жывое беларускае слова расійскі ўрад лічыў праступствам, так што нават начальнікі «вучэбных» вокругаў рассылалі цыркуляры, каб, барані божа, народныя настаўнікі не чыталі беларускай газэты «Наша ніва»,— гэта праца лепшых беларускіх людзей над падняццем свае роднае культуры не была дарэмнай.

Калі параўнаць часы беларускага нацыянальнага руху ў перыядзе 1905—1917 гадоў і часы пасля расійскай рэвалюцыі 1917 года, дык гэта адно да другога не падобна, як зямля да неба.

Але гэта адначасне паказвае, як кінутае здаровае зерне дарма не прападае.

Тое, што рабілася ў нас адкрыта ў годы да рэвалюцыі 1917 года, вылілася шырокай хваляй пасля гэтае рэвалюцыі.

Сягодня кожны, каму не атуманіла расійская і польская рэакцыя мазгоў, адчуе і разумее, які шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай Бацькаўшчыны!

Цяпер, браты, ідуць сыны беларускіх мужыкоў, ідзе наша беларуская моладзь!

Сягодня ў нас творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі, стваряюцца па гарадох, мястэчках і вёсках беларускія нацыянальныя камітэты, усё рукамі той жа самай беларускай моладзі; нацыянальнае беларускае жыццё пачынае кіпець, палаць праўдзівым, вечным і жыватворным полымем.

Мы жывём і будзем жыць, бо з намі і беларуская вёска.

Тут навет, скажу для прыкладу, недалёка ад Менска,

у вёсцы Блонь, каторая калісь належала да двара вядомага расійскага эсэра п. Бонч-Асмалоўскага, сяляне-беларусы не забылі ўсяго свайго роднага. У іх цяпер наладжаны беларускі прасветны гурток, які працуе над усведамленнем сваіх аднасельцаў, наладжывае беларускія прадстаўленні і г. п. Ды і сотні такіх прыкладаў паказуе, як гэта наша моладзь пачынае сама па сабе, не раз абмацкам, нацянькі будаваць сваё роднае, светлае народнае жыццё.

Але што цікавейшае: перада мной ляжыць беларуская часопісь «Наша Каляіна». Выдана яна ў Слуцку! Слуцак — павятовы гарадок, куды яму, здавалася бы, лезці ў людзі, ды яшчэ з сваёй газэтай! Аднак палез. Беларуская душа, як бачым,— жывучая, творчая, як яе ні заганяй у казіны рог, а яна збудзіцца і затрапечацца. Мала таго: гэта часопісь з'яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучанасці «Кветка Папараці», каторая сваю чыннасць пашырыла на ўвесь Слуцкі павет і навет далей, за яго межы.

Гэта, папраўдзе, як і ў песні спяваецца:

«А ў Слуцку на рыначку сталася праява!»

Так, сябры, гэта вялікая праява!

Адбудаванне незалежнасці Беларускай Дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь.

Чэсць і слава табе, беларуская моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай стрэхі!..

Ты сама сваімі рукамі адбудуеш сабе і сваім патомкам лепшую і святлейшую будучыну.

Набок з дарогі, панове і гаспада з Захаду і Усходу!

Беларуская моладзь ідзе!

## ТОРЖЫШЧА

Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе, і не было большменш вялікшага — ці то палітычнага, ці то навучнага — здарэння на Захадзе, каб яно не адгукнулася на Усходзе.

Але ішлі дні, месяцы, годы, сталецці.

Усё змянялася. Змяняліся варункі жыцця, змянялася праўда людская.

І што ж мы бачым сягодня?

Сягодня ідзе паганы торг за ідэі, за праўду векавечную, агульналюдскую. Сягодня таргуецца Захад з Усходам, заходняя культура — з усходнім адзічэннем, і таргуюцца за што?

Таргуюцца за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а ўсё для таго, каб нажыцца, каб у гэтым агульным разбурэнні вытаргаваць сабе лішнюю капейку ці мільярд руб<лёў>.

Смешна і стыдна робіцца за гэтых паноў гандляроў сягодняшняй культурай, культурай заходняй, еўрапейскай. Ды гэта ж, людзі мае, грэзь і балота такое самае, якога не было нават на Усходзе, у рабскай Маскоўшчыне за часаў Івана Грознага.

І куды ж і к чаму ведзяце вы сягодняшнюю гісторыю, усе антанты, проці-антанты і вам падобныя?

Вы стварылі ўсясветную вайну за свае кішанёвыя інтарэсы; пасля, каб гэту вайну прадоўжыць для гэтых самых кішанёвых спраў, выкінулі вы лозунг, што ваюеце за вызваленне народаў; ну, а далей, калі пачалі трашчэць і падаць вашы крывавыя троны і кароны, што вы сказалі?

Вы аплявалі людзей і народы і кінулі сваіх нядаўніх рабоў у анархію, каб далей у мутнай вадзе рыбу лавіць.

Так, значыцца, ваша ўсходняя і заходняя культура адплаціласяза тыя мільёны ахвяр, што палеглі за вашы дзяржаўныя фальшывыя фетышы.

Вам трэ ж было, панове, адным будаваць вялікі Захад (спекуляцкі), а другім — вялікі Усход (таксама спекуляцкі). Вы ў сваім паходзе імперыялістычным і мілітарным ішлі і сціралі ўсё і ўсіх на сваёй дарозе, а ўсё для панавання ўсясільнага молаха-золата.

А цяпер вы ўсе — і з Захаду, і з Усходу,— усе кідаеце аблудны кліч на староны, што вы ваявалі за вызваленне нявольнікаў, за самаазначэнне народаў...

Дык скажыце, дзе ж тое ваша «вызваленне»?

Як і сто лет таму назад, стогне пад ярмом Беларусь, Украіна, Арменія, Індыя і дзесяткі іншых дзяржаў і народаў.

Вашы словы аб вызваленні другіх — гэта насмешка

і нявольнікаў бяссільных, што ніякай сілы ў сабе не маюць.

Дык не кідайце ж вялікіх абманных лозунгаў аб сваіх заходніх ці ўсходніх пяршынствах. На хварбованых лісох даўно ўжо людзі пазналіся.

Вы таксама бяссільны павярнуць долю народаў у той ці іншы бок, як бяссільны вецер перанесці Каўказскія ці Швейцарскія горы адны на месца другіх.

Дайце волю народам самім будаваць сваю долю. А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова аб вашай культурнасці — ці то заходняй, ці то ўсходняй.

## НАСТАЎНІЦКАЯ ВЕЧАРЫНКА

20 кастрычніка ў «Беларускай Хатцы» (Конны пляц) адбылася сямейная вечарынка настаўнікаў-слухачоў менскіх беларускіх курсаў. На сцэне пастаўлены быў сцэнічны жарт Чэхава «Мядзведзь», меладэкламацыя і дэкламацыя.

Жарт быў разыграны артыстамі-самавучкамі досыць слаба. Не было той жывасці ў дыялогах, якая патрабуецца, калі людзі між сабой сварацца аж да абамлення. Відаць, што ролі свае не вельмі добра артысты знали. А можа, і дзеля таго, што ў памяшканні быў такі холад, што хоць з хаты цякай. Лепей ігралі, я сказаў бы, зналі свае ролі Наталка (п. Мархель) і Чыбук (п. Піліповіч), слабей — Ламака (п. Пінчук).

З дэкляматараў выдзяляліся, першым чынам,— п. М. Зароская, дэклямаваўшая, як заўсёды, са шчырым пачуццём, Л. Тарасік (дэклямаваўшая пад музыку) і невядомы нам, што прадэклямаваў «Абразкі».

Пасля спектаклю былі скокі, катарымі публіка як магла грэлася. Наогул, вечарынка прайшла жыва, трэба толькі пажадаць аднаго: каб на падобных гулях больш было адведзена часу на частку сцэнічную, а менш на — танцавальную.

## АНТАНТА

Ці вы ведаеце, што такое Антанта?

Не ведаеце?

І я не ведаю. Адны кажуць, што гэта наравісты конь, другія кажуць, што гэта пудзіла на вераб'ёў, трэція — што гэта такая аркестра, у якой кожны музыка на свой лад заводзе, а чацвёртыя... Ну, адным словам, кожны нешта кажа, а ніхто аб гэтым нічога добра не ведае.

Але рэч не ў тым. Мушу вам, сябры, прызнацца, што гэта Антанта сядзіць ужо ў мяне соляй у воку, косткай у горле, калоццем у баку.

Бо самі, грамадзяне, пасудзіце, як я ламаў сабе мазгі і ногі праз гэту, згінь-прападзі, Антанту.

Было так.

Зайшоў гэта ■ неяк к рэдактару, папрасіць у яго, ці не дасць якой работы.

— Так і так,— кажу,— пане рэдактар: боты падзерліся, табакі няма, селядцы дарагія, дык вось патрабую пільна зарабіць якую дытку.

— Добра,— кажа рэдактар.— А пісаць умееш?

— Яшчэ і як! — кажу яму.— Пісаў нават прашэнне раз на імя павятовага камісара, каб ён даў мне перапустку ў Радашковічы. І што ж вы скажаце? Прашэнне прыняў і даў перапустку.

— Ага! — рэдактар на тое.— Гэта добры знак. І пішаш ты разборчыва? Малаграматны прачытае? Бо, бачыш, у нас наборшчыкі наконта беларускага пісьма дык ні бэ ні мэ.

Я, каб доўга не гаварыць, сеў і напісаў некалькі радкоў.

Рэдактар паглядзеў, пакруціў галавой і нічога не сказаў. Відаць, спадабаў.

— Ну,— кажа пасля,— будзеш у мяне пісаць стацці аб Антанце.

— А што такое Антанта? — пытаю яго.

Рэдактар заморгаў вачыма ды буркнуў праз тое:

— Гэта не маё дзела.

— Так, так, пане рэдактар, гэта маё, я ўжо ведаю. А як там, паночку, з платай?

Рэдактар закашляўся, пасля кажа:

— Будзеш атрымліваць, хлопец, па 4 $^1/_2$ кап<ейкі> ад радка. Як напішаш мільён радкоў, то будзеш мець... палічы, колькі выйдзе!

Я палічыў.

— Выходзе 45 тысяч рублёў!

— Ну вось, бачыш, сколькі будзеш мець грошы, хлопец. Садзіся і пішы.

Рэдактар пахлопаў мяне па плячы і выйшаў. Я хацеў заікнуцца аб задатку, але рэдактара і след прастыў.

І я пачаў пісаць стацці, пісаць аб Антанце.

Пераглядзеў сто і адну газету і адпытляваў:

«Антанта, прыймаючы пад увагу ўсялякія разбойствы і бясправўі бальшавікоў, прызнала Калчака, Дэнікіна і Юдэніча царамі Расіі і загадала ім адбудаваць вялікую Расію, а Леніну, Троцкаму, Калмановічу і іншым бальшавікам даць па шапцы!!»

І гэтак далей пісаў и і насыпаў аж тысячу радкоў. Рэдактар надрукаваў. Прыходжу я, як гэта ўжо было выдрукавана, а рэдактар падсоўвае мне сто і адну свежых газет. Паглядзеў я, і мяне аж у холад кінула.

— У тых,— кажу,— што я глядзеў, было іначай.

— Іначай! Іначай! — перадражніў мяне рэдактар.— А дзе пісьменскі нюх?!

Я змоўчаў, забраў газеты і папёрся пісаць.

Ізноў цягну стаццю ў тысячу радкоў, у якой чорнае на белым стаяла:

«Антанта, прыймаючы пад увагу, што Калчак, Дэнікін і Юдэніч — царскія генералы, што яны хочуць адбудаваць у Расіі царскае самадзяржаўе і зрабіць з яе ўзноў жандара Еўропы,— баючыся, значыцца, усяго гэтага, Антанта прызнала Петлюру, Ульманіса, Тарыбу, нават беларускую раду і загадала ім усім скасаваць Калчака, Дэнікіна, Юдэніча, Леніна, Троцкага і Калмановіча. Хай жыве самаазначэнне народаў! І ўсё такое...»

Рэдактар пацалаваў мяне, надрукаваў, а я з радасці падскаківаў.

Прыходжу на другі дзень у рэдакцыю. Супрацоўнікі зірнулі на мяне з нейкай літасцяй, як бы хацелі даць мне капейку на хлеб. Рэдактар навет і не адвярнуўся. Глядзеў на сцяну і ўсё курыў і курыў. Перад ім ляжала сто і адна свежых газет; адна з іх была парваная, в газета з маёй стаццёй ляжала ў рэдактара пад нагамі.

— Як маемся, пане-пане рэдактар? — прагаварыў я, заікаючыся.

— Маемся, маемся! — перакрывіў рэдактар.— Дзіўлюся толькі, як гэны камісар прыняў тваю просьбу і перапустку даў. На, чытай! — закончыў ён, вынуўшы мне сто і адну газету.

Я, не ўдаючыся ў далейшую гутарку, схапіў газеты і папёрся дамоў. У хаце было сорак градусаў холаду, але як я пачаў чытаць гэныя газеты, то мне горача зрабілася, як у пекле.

Напісаў я трэцюю стаццю.

«Антанта, прыймаючы пад увагу, што Петлюра, Тарыба, Дэнікін і т. д. і т. д. нічога не варты, што яны толькі грызуцца паміж сабой, махнула на іх усіх рукою, узяла паехала ў Маскву і цяпер сядзіць у Крамлі з Леніным і Троцкім, п'е зёлкі без цукру (бо, як ведама, у Маскве няма ні гарбаты, ні цукру), цалуецца з Леніным, абдымаецца з Троцкім і Калмановічам і крычыць: «Хай жыве савет салдацкіх, работніцкіх, сялянскіх ды іншых дэпутатаў!..» І г. д.

Панёс рэдактару. Ён прачытаў, даў 3 руб<лі> і 27 кап<еек> задатку і сказаў:

— Здаецца, ты, хлопец, на добрую дарогу вынырнуў.

Іду я, падскаківаючы, на другі дзень, каб узяць матэр'ял для чацвёртай стацці, гэта знача для чацвёртай тысячы радкоў. Прыходжу. Азірнуўся. Аж мне і дрыжыкі пабеглі па скуры. Рэдактар, як бура, лётае па хаце і штомомант п'е з бутэлькі халодную ваду. Супрацоўнікі прыціснуліся к сцяне і штось нібы вельмі пільна пішуць. На падлозе валяецца сто і адна свежых газет. Я стаю каля парога і трасуся.

Тут рэдактар схапіў адну з падлогі газету, кінуў мне проста ў вочы і гукнуў:

— На, чытай!

І больш хоць бы слова.

Чытаю:

«Антанта, прыймаючы пад увагу, што захварэла на вар'яцыю ад дыпламацыі, тры месяцы таму назад выехала за граніцу на цёплыя воды лячыцца. Цяпер, кажуць, Пангерманія будзе замяняць Антанту, пакуль яна вылечыцца».

Газета вывалілася ў мяне з рук. Патупіўшы вочы, я ўзяўся за клямку, каб выйсці.

А рэдактар:

— Вярні 3 руб<лі> 27 кап<еек> задатку!

Я прыкінуўся, што не чую, бо якраз дробных пры сабе тады не меў, і вылецеў гарматнай куляй з рэдакцыі.

Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім «маленькі фельетон» і аддаў яго надрукаваць без ведама рэдактара.

Калі ўжо вісець, то за абедзве нагі.

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Калі гаварыць аб незалежнасці якой-небудзь новай дзяржавы, вызваленай вайной і рэвалюцыяй з-пад расійскага ярма, то гэтага, здаецца, так і трэба, так і павінна быць. Незалежная Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г. д.— усе яны маюць права на гэта, усіх іх можна прызнаць, нават можна і дапамагаць ці то фізічна, ці маральна, і незалежнасць гэтых дзяржаў не выклікае ніякіх вялікіх спрэчак. Так ці іначай яны мусяць, яны будуць мець раней ці пазней сваё дзяржаўнае незалежнае існаванне.

А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць, слухаючы. На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую.

Чаму гэта так?

Беларускі народ самабытны — гэта прызнаюць ужо нават і нашы праціўнікі з польскага ці расійскага лагера. Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю — маю тут на ўвазе Вялікае Літоўска-Беларускае княжства. Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі. Мы крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора.

Дык чаму ж так страшна наша незалежнасць?

А гэта вось чаму.

Наша незалежнасць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак — Польшчы і Расіі, бо і адна, і другая хацелі б нашу незалежнасць утапіць у лыжцы вады сваёй незалежнасці.

Для адбудавання вялікай Польшчы «ад мора да мора» трэба пераступіць Беларусь; для адбудавання вялікай Расіі ад Белага да Чорнага мора таксама трэба растаптаць Беларусь.

Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наогул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання.

А Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае правы на сваё незалежнае жыццё, мае правы і даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі.

Што яна павінна такой стацца, за гэта гавораць яе мінуўшчына, яе цяпершчына.

Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім іншым народам, і ўсё дзякуючы няшчаснай залежнасці ад нашых мацнейшых суседзяў. Але разбяром па парадку.

Пасля уніі з Польшчай Вялікага Літоўска-Беларускага княжства, калі беларуская культура высока трымала свой сцяг у родным краю, гэта культура пачала выціскацца польскім панаваннем. Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца ўсяго свайго роднага, беларускага, і перакульвацца на старану чужую, польскую. Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру. Дзе больш званілі золатам, там вышэйшыя станы тагачаснага грамадзянства і служылі, і прадавалі сябе, свой народ, сваю Бацькаўшчыну.

Так было і так ёсць заўсёды. Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым, пакідаючы сваіх брацціяў слабейшых на здзек і паняверку.

І зрабілася на Беларусі пасля уніі з Польшчай тое, чаго і трэ было чакаць.

Масы, народ земляробны, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі. Такім чынам, двор сам па сабе як бы аддзяліўся ад вёскі. Беларускі пан зрабіўся чужым для беларускага селяніна. Беларускае баярства сталася чужацкім на сваёй беларускай зямлі. Тыя самыя людзі, толькі багацейшыя і бяднейшыя, пачалі гаварыць рознымі языкамі. І сягодня яны паміж сабой нічога супольнага не маюць. Двор глядзіць на селяніна як на «люд рускі», як на быдла, над каторым можна толькі стаяць з бізуном аканомскім, а вёска глядзіць на пана як на прыблуду з чужацкай стараны, які захапіў яго, селяніна, зямлю ды йшчэ здзекуецца над ім самім.

Пасля уніі з Польшчай прыйшла на Беларусь апека маскоўская. Цары нагналі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй, якая тут толькі аб адным дбала, каб як цяплей пагрэць рукі ды захапіць «маёнтак». Але аб беларусу-селяніне, аб беларусу-грамадзяніне ніхто і не падумаў.

Прыбыла толькі к польска-панскаму бізуну чыноўніцка-жандарская нагайка.

Залежнасць ад Польшчы змянілася залежнасцю ад Масквы, ■ на лепшае нічога не змянілася. Маскоўскі чыноўнік, таксама як польскі пан, глядзеў на беларуса як на «скот» (той — як на «быдло»). І ніхто з гэтых апекуноў нават пальцам не кінуў у той бок, каб палепшыць жыццё беларуса, каб падбаць аб яго родным краю.

І адны, і другія глядзелі скоса на Беларусь, глядзелі то як на «крэсы», то як на «окраину», і больш нічога.

А беларус стагнаў і стагнаў.

З гэтага мы бачым, бачым з практыкі, вынесенай на сваёй скуры, што залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылазе.

І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.

Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі. Зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей; маем вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месцы, а ў іх фабрыкі, заводы, ды і шмат іншага дабра. К таму ж на лік мы народ вялікі — каля 12 мільёнаў. Гэта не тое, што якая-небудзь там Швейцарыя, Данія ці Грэцыя!

Дык чаму ж нам, браты беларусы, не дамагацца сваёй дзяржаўнай незалежнасці?

Мы павінны яе дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае і ворагі нашы не дрэмлюць.

## НЕЗАЛЕЖНАЯ ДЗЯРЖАВА І ЯЕ НАРОДЫ

Мы ўжо гаварылі аб тым, для чаго патрэбна нам дзяржаўная незалежнасць і чаму нашыя суседзі не хочуць прызнаць за намі гэтага права на незалежнасць. Цяпер скажам колькі слоў і аб тым, як павінны мы, здабыўшы незалежнае дзяржаўнае становішча, адносіцца да народаў небеларускіх, але жывучых заўсёды з тых ці іншых прычын на беларускай зямлі.

Калі мы зірнем у нядаўнюю мінуўшчыну вялікіх дзяржаў, як, напр<ыклад>, царская Расія, імператарская Нямеччына і інш., ■ таксама калі возьмем за

прымер цяперашнія некаторыя дзяржавы, хоць бы — Англію, Японію і ім падобныя, то мы бачым адно, што гэтыя дзяржавы ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзніштажаючым паходзе мелі адну ярка зарысаваную мэту — гэта заграбліваць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў і падняволіць іх сваёй нацыі, свайму дзяржаўнаму правапарадку.

Гэтак Расія падняволівала сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы, пачынаючы ад манголаў, каўказцаў, фінаў, літвінаў і канчаючы славянамі — палякамі, украінцамі, беларусамі і іншымі. Тое самае рабіла Нямеччына з палякамі, эльзасцамі ды ўсялякімі заморскімі калёніямі. Таксама Англія жалезнымі абцугамі трымала пры сабе Ірландыю, афрыканскія народы і г. д.

Не пыталіся гэтыя ўсемагутныя дзяржавы, ці заваёваныя імі слабейшыя народы хочуць іх, сказаў бы, воўчай апекі, ці не. Дужыя, не пытаючыся, забіралі ў слабейшых усё, што маглі толькі забраць, і давалі ім, не пытаючыся, тое, чаго яны не заўсёды хацелі прымаць. Забіралі ў падняволеных народаў іх дабро, забіралі іх сыноў і гналі на крывавы бой за эгаістычныя вялікадзяржаўныя мэты. А давалі, гвалтам накідалі ім свае так званыя «культуры», пры помачы якіх душылі ў падняволеных народаў іх нацыянальныя асаблівасці, іх веру, праўду... Прышчэплівалі ім з малых дзён думку, што не права пануе над сілай, а сіла над правам.

Прымерам такога здзеку, такога зневажання дужэйшым слабейшага можа служыць добра ўсім нам знаёмая царская Расія. Стагнаў татарын, грузінец, фін, паляк, украінец, беларус. Стагнала ўся «русская» зямля, шалёна п'яная, разбушаваная, захліпаючыся «чырвоным смехам». Расійская імперыя, імперыя, магутная закаванымі народамі, заграбленымі чужымі дзяржавамі. «Быть по сему», казаў Петраград, і... было.

І вось калі ўдумацца ў усё гэта, то мы ўбачым, што кожная такая дзяржава, якая на рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне, ніколі не будзе спрыяць для народа ў гэтых забраных зямель. І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзена нейкае раўнапраўнае для ўсіх нацыянальнасцей,— усё гэта будзе абманам.

Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай, бо яны на сваіх плячах вынеслі чужы здзек і паніжэнне. Да гэтага давяла доўгая практыка гістарычнага развіцця народаў і дзяржаў.

Кінуты ў нядаўні час амерыканскім прэзідэнтам лозунг — мір на аснове самаазначэння народаў — не быў выдуманы так сабе. Думка гэта даўно жыла і развівалася на цэлым свеце, і за сваю незалежнасць шмат малых народаў ваявала ці то словамі, ці сталлю. Узяць хоць бы бураў: цэлы год гэты маленькі народ мучыў сваім жаданнем незалежнасці вялікую Англію.

І вось мы, беларусы, гаворачы аб сваёй дзяржаўнай незалежнасці, не павінны абходзіць моўчкі таго балючага пытання, як гэта мы, атрымаўшы сваю дзяржаўнасць, будзем меркавацца з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі, якія жывуць на беларускай зямлі.

Ужо адно тое, што мы дамагаемся быць самім гаспадарамі толькі таго абшару, дзе жывуць беларусы, у яе этнаграфічных межах,— ужо гэта даводзе, што мы падняволіваць нікога не думаем.

Будучы дагэтуль паднявольнымі і паспытаўшы, што за смак гэтае падняволле, само сабой разумеецца, нам і ў думку не прыйдзе запрагаць каго бы то ні было, жывучага на нашых загонах, у паднявольнае ярмо.

Тыя шчыра дэмакратычныя думкі, лунаючыя яснымі красамі па цэлым свеце, аб волі, роўнасці, братачнасці, бадай, найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы. Бо ці ж знойдзецца на свеце болей дэмакратычны па сваёй прыродзе і ўжыўчывы народ, як народ беларускі? Сама натура, сама яго гісторыя сталеццямі гэтакім ужо выгадавала.

У нашым краю шмат жыве палякаў, расійцаў, жыдоў, татараў. Лепшыя з гэтых людзей даўно ўжо прыйшлі да пераканання, што свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, падняволены чужынцам. У няволь-ніка заўсёды ёсць больш помствы і нянавісці к другім, чымся ў чалавека вольнага.

Дзеля гэтага вось права нацыянальнай меншасці павінна стаяць у нас нараўне (прапарцыянальна) з правам нашай беларускай большасці. Кожны грамадзянін нашага краю павінен карыстацца з роўнай пашаны, з роўнай абароны ў вачох права і свету.

Ва ўсіх дзяржаўных і грамадзянскіх установах, пачынаючы ад дзяржаўнага сойма і нацыянальнага войска і канчаючы мястовымі і валаснымі самаўрадамі,— павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці, разумеецца, як ужо і зазначана, прапарцыянальна беларускай большасці.

У вольнай, незалежнай Беларускай дзяржаве не павінна быць «ні эліна, ні іудзея».

Усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам, усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць, кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай Бацькаўшчыны — Беларусі.

## 1920

## СПРАВА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ ЗА МІНУЛЫ ГОД

### I

Калісь, да сусветнай вайны і апошняй расійскай рэвалюцыі, жыццё дзяржаў ішло сваім звычайным парадкам. Дзяржаўныя граніцы, абмяжованыя featureрознымі дагаворамі і трактатамі, ляжалі на сваім месцы. Калі была якая вайна, то ваююць, колькі трэба, ды кінуць, пасунуўшы гранічныя слупы ў той ці іншы бок, і на гэтым, бывала, справа канчалася.

Але выбухнула сусветная вайна, а за ёю рэвалюцыя ў Расіі, Нямеччыне і Аўстрыі, і ўвесь стары парадак дзяржаўнага жыцця рухнуў, як падгніўшае ў карэнні адвечнае дрэва.

Вайна і рэвалюцыя выкінулі лозунг: «Свабода і самаазначэнне народаў», і гэты лозунг, як мы бачым сваімі вачыма, не прайшоў непачутым. Самыя малыя народы, звонячы доўгія гады путамі паднявопля, народы, якія трымалі ў даўгавечным ярме Расія, Аўстрыя ды іншыя,— заварушыліся і выкінулі сцяг свайго самаазначэння і дзяржаўнай незалежнасці.

Не асталася глухой і нямой на гэта і наша Бацькаўшчына — Беларусь.

Тыя думкі і летуценні, якія прабудзіліся ў нашым народзе ў часе першай расійскай рэвалюцыі (1905 г.), разліліся шырокаю хваляй па неабнятых абшарах нашага краю. Шчыры голас і праца ідэёвая людзей, якія гуртаваліся спачатку каля «Беларускай сацыялістычнай грамады», а пасля ў Вільні, каля «Нашае нівы», палажылі свае векапомныя падваліны дзеля адраджэння свайго народа, дзеля адбудавання незалежнасці сваёй Беларускай дзяржавы.

І вось апошняя вайна і рэвалюцыя не заспелі беларуса неўспадзеўкі. Моцны падмур быў зроблены, трэба было толькі класці сцены і завяршыць будову светлага, незалежнага існавання Беларускай дзяржавы.

Не будзем затрымлівацца на тым, якімі шляхамі павінна была перайсці наша справа да 1919 г. Гэны перыяд нашых дамаганняў і змаганняў за свае неадменныя правы на ўласнае незалежнае існаванне астаўляем разабраць як следна нашым цяперашнім і будучым гісторыкам.

Мы хочам толькі акінуць вокам нашае грамадзянска-палітычнае жыццё за мінуўшы год, звярнуць увагу на важнейшыя праявы палітычных перамен у нашым краю ў звязку з нашай незалежнасцю.

З гэтага боку мінуўшы год быў вельмі для нас цікавы і шмат чаму на практыцы нас навучыў.

Калі немцы, пасля бальшавіцкага перавароту ў Расіі, занялі большую часць нашай тэрыторыі, кучка бальшавіцкіх камісараў, гаспадарыўшая раней у Менску, уцякла ў Смаленск. Там, на чале з Калмановічам, Мясніковым і Яркіным, зрабіла маленькі ўнутраны пераварот. Яны аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губерню і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны, і арганізавалі так званую Западную вобласць, пераіначаную после на «Западную камуну». Смаленцы крыху гэтаму праціviліся, але іх праціўнікі пастрашылі кулямётамі, і справа была выйграна.

Новы ўрад «Западнай камуны», разумеецца, атрымліваў усе дырэктывы з Масквы і танцаваў так, як іграла Масква. Правы свае ён пашырыў на ўсю Беларусь, не занятую немцамі, а нават і далей.

Пры ўрадзе быў створаны камісарыят нацыянальных меншасцей (літвінаў, палякаў, латышоў, жыдоў), апрача беларусаў. На чале гэтай установы стаяў пан Бэрсан. Аб Беларусі тады не можна было і заікнуцца. І калі

з Масквы прыслалі чалавека (бальшавіка) арганізаваць таксама і беларускі аддзел пры камісарыяце, то п. Бэрсан так спужаўся гэтага, што, каб не было ні вам, ні нам, скасаваў увесь камісарыят нацыянальных меншасцей. Гэткім чынам змагаліся смаленскія абласныя камісары з усялякімі, нават бальшавіцкімі, праявамі беларушчыны.

Але немцы ачышчаюць Беларусь — Менск, Полацк, Барысаў і інш. Тады маскоўскія беларусы-бальшавікі, якія ў той час кіравалі беларускім аддзелам пры камісарыяце нацыянальных меншасцей, прыехалі ў асобным вагоне ў Смаленск з мэтай стварыць новы беларускі бальшавіцкі ўрад. Гэта было ў снежні 1918 г. Спачатку справа ў іх ішла туга, так туга, што быў мамент, калі Смаленскі ўрад хацеў іх арыштаваць. Але — далей-болей, неяк дагаварыліся і стварылі часовы ўрад «Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі». Старшынёй урада быў назначаны Жылуновіч (Ц. Гартны), ■ рэшта «портфелей» былі падзелены паміж Дылам, Мясніковым, Шантырам, Яркіным ды іншымі. Гэты ўрад прыехаў у Менск, і 1 студзеня (?) была абвешчана «Незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка» ў федэратыўнай сувязі з Маскоўшчынай. Адначасна стары беларускі ўрад «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі і Рада міністраў Б. Н. Р.» былі абвешчаны без абароны закону.

Пачалася на Беларусі бальшавіцкая гаспадарка. Але іхні «камунізм» не мог памірыцца з «нацыяналізмам» беларускага народа. Трэба яшчэ дабавіць, што незалежную беларускую рэспубліку стварылі смаленскія і маскоўскія «беларусы» па загаду з Масквы. А зроблена гэта з тактычных мэтаў, назадзёр беларускай «буржуазіі», якая стаіць на грунце незалежнасці свайго краю.

Першыя дні бальшавіцкай гаспадаркі, асабліва тут, у Менску, падавалі надзею, што беларуская справа стане на добры дэмакратычны грунт. Бо як жа было іначай думаць? На чале «чразвычайкі» стаў не Яркін, вядомы ў Смаленску сваёй крывавай ненасытнасцю, а нейкая другая асоба. Так што спачатку і расстрэлы рэдка былі чутны.

Пачалі выдаваць «Известия» на 4-х мовах: расійскай, беларускай, польскай і жыдоўскай (выйшла 4 ці 5 нумароў). Не касавалі дробнага гандлю і не забаранялі прывозіць прадукты з вёскі ў места.

Але гэты мядовы месяц Савецкай улады на Беларусі цягнуўся нядоўга.

Бальшавікі займаюць Вільна, касуюць «незалежную беларускую і г. д. рэспубліку», а сваіх бальшавіцкіх беларускіх «нацыяналістаў» — Шантыра, Дылу, Фальскага (Жылуновіч успеў к таму часу ўцячы) — садзяць у вастрог, ствараюць ужо Літоўска-Беларускую савецкую і г. д. рэспубліку, урад якой засядае ў Вільні. Аб ніякай беларускай «незалежнасці» не было ўжо і гутаркі.

Аднак, трэба аддаць справядлівасці, дэкрэтамі не ганьбяць беларускай мовы ў школах, у тэатрах.

Пры Менскім камісарыяце прасветы ўтвараюць літаратурна-выдавецкі аддзел, які папраўдзе шчыра заняўся падгатоўкай літаратурнага беларускага матэрыялу. Але сваёй карыснай працы гэты аддзел не мог як следна праявіць. Кіраўніка гэтага аддзела — вядомага, паважанага беларуса, праф. Іваноўскага — бальшавікі па нагавору польскіх віленскіх камуністаў арыштавалі і вывезлі ў Смаленск як заложніка. І літаратурна-выдавецкі аддзел рассыпаўся. Аб друкаваным беларускім слове не было ўжо і гутаркі. Дый сама савецкая Літ<оўска>-Бел<аруская> улада сядзела ўжо як на падпаленай бочцы з порахам. Палякі занялі Вільню, пасунуліся да Маладзечна і пагражалі Менску. Гэтыя ваенныя няўдачы прывялі бальшавікоў у дзікую злосць. Яны пачалі шукаць вінаватых, разумеецца, як заўсёды, не там, дзе трэба. Спачатку зрабілі «прылучэнне» Літ<оўска>-Бел<арускай> рэспублікі да Расіі (аб незалежнасці ўжо не можна было і заікнуцца), пасля звярнулі ўвагу на малую працу «чразвычайкі». І «чразвычайка» сваю працу «павялічыла». Праца гэта мінчанам добра вядома. Курганы сотняў нявінна расстраляных аб гэтым і цяпер сведчаць. Над Менскам навіс крывавы кашмар. Людзі на вуліцах баяліся голасна гаварыць. Кожную ноч — павальныя вобыскі.

Але вось пачуліся першыя гарматныя, хоць яшчэ і далёкія, стрэлы. Палякі занялі Радашковічы і паважна пагражалі Менску. Камісары ўцяклі ў Бабруйск, а адтуль у Смаленск.

І дзіўная рэч. З практыкі гэтай вайны вядома, што калі вораг прыбліжаецца к якому месцу і пачне даносіцца да вуха жыхароў страляніна, то гэтым нападае на

ўсіх жудасць і паніка. У нас у Менску гэта выйшла якраз наадварот. Першыя выстралы прынеслі людзям радасць. Усе пачулі ў гэтым вызваленне ад здзеку і грамадзянскага праліцця крыві.

8 жніўня палякі ўвайшлі ў Менск, і для Беларусі пачалася новая эра. Была зараз жа распаўсюджана вядомая адозва Начальніка Польскай дзяржавы Язэпа Пілсудскага, у якой таксама, як мы ведаем, былі намёкі на незалежнасць і непадзельнасць Беларусі. Ці апраўдала гэта адозва затоеныя думкі і надзеі беларускага грамадзянства, ці польская ўлада павяла ў нашым краю гаспадарку так, як гэтага вымагаюць культурна-нацыянальныя інтарэсы нашай Бацькаўшчыны,— аб гэтым у другі раз.

II

У апошнія гады палітычныя перамены ў Еўропе, упадкі і паўставанні малых і вялікіх дзяржаў праходзілі і праходзяць перад нашымі вачыма, як у калейдаскопе. Мацнейшыя народы хочуць павялічыць сваю тэрытарыяльную і збройную сілу коштам слабейшых. Слабейшыя народы, асабліва ўваскрэсшыя на тэрыторыі быўшай Расіі, змагаюцца толькі за тое, каб жыць, каб адстаяць сваю незалежнасць, не папускаючы свайго і не захопліваючы чужога.

Вайна і рэвалюцыя выкінулі ўдабавак два лозунгі, два не згодныя з сабой — як агонь і вада — кірункі ў змаганні за культурна-палітычныя правы народаў і дзяржаў. Дзве, сказаў бы, непамерныя сілы змагаюцца цяпер паміж сабой за панаванне над народнымі ідэаламі на ўсім свеце; дзве рэвалюцыі выступілі на крывавую арэну за свае праўды, за сваё першынство ў дзеле будавання будучага людскога жыцця на грэшнай зямлі. Гэта — рэвалюцыя нацыянальная і рэвалюцыя сацыяльная.

Як першая, так і другая стараюцца ўсіх пераканаць, што кожная з іх змагаецца за лепшыя ўсясветныя ідэалы, за светлыя дні.

Сацыяльная рэвалюцыя, якая загарэлася крывавым пажарам на ўсходзе Еўропы — у Расіі, і цяпер яшчэ палае ўсё паядаючым полымем, стараецца ў сваім пабедным паходзе ніштожыць усялякія нацыянальныя пе-

рагародкі і злучыць пад чырвоным знаменем усе народы ўсяго свету. Насколькі ёй гэта ўдаецца, пакажа будучына, але пакуль што ўсе дзяржавы, апрача, разумеецца, Вялікарусі, усімі сіламі стараюцца адхрысціцца ад гэтага раю. Нацыянальная рэвалюцыя, паставіўшая сабе мэтай вызваленне ўсіх нацый, быўшых у падняволлі ў дужэйшых дзяржаваў, ідзе другімі шляхамі да вызвалення чалавека з вечных путаў няволі. Яна змагаецца за тое, каб кожны народ пастанаўляў сам аб сваёй долі і быў гаспадаром свайго краю, свайго багацця. Нацыянальная рэвалюцыя не страміцца к аднаму богу на зямлі і не збівае ў адну кучу ўсіх народаў пад адзін сцяг.

І вось бачыма, што і сацыяльная, і нацыянальная рэвалюцыя мае сваіх прыхільнікаў, якія і змагаюцца шчыра за свае ідэалы.

Але, што цікавейшыя правадыры сацыяльнае рэвалюцыі — расійскія бальшавікі, гэтыя заўзятыя праціўнікі найменшага праяўлення нацыянальнага будаўніцтва, і яны змушаны былі хоць фікцыйна ствараць ілюзіі, што яны таксама спачуваюць нацыянальным тэндэнцыям падняволіваных імі народаў, і такім чынам стваралі «незалежныя» рэспублікі, як, напр<ыклад>, Беларускую, Украінскую.

Гэтыя дзве рэвалюцыі — гэтыя піянеры жыцця на зямлі па новых парадках, найболей праявілі свае добрыя і благія стараны, як гэта ні дзіўна,— на беларускай зямлі.

Прошлы раз я ўжо выясніў, насколькі гэта магчыма было ў кароткай газетнай стацці, як бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь, як то падносілі, то таптали найменшыя праявы беларускага нацыянальнага духу.

Цяпер мы павінны звярнуць увагу на праціўны лагер, на правадыроў нацыянальнай рэвалюцыі — на Польшчу, дзяржаву, якая ўваскрэсла на магіле быўшай Расіі ды Нямеччыны і Аўстрыі, а народ польскі столькі ў сваім часе павінен быў выцерпець знявагі і нацыянальнага паніжэння. Здавалася, той месіянізм, які быў прывіты польскаму народу, у часе яго падняволля, лепшымі польскімі мысліцелямі, павінен быў выгадаваць у гэтым народзе штосьці светлае, разумнае, што магло бы служыць прымерам і для другіх быўшых у падня-

воллі народаў. Але ідэалы — адно, а практыка жыццёвая — другое.

Пэўная часць польскага грамадзянства, так званая «народава-дэмакрацыя», аслепленая пабедамі польскага салдата, сышла з той дарогі, якую палякам намецілі святлейшыя іх грамадзяне — Міцкевічы, Красінскія, Славацкія і інш. Колішнія лозунгі «За нашу і вашу волю», «Вольны з вольным, роўны з роўным» пайшлі ў няпамяць, а калі яшчэ дзе-нідзе і звіняць яны, то толькі як байкі для простых людзей, як абяцанкі, якім ужо ніхто не верыць.

Калі немцы пачалі ачышчаць Беларусь, то бадай адначасна на яе аграбленыя абшары з вялікім разгонам рынуліся з Усходу — расійскія бальшавікі, з Захаду — польскія нацыяналісты. І тут на нашых плячах мы пачулі, што маюць і могуць адны і другія.

Палякі, як і бальшавікі, калі верыць адозве Начальніка Польскай дзяржавы, неслі з сабой вызваленне Беларусі з адвечнага ярма. Язэп Пілсудскі заявіў у Менску, што «хацеў бы бачыць гэты край вольным паміж вольнымі народамі». Але заява Вялікага Начальніка Польскай дзяржавы — адно, а палітыка польскіх эндэкаў і жандармерыі — другое.

Пасля заняцця польскімі войскамі Городня тамтэйшыя беларусы на разе прасвятлелі. Заварушылася беларускае нацыянальнае жыццё. Пачалі думаць аб беларускіх школах, газетах. І што ж? Беларушчына апынулася ў стане забароненага.

На Вялікдзень палякі забралі Вільню. Па нейкім часе ўдалося там склікаць Раду Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Рада пачала працаваць, адкрываць школы і думаць, што палякі — то гэта не бальшавікі. Аказваецца, метады дзяржаўнай гаспадаркі польскіх эндэкаў мала чым розняцца ад метадаў расійскіх бальшавікоў. Прыкладам гэтага можа служыць закрыццё Буцлаўскай гімназіі і інш., а пасля — візіты жандараў у памяшканне самой Рады на Вастрабрамскай вуліцы ў Вільні.

Калі бальшавікі ўцяклі з Менска, а палякі ўвайшлі, то беларусы з аблягчэннем уздыхнулі. Начальніка Польскай дзяржавы віталі шчыра і спадзяваліся, што справа незалежнасці Беларусі цяпер стане на цвёрдым грунце, што братні польскі народ дапаможа беларусам адбудаваць сваю Бацькаўшчыну, як ён адбудаваў і сваю.

У Менску тады закіпела праца. Арганізаваўся Беларускі Нацыянальны камітэт, пачала выходзіць штодзённая беларуская газета, а 12 лістапада была адкрыта сесія Рады БНР. Здавалася, што ўсё пойдзе добра. За «плебісцыт» паліцыя пры помачы слесара ўлезла ў рэдакцыю беларускай газеты і забрала ўсе канторскія, рэдакцыйныя матэрыялы.

З гэтага бачым, што эндэцкая рэакцыя як бы пачынае браць верх. Справа незалежнасці Беларусі зводзіцца гэтымі панамі на няма нішто. Для эндэкаў нічога не значна прымер царскай Расіі, якая пад паліцэйскім і жандарскім кулаком трымала дзесяткі падняволеных народаў і якая рухнула, як падгніўшы слуп, пры першым сільнейшым подыху вольнага ветру.

Польскія эндэкі, заместа праводзіць у жыццё даўнейшы лозунг «Вольны з вольным, роўны з роўным», накінулі нам «плебісцыт» і прынятую соймам «рэзалюцыю», якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.

Сацыяльныя рэвалюцыянеры з Усходу і нацыянальныя «рэвалюцыянеры» з Захаду ў мінулы год паказалі сваю праўдзівую натуру. І тыя і гэтыя ў сваім мілітэрнаімперыялістычным паходзе стараюцца сцерці па дарозе ўсё, што ім стаіць на перашкодзе дзеля дасціжэння сваіх мэт. Аслепленыя часовымі пабедамі, забываюцца, што жывуць не ў сярэдневякоўі, калі сіла кулака панавала над сілай права. Сваёй неразумнай захватнай палітыкай яны толькі зацягваюць працэс праўдзіва-дэмакратычнага развіцця нацыянальна-культурных ідэй і пашырэнне на зямлі нясмертных ідэалаў свабоды, роўнасці і брацтва.

І для Беларусі, як ні быў цяжкім мінулы год у яе змаганні за сваю дзяржаўную незалежнасць, а ўсё ж такі ён шмат чаму навучыў і шмат каму з беларускага грамадзянства адкрыў вочы, аслепленыя тымі ці іншымі утопіямі і абяцанкамі...

Мінулы год паказаў нам, што інтэрнацыяналісты і ап'яненыя пабедамі нацыяналісты не дадуць Беларусі жаданага міру і незалежнасці. Яны яе дзялілі і будуць дзяліць паміж сабой, пакуль сам беларускі народ не скажа свайго апошняга слова.

Але і жандары, і бальшавіцкія «чразвычайкі» не завядуць на зямлі вечнага парадку і ладу, як і нацыянальна-сацыяльных пытанняў не пакіраваць у свой бок

часовым пабеднікам. Крыніцы жыцця пацякуць сваім спрадвеку вызначаным справядлівым парадкам. І з часам народы патрапяць найці супольную мову, каб пасуседску дагаварыцца паміж сабой ды наладзіць і свае граніцы, і свае дзяржаўныя правы на незалежнасць.

Віхор праміне, і прыйдзе ясная жыватворная пагода для ўсіх. Абы толькі рэакцыя ўрадавая не змянілася на рэакцыю грамадзянства. Гэтага трэба як найболей баяцца, і з лозунгам змагання з рэакцыяй у самом грамадзянстве мы павінны ісці ў гэты новы год.

Калі мы выйдзем у гэтым змаганні пабеднікамі, калі вольнага народнага духу не апануе цёмная сіла і ён будзе далей сягаць па-арлінаму, то і справа вызвалення Беларусі сягне на такую вышыню, на якую наша Бацькаўшчына заслужыла сваім векавечным падняволлем.

Не падаючы духам, мы павінны ісці праз жыццё ў гэты новы год і моцна трымаць сцяг змагання за сваё вызваленне, за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны Беларусі.

І пабеда будзе на нашай старане.

## «СТРАХІ ЖЫЦЦЯ», ДРАМА Ў 3-х АКТАХ Ф. АЛЯХНОВІЧА

У пятніцу, 2 студзеня, у гарадскім тэатры пад дырэкцыяй Ф. Аляхновіча была пастаўлена яго драма ў 3-х актах — «Страхі жыцця».

Драма гэта добра знаёма шырокай менскай публіцы, бо ставілася ўжо некалькі раз на мясцовых сцэнах. Аб змесце драмы не прыходзіцца гаварыць, у сваім часе крытыка вельмі прыхільна яго асвятліла. Скажам толькі пару слоў аб самой ігры артыстаў.

Найлепшым, як заўсёды, быў Сымон (Аляхновіч), праявіўшы сваю сцэнічную здольнасць у апошнім акце, самым трудным па сваіх псіхалагічна-трагічных момантах. Даў ён праўдзівы тып чалавека, якога незнарок апанавалі «страхі жыцця» і кінулі на страшэнны праступак: зрабіць крывавую ахвяру для гэтых страхаў з свайго роднага сына.

Артыстычна і з пачуццём правяла сваю трудную ролю Юзі п. Станкевіч. Бо, папраўдзе, перадаць трагізм

маладой дзяўчыны, якая, з прычыны вялікай бяды і гора, ідзе на вуліцу, каб гэткім спосабам ратаваць ад голаду сям'ю і здабыць на лекі для маткі,— перадаць гэтыя цяжкія «страхі жыцця» трэба вялікай мастацкай здольнасці, і з яе п. Станкевіч вывязалася як найлепей. Няўдзячную ролю каханка Юзі п. Ждановіч сыграў, як праўдзівы артыст-мастак. Ды іначай і быць не магло. Гэты артыст шмат год добра вядомы на беларускай сцэне, і лішнім тут будзе гаварыць яму пахвалы.

Маці — Станкевічанка і Алесь (сын Сымона) — Галубянка, далі ўсё, што ад іх вымагалі іхнія ролі, і як следна дапаўнялі ігру другіх артыстаў.

Наогул драма прайшла вельмі добра, пры бесправыўным пад'ёме публікі, і шчырыя густыя «брава» былі найлепшай пахвалой для аўтара драмы і артыстаў.

## СПРАВА БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГІМНА

Мы, беларусы, дзякуючы ўсялякім гістарычным і палітычным безгалоўям нашай Бацькаўшчыны, вечна цягнуліся ў хвасце сваіх суседзяў, ды яшчэ і цяпер не можам у шмат якіх справах раўняцца з імі. Абмінаючы ўсе іншыя недахваткі нашага палітычна-дзяржаўнага і нацыянальнага жыцця, я хачу тут звярнуць увагу на справу беларускага нацыянальнага гімна.

Справа гэта вельмі важная, і трэба, канешна, каб наша ідэйная інтэлігенцыя — паэты і кампазітары — занялася ёй паважна. Бо, па праўдзе кажучы, з беларускім нацыянальным гімнам выходзіць нейкая неразбярыха. Мы і маем свой гімн, і не маем. Чаму гэта так?

Калі заглянуць у далёкую мінуўшчыну, у тыя часы, калі існавала незалежная Літоўска-Беларуская дзяржава,— мы з пэўнасцю не можам цвердзіць,— ці быў тады гімн нацыянальны, ці не быў. Магчыма, што і быў,— можа, яго замяняла якая выдатная духоўная песня. Але рухнула дзяржава, забыў народ і свой гімн-песню.

У нашы ўжо часы (пасля 1905 г.) з'явілася на свет Божы некалькі беларускіх гімнаў такой ці іншай ідэй-

най і мастацкай вартасці. Пачатак гэтага зрабіў кампазітар Рагоўскі, які стварыў музыку да слоў верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?» і назваў гэта гімнам. Далей гэты самы кампазітар напісаў музыку да верша Каганца «О Божа, спасе наш!», і таксама часта нашы спевакі называюць гэта гімнам. Далей, да верша Я. Купалы «Не загаснуць зоркі ў небе...» улажыў музыку Янчук і таксама назваў гэта гімнам. Хор Тэраўскага ў Мінску пяе песню «Працуй, беларусе...» і таксама называе гэта гімнам. Ды і шмат яшчэ ёсць усялякіх песень і вершаў, якія ахрысцілі гімнамі, не зважаючы на тое, ці яны заслугоўваюць на такую назву, ці не.

І вось з гэтага вялікага ліку «гімнаў» мы ўсё-такі не маем — сказаў бы я — прызнанага і ўсвенчанага беларускага нацыянальнага гімна.

Такая пастаноўка гэтай справы часта адбіваецца на добрым імі беларускага народа і не раз ставіць публіку ў прыкрае палажэнне, як і было гэта не вельмі даўно.

З прычыны прыезду Начальніка Польскай дзяржавы ў Мінск у гарадскім тэатры адбыўся спектакль, у якім выступаў і беларускі хор Тэраўскага. Хор запяяў нейкую песню — якая азначала на афішах «беларускі гімн», але мелодыя была незнаёмая, і ніхто не ўстаў, абражаючы гэтым, як бы здавалася, гонар беларускай нацыі.

І вось трэба ўвайсці ў палажэнне шчырага беларускага грамадзяніна: што такі чалавек павінен быў перацярпець у сваёй душы, бачачы гэту нібы знявагу? А папраўдзе тут і знявагі няма, бо няма прызнанага — гэтым жа беларускім грамадзянствам — свайго нацыянальнага гімна.

Такім чынам, зважаючы на сказанае, справа беларускага гімна павінна быць вырашана, і то як найхутчэй. З беларускай марсельезай справа стаіць як бы лепей: маем «Адвеку мы спалі», і іншых вершаў з музыкай, называных беларускімі марсельезамі, штосьці не чуваць. Гэта, бадай, і лепей.

Як «нацыяналізаваць» — калі можна так выказацца — нацыянальны беларускі гімн з паміж ужо існуючых гэтых твораў — не бяруся выясніць. Гэтым павінна заняцца само грамадзянства ў асобах сваіх ідэйных прадстаўнікоў — паэтаў і кампазітараў.

## ДУМКА ЗА ДУМКАЙ

*Вясна ў прыродзе і «вясна народаў». Наследкі вайны. Гутаркі аб міру.*

Прыйшла вясна, вясёлая, пявучая, цвітучая. Калісь у гэтым часе выходзіў селянін у поле і кідаў зерне ў свежую раллю, трывожачыся аб заўтрашнім дні. Ён ведаў, што гэтае зерне ўзойдзе, закрасуе, паспее. Не патопчуць яго без пары чужыя ногі, не спаліць яго чужая рука. Цяпер не тое. Шэсць год вайны, вайны цяжкай, безупыннай, выбілі ў думках беларуса-хлебароба і яго супакой — гэткі змірны, лагодны,— і яго шчырую веру ў лепшую долю. Шостую вясну ўжо ён сее так безнадзейна, не ведаючы — хто яго сяўбу жаць будзе. Чакае перамен, a перамены няма і няма.

Беларуская доля такая ўжо, што і гаварыць не варта. Вось хоць бы тая «вясна народаў», аб якой так шмат яшчэ і цяпер гамоняць. Мо якому народу і прыйшла гэта вясна, але беларускі народ гэта «вясна народаў» так усё абмінае. Чаму так? Ці ж беларускі народ — гэткі вялікі і гаспадарны — не заслужыў на тое, каб і для яго Бацькаўшчыны закрасавала? Ці ж ён, вякі ваюючы для славы і магутнасці сваіх суседзяў, не варт быў таго, каб адваяваць хоць крыху гэтай славы і магутнасці для самога сябе, для свайго краю?

## <ПРАМОВА НА ЮБІЛЕЙНЫМ ВЕЧАРЫ, ПРЫСВЕЧАНЫМ 15-годдзю ЛІТАРАТУРНАЙ ПРАЦЫ>

Дарагія Грамадзянкі і Грамадзяне зямлі Беларускай! Вітаю Вас і дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягонняшні дзень мне і маёй пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай! Але толькі павінен я тут адзначыць, што гэта пятнаццацігадовая гадаўшчына не да мяне аднаго адносіцца, яна адносіцца да шмат каго з прысутных тут, адносіцца да ўсяго апошніх часаў руху ў беларускім адраджэнні. Усяго пятнаццаць год вялікая ідэя вызвалення з падняволля Беларусі лунае і пашыраецца сярод многамільённага беларускага грамадзянства.

Трудны і цярністы шлях прыйшлося прайсці нам, беларусам, за гэты час змагання за лепшую долю, за лепшую славу для сваёй Бацькаўшчыны.

Але мы змагаліся, змагаемся і будзем змагацца. І наша змаганне не асталося без следу. Мы самі сведкамі таго, што кінутыя мазалістай беларускай рукой здаровыя зерняты заруненіся на нашых вачох буйнай квяцістай руняй, ад якой можна смела чакаць ураджайнага жніва.

Ні адно на свеце адраджэнне народа, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народа.

І сапраўды. Што было пятнаццаць год таму назад і што мы бачым цяпер? Пятнаццаць год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галавамі мур прабіваць — адбудоўваць сваю закаваную ў многавяковыя кайданы Бацькаўшчыну, а сягоння без малага ўвесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызвалення. Пятнаццаць год таму назад аб незалежнасці і падумаць было небяспечна,— сягоння нашы дужэйшыя суседзі самі аб гэтым па-дзяржаўнаму гавораць з намі як з народам, каторы заслужыў па людскому й божаму праву гэту незалежнасць.

Арлiным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню — брахню, што Беларусі не было і няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае да сонца, мы паказалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе.

Хай Вас, браты Беларусы, не палохае цяперашні бурны крывавы час. Агнём і жалезам куецца моц, гарт, доля і воля народная. Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ свіст меча, і настане светлы, радасны дзень змучанага, аграбленага нашага народа.

Хай Вас не палохае, што рвуць нашу зямлю на часці, што хаты нашы спалосканы пажарам, што сяўбу нашу жне нехта іншы,— зямля, засеяная касцямі сыноў беларускіх, будзе вечна належаць да ўнукаў беларускіх; спаленую хату беларускі мазоль адбудуе, а сваю сяўбу ён сам будзе жаць. Хай толькі асвеціць Вас адна вялікая думка — аддаць усё для сваёй Бацькаўшчыны, навет жыццё, калі яна Вас да гэтага пакліча.

На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых праракаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой

народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца. У адным з псальмаў біблійных сказана: «Стануў Бог у зграмаджэнні багоў і паміжы богамі суды судзіць». Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя пракрокі і будуць па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне пракляццем успамінаць.

Дык не зважайма на здраду, а пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святляным шляхам, па якім дагэтуль ішлі; з верай і надзеяй будзем ісці к лепшай, яснейшай будучыне, к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку, і будзе на Беларусі не такое свята, якое мы цяпер святкуем.

Верце, што мы з'яўляемся дзейнымі асобамі, героямі чараўнічай песні, чудатворчай містэрыі, якую тварыць на Беларусі паклікала нас само жыццё. У гэтых чарах, у гэтым выяўленні бяссмертнага чалавечага духу — наша пабеда, наша слава і шчасце — цяпер і ў будучыні.

Перуновым голасам будзем гаварыць з суседзямі сваімі, бліскавічнымі літарамі будзем упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў.

З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.

Змагайся і стань вольным, Беларускі Народ!

## 1923

## ВЫДАВЕЦКАЯ СПРАВА Ў САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ ЗА 1922 ГОД

### I

Мінулы 1922 год быў самым ураджайным годам у справе росквіту беларускага друкаванага слова. Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху не было, бадай, у ніводным годзе столькі выкінута з-пад друкарскай машыны беларускіх кніг для школ, навуковых

і прыгожага пісьменства. Каб лягчэй было абхапіць і разабрацца ў тым, што зроблена за такі кароткі працяг часу, якім з'яўляецца адзін год, мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага за гэты час, а пасля, па магчымасці, пяройдзем да характарыстыкі паасобных кніг і выдавецтваў.

**Спіс кніг,**
**надрукаваных на працягу 1922 года**

| №№ па парадку | Назва выдавецтва, прозвішча аўтара і назва кнігі | Лік старонак у кнізе | Лік аркушаў | Лік экзэмпляраў | Агульны лік аркушаў |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | **I. Выданні б. выдавецтва «Адраджэнне»** | | | | |
| 1 | *Багушэвіч Ф.* — Дудка Беларуская і Смык Беларускі. (Збор твораў у адной кнізе). | 92 | $5^3/_4$ | 3.000 | 17.250 |
| 2 | *Колас Я.*— Водгулле. (Збор вершаў). | 112 | 7 | 3.000 | 21.000 |
| 3 | *Купала Я.* — Спадчына. (Збор вершаў). | 224 | 14 | 4.000 | 56.000 |
| 4 | *Чарот М.* — Босыя на вогнішчы. (Паэма з 10-ма малюнкамі і з крытычным нарысам У. Ігнатоўскага і артыкулам В. Кнорына. 48 стр. тэксту і 20 стр. малюнкаў). | 68 | $4^1/_4$ | 10.000 | 42.500 |
| 5 | *Ясакар (З. Бядуля).* — Пад родным небам. (Збор вершаў). | 136 | $8^1/_2$ | 3.000 | 25.000 |
| 6 | *Валасковіч С.* і *Лукашэвіч Т.* — Зборнік арыфметычных задач. Ч. I-я. | 122 | $7^5/_8$ | 15.000 | 114.375 |
| 7 | « ». Ч. II-я. | 152 | $9^1/_2$ | 10.000 | 95.000 |
| 8 | *Лёсік Я.* — Практычная граматыка. Ч. 1-я. Выд. 2-ое. | 104 | $6^1/_2$ | 20.000 | 130.000 |
| 9 | *Лукашэвіч Т.* і *Валасковіч С.* — Методыка арыфметыкі. | 176 | 11 | 2.000 | 22.000 |
| 10 | *Некрашэвіч С.* — Роднае слова. Другая пасля лемантара кніга да чытання. | 162 | $10^1/_8$ | 22.000 | 222.750 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 11 | *Янчук Н., праф.* — Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры. Старадаўні перыяд. | 120 | 7½ | 3.000 | 22.500 |
| 12 | *Кармовыя травы.* — Сэрадэля і пялюшка. | 16 | ½ | 5.000 | 2.500 |
| 13 | «Адраджэнне» — Літаратурна-навуковы веснік Інстытуту Беларускае Культуры. Сшытак 1-ы. | 330 | 20⅝ | 1.000 | 20.625 |
| 14 | «Зоркі» — Беларуская дзіцячая часопісь. № 4 (10). | 52 | 3¼ | 1.750 | 5,687½ |
| 15 | «Маладая Беларусь» — Навукова-літаратурны зборнік. Сшытак 1-ы. | 84 | 5¼ | 2.000 | 10.250 |
| | Усяго | 1.950 | 121⅜ | 111750 | 807.937½ |
| | **II. Выданні в-ва «Савецкая Беларусь» (б. «Адраджэнне»)** | | | | |
| 16 | «Полымя» — Беларуская штомесячная часопісь літаратуры, навукі, палітыкі, культуры, экономікі і публіцыстыкі. № 1. Снежань, 1922 г. | 92 | 5¾ | 1.500 | 8.625 |
| | Усяго | 92 | 5¾ | 1.500 | 8.625 |
| | **III. Выданне інстытута Беларускае літаратуры** | | | | |
| 17 | Беларуская навуковая тэрміналогія. Выпуск 1-ы. Элементарная матэматыка. | 52 | 3¼ | 1.000 | 3.250 |
| | Усяго | 52 | 3¼ | 1.000 | 3.250 |
| | **IV. Выданні навукова-літарацкага аддзела Наркамасветы БССР** | | | | |
| | а) У Менску. | | | | |
| 18 | «Вольны Сцяг» — Літаратурна-мастацкая і навуковая штомесячная часопісь. № 1-ы, 1922 г. | 44 | 5½ | 1.500 | 8.250 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 19 | «Зоркі» — Беларуская дзіцячая часопісь (З малюнкамі). № 1 (7), 1922 г. | 50 | 3¹/₈ | 1.500 | 4.687¹/₂ |
| | Усяго | 94 | 8⁵/₈ | 3.000 | 12.937¹/₂ |
| | б) За граніцай. | | | | |
| 20 | Беларуская разразная азбука. | — | — | 15.000 | 15.000 |
| 21 | *Гартны Ц.* — Песні працы. (Збор вершаў). | 104 | 6¹/₂ | 8.000 | 52.000 |
| 22 | « ». Сокі Цаліны. Раман у трох часцях. Ч. 1-я. Бацькава воля. | 160 | 10 | 8.000 | 80.000 |
| 23 | *Колас Я.* — Казкі жыцця. (Збор апавяданняў). | 112 | 7 | 7.500 | |
| 24 | *Круталевіч А.* — Алгебра. Ч. 1-я. | 104 | 6¹/₂ | 10.000 | 65.000 |
| 25 | *Лёсік Я.* — Наша Крыніца. Чытанне для беларускіх школ. (З малюнкамі). | 284 | 17³/₄ | 15.000 | 266.250 |
| 26 | *Некрашэвіч С.* — Беларускі лемантар. (З малюнкамі). | 72 | 4¹/₂ | 50.000 | 225.000 |
| 27 | *Тарашкевіч Б.* — Беларуская граматыка для школ. | 64 | 4 | 10.000 | 40.000 |
| 28 | *Тэраўскі Ўл.* — Беларускі Лірнік. Спеўнік на чатыры галасы (99 песняў). | 92 | 5³/₄ | 5.000 | 28.750 |
| 29 | *Цыгельман К.* — Аснаўныя пачаткі арыфметыкі. | 108 | 6³/₄ | 10.000 | 67.500 |
| | Усяго | 1.100 | 68³/₄ | 138500 | 839.500 |
| | **V. Выданні Наркамасветы БССР** | | | | |
| 30 | *Лёсік Я.* — Практычная граматыка беларускае мовы. Ч. II-я (іп.=16°). | 316 | 9⁷/₈ | 5000 | 49.375 |
| 31 | «Зоркі» — Беларуская дзіцячая часопісь. № 2—3. 1922 г. | 54 | 3³/₈ | 1.500 | 5.062¹/₂ |
| 32 | Вестник Народного Комиссариата Просвещения ССРБ. Беларускі аддзел, надрукаваны ў 6-цёх выпусках, якія выйшлі ў 1922 г. | 186 | 11⁵/₈ | 1.500 | 17.437¹/₂ |
| | Усяго | 556 | 24⁷/₈ | 8.000 | 71.875 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | **VI. Выданні Госиздата ССРБ** | | | | |
| 33 | *Ігнатоўскі Ў.* — Матывы лірыкі беларускага песняра М. Чарота (іп.=16°). | 64 | 2 | 1.500 | 3.000 |
| 34 | *Чарот М.* — Завіруха. (Збор вершаў), фармат 16°. | 140 | $4\frac{3}{8}$ | 1.500 | $6.562\frac{1}{2}$ |
| | Усяго | 204 | $6\frac{3}{8}$ | 3.000 | $9.652\frac{1}{2}$ |
| | **VII. Выданні ўсебеларускага выканаўчага камітэту саветаў** | | | | |
| 35 | «Савецкая Беларусь» — Штодзённая газета. | (газ. фар.) 870 | $217\frac{1}{2}$ | 1.300 | 282.750 |
| | Усяго | 870 | $217\frac{1}{2}$ | 1.300 | 282.750 |
| | **VIII. Выданні Глаўпалітпрасветы ССРБ*** | | | | |
| 36 | Гутарка пойдзе аб тым, што павінна ведаць сялянская моладзь. Брашурка ў 12 малых старонак (іп.=16°). | | | | |
| 37 | Проціхалерныя лістоўкі. Дзве назвы. | | | | |
| 38 | Адозва Народнага Камісара Земляробства РСФСР. Лістоўка. | | | | |
| | Агулам усяго надрукавана | 4.918 | $456\frac{1}{2}$ | 268.050 | 2.036.527 |

Разглядаючы гэты спіс (табліцу), мы першым чынам заўважаем, што леташняя выдавецкая справа не была аднабокай, г<эта> ё<сць> выдаўцы не прытрымліваліся, каб друкаваць або толькі школьныя кнігі, або прыгожае пісьменства, але наадварот: не забыліся аб усіх галінах друкаванага слова. Дзеля яснейшага ўразумення пастараемся падабраць кнігі па дадзенаму спісу згодна з іх зместам.

I. Прыгожае пісьменства. Бяру нумары паводле спісу: 1, 2, 3, 4, 5, 21, 22, 23, 34.

* Лік экзэмпляраў, надрукаваных Глаўпалітпрасветай лістовак, аўтар гэтага артыкула дастаць не змог.

Агулам дзевяць назваў шасцёх розных аўтараў; лік надрукаваных страніц — 1148 (!).

Аўтары тут — нашы старыя знаёмыя: Багушэвіч Францішак, Бядуля Змітрок, Гартны Цішка, Колас Якуб, Купала Янка, Чарот Міхась. Як навіну ў гэтых творах трэба адзначыць выхад у свет першага беларускага рамана — гэта «Сокі Цаліны» Цішкі Гартнага і «Дудка Беларуская» і «Смык Беларускі», якія пасля болей як паўвяковага працягу часу першы раз надрукаваны «гражданкай», г. ё. рускімі літарамі (дагэтуль гэтыя кніжкі друкаваліся «лацінкай», іначай — польскімі літарамі). Апрача таго, М. Кудзелька даў паэму «Босыя на вогнішчы», звярнуўшую на сябе ўвагу розных крытыкаў, якія падзяліліся на прыхільнікаў і непрыхільнікаў паэмы — адны хваляць, а другія ганяць. Гэта спрэчка і цяпер яшчэ не спыняецца.

II. Кнігі для школ. № 6, 7, 8, 10, 11, 20, 24, 25, 26, 27, 29, 30.

Усяго дванаццаць назваў васьмёх розных аўтараў і рознага зместу: агульны лік страніц — 1608 (!). Кніг для чытання ў школе дзве — Лёсіка і Некрашэвіча; разразная азбука, лемантар Некрашэвіча; па матэматыцы — чатыры: Валасковіч і Лукашэвіч, Круталевіч, Цыгельман; па граматыцы — тры: Лёсік, Тарашкевіч; па гісторыі беларускае літаратуры — адна: праф. Янчука. З гэтых кніг асаблівую ўвагу звяртаюць на сябе кнігі па матэматыцы: з чатырох — тры з іх арыгінальныя: «Арыфметычныя задачнікі» Валасковіча і Лукашэвіча — першыя задачнікі ў беларускай мове, не тлумачаныя з чужога,— і першая арыгінальная «Алгебра» Круталевіча. Апрача таго, адзначаецца сваёй навізной першая «Беларуская разразная азбука». Звяртае на сябе ўвагу таксама «Беларускі лемантар», вельмі багата ілюстраваны. Добры ўклад у беларускую школьную літаратуру зрабіла і кніга праф. Янчука «Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры». А «Практычныя граматыкі» Я. Лёсіка ўжо зрабіліся незаменнымі падручнікамі для кожнага беларускага грамадзяніна, які захоча акуратна пазнаць і вывучыць сваю мову.

III. Кнігі агульнанавуковыя і крытычныя. № 9, 17, 33. Усяго тры назвы трох розных аўтараў; лік страніц — 292. Тут з гэтых кніг павінны мы адмеціць «Методыку арыфметыкі» Лукашэвіча і Валасковіча, якая ўкладзена паводле самых навейшых навуковых досцігаў і якая

павінна стацца незаменнай падручнай кніжкай кожнага настаўніка, выкладаючага ў школах пачатковую арыфметыку.

№ 17, гэта — першы выпуск Інстытута Беларускай Культуры: «Беларуская навуковая тэрміналогія. Элементарная матэматыка». Хаця ў гэтай кніжцы і змешчаны тэрміны па элементарнай матэматыцы, але некаторыя з паміж іх дужа не элементарны: вельмі ўжо многа гэтых тэрмінаў чужаземных, якія былі незразумелымі, так і засталіся — іх толькі перапісалі беларускімі літарамі: напр., на расійскай палавіне слоўніка стаіць: Абсциса, Факториал, на беларускай — Абсцыса, Фактарыял. А не шкодзіла б ужыць крыху смеласці й замяніць гэтыя чужатворы, якія нічога не кажуць ні розуму, ні сэрцу, болей зразумелымі беларускімі наватворамі — было б прасцей і мілагучней. Трэцяя кніжка — гэта крытычны нарыс У. Ігнатоўскага: «Матывы лірыкі бел. песняра М. Чарота». На гэты нарыс звярнулі ўвагу нават у Маскве, скуль была прыслана і (с. 90) надрукавана ў сваім часе ў расійскай газеце «Звезда» напісаная т. Кнорыным антыкрытыка на гэты крытычны нарыс.

IV. Беларускія песні з нотамі. № 28. Гэта — спеўнік Тэраўскага «Лірнік» (92 стр., 99 песняў). Кніжка такая выйшла вельмі па часе. Усе надрукаваныя ўперад спеўнікі з нотамі разышліся, а запатрабаванне на іх вялікае, і «Лірнік», безумоўна, хутка разойдзецца па Беларусі са сваімі і смутнымі, і вясёлымі песнямі.

V. Кнігі па сельскай гаспадарцы. № 12. Усяго адна кніжка і тая маленькая, усяго 16 страніц малога размеру. Гэта — «Кармовыя расліны — Сэрадэля і пялюшка». Наша старонка не фабрычная, а земляробная, і наш Камісарыят земляробства абавязан не спаць у шапку, а падумаць аб тым, каб поўнасцю задаволіць літаратурай аб сельскай гаспадарцы нашых земляробаў — фабрыкантаў хлеба й сала. Асабліва гэта не трудна зрабіць цяпер, калі маем Інстытут сельскай гаспадаркі, дзе выкладаюць навукі прафесары не абы-якія — еўрапейскай павагі. Трэба спадзявацца, што гэтыя прафесары дадуць нам агульнадаступную сельскагаспадарчую літаратуру для беларускага селяніна, бо не пабяжыць жа ён пытацца кожны раз у Інстытут, як, што і дзе лепей сеяць, як гадаваць жывёлу і г. д.

VI. Часопісі № 13, 14, 15, 16, 18, 19, 31. Усяго выходзіла або пачало выходзіць у мінулым годзе пяць

розных перыядычных і неперыядычных журналаў і зборнікаў. Лік надрукаваных рознага размеру страніц — 706. З паміж гэтых журналаў і зборнікаў перастала выходзіць у свет з тых ці іншых прычын чатыры, засталося адно «Полымя», якое чытач мае перад сабой і аб вартасці якога няма патрэбы мне гаварыць. З паміж перастаўшых жыць часопісаў трэба пажадаць, каб як хутчэй першым чынам уваскрэслі «Зоркі» — ядыны журнал для беларускіх дзетак. Трэба спадзявацца, што наша руплівае выдавецтва «Савецкая Беларусь» сёлета аб гэтым не забудзецца.

VII. Штодзённыя газеты. № 35. Гэта — «Савецкая Беларусь», ядыная цяпер на свеце штодзённая беларуская часопісь. Выйшла за мінулы год 145 нумароў у чатыры старонкі і 145 — у дзве. Усяго 872 стр. Выдае газету Усебеларускі Выканаўчы Камітэт Саветаў. «Савецкая Беларусь» з кожным днём робіцца цікавейшай і сваім інфармацыйным зместам і сваімі артыкуламі на розныя тэмы. Трэба толькі пажадаць ёй, каб меней цікавіліся панскай Польшчай, а болей звяртала ўвагі на Работніцка-Сялянскую Беларусь, бо, папраўдзе, у іншым нумары за белай Польшчай не відаць жыцця Чырвонай Беларусі.

VIII. Беларускае слова ў расійскіх часопісах. № 32. Ядыная, бадай, расійская краёвая часопісь, якая друкуе артыкулы і па-беларуску, гэта «Вестник Комиссариата Народного Просвещения С. С. Р. Б.». У шасці надрукаваных за мінулы год выпусках «Вестник» удзяліў 186 старонак для беларускага пісьменства. На вартасці надрукаванага ў «Вестнике» беларускага матар'ялу затрымлівацца не будзем, бо гэта не ўходзіць у наша заданне; адзначу толькі, што пара ўжо «Вестнику» Беларускага Камісарыята Асветы абеларусіцца зусім. Але ўсё ж такі дзякуй і за гэтыя старонкі, якія так адважна друкуе ў сябе тутэйшы «Вестник». Некалькі вершаў па-беларуску надрукавала і другая расійская тутэйшая часопісь «Юный пахарь». Адзін толькі Беларускі Дзяржаўны Універсітэт аніяк не можа адважыцца на беларушчыну: выпусціў за мінулы год два ёмкія сшыткі сваіх «Трудов», але па-беларуску ў іх ні слова.

Цяпер некалькі слоў аб нашых выдавецтвах. Найболей пладавітымі, чыннымі і рухавымі ў падгатоўцы матар'ялаў і друкаванні, як бачым з вышэйпамешчанай табліцы, аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны

Аддзел (с. 91) пры Наркамасвеце Беларусі і быўшае в-ва «Адраджэнне» — цяпер «Савецкая Беларусь».

Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўніком С. Некрашэвічам сабраў і зрэдагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў рознага зместу рукапісаў; выхлапатаў матар'яльныя сродкі і зарганізаваў выданне беларускіх кніг за граніцай. Беларускае в-ва за граніцай на чале з т. Жылуновічам (Цішка Гартны) выпаўніла сваё заданне як найлепей. Толькі недахват сродкаў не даў магчымасці Цішку Гартнаму надрукаваць увесь матар'ял, які павёз быў з сабой у Нямеччыну.

Наладжанае ў красавіку мінулага года кааперацыйнае в-ва «Адраджэнне» шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасці. Пасыпаліся з друку адна за адной кнігі, і ў працягу некалькіх месяцаў выйшла ў свет 15 кніг, лікам страніц 1950 (121 друк. арк.). Пры вельмі цяжкіх тэхнічных варунках, бо Паліграфаддзел не мог ці не хацеў даць патрэбную колькасць шрыфтаў і наборшчыкаў, пры тых перашкодах і няміласцях, якія прыходзілася і прыходзіцца спатыкаць беларускаму друкаванаму слову з боку яго непрыхільнікаў,— такі вынік кароткай выдавецкай чыннасці «Адраджэння» быў проста гераічным. Шмат дапамагло гэтакай паспешнай працы тое, што галоўнымі пайшчыкамі гэтага выдавецтва з'яўляюцца Наркамасветы і Цэнтрабелсаюз, якія ўсімі сіламі дапамагалі выдавецтву матар'яльна. Апрача таго, супрацоўнікамі в-ва з'явіліся тыя людзі, якія, казаў той, працавалі не за страх, а за совесць. І, разумеецца, рэзультат працы незвычайны. Цяпер на месцы «Адраджэння» беларускую выдавецкую справу ў складзе тых самых супрацоўнікаў і з такім жа поспехам вядзе в-ва «Савецкая Беларусь».

З іншых выдавецтваў прыходзіцца ўспомніць Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва — «Госиздат», якое за ўвесь год вымучыла дзве кніжачкі — абедзве разам $6^3/_8$ друк. арк. Паглядзім, што зробіць у гэтай справе «Белтрэстдрук», які паўстаў ад жаніцьбы Госиздата з Паліграфам. Побач з Госиздатам дрэмле і наша «Палітпрасвета», якая надрукавала па-беларуску як бы адчэпнага чатыры лістоўкі (№ 36, 37, 38 — табліцы) — і ўсё тут.

Абагульняючы ўсё сказанае аб беларускай выдавецкай справе за мінулы год, трэба адзначыць, што зроблена вельмі многа.

Прывяду рэзультат маленькай цыфровай спраўкі. З вышэйпамешчанай табліцы мы бачым, што агулам надрукаванага 268.050 кніг у ліку 2.036.527 друк. аркушаў. Гэта складае 2120 рэзаў (стоп) паперы; г<эта> ё<сць> каля трох вагонаў беларускіх выданняў. І вось гэтыя сотні тысяч кніг рассыпяцца па ўсёй Беларусі, каб навучаць там і будзіць беларускую прыспаную думку да светлага, радаснага беларускага і агульначалавечага жыцця.

І трэба нам помніць тое, што гэта вялікая культурная і творчая беларуская праца, якую мы змаглі зрабіць за мінулы год, зроблена ў Беларусі Савецкай і пры дапамозе ўлады Савецкай.

# 1924

## ДУМКІ І ПАЖАДАННІ Ў ЗВЯЗКУ З ПРАДСТАЯЧЫМ ДАКЛАДАМ НА 3-й СЕСІІ ЦВК БЕЛАРУСІ

Працуючы ў Інстытуце Беларускай Культуры некалькі год, я пераканаўся, што гэта такая навукова-грамадская ўстанова, без якой нармальнае развіццё беларускай культуры ва ўсіх яе галінах немагчыма.

Інбелкульт з'яўляецца тым асяродкам, каля якога згуртаваны амаль не ўсе выдатнейшыя беларускія навуковыя і літаратурныя працаўнікі, якія прыносілі і асабліва цяпер — у звязку з беларусізацыяй — прынясуць незаменную карысць для праводу ў шырокія беларускія масы культурна-асветных заданняў Савецкай улады.

Рэарганізаваны ў цяперашні час Інбелкульт павінен быць і будзе тым светачам, які асвятліць маладой Савецкай Беларусі шырокі шлях да нацыянальна-культурнага адраджэння і да яснай і вольнай будучыні, куды ідзе наша рэспубліка побач з іншымі савецкімі рэспублікамі.

## 1925

### ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Паважаны т. рэдактар!

Не адкажыце змясціць на старонках Вашай газеты ніжэйпададзены ліст, які я даю заместа прамовы на святкаванні майго дваццацігадовага юбілею ў Беларускім дзяржаўным тэатры 23 чэрвеня 1925 года.

Дарагія грамадзяне!

Тую шчырую і нязмерную ўдзячнасць за сягонняшнюю ўвагу, якую мне аказалі роднае Беларускае грамадзянства і ўлада Савецкая, словамі, каб я і хацеў, выразіць не здолею. Я скажу адно толькі, што сягонняшняе вялікае і незвычайнае свята для мяне з прычыны ўшанавання майго юбілею і асабліва надання мне годнасці беларускага народнага паэта — гэта ёсць свята не маё, і беларускай нацыянальнай ідэі, гэта ёсць трыумф вызваленай працоўнай Беларусі. І гэта я кажу шчыра. Бо не я адзін складаў свае песні, якія заслужылі столькі ўважлівасці, нават скажу болей, і не я іх выдумляў,— я толькі падслухаў думкі сардэчныя беларускага селяніна і работніка ды гэтыя думкі на паперу перавёў. Такім чынам, атрымалася як бы калектыўная праца, а разам з тым і сягонняшняе калектыўнае ўзаемнае святкаванне беларускай песні. Я шчаслівы, што сёлетні юбілей свой абходжу ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, і гарджуся тым, што годнасць беларускага народнага паэта атрымаў ад беларускай Савецкай улады.

Апрача таго, сягонняшні дзень кажа мне і аб тым, што 20 год свайго невясёлага жыцця я не змарнаваў дарма, што вынік маёй скромнай працы на ніве літаратурнай буйны, ураджайны.

І магу ўпэўніць вас, што і надалей, пакуль буду жыць, буду ісці тым жа шляхам. Інакшай Беларусі, як сялянскай і работніцкай, я сабе ў сваіх думках і песнях не ўяўляю, інакшых песень, як песень змагання, вызвалення і свабоды, я не ўмеў складаць і не патраплю. Бо я веру нязломна ў моц і волю да жыцця беларускага працоўнага люду.

Я шчаслівы яшчэ сягоння і ад таго, што, азіраючыся

на свой пройдзены доўгі шлях, ■ пераканаўся, што беларускія людзі — добрыя людзі, бо нават песні іхнія не крыўдзілі нікога і ніколі. Удзячнасць за гэту заслугу беларускага народа я пабачыў на свае вочы ў апошнія дні, калі побач з беларусамі мяне ў Віцебску, Оршы, Горках, тут, у Мінску, нават з Украіны віталі грамадзяне другой нацыі — гэта грамадзянства жыдоўскае.

Народ жыдоўскі, які спрадвеку жыве на Беларусі, меў дагэтуль такую самую цяжкую долю, як і наша была доля, якога дагэтуль, як і нас, «усюды ганялі», з якога, як і з нас, «усюды смяяліся». Мы, беларусы, жылі з гэтым народам згодна, бо, як я сказаў, аднолькавая доля была, і жыць надалей будзем згодна, бо сягоння таксама маем аднолькавую долю і волю.

Беларусь на сваім доўгім вяку нямала чаго пражыла. Не раз і не два была арэнай крывавых змаганняў Захаду і Усходу за панаванне над падняволенымі народамі. Паншчыну перанесла на сваіх працавітых плячах. Але Беларусь яшчэ і іншую адыгрывала ў гісторыі ролю: праз яе абшары і народ ішлі калісьці, у той час вялікія і агульналюдскія ідэалы навукі і ведаў, ішла так званая цывілізацыя з культурнага Захаду ў некультурны Усход. Калі ж прыгледзімся ў сучасныя з'явы, то доля Беларусі тая самая, толькі на іншы манер: праз яе абшары і народ ізноў ідуць, але ўжо папраўдзе вялікія агульначалавечыя ідэі, толькі ўжо з Усходу на Захад. І, разумеецца, мусіць прыйсці той час, калі Беларусь будзе зноў арэнай вялікіх змаганняў, калі праца ўступіць з капіталам у апошні і рашучы бой. Трэба толькі цвёрда верыць, што верх возьме праўда, бо на свеце больш працоўных сумленных рук, як тых несумленных, што няволю сеюць.

Але што ні тварылася б на свеце, беларуская думка аб нацыянальнай і сацыяльнай волі як жыла, жыве, так і жыць будзе. Наша беларускае настаўніцтва, выхаванае і загартаванае ў бурах і агні Вялікага Кастрычніка, павінна і будзе сеяць гэтыя думкі сярод нашых дзяцей.

На змену старым барацьбітам за волю і долю ідзе новая чырвоная беларуская змена, ідзе наша моладзь, наш бунтарскі маладняк. Дык няхай жа жыве беларуская бунтарская песня змагання, вызвалення і свабоды!

Няхай жыве незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ў сваіх этнаграфічных межах! Няхай вечна жыве братні саюз сялян і рабочых усяго свету!

## <ЗВАРОТ ДА МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ>

Па закліку тав. Шыпілы ўношу дзесяць руб. і заклікаю зрабіць гэта самае маладых пісьменнікаў: Анатоля Вольнага, Уладзіміра Дубоўку, Язэпа Пушчу, Якімовіча, Адама Бабарэку і Андрэя Александровіча.

# 1926

## ЛІСТ ДА ПАЛАЧАН

Дарагі тав. рэдактар!

Не адкажыце надрукаваць гэты мой ліст у Вашай паважанай газеце «Чырвоная Полаччына».

У часе майго кароткага прабывання ў Полацку з прадстаўнікамі вышэйшага Беларускага савецкага ўрада — Старшынёй Саўнаркома т. Адамовічам і Наркомам асветы т. Баліцкім — полацкае настаўніцтва і вучнёўства пасвяцілі адзін вечар (11 мая), прысвечаны майму прыезду ў Полацк.

Трудна мне выказаць словамі сваю шчырую ўдзячнасць і сардэчную падзяку за той мілы і гарачы і папраўдзе братні прыём слаўных і вольных палачан і палачанак, які быў мне аказаны з боку іхніх арганізацый: Акругкома, Чырвонай Арміі, камсамола, «Маладняка», настаўніцтва, вучнёўства. Я толькі магу адно сказаць, што па звароце ў Мінск, сталіцу БССР,— мае самыя лепшыя думкі будуць аб пралетарскім чырвоным Полацку.

Пажадаю Вам, палачане і палачанкі, каб тая першая падумка Вашага славутага продка, ураджэнца г. Полацка, вялікага вучонага Ф. Скарыны, што для «люду паспалітага» трэба пісаць кнігі на яго простай, зразумелай для яго мове, была заклікам да працы над эканамічным і нацыянальным адбудаваннем нашай многапакутнай Бацькаўшчыны.

Хай заціхнуць званы сафійскія і ім падобныя манастырскія званы, якія званілі славу князям, царам

і астрогам, а няхай звіняць у Вас вечна песні радасці і волі нязмернай і дакоцяцца гэтыя песні вызвалення аж туды — за пагранічныя слупы, дзе яшчэ Вашы браты і сёстры цягаюць ланцугі сацыяльнай і нацыянальнай няволі.

Пажадаю Вам, таварышы, дружна трымацца таго сцяга, які Вам дала вялікая пралетарская рэвалюцыя, а на варце і абароне якога стаіць праўдзівая барацьбітка за вызваленне працоўнага люду ўсяго свету — Камуністычная партыя.

Няхай у Вашых думках вечна жыве адно жаданне — гэта цвёрда і нязломна працаваць для эканамічнага і культурнага падняцця сваёй Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.

## 1927

### У РЭДАКЦЫЮ ГАЗ<ЕТЫ> «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»

Мае ўспаміны будуць крыху бессістэмнымі...

Памятаю: газета ў Смаленску. Калі-нікалі толькі «кантрабандаю» тут, у Мінску, дастанеш «Савецкую Беларусь».

Потым «Савецкая Беларусь» у Менску. Памятаю: бедны Гартны і яшчэ некалькі галодных супрацоўнікаў — гэта рэдакцыя.

Потым Сцяпан Булат...

Самыя шчырыя, самыя чыстыя ўспаміны аб гэтых часах.

І цяпер... юбілей «Савецкай Беларусі»... 2000 нумароў, 2000!

Хто як не «Савецкая Беларусь» рабіла найвялікшы ўплыў на беларускага селяніна, рабочага!

Вітанне газеце!

Мінулае... Цяпер ужо далёкае мінулае. Эпоха «Нашай нівы».

Я праводжу аналогію... Для мяне аднолькава дарагія гэтыя дзве газеты.

Бясспрэчна, гэтым я зусім не хачу параўнаць самую цяжкую, самую рэакцыйную эпоху з разгорнутымі прасторамі жыцця нашай сучаснасці.

«Савецкая Беларусь»!

2000!

Вітанне газеце!

## ГУТАРКА З ЯНКАМ КУПАЛАМ

*Толькі што, варочаючыся ў Менск з лячэння ў Карлсбадзе (у Чэхаславакіі), у Варшаву прыехаў наш найвыдатнейшы пясняр — Янка Купала.*

*Для нас — невялікае беларускае калёніі ў Варшаве — гэта сапраўднае свята. І я ўраз пастараўся пабачыцца з нашым паэтам, пагутарыць з ім ды падзяліцца з вамі тым, што пачую.*

*З першага пагляду маеш уражанне, што лячэнне мала памагло Купале. Відаць на ім нейкую зморанасць. Вельмі пахудзеў.*

*Я засыпаў яго пытаннямі. Перадусім — аб ягонай працы.*

— За апошні час,— адказаў Купала,— я даваў свае вершы ў «Полымя» і іншыя газеты. За вялікшыя рэчы не браўся, бо быў заняты ўпарадкаваннем і пераглядам старых твораў, якія цяпер друкуюцца ў поўным сабранні іх. Пераклаў вось толькі дужа пекную рэч з польскай мовы: гэта — адрывак з песні «O wojnie domowej»[1] Бранеўскага.

— А як ідзе друк Поўнага збору Вашых твораў? — папытаўся я.

— Выйшлі ў свет ужо тры першыя тамы. У першым перадрукаваны: «Жалейка» і «Гусляр»; у другім — «Шляхам жыцця»; у трэцім — драматычныя творы: «Раскіданае гняздо», «Тутэйшыя», «Паўлінка» і «Прымакі». Цяпер друкуецца том чацвёрты, у які ўваходзяць: драматычныя паэмы «Сон на кургане» і «Адвечная песня», мой вершаваны пераклад «Слова аб палку Ігаравым», «На папасе» і нядаўна закончаны мной пераклад

[1] «Аб вайне грамадзянскай».

«Галькі» (тэкст оперы Манюшкі.— *А. К.*). Спадзяюся, што ў беларускім перакладзе «Галька» выйдзе на сцэне дужа ўдала. У далейшых тамах думаю змясціць: у пятым — «Спадчыну», у шостым — «Безназоўнае» і іншыя творы. Урэшце, у асобнай кніжцы, незалежна ад агульнага збору маіх твораў, выйдзе мой пераклад з польскай цудоўнай п'есы Жулаўскага «Эрос і Псіха».

«Перагляд і апрацоўка ўсяго гэтага матэрыялу занялі вельмі многа часу і яшчэ зоймуць, а тут яшчэ і хвароба не дае працаваць!» — жаліўся Купала.

*Я пачаў распытвацца аб творчасці іншых паэтаў, паміж іншым аб згуртаваннях нашых паэтаў і літаратараў, аб якіх глухія весткі даходзілі да нас.*

— Творчасць беларуская багата расцвітае. Працуюць не пакладаючы рук старыя пісьменнікі, ды нарасла цэлая маса новых. Вось апошнія першыя заварушыліся, каб неяк сарганізавацца. Ужо гадоў пяць назад заснавалася першая арганізацыя нашае літаратурнае моладзі пад назовам «Маладняк». Яна ахапіла ўвесь край і сотні маладых паэтаў. Праз нейкі час з «Маладняка» выдзелілася група «Узвышша», да якое з старэйшых пісьменнікаў далучыўся Бядуля. Цяпер творыцца яшчэ адна — «Пробліск».

— Ці кожная група мае свой асобны мастацкі кірунак?

— Не зусім так. Афармленне мастацкіх кірункаў яшчэ толькі пачынае наспяваць,— ды не яно нават, а больш прыпадковыя прычыны выклікалі тварэнне паасобных літаратурных згуртаванняў.

— Як жа адносяцца да гэтых згуртаванняў старэйшыя пісьменнікі?

— Ну, мы — старыкі — стаімо пераважна збоку, кожын ідзе сваім шляхам. Але ўсе адчуваем патрэбу агульнае арганізацыі нашых пісьменнікаў,— ды ў гэным кірунку ўжо робяцца некаторыя крокі. Праектуецца агульная Федэрацыя Беларускіх Пісьменнікаў, у якую павінны ўвайсці і ўсе існуючыя згуртаванні, і паасобныя пісьменнікі, якія йдуць асабняком.

*Мы перайшлі далей на справы выдавецкія, якія ў нас, у Зах<одняй> Беларусі, стаяць, як ведама, вельмі блага. Купала даў жменю характэрных цыфраў для выдавецкай працы ў Радавай Беларусі:*

— За 1926—27 бюджэтны год надрукавана белару с-

кіх выданняў 800 аркушаў (знача: 12 800 стар.). На наступны, 1927—28 год цыфра гэтая значна павялічана.

Асаблівая ўвага звернена на падручнікі. За ўкладанне іх узялося вельмі горача настаўніцтва. Лепшыя падручнікі друкуюцца адразу ў ліку ад 50 да 100 тысяч экземпляраў. Ведама, пры такіх лічбах праца аўтараў аплачваецца вельмі добра.

*У канцы гутарка перайшла на падарожныя ўражанні Купалы. Разам з ім і ягонай жонкай былі ў Карлсбадзе такжа Цішка Гартны, Міхась Чарот і Зарэцкі.*

*На гэтым закончылася мая гутарка з Купалам, які гэтымі днямі едзе ўжо ў Мінск.*

## 1928

### АД ІНБЕЛКУЛЬТА — ДА АКАДЭМІІ НАВУК

У сваім вялікім паходзе па адбудаванні культуры на руінах былой царскай Расіі Савецкая ўлада на працягу ўжо 11 год нідзе ні на адзін момант не затрымалася на паўдарозе.

Перайменаванне Інстытута беларускае культуры ў беларускую Акадэмію навук — далейшая ступень творчага размаху нашае ўлады ў нацыянальна-культурнай галіне.

За 10 год з тэрміналагічнай камісіі да Акадэміі навук — гэта размах, на які пры іншым палітычным ладзе патрабаваліся б гады, а можа, і сотні год. Гэта можа пацвердзіць хоць бы нацыянальна-культурная палітыка, якая праводзіцца недалёка ад нас — за пагранічнымі слупамі, дзе не толькі не ствараюць акадэмій, а разбураюць нават беларускія школы, пабудаваныя на апошнія капейкі саміх жа грамадзян.

Таму кожны сумленны грамадзянін БССР з захапленнем прывітае новую кветку ў бяссмертным вянку культурнага будаўніцтва ў БССР — беларускую Акадэмію навук.

## 1929

### ВІЛЬНЯ. РЭДАКЦЫІ «ШЛЯХ МОЛАДЗІ»

Без майго дазволу Вы ўзялі ў якасці motto Вашай часопісі чатыры радкі з майго старога верша. Палітычны напрамак В<ашай> часопісі не адпавядае маім сучасным пераконанням, бо, як я бачу са зместу часопісі, яна мае сваёй мэтай затлуміць галовы працоўнай моладзі, прывабіць яе беларускай мовай, каб лягчэй ашукаць і ўпрэгчы ў панскі фаэтон. А Вы б тады, седзячы на козлах і стоячы на запятках гэтага фаэтона, хрысцілі б гэтую моладзь бізуном. Я катэгарычна патрабую зняць вершы і мой подпіс, якія ўзяты так жульніцкі і нахабна падпанкамі Шутовічамі і пастаўлены поруч з ненавіснай мне буржуазна-нацыяналістычнай «пагоняй».

Я вітаю рэвалюцыйную моладзь Заходняй Беларусі, якая сваёй барацьбой паказвае сапраўдны шлях працоўнай моладзі Заходняй Беларусі ў яе барацьбе за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне.

## 1930

### ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Паважаны рэдактар!

Надрукуйце, калі ласка, у сваёй газеце ніжэйпададзенае.

I

Дарагія таварышы! Пры Савецкай уладзе я пражыў усяго толькі дзве пяцігодкі і пачаў трэцюю, і ўжо ў такі кароткі тэрмін і ўлада, і працоўнае грамадзянства Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аддае сваю вялікую ўвагу і праўдзівую прыхільнасць да маёй скромнай пісьменніцкай працы, спраўляючы ўрачыста ў другі раз мой літаратурны юбілей.

Юбілеі, таварышы, я не сказаў бы, каб надта была вялікая пацеха для таго, каму яны прысвечаны,— мінулыя гады не вяртаюцца! Але, аднак, для мяне гэта — вялікае і надзвычайнае шчасце, бо юбілей мой праходзіць у краіне, дзе вызваленыя з-пад нявольніцтва людзі будуюць супольна новае, не рабскае жыццё.

У другі раз юбілейных угодкаў мне прыходзіцца выказваць перад усім светам сваю бязмерную ўдзячнасць і Савецкай уладзе, і савецкай грамадскасці за ўсё тое добрае і радаснае, што ■ атрымаў на зямлі, над якой сонечна красуецца непакорны сцяг непераможнага Кастрычніка.

Я кажу, таварышы, што, пакуль хопіць маіх сіл, я не сыду з таго шляху, па якім ішоў да сягонняшніх векапомных бурлівых дзён,— заўсёды наперад і наперад! Бяда і гора маё і ўсяго працоўнага люду беларускага адыходзіць усё далей — у нябыт, а шпаркім крокам творыцца квяцістае беспрыгоннае бытаванне, абы толькі шчырай працай і безаглядпай адданасцю ленінскім заветам дапамагаць хутчэйшаму набліжэнню гэтай светлай часіны!

Мне толькі смутна, таварышы, што там — «за слупамі з арламі» — беларускі рабочы і сялянка-парабчанка не толькі не могуць справіць вольна ў грамадзе маёй гадавіны, але што там нават за чытанне маіх друкаваных думак садзяць бязлітасна ў астрог.

Я пажадаю ад шчырага сэрца сваім малодшым таварышам-пісьменнікам, каб яны дажылі святкавання сваіх юбілеяў, калі ўжо там — «за слупамі з арламі» — над беларускай вызваленай грамадой будзе разvяvацца чырвоны штандар з агністым надпісам — БССР!

II

Ад усяго сэрца дзякую савецкім і грамадскім установам і арганізацыям, а таксама ўсім паасобным таварышам, якія так чула і прыязна ўспомнілі мяне добрым словам у час дваццаціпяцігадовага юбілею маёй літаратурнай працы на ніве беларускай.

Асобна тут выказваю сваю сардэчную ўдзячнасць і падзяку за брацкія віншаванні дарагім маскоўскім таварышам: Феліксу Кону, А. Луначарскаму, Арц<ёму> Халатаву і інш.

Старшыні ЦВК СССР і БССР т. А. Чарвякову

Таварыш Старшыня!

Яшчэ раз перад смерцю заяўляю, што ■ ў ніякай контррэвалюцыйнай арганізацыі не быў і не збіраўся быць. Ніколі не быў контррэвалюцыянерам і да контррэвалюцыі не імкнуўся. Быў толькі паэтам, які думаў аб шчасці Беларусі. Я ўміраю за Савецкую Беларусь, ■ не за якую іншую.

Верш мой «Паўстань» справакавалі:

1. Лёсік, надрукаваўшы яго побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму, аб чым я не ведаў, бо быў на вёсцы.

2. Шыла, які асвятліў Дзям'яну Беднаму гэты верш у правакацыйным сэнсе.

3. Я сам, змясціўшы я<го> ў зборніку, не прыдаўшы гэтаму палітычнага значэння.

Я вельмі прасіў бы рэабілітаваць мяне перад працоўнымі Сав<ецкай> Беларусі. Гэта можна лёгка зрабіць. Верш, змешчаны ў зборніку, мной выпраўлены.

Прасіў бы вырваць гэты верш і кніжку выпусціць.

Яшчэ адна просьба да Вас. Заапякуйцеся маймі сем'ямі, што тут у Менску і ў Барысаве. Я ўміраю з цвёрдай верай у вечнае існаванне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Папрасіце ГПУ, каб не цягалі маей жонкі. Яна таксама, як і я, ні ў чым не павінна.

Бібліятэку сваю перадаю Бел<арускай> Дзяржаўнай бібліятэцы.

Шчыра дзякую за ўсё тое добрае, што для мяне зрабілі.

Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная.

Відаць, такая доля паэтаў. Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну, і мне туды за імі дарога.

Шкадую толькі, што не змагу болей прымаць удзел у вялікім будаўніцтве, якое разгарнула партыя і Сав<ецкая> улада ў БССР.

Няхай жа жыве гэта новае творчае жыццё для шчасця ўсяго чалавецтва!

*Янка Купала*

Памылкі свае, такія ці іншыя, я збіраўся выправіць, але не паспеў.

*Я. К.*

Паважаны тав. рэдактар, прашу змясціць у вашай газеце наступнае:

Адбываюцца нечуваныя, грандыёзнейшыя ў гісторыі чалавецтва падзеі. У СССР, адзінай на ўсім свеце краіне пралетарскай дыктатуры, рабочы клас у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі рэальна ажыццяўляе заветныя ідэалы найгеніяльнейшых настаўнікаў і правадыроў працоўнага люду — Маркса і Леніна, пераможна, з нявіданым творчым энтузіязмам і запалам будуе сацыялістычнае грамадства. Але шлях гэтага будаўніцтва нялёгкі.

Капіталістычны свет усё з большай і большай трывогай, азвярэннем і нянавісцю сочыць за гэтай сацыялістычнай будоўляй, добра ведае і адчувае, што справядлівай гісторыяй ужо палічаны апошнія гадзіны яго існавання. І не толькі сочыць. Імперыялістычная заграмічная буржуазія адзіным фронтам з рэшткамі капіталістычных элементаў у СССР напружвае ўсе свае сілы для таго, каб перашкодзіць гэтай творчай рабоце працоўных мас, каб знішчыць сацыялістычную дзяржаву — апору сусветнага рэвалюцыйнага пралетарыяту ў яго барацьбе за вызваленне з-пад ярма рабства і эксплуатацыі. Буржуазія, як замежная, так і ўнутраная, не пера-бірае ніякімі метадамі і сродкамі барацьбы супроць СССР. Шкодніцтва, дыверсія, шпіёнства, інтэрвенцыя — усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны сацыялізму, як індустрыялізацыя і калектывізацыя, абы толькі ўзарваць пяцігадовы план, які ажыццяўляецца нечуваным уздымам і захапленнем рабочага класа і бядняцка-серадняцкага сялянства пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі. Адгэтуль незвычайнае абвастрэнне класавай барацьбы, адгэтуль шалёнае супраціўленне капіталістычных элементаў усім пачынанням і мерапрыемствам Савецкай улады.

Арэнай такой абвостранай класавай барацьбы з'яўляецца, зразумела, і БССР. Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю збіральніка і арганізатара контррэвалюцыйных сіл, ролю застрэльшчыка сусветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмакратызм, выступаючы пад сцягам ліквідацыі ўсіх заваяванняў Кастрычніцкай рэвалюцыі, пад сцягам рэстаўрацыі бур-

жуазнага ладу, звароту капіталістам фабрык і заводаў, памешчыкам — зямлі, пад сцягам падняволення рабочых і сялянскіх працоўных мас.

Для здзяйснення гэтай мэты група контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратычных інтэлігентаў, у хаўрусе і пад кіраўніцтвам заходнебеларускага нацыянал-фашызму, гэтай агентуры польскага імперыялізму, на працягу рада год вяла шкодніцкую контррэвалюцыйную работу амаль на ўсіх участках сацыялістычнага будаўніцтва, накіроўваючы галоўныя ўдары, аднак, па лініі культуры і зямельнай эканомікі. Пранікаючы і стараючыся паступова прыбіраць у свае рукі найадказнейшыя ўчасткі савецкага дзяржаўнага апарату (Наркамасветы, Наркамзем, БДВ і г. д.), контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмакраты спадцішка, але няўхільна падточвалі сацыялістычныя элементы савецкай дзяржаўнасці, падменьваючы іх нацыянальна-буржуазнымі.

Асаблівую ўвагу аддавалі яны разбурэнню таго адзінства, той інтэрнацыянальнай базы, на грунце якой працоўныя масы ўсіх нацыянальнасцей СССР злітнымі калонамі ідуць па шляху да сацыялізму. Лозунгу аб'яднання рабочых і сялян-беднякоў і серадтнякоў — розных нацыянальнасцей Савецкага Саюза пад ленінскім сцягам — контррэвалюцыйныя беларускія нацыянал-дэмакраты супрацьставілі лозунг самабытнасці беларускай нацыі, сепаратысцкага раз'яднання, нацыянальнага антаганізму, каб гэтым самым аблягчыць сваёй нацыянальнай буржуазіі перамогу, панаванне і ўгняценне беларускіх працоўных мас. У гэтай контррэвалюцыйнай рабоце беларускія нацыянал-дэмакраты апіраліся, з аднаго боку, на кулацтва, якое ліквідуецца ва ўмовах калектывізацыі як клас, а з другога боку — на зарубежныя сілы, і гэтым пракладвалі шлях для інтэрвенцыі, бо яны добра ведалі, што не ўласнымі сіламі, а толькі пры збройным падтрыманні замежнай інтэрвенцыі змогуць знішчыць ненавісную ім дыктатуру пралетарыяту, каб падмяніць яе дыктатурай капіталу. Якую ролю я асабіста і мая літаратурная творчасць адыгралі ў гэтай контррэвалюцыйнай дзейнасці беларускага нацыянал-дэмакратызму?

На літаратурную ніву я ўступіў у 1905 г., надрукаваўшы свой першы верш «Мужык». Мэта, якую ставіў я перад сваёй паэтычнай творчасцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і пад-

няволле батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі, якая горка пакутавала пад сацыяльным і нацыянальным гнётам крывавага царызму. Але, пачаўшы з 1908 г., у часы самай чорнай рэакцыі, працаваць у «Нашай ніве», я падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму, захапіўся гэтымі адраджэнскімі ідэямі нацыянал-дэмакратычнай дзяржаўнасці і пачаў іх адбіваць у сваёй далейшай творчасці, апяваючы, як нешта цэлае, пазакласавае, беларускі «народ», ідэалізуючы ў некаторых сваіх творах гістарычнае мінулае, значыцца, феадальна-паншчыннае Беларусі, зацямняючы гэтым самым класавую сутнасць сацыяльнай і нацыянальнай барацьбы за вызваленне, якая і ў гэты перыяд хоць прыдушана, але хвалявалася, узбуралася ў імкненнях і парывах працоўных мас (нелегальная рэвалюцыйная літаратура, забастоўкі і гэтак далей).

Гэтае захапленне дробнабуржуазнымі нацыянал-дэмакратычнымі ідэаламі прычынілася таму, што я і ў першыя гады Кастрычніцкай рэвалюцыі не змог ад іх пазбавіцца ды ўразумець і ўсвядоміць усю веліч і гістарычную немінучасць пралетарскай рэвалюцыі, якая адна несла сапраўднае сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўным былой царскай Расіі, у тым ліку і Беларусі. Дзякуючы гэтаму свайму асляпленню, з'явіліся мае такія творы з ярка нацыянал-дэмакратычнымі настроямі, як, напрыклад, «Паўстань», «Перад будучыняй», п'еса «Тутэйшыя» і інш.

Камуністычная партыя і Савецкая ўлада даравалі мне гэтыя грубыя нацыянал-дэмакратычныя памылкі ў маёй творчасці. І за мае ранейшыя заслугі перад беларускім працоўным людам надалі мне высокую годнасць народнага паэта. І ў апошнія гады я ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасцю да вялікага сацыялістычнага будаўніцтва, якое так магутна разгортваецца ў нашай краіне, прыкладам, творы: пераклад «Інтэрнацыянала», «На смерць С. Булата», «Безназоўнае», «Арлянятам», «Дзве сястры» (аб работніцы і сялянцы), «Шляхам гадоў», «З угодкавых настрояў» (на дзесяцігоддзе Кастрычніцкай рэвалюцыі), «На могілках вяякаў» (да дзесяцігоддзя БССР), «Дыктатура працы», «Працай дружнай, калектыўнай» (аб выстаўцы) і інш. Але ўсё ж такі ў гэтым напрамку я зрабіў вельмі мала,

не зважаючы на тыя магчымасці, якія мне давала партыя і Савецкая ўлада.

Прасякнуты нацыянал-дэмакратычнай заразай, прышчэпленай мне нашаніўскім перыядам маёй літаратурнай працы, калі я стаў быў адным з ідэолагаў буржуазна-дэмакратычнага «адраджэнства» і «незалежніцтва», я і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі не адмежаваўся, як гэта належала, ад акружаючага мяне нацыянал-дэмакратычнага асяродзішча, а быў уцягнуты ім і прыняў самы блізкі ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце віднейшых беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якія на грунце Канстытуцыі Савецкай Беларусі, скарыстаўшыся давер'ем, якое аказана было ім з боку Савецкай улады, прыкрываючыся хлусліва заслонай фальшывых, крывадушных дэкларацый і запэўненнем, праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмакратычныя ідэі на культурным фронце.

Працуючы ў навукова-тэрміналагічнай камісіі, у Інбелкульце БАН, гэтых кіруючых штабах беларускага нацыянал-дэмакратызму, бачачы сваімі вачыма іхнія несумяшчальныя з інтарэсамі беларускіх працоўных мас і запатрабаваннямі партыі, Савецкай улады ўстаноўкі і мерапрыемствы ў культурным будаўніцтве, я не толькі ні разу не асудзіў іх, але, наадварот, маральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.

Але гэты этап пройдзен. Цяпер я бачу ўсю шкоднасць і гібельнасць таго шляху, на якім памыкаліся беларускія нацыянал-дэмакраты павярнуць ход гісторыі. Гіганцкімі крокамі ідзе культурнае і эканамічнае будаўніцтва Беларусі. Краіна, быўшая ўвасабленнем рабства, убоства і беспрасветнай цемры, ператвараецца ў краіну вольнай працы. На месцы некалі гнілых дрыгвяных балот вырастаюць фабрыкі, заводы, электрастанцыі. На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца калгасныя нівы, навейшыя дасягненні агранаміі, тэхнікі і пладатворчай калектыўнай працы. На месцы народнай цемры вырастаюць безупынна ўсё новыя і новыя культурныя і навуковыя і навучальныя ўстановы.

Будуецца сацыялізм.

Балюча і цяжка ўсведамляць мне сёння, што я, адарваўшыся ад здаровага творчага асяродзішча рэвалюцыйных пралетарскіх працоўных мас і ўвесь час утапаючы ў пратухлым балоце акружаючых мяне контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратычных «дзеячоў» з

авантурыстычным палітычным мінулым, я так слепа, так упарта на працягу рада год ідэалагічнымі памылкамі ў сваёй творчасці, папулярнасцю і аўтарытэтам, як народны паэт, не дапамагаў з усёй адданасцю і захапленнем ажыццяўленню заветных летуценняў чалавецтва, ажыццяўленню сацыялізму.

Балюча і цяжка. Але гэты чад, як сон кашмарны, мінуў. Сёння, пранікнуты яснай свядомасцю паэта і грамадзяніна, я рашуча і раз назаўсёды, як у сваёй літаратурнай творчасці, так і ў сваіх імкненнях і грамадскай дзейнасці, парываю з беларускім нацыянал-дэмакратызмам ва ўсіх яго праяўленнях.

У нашу векапомную эпоху гераічнага змагання пралетарыяту за вызваленне працоўных з-пад няволі капіталізму, калі пралетарыят усё старое ністожыць і на руінах гэтага старога будуе новае, сацыялістычнае існаванне,— праступна ўваскрашаць мінулае, прасякнутае нявольніцка-буржуазнымі капіталістычнымі традыцыямі, праступна ўтвараць нацыянальную адмежаванасць, асноўваючыся на самабытнасці, гэта значыць на пазакласавасці якой бы ні было нацыі ці народа.

Парываючы сам катэгарычна і беспаваротна ідэйна і арганізацыйна з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, як з нейкай хваробліваи зданню, якая паланіла мяне на працягу доўгіх год майго свядомага жыцця, я шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для той часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ не зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмакратычнага шалупіння, якая канчаткова не прыйшла да перакапання, што толькі працуючы пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, гэтага авангарда рабочага класа, толькі аддаючы свае сілы на сацыялістычнае будаўніцтва, яна не будзе адмецена жыццём як агідная памятка рабскага мінулага.

Усе сілы — сацыялістычнаму будаўніцтву на зацвітаючай новымі агняцветнымі краскамі індустрыяльна-калгаснай глебе Савецкай Сацыялістычнай Беларусі!

Няхай жыве культура, змест і форма якой выпісаны на ленінскім сцягу найвялікшым сучасным правадыром пралетарыяту т. Сталіным, культура — пралетарская па сваім змесце, нацыянальная па форме!

Няхай жыве Камуністычны Інтэрнацыянал, гэты адзіны загартаваны правадыр, які вядзе чалавецтва да новага, светлага, радаснага жыцця!

Няхай жыве Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка — адзін з краевуглавых каменняў Савецкага Саюза!

Няхай жыве СССР, братняя дапамога якога забяспечвае нявіданыя і нечуваныя тэмпы развіцця Савецкай Сацыялістычнай Беларусі!

## 1931

### ВЫ ПРАЦЯРЭБЛІВАЕЦЕ ШЛЯХІ ДА СУСВЕТНАЙ ПРАЛЕТАРСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Дарагі Аляксей Максімавіч!

Калісь, 20 з лішнім год таму назад, калі бушавала царская нагайка, Вы адзін з першых адгукнуліся на маю першую кніжку вершаў «Жалейка», даўшы аб маёй творчасці вельмі прыхільны і чулы водклік. Вы першы з расійскіх пісьменнікаў далі свой пераклад аднаго майго верша. Гэткія чуткія, братнія адносіны аднаго з найвялікшых сусветных пісьменнікаў засталіся для мяне на ўсё жыццё самым светлым успамінам.

Сёння, у дзень, калі Вам мінула 63 гады Вашага карыснага для ўсяго чалавецтва жыцця, дазвольце і мне далучыцца да ўсеагульнага святкавання пралетарыятам Вашай гадавіны і выказаць свае самыя шчырыя пажаданні.

Ваш магутны буравесніцкі голас гулкім рэхам разлятаецца па ўсім свеце і наганяе жудасную трывогу і бяссільную злосць на ўсіх ворагаў пралетарскай дыктатуры.

Вы, Аляксей Максімавіч, са сваім востра адточаным, загартаваным пяром з'яўляецеся сёння адным з наймудрэйшых і найздатнейшых цесляў, якія канчаткова чэшуць асінавы кол у магілу рабаўласніцкага капіталізму. Нездарма прадажная зграя лёкаяў сусветнага капіталу

падняла такое выццё за Вашы гарачыя выступленні ў абарону Краіны Саветаў, адзінай пакуль што Бацькаўшчыны працоўных усяго свету.

Выкрываючы ў сваіх агністых артыкулах інтэрвенцкія планы крыважаднай капіталістычнай Еўропы, Вы гэтым самым устрасаеце падваліны капіталістычнага ладу і працярэбліваеце шлях да сусветнай пралетарскай рэвалюцыі.

Выказваючы сваё праўдзівае абурэнне супраць цкавання буржуазнымі пісакамі Вашага добрага і слаўнага імені, шчыра вітаю Вас, Аляксей Максімавіч, і жадаю ад сэрца дажыць Вам да таго часу, калі пралетарыят на ўсім свеце возьме ўладу ў свае заслужоныя рукі.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ <ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА»>

Метады і спосабы змагання беларускіх нацыянал-фашыстаў Заходняй Беларусі з дыктатурай пралетарыяту і ўладай Саветаў усім добра вядомы, гэта — правакацыя, прыслужніцтва польскай дэфензіве, падбухторванне да інтэрвенцыі супраць СССР і г. д. Апошняя правакацыя гэтых ягамосцяў па сваёй нагласці перавышае бадай усе іншыя, ім падобныя.

У беларускіх контррэвалюцыйных нацыянал-фашысцкіх газетах — «Беларускі звон» ад 26.II<19>31 г. і «Беларуская крыніца» ад 20.II<19>31 г. было надрукавана, што я нібы быў арыштаваны і пакончыў жыццё самагубствам. «Бел<арускі> звон» ухітрыўся нават змясціць мой партрэт у чорнай, жалобнай рамцы ды яшчэ і некралог напісаць. Што гэта знача? Гэта знача паказаць па-правакатарску «сваім» чытачам, што ў Краіне Саветаў нялёгка жывецца нават пісьменнікам.

Я катэгарычна пратэстую проці такой агіднай хлусні. Ніколі ніхто мяне пры Савецкай уладзе не арыштоўваў, і ніколі я не паміраў. Доказам для вас, паны нацыянал-фашысты, служаць хоць бы гэтыя радкі, якія я сам пішу. Вашай апекі і вашага заступніцтва мне не патрэб-

на. З боку Камуністычнай партыі і Савецкай улады як карыстаўся, так і карыстаюся самымі прыхільнымі і ўважлівымі адносінамі. Жыву я пад аховай законаў дыктатуры пралетарыяту, законаў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ўмешванне ў маё жыццё з боку зарубежнай белагвардзейшчыны буду заўсёды разглядаць як самую злосную правакацыю.

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, у якой я жыву і працую, вядзе ў цеснай братняй сувязі з усім Савецкім Саюзам вялікае, нечуванае ў свеце сацыялістычнае будаўніцтва. У гэтым будаўніцтве я прымаю і буду прымаць самы шчыры ўдзел, не зважаючы ні на якія зламысныя выпады беларускіх і іншых контррэвалюцыянераў-фашыстаў.

Яшчэ адно. Не магу змоўчыць і павінен тут выказаць свой гарачы пратэст і вялікае абурэнне супраць таго, як яны, гэтыя беларускія нацыянал-фашысты, служаць сацыяльна-нацыянальнаму вызваленчаму руху Зах<одняй> Беларусі, якая стогне пад пятою акупантаў. Гэта ў справе Б. Тарашкевіча. Гэты праўдзівы змагальнік за лепшую, светлую будучыню працоўных мас Заходняй Беларусі быў правакацыйна схоплен жандармерыяй Пілсудскага ў экстэрытарыяльным вагоне і кінуты ў турму. Супраць гэтага агіднага здрадніцкага ўчынку польскага фашызму беларускія нацыянал-фашысты не толькі не выказалі свайго абурэння і пратэсту, а наадварот — засталіся з гэтым фактам салідарны.

Также не магу прамаўчаць выступлення пана Астроўскага, аб якім паведамляе «Кур'ер Віленскі» ад 24 сакавіка г. г., дзе гэты нацыянал-фашыст, па сутнасці справы, ганебна таргуецца з крывавым генералам Жалігоўскім аб яшчэ большым угняценні беларускага працоўнага люду з мэтай запрадання Заходняй Беларусі ў панскую няволю і падрыхтоўкі да нападу ў будучыні на БССР.

За такія ўчынкі, панове нацыянал-фашысты, гісторыя помсціцца.

P. S. Прашу газеты Зах<одняй> Беларусі, якія, не ў прыклад вышэйпамянёным, маюць грамадскае сумленне, перадрукаваць гэты ліст.

## ДАСЦІГНЕМ НЯВІДАНЫХ СУСВЕТНЫХ ПОСПЕХАЎ

Гістарычная Пастанова ЦК УсеКП(б) аб рэарганізацыі літаратурна-мастацкіх арганізацый мае не толькі ўсесаюзнае, але і сусветнае значэнне.

Калі ў галіне індустрыяльнага і сельскагаспадарчага сацыялістычнага будаўніцтва Краіна Саветаў пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі дасцігла небывалых і нечуваных поспехаў на страх і здзіўленне адміраючаму капіталістычнаму свету, то ў галіне літаратуры і мастацтва гэтакіх поспехаў і такога шпаркага развіцця не адчувалася.

Новы напрамак, які надае Пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасцігнем нявіданых сусветных поспехаў.

Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, якія стаялі па-за пралетарскімі пісьменніцкімі арганізацыямі, само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікае эпохі.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ <ГАЗЕТЫ «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»>

У звязку з маім пяцідзесяцігоддзем ад дня нараджэння ў польскім і заходнебеларускім фашыстоўскім друку змешчаны матэрыялы, якія маюць выразна правакацыйны характар.

Польскі фашызм, які рыхтуе інтэрвенцыю супраць СССР і бязлітасна душыць рэвалюцыйны рух пралетарскіх і сялянскіх працоўных мас — як самой Польшчы, так і падняволеных ёй народнасцей,— у гэты самы час імкнецца з дапамогаю кулацка-буржуазнай верхавінкі акупаванае Беларусі стварыць арганізацыі, якія выступаюць нібыта ад імя беларускага народа.

Гэтыя арганізацыі, якія ні адным словам не пратэстуюць супраць крывавай расправы над працоўнымі За-

ходняй Беларусі, як мага стараюцца дапамагчы інтэрвенцыі супраць СССР. Яны злосна распаўсюджваюць правакацыйныя лозунгі аб вызваленні беларускіх працоўных мас, якіх нібыта прыгнятаюць бальшавікі.

У той час як там, за мяжой, на шыбеніцах гінуць лепшыя працоўныя Заходняй Беларусі,— яны, беларускія нацыянал-фашысты, разам з польскім фашызмам рыхтуюць новы напад салдатні Пілсудскага, каб вырваць сапраўдную свабоду і тыя вялікія гаспадарчыя і культурныя дасягненні, якія здабылі працоўныя БССР пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі і Савецкай улады.

Беларускія нацыянал-фашысты, робячы справу польскага і сусветнага імперыялізму, стараюцца выкарыстаць і мой пяцідзесяцігадовы юбілей для сваіх агідных, правакацыйных мэт. Яны распаўсюджваюць чуткі, што нібыта бальшавікі прымушалі мяне пісаць, як пішу я цяпер.

Я з абурэннем адкідаю гэтую фашыстоўскую хлусню і ўсякія плёткі аб тым, што я калі-небудзь быў праціўнікам Камуністычнай партыі і Савецкай улады.

Я пратэстую супраць юбілейнага фарса, які наладжваюць у мой гонар тыя, чые рукі ў крыві працоўных Заходняй Беларусі.

У дзень майго юбілею я з глыбокім болем у сэрцы думаю аб тым жудасным прыгнечанні, пад якім стогнуць працоўныя масы Заходняй Беларусі, і заклікаю іх да змагання за поўнае нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне.

Я заклікаю іх стаць пад адзіны сцяг барацьбы, пад сцяг Камуністычнае партыі Заходняй Беларусі і ў саюзе з працоўнымі Польшчы і ўсіх падняволеных яго народаў здабываць сабе тую свабоду, якую маюць іх браты ў СССР — у краіне дыктатуры пралетарыяту.

Я звяртаюся да беларускай працоўнай інтэлігенцыі, каб яна, зразумеўшы і выкрыўшы праўдзівую сутнасць ашуканскіх манеўраў беларускіх нацыянал-фашыстаў, змагалася рука ў руку з пралетарыятам і працоўным сялянствам.

Польскі імперыялізм хоча сарваць наша мірнае будаўніцтва новага, сацыялістычнага ладу і затапіць у крыві вызваленчы рух Заходняй Беларусі.

Я заклікаю да агульнай дружнай абароны СССР і да

рашучых пратэстаў супраць дзікага прыгнечання працоўных мас Заходняй Беларусі.

Ганьбячы здрадніцкую работу нацыянал-фашызму, я заяўляю, што адзіны шлях да канчатковага вызвалення працоўных мас — ёсць шлях камунізму.

З гэтага шляху я асабіста ніколі не сыду і заклікаю ўсіх змагароў за лепшую, светлую будучыню ісці па ім цвёрда да канчатковай перамогі.

Усе свае сілы і здольнасць я аддаю і аддам на вялікую справу пабудовы сацыялізму і вызвалення працоўных усяго свету.

## «УСЕ СВАЕ СІЛЫ, УСЕ СВАЕ ПАРЫВЫ ДУМАК І СЭРЦА АДДАЮ НА АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ ГЭТАЙ ВЯЛІКАЙ ІДЭІ — ПАБУДОВЫ САЦЫЯЛІЗМУ...»

Дарагія таварышы!

Былі недахопы і хібы
На шляху да новай сялібы,
Да новых, расквечаных дзён,
І крыўды былі немалыя,
У годы-нягоды — ў былыя,
Але ўсё мінула, як сон.
Сягоння іначай, іначай —
І сэрца не ные, і вочы не плачуць,
І хочацца жыць і тварыць
Для новых, расквечаных дзён.

Ад шчырага сэрца прыношу сваю гарачую падзяку Камуністычнай партыі, Савецкай уладзе, грамадскім арганізацыям і вам, таварышы, якія сабраліся тут, за ўспамін пра гадавіну майго паўвяковага жыцця.

Камуністычная партыя і Савецкая ўлада ўжо не адзін раз давялі на справе правільнасць правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі. І сённяшні мой юбілей таксама сведчыць пра гэта.

Калі там, у Заходняй Беларусі, скрыпяць вісельні і ў турмах стогнуць лепшыя барацьбіты за вызваленне,— у нас, у БССР, звіняць прызыўныя песні нечуванага творчага ўздыму да новай, светлай будучыні. І толькі

там, за мяжой, здольны распаўсюджваць усякую правакацыйную хлусню пра жыццё ў БССР і, у прыватнасці, пра адносіны да мяне Савецкай улады. На гэтую подлую брахню польскіх і беларускіх нацыянал-фашыстаў я даў учора свой адказ у лісце да рэдакцый нашых газет.

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка г. г. дала вялікія магчымасці да шырокага разгортвання літаратурнай працы ўсіх нацыянальных рэспублік нашага Саюза.

Я спадзяюся, што і літаратурная грамадскасць БССР на аснове гэтай Пастановы праявіць сябе высокамастацкімі творамі, годнымі нашай вялікай эпохі, на карысць сацыялістычнага будаўніцтва.

Я ўжо гаварыў і паўтараю, што ўсе свае сілы, усе свае парывы думак і сэрца аддаю на ажыццяўленне гэтай вялікай ідэі — пабудовы сацыялізму.

І вы, моладзь, якая радзілася ў агнях Кастрычніка, павінны пад кіраўніцтвам бацькоў-камуністаў упарта змагацца за высунутую імі ідэю — поўную перамогу камунізму ва ўсім свеце.

Раз'юшаная зграя капіталістычнага свету, бачачы сваю немінучую гібель, усялякімі спосабамі рыхтуе інтэрвенцыю на адзіную Бацькаўшчыну працоўных — Савецкі Саюз. Наш абавязак — абавязак усяго свядомага грамадства СССР — змагацца супроць драпежных планаў імперыялістаў і ў кожную мінуту стаць са зброяй у руках на абарону кастрычніцкіх заваяванняў.

Усе найвялікшыя розумы свету ў гэты гістарычны час барацьбы дзвюх сацыяльных сістэм сталі на наш бок, а гэта з'яўляецца лепшай сведкай нашых перамог.

Антываенны кангрэс, які адбыўся ў Амстэрдаме па закліку Анры Барбюса, Рамэна Ралана, Максіма Горкага, вызначыў сапраўдныя шляхі барацьбы супроць вайны і паказаў працоўным усяго свету камедыйнасць Жэнеўскай «мірнай» канферэнцыі.

Буйное развіццё індустрыі і сельскай гаспадаркі Савецкай Беларусі, як і ўсяго Савецкага Саюза, нечуваны рост культуры, навукі, літаратуры, мастацтва яскрава сведчаць аб тых вялікіх дасягненнях, якія магчымы былі стварыцца толькі пры Савецкай уладзе, пры дыктатуры пралетарыяту, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі.

Далей жа, таварышы, наперад, за стварэнне бяскласавага грамадства, за перамогу сацыялізму ва ўсім свеце!

Няхай жыве культура — нацыянальная па форме і сацыялістычная па змесце!

Няхай жыве БССР у брацкім саюзе ўсіх рэспублік вялікага Савецкага Саюза!

Няхай жыве Камінтэрн — адзіны правадыр пралетарыяту ўсяго свету!

## МАКСІМУ ГОРКАМУ

Слаўны, нечувана слаўны шлях прайшлі Вы, Аляксей Максімавіч, за сорак год сваёй бурнай, магутнай рэвалюцыйна-літаратурнай творчасці, рэвалюцыйна-грамадскай дзейнасці.

Сонца ўзыходзіла, сонца заходзіла, а Вы, як той легендарны Праметэй, сваімі агністымі, перуновымі словамі распальвалі сэрцы, разбунтоўвалі думкі да вялікага змагання, змагання за вызваленне чалавецтва з адвечных ланцугоў няволі, ланцугоў няроўнасці, ланцугоў панавання чалавека над чалавекам.

Але Праметэя легенда прыкавала да каўказскай скалы, і ён не пабачыў нявыказанай карысці святла для ўсяго жывога на жыватворчай зямлі. Доля ж Ваша, Аляксей Максімавіч, іншая: над Вамі сягоння шалясцяць чырвоныя сцягі небывалай, гераічнай перамогі шостай часткі свету над сацыяльным і нацыянальным рабствам, і Вы сваімі яснымі вачыма бачыце гэтую перамогу, перамогу, дзе ёсць і Ваша заслуга, заслуга Вашага творчага генія.

Па разбушаваным моры хваля за хваляй, вал за валам біліся аб недаступныя, непаддатныя скалы, на якіх адны арлы гаспадарылі. На прасторах неўгамоннага жыцця разбівалася аб Вашу непахіласць, аб Вашу ясназорную сумленнасць усё абманнае, усё нікчэмнае, і Вы смела і горда пяялі «Песню аб Сокале», прарочылі «Буравесніка» ўсяму скаванаму свету.

Думы Вашы, заклікі Вашы, сягаючы ўсюды, дзе

толькі «сонца ўзыходзе і заходзе», далятали і ў краіну, дзе адно нявольніцтва і цемра вілі сабе жудаснае панаванне. Рэвалюцыя з Усходу змяла назаўсёды няволю і цемру з гэтай краіны. І сягоння добрым словам, шчырым сэрцам святкуе Ваша савята вольная Беларуская Сацыялістычная Рэспубліка.

«Безумству храбрых поем мы славу!»

# 1933

## «СВОЮ СУДЬБУ Я НАВСЕГДА СВЯЗАЛ С СУДЬБОЙ ПРОЛЕТАРСКОЙ РЕВОЛЮЦИИ...»

Товарищи, я не оратор. Мне тяжело и непривычно выступать перед большой аудиторией. Поэтому я ограничусь несколькими мыслями, имеющими, на мой взгляд, значение для литературы всех народов СССР.

И на первом, и на втором пленумах Оргкомитета Союза советских писателей мы отмечали огромнейший рост советской литературы в результате реализации Постановления ЦК нашей партии от 23 апреля. Мы являемся свидетелями и участниками дальнейшего роста творческой и политической активности писателей и драматургов всех наших республик и сплочения их вокруг Коммунистической партии большевиков.

Я рад заявить с трибуны второго пленума, что старейшее поколение писателей Советской Белоруссии, в том числе и я, активно включилось своим творчеством в социалистическое строительство, в создание под руководством партии культуры, социалистической по содержанию и национальной по форме. За последние годы своей работы я неоднократно доказал это, насыщая свои стихи ненавистью к классовому врагу («А в Висле плавает утопленник», «Суд идет» и другие) и горячим желанием помочь скорейшей социалистической перестройке деревни.

Однако мне хотелось бы еще раз обратить внимание пленума, внимание писательской общественности на ак-

тивизацию классового врага, в том числе и буржуазных националистов центра и окраин, на что указал т. Сталин в своем докладе на январском Пленуме ЦК. Это находит свое отражение и у нас, в Белоруссии. Националисты и в Советской Белоруссии, и в Западной Белоруссии не раз пытались спекулировать моими прошлыми ошибками. Пробовали спекулировать ими и в последнее время. Белорусские националисты в лице Сидоренко, частично Барановых, попробовали в литературе взять реванш, опорочить борьбу партии против национал-демократизма. Я категорически отметаю их попытки спекулировать моим именем в своих контрреволюционных целях. Советская общественность не только БССР, но и всего Советского Союза, а также трудящиеся массы Западной Белоруссии знают мою позицию, позицию активного участия в социалистическом строительстве. С этой позиции никогда не смогут сбить меня провокаторские вылазки Сидоренко и присных ему. Сегодня я еще раз хочу сказать, что этот номер им не пройдет. Я свою судьбу навсегда связал с судьбой пролетарской революции, раз и навсегда отбросив все ошибочное, что было в моем прошлом. В связи с этим я хочу сказать, что этого моего шага, шага, который был сделан не без трудностей и не без срывов, не поняли до конца и отдельные товарищи, работающие в области литературной критики.

Мне хотелось бы заострить внимание пленума на необходимости большей революционной бдительности писателей и работников издательств, большей непримиримости ко всем и всяческим проявлениям классового врага и его агентуры.

Я с удовольствием прослушал ряд выступлений о задачах драматургии по созданию деревенской пьесы и считаю, что лучшие мастера слова должны переключить свое внимание на этот фронт. Нельзя оставлять его в руках доморощенных халтурщиков, ибо этот фронт чрезвычайной ответственности. Вчерашний собственник — сегодняшний колхозник, не говоря уже об индивидуальном крестьянине, требует большой, длительной и упорной воспитательной работы. Отсюда необходимо высокое качество литературы, которая помогла бы воспитать в широких массах сознание величайшей важности охраны и преумножения социалистической собственности — основы советского строя — и более широкого перенесения форм и методов социалистического труда в на-

ши колхозы и совхозы. Мне кажется, что этот заказ советской общественности должны в первую голову принять мы, старшее поколение писателей, по-социалистически соревнуясь с молодыми писателями.

И последнее. Мне кажется очень важным наладить более организованное, чем до сих пор было, взаимное ознакомление трудящихся с литературой и искусством братских республик, а также крепкую братскую связь и обмен творческим опытом между писателями всех республик Советского Союза. До сих пор эта большая работа проводилась беспланово, эпизодически. А надо сделать это системой работы оргкомитетов республик и союзного Оргкомитета. Интернациональное воспитательное значение этой работы не требует пояснений.

Вот те мысли, которые я считаю своим долгом высказать советской писательской общественности.

## ПРАМОВА НАРОДНАГА ПАЭТА ЯНКІ КУПАЛЫ НА ПАШЫРАНЫМ ПЛЕНУМЕ АРГКАМІТЭТА ССП СССР

Таварышы, Пастанова ЦК Усе КП(б) ад 23 красавіка мінулага года аб перабудове пісьменніцкіх арганізацый уяўляе сабою новы гістарычны этап у літаратурным жыцці і ў жыцці шырокай савецкай пісьменніцкай грамадскасці. Гэта пастанова ЦК нашай партыі ёсць высокі акт давер'я партыі і ўлады да савецкіх пісьменнікаў вялікага Саюза Сацыялістычных Рэспублік.

Маральны і грамадскі абавязак кожнага пісьменніка — апраўдаць гэта давер'е сваёй творчай працай, сваім актыўным і адданым удзелам у сацыялістычным будаўніцтве нашай краіны.

Наша савецкая сучаснасць, нашы грандыёзныя дасягненні на ўсіх участках сацыялістычнага будаўніцтва — гэта стварэнне новага, бяскласавага ладу жыцця — ёсць велізарнейшы стымул для творчасці кожнага савецкага пісьменніка. Нідзе на свеце ніякая іншая ўлада не ставіць пісьменніка ў такія спрыяючыя ўмовы

для яго працы, для яго творчасці, у якія ставіць яго ўлада дыктатуры пралетарыяту.

На фоне гэтай савецкай рэчаіснасці асабліва б'е ў вочы і гучыць агідным нават няправільнае адлюстраванне гэтай рэчаіснасці і тым больш варожае, антысавецкае, контррэвалюцыйнае выступленне на літаратурным фронце.

Ад пачатку існавання Савецкай Беларусі партыя і Савецкая ўлада аказвала і аказвае да мяне незвычайна чулыя і ўважлівыя адносіны. У 1925 годзе было адзначана маё дваццаціпяцігоддзе літаратурнай дзейнасці і надана мне высокая годнасць народнага паэта рэспублікі. Гэтай годнасцю я ганаруся і цаню больш за ўсё на свеце. Увосень мінулага года Камуністычная партыя і савецкая грамадскасць адзначылі маё паўстагоддзе з дня нараджэння. На вялікі жаль, гэта важная ў маім жыцці падзея паслужыла повадам для нацыянал-дэмакратычных і контррэвалюцыйных выступленняў рада асоб, якія спрабавалі выкарыстаць маё імя ў сваіх антысавецкіх мэтах. Я маю на ўвазе Сідарэнку, Баранавых і інш.

Я рашуча яшчэ раз асуджаю гэту контррэвалюцыйную спекуляцыю маім імем, гэту агідную змычку з нацдэмаўскай контррэвалюцыяй Заходняй Беларусі. Я нядаўна на другім Усесаюзным пленуме Аргкамітэта ў Маскве беспаваротна адмежаваўся ад гэтых сваіх няпрошаных апекуноў. Я там, перад савецкай пісьменніцкай грамадскасцю ўсяго Савецкага Саюза, заявіў наступнае:

— І на першым, і на другім пленуме Аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў мы адзначалі велізарнейшы рост савецкай літаратуры ў выніку рэалізацыі пастановы ЦК нашай партыі ад 23 красавіка. Мы з'яўляемся сведкамі і ўдзельнікамі далейшага росту творчай і палітычнай актыўнасці пісьменнікаў і драматургаў усіх нашых рэспублік і аб'яднання іх вакол Камуністычнай партыі бальшавікоў.

Я рад заявіць з трыбуны другога пленума, што старэйшае пакаленне пісьменнікаў Савецкай Беларусі, у тым ліку і я, актыўна ўключылася сваёй творчасцю ў сацыялістычнае будаўніцтва, у стварэнне пад кіраўніцтвам партыі культуры, сацыялістычнай па змесце і нацыянальнай па форме. За апошнія гады сваёй рабо-

ты я не раз даказаў гэта, насычаючы свае вершы нянавісцю да класавага ворага («А ў Вісле плавае тапелец», «Суд ідзе» і інш.) і гарачым жаданнем дапамагчы хутчэйшай сацыялістычнай перабудове вёскі («Сыходзіш, вёска, з яснай явы»).

Аднак жа мне хацелася б яшчэ раз звярнуць увагу пленума, увагу пісьменніцкай грамадскасці на актывізацыю класавага ворага, у тым ліку і буржуазных нацыяналістаў цэнтра і ўскраін, на што ўказаў тав. Сталін у сваім дакладзе на студзеньскім Пленуме ЦК. Гэта знаходзіць сваё адлюстраванне і ў нас, у Беларусі. Нацыяналісты і ў Савецкай Беларусі, і ў Заходняй Беларусі не раз прабавалі спекуляваць маімі мінулымі памылкамі. Беларускія нацыяналісты ў асобе Сідарэнкі, часткова Баранавых, паспрабавалі ў літаратуры ўзяць рэванш, зганьбіць барацьбу партыі супраць нацыяналдэмакратызму. Я катэгарычна адкідаю іх спробы спекуляваць маім імем для сваіх контррэвалюцыйных мэт. Савецкая грамадскасць не толькі БССР, але і ўсяго Савецкага Саюза, і таксама працоўныя масы Заходняй Беларусі ведаюць маю пазіцыю, пазіцыю актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве. З гэтай пазіцыі ніколі не змогуць збіць мяне правакатарскія вылазкі Сідарэнкі і да яго падобных. Сёння і яшчэ раз хачу сказаць, што гэты нумар ім не ўдасца. Я свой лёс назаўсёды звязаў з лёсам пралетарскай рэвалюцыі, раз і назаўсёды адкінуў усё памылковае, што было ў маім мінулым. У сувязі з гэтым я хачу сказаць, што гэтага майго кроку, кроку, які быў зроблен не без труднасцяў і не без зрываў, не зразумелі да канца і паасобныя таварышы, што працуюць у галіне літаратурнай крытыкі.

Мне хацелася б завастрыць увагу пленума на неабходнасці рэвалюцыйнай пільнасці пісьменнікаў і працаўнікоў выдавецтваў, большай непрымірымасці да ўсіх і ўсякіх праяўленняў класавага ворага і яго агентуры.

У заключэнне, таварышы, дадам: усе сілы, усе думкі, усе парывы сэрца на будаўніцтва новага, светлага, радаснага жыцця, на будаўніцтва сацыялізму, на стварэнне бяскласавага грамадства! А таксама больш увагі, больш гарачых, прызыўных песняў і для нашай гераічнай непераможнай Чырвонай Арміі, і для герояў, ударнікаў сацыялістычнага будаўніцтва!

У паказанай Пастанове ЦК УсеКП(б) паміж іншым ясна і дакладна сказана:

«Аб'яднаць усіх пісьменнікаў, якія падтрымліваюць платформу Савецкай улады і якія імкнуцца прымаць удзел у сацыялістычным будаўніцтве, у ядыны Саюз савецкіх пісьменнікаў з камуністычнай фракцыяй у ім».

Гэта аб чым гаворыцца? Гэта гаворыцца аб вялікім давер'і нашае партыі нават да тых пісьменнікаў, «якія імкнуцца прымаць удзел у сацыялістычным будаўніцтве», і разам з тым гаворыць пра абавязак кожнага сумленнага пісьменніка ясна ўявіць сабе, для каго павінен служыць яго талент, яго думкі, яго парывы сэрца і душы.

Вялікая, небывалая рэканструкцыя ў Савецкім Саюзе прамысловасці і сельскае гаспадаркі — будаванне цэлых гарадоў, фабрык і заводаў там, дзе адно вецер гуляў ды дзікая птушка толькі пралятала, але дзе ў нетрах зямлі заложаны невычарпальныя багацці, перабудова сельскай гаспадаркі на калектыўны лад, дзе селянін з гонарам становіцца разам з індустрыяльным рабочым, будаванне ў падмогу сельскаму калектывісту трактарных станцый і г. д. і г. д. Усё гэта будаўніцтва новага, светлага жыцця для працоўнага люду Савецкага Саюза пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў, усё гэта, паўтараю, абавязвае савецкага пісьменніка-грамадзяніна працаваць на карысць гэтага будаўніцтва, на карысць пралетарыяту.

І вось кожны савецкі пісьменнік — ці ён стары, ці малады — павінен з яснымі вачыма, з усёй адданасцю і шчырасцю памагаць сілай свайго таленту тварыць гэта новае жыццё. Ідзе рэканструкцыя сельскай гаспадаркі, павінна адначасова — а то забягаючы і ўперад у будучыню,— павінна ісці і рэканструкцыя думак. І хто гэтага, можа, поўнасцю не зрабіў, павінен зрабіць, пакуль не позна, бо інакш апынецца за бортам новага жыцця.

БССР з'яўляецца фарпостам на рубяжы двух процілеглых светаў — старога, капіталістычнага, які ў галадзе, у развале народнай гаспадаркі дажывае свайго нікчэмнага веку, і — новага, сацыялістычнага, перад якім будучыня яснеецца ў сонцы і кветках. Стары свет не можа паміръыцца з існаваннем новага — ён дзённа і ночна рыхтуецца да нападу. На пісьменніках Савецкай

Беларусі ляжыць абавязак не забываць і аб абарончай — па-мойму, самай галоўнай — тэматыцы. Гэтага вымагае ад нас наша гераічная армія, нашы пільныя, слаўныя пагранічнікі.

Я не буду пералічваць тут падрабязна аб вялікіх дасягненнях за год на літаратурным фронце. Яны сапраўды вялікія і відавочныя. Я не буду таксама гаварыць аб шкодніцкіх, варожых пралетарыяту выступленнях паасобных пісьменнікаў — аб гэтым шмат пісалася, аб гэтым я выступаў ужо на старонках «ЛіМа». Я хачу сказаць у заключэнне адно: ліквідацыя асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (ВОАПП, РАПП і інш.) паклала моцны, непарушны падмурак пралетарскай савецкай літаратуры,— Саюз савецкіх пісьменнікаў павінен збудаваць дом, дастойны нашай вялікай эпохі, дом, якога яшчэ свет не бачыў, даць творы шчырыя, агністыя, якія б заклікалі да новых і новых перамог, раз'яснялі б шляхі ў будучыню, творы папраўдзе сацыялістычныя па сваім змесце і нацыянальныя па форме. Твораў такіх спадзяецца ад пісьменнікаў наша партыя, нашы гаспадары Савецкай краіны — рабочыя, калгаснікі, Чырвоная Армія.

## ЧУДО, СОЗДАННОЕ БОЛЬШЕВИКАМИ

Я очень, очень счастлив, что дожил до той поры, когда смог увидеть своими глазами великий Беломорско-Балтийский водный путь, это невиданное чудо, созданное руками большевиков-чекистов по инициативе гениального вождя пролетариата, несравненного строителя т. Сталина.

Приехав в Беларусь Советскую, я расскажу, насколько у меня хватит сил, большевистскую правду об этом героическом строительстве, которое не имеет себе равных во всем мире, о строительстве, которое свидетельствует о непобедимой поступи социалистического строя, социалистической перековке человека — былого преступника в честного советского гражданина.

Я расскажу о славных чекистах тт. Ягоде, Фирине,

Успенском и др., о том, как они беззаветно и умно строили этот путь и перевоспитывали людей.

Я поздравляю Карельскую автономную социалистическую республику, территорию которой пересек Беломорско-Балтийский водный путь и дал чрезвычайно большие возможности для ее дальнейшего бурного экономического и культурного развития. Это является новым доказательством мудрой национальной политики, проводимой Коммунистической партией во главе со славным вождем т. Сталиным.

# 1934

## ШТО БЫЛО СНОМ, ТОЕ СТАЛА ЯВАЙ

Лечачыся на сонечным Каўказе, у Кіславодску, я дазнаўся з газет аб той агіднай інтэрвенцкай кампаніі, якую ўзнялі ў Заходняй Беларусі прадажныя беларускія нацыянал-фашысты з прычыны рэформы беларускага правапісу, уведзенага ў жыццё ўрадам Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Кампанія гэта нам зразумела, бо гэту рэформу зацвердзіў Савецкі ўрад, за гэту рэформу стаяла наша бальшавіцкая партыя, гэтай рэформы жадала савецкая грамадскасць, рабочыя, калгаснікі, пісьменнікі, вучоныя і т. д.

Сёння мы напярэдадні вялікіх урачыстасцяў — XV гадавіны БССР і XV з'езда нашай слаўнай, непераможнай Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі.

Азірнуўшыся ясным вокам і ўдумаўшыся шчырай думкай на пройдзеныя гэтыя 15 год, мы бачым, якіх — здавалася б, недасяглых — дасяглі мы перамог у вялікім сацыялістычным будаўніцтве: што было сном, тое стала явай, што было казкай, тое стала рэчаіснасцю.

Там, дзе на вялікіх абшарах Беларусі гнуўся «лапцюжнік» над «крывуляй»-сахой,— важна пахаджваюць тысячы трактароў, там, дзе дымілася дапатопная лучына, зіхаціць сонечна электрычная лямпа, там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пралетарый-рабочы,—

выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на былых пустырах светлыя гіганты-заводы. Учора паднявольны згорблены рабочы і селянін-бядняк, сёння з высока паднятай галавой вольны грамадзянін і будаўнік вялікага Савецкага Саюза.

У размаху і велічы сацыялістычнага будаўніцтва ўся грандыёзная ленінская сутнасць нацыянальнай палітыкі нашай партыі.

Мы сёння з гордасцюназіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры. Зірнуць толькі на дзесяткі тысяч школ, дзе беларускія дзеці пазнаюць веды ў сваёй роднай мове, на дзесяткі вышэйшых навучальных устаноў, дзе тысячы пралетарскага студэнцтва пасцігаюць самыя навейшыя здабыткі сусветнай навукі, зірнуць на нашу Акадэмію навук, якая з'яўляецца цэнтрам беларускай савецкай культуры, на дасягненні нашай мастацкай літаратуры, нашых тэатраў, нашай кінематаграфіі, на рост рабочых клубаў, на тысячы ясляў і дзіцячых садоў, дзе гадуецца новае радаснае пакаленне і рыхтуецца стаць будаўнікамі разумнага і шчаслівага жыцця.

Вырасла і далей бурна расце індустрыяльна-калгасная Беларусь.

Выраслі і далей растуць і гартуюцца непераможныя будаўнікі бяскласавай сацыялістычнай грамады.

Гісторыя Савецкай Беларусі багата сваёй героікай штурму вышынь сацыялізму, гісторыя Савецкай Беларусі чакае сваёй песні, свайго мастака, свайго гісторыка:

Прыйдзе новы — і мудры — гісторык,
А ён прыйдзе — ужо ён ідзе —
І сказ дзіўны, праўдзівы ад зорак
І да зорак аб нашых прасторах,
Аб падзеях, людзях павядзе.

Ён раскажа, як з творчым імкненнем
Для народаў закон выдавала
Бальшавіцкая праўда, сумленне,
Каб жыццё ўжо было без цярпенняў
І мінула прakляццяў навала.

Як знішчаліся цвёрдай рукою
Пралетару варожыя класы,
Як на фронтах ішоў бой за боем,
Як зброд ворагаў здаўся, не ўстояў
У тыя грозныя бурныя часы.

Як ішла рэканструкцыя смела
Па заводах, па полі, па думках,
Перашкоды знішчаючы ўмела,
Хоць варожы табун адзічэлы
Ёй імшу пахавальную крумкаў.

Як мінулым спаганена праца
Ад батрацкай прыгоннай сярмягі,
Сабе ўзносячы ў сонцах палацы,
Стала горда навек называцца
Справай гонару, славы, адвагі.

Маладому свайму пакаленню
Ён апіша з палётам арліным,
Як бліскотна з бетону, з камення,
З цэглы, з сталі, з жалеза ў праменнях
Тут за гмахам рос гмах на руінах.

Як узняўшыся слаўна ў вышыні
Сацспаборніцтва, ўдарніцтва ўдала,
Здабывала багацце краіне,
Гарады будавала ў пустынях
І пустынную ноч асвятляла.

Як за трактарам трактар выходзіў
На сялянскія стужкі-палоскі,
Каб у дружным, як войска, паходзе
Нішчыць межы, машыны заводзіць,
Будзіць спячыя сёлы і вёскі.

Як яна, бальшавіцкая партыя,
Каб датла зруйнаваць стары свет,
Барацьбою зацятай, упартай,
Сваю ставячы голаў на карту,
Дасягла недасяглых пабед.

На аснове ўсіх нечуваных дасягненняў вырасла і адточваецца адзін з важнейшых сродкаў партыі ў барацьбе за сацыялізм — беларуская мова.

Беларуская мова з пагарджанай і паднявольнай стала раўнапраўнай і дзяржаўнай, як і мовы ўсіх народаў Савецкага Саюза.

Стары правапіс, у якім нямала было засмечанасці, нацдэмаўскай «самабытнай» архаічнасці, трымаў беларускую мову ў палоне правінцыялізму, у рамках нацыя-

налістычнай абмежаванасці. Рэформа правапісу, праведзеная Пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933 года, мае велізарнае палітычнае і гістарычнае значэнне.

Рэформа правапісу,— што я мушу з усёй цвёрдасцю падкрэсліць,— з'яўляецца велізарным, правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы па шляху пралетарскага інтэрнацыяналізму, пад сцягам якога толькі можа быць сапраўдны росквіт беларускай культуры, сацыялістычнай па змесце, нацыянальнай па форме.

Мяне зусім не дзівіць тое выццё, якое падняла супраць гэтай так патрэбнай Пастановы нашага ўрада недабітая нацдэмаўшчына ў БССР і раз'юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызму ў Заходняй Беларусі. Луцкевічы, Станкевічы і г. д. служаць адзінай мэце — адарваць Савецкую Беларусь ад Савецкага Саюза і кінуць яе ў падняволле — сацыяльнае, нацыянальнае і культурнае — пад ногі нямецкага, польскага, беларускага жандара, памешчыка-фашыста.

Гэта раз'юшаная антысавецкая брахня, падагрэтая злотымі і маркамі польска-нямецкай дэфензівы, разаб'ецца, як аб недаступную скалу, аб магутнасць і з'яднанасць рабочых і калгаснікаў Савецкай Беларусі, якія разам са сваёй роднай Чырвонай Арміяй грозна стаяць на варце заходняга рубяжа Савецкага Саюза.

Я з вялікім задавальненнем і радасцю прачытаў прынятае на сходзе нашых пісьменнікаў прывітанне мудраму правадыру, незраўнанаму будаўнічаму новага, светлага жыцця тав. Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну, і рад шчыра далучыць свой подпіс да гэтага сардэчнага прывітання.

З пашанай акадэмік Беларускай і Украінскай Акадэміі навук *Я. Купала.*

## САМ НАПАЎНЯЕШСЯ ВЯЛІКАЙ РАДАСЦЮ

Гэтымі днямі наша брыгада пісьменнікаў вярнулася ў Мінск з творчай камандзіроўкі. Мы былі ў дзесятку або больш калгасаў Барысаўшчыны. Тыя ўражанні, якія мы вынеслі з гэтай камандзіроўкі пра сённяшняе жыццё

калгаснікаў, варты таго, каб імі падзяліцца не толькі з нашай савецкай грамадскасцю, але каб пра іх даведаліся і шырокія масы сялянства, адгароджаныя ад Савецкага Саюза межамі капіталістычных дзяржаў. А найболей мне хацелася б, каб праўду аб калгасным жыцці ведалі нашы браты — рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі, якіх розныя «Кур'еры» і іх гаспадары кормяць нялюдскай хлуснёй пра становішча сялянства ў Савецкай Беларусі.

Калгас «Чырвоны баец», дзе мы гасцявалі (бо іначай ніяк нельга назваць наша жыццё ў калгасе: да таго ветла і шчыра прымалі нас сяляне), заснован у былым панскім маёнтку пана Ёдкі. Пан пры наступленні Чырвонай Арміі збег разам з белапалякамі, якія яго цэлымі дзвюма ротамі «ахоўвалі» ад акаляючых сялян. Перад тым як збегчы, пан Ёдка ў бяссільнай злосці спаліў свой палац. Парабкі маёнтка стварылі спачатку саўгас, які потым, пры надзяленні зямлёй беззямельных і малазямельных, разбілі на пасёлкі. Цяжка, разумеецца, было беднаце падняцца на хутарах-пасёлках. Тады семнаццаць парабчанскіх сямей разам з беззямельнымі і малазямельнымі сялянамі вёскі Скупліна, якія таксама атрымалі прырэзку зямлі з былога маёнтка, абагулілі свае хутаркі-пасёлкі і арганізавалі калгас. Спачатку было туга і ў калгасе, бо агенты Ёдкі ў дадатак да спаленага палаца спалілі яшчэ свіран і гумно. Ды і сам пан Ёдка перад тым, як уцякаць, знішчыў што толькі мог з маёмасці маёнтка. Але паступова з дапамогай дзяржавы калгас узняўся на ногі.

Мы дзівіліся, як добра ўпраўляюць зямлёю калгаснікі, як добра ўтрымоўваюцца калгасныя коні. Такога парадку і чыстаты, якія існуюць у канюшні калгаса «Чырвоны баец», я ніколі не бачыў у панскіх маёнтках. І што надзвычай паказальна, дык гэта тое, што калгаснікі ад малога да вялікага ставяцца да калгаснага як да свайго ўласнага, як да сваёй кроўнай справы. Дух калектывізму з'яўляецца зараз глыбокай нутраной рысай характару калгасніка. Калгас стаў добрым прыкладам для акаляючых аднаасобнікаў, якія зварочваюцца ў калгас за рознай дапамогай. Калгас мае звыш 100 кароў і шмат маладняку, а гэта дае магчымасць добра ўгнойваць палі, чаму і ўраджаі ў калгасе вышэй, чым у акаляючага сялянства. На прыкладзе гэтага калгаса аднаасобнікі пераконваюцца ў перавазе калектыўнай

гаспадаркі над аднаасобнай. Калгас вядзе зараз вялікае будаўніцтва: будуюць вялікі свінарнік, новую малочную, новыя гуменныя будовы. Калгас мае свой уласны нафтавы рухавік, які не толькі малоціць, але і рэжа дошкі на будаўніцтва. Шмат хто з калгаснікаў будуе сабе новыя хаты, ды не такія, якія былі калісь, а светлыя, прасторныя. Гэта будаўніцтва і калгасных гаспадарчых пабудоў, і ўласных новых хат кідаецца ў вочы амаль у кожным калгасе, дзе мы былі. На маю думку, гэта самы лепшы паказальнік заможнасці калгаснага жыцця.

Проста дзіву даешся, як хутка новы калгасны лад не толькі моцна, назаўсёды ўнядраецца ў жыццё вёскі, але як хутка ён дае свой плён, у тым ліку і вялікую культурнасць. Калгас пераабсталяваў былы бровар пана Ёдкі і зрабіў там вельмі добрую школу, арганізаваў дзіцячыя яслі на 25 чалавек, і сялянцы-калгасніцы не трэба ўжо клапаціцца пра сваіх дзяцей, калі яна пайшла на работу: дзеці будуць сыты і дагледжаны. Па другіх калгасах и бачыў дзіцячыя пляцоўкі, дзе падросткі выхоўваюцца пад наглядам спецыяльных настаўніц увесь час, пакуль маткі знаходзяцца на полі. Або возьмем дзве суседнія вёскі: Карсакавічы і Паляны ў двух кіламетрах ад Скупліна. Карсакавічы калектывізаваны, и Паляны яшчэ жывуць аднаасобнікамі (там маецца толькі невялічкі калгас). У Карсакавічах была калісь вельмі ж гразкая вуліца, людзі душылі коней, калі прыходзілася праехаць праз вуліцу. Зараз калгас выбрукаваў вуліцу, прарыў канавы, абсадзіў вуліцу дрэвамі, абслугаваў яе, і вуліца стала сухой, аж любата праехаць. А ў Палянах так і засталася вуліца балота балотам. Або вазьміце газеты: на якіх-небудзь 40 двароў кожны дзень рэгулярна прыходзіць не менш як 20—25 газет. І дзіву даешся, як дурні з «Кур'ера цодзеннага» плявузгаюць пра 70 прац. непісьменнасці ў БССР — жуюць жвачку 1913 года.

Калгас стаў заможным. Ён не толькі сам сыт, але пры мне пазычаў звыш 20 пудоў жыта суседзям, у тым ліку аднаасобнікам, а за дзесяць пудоў круп наймае грузавыя машыны, каб не ганяць коней і хутчэй здаць хлебазагатоўкі дзяржаве. Грашовыя даходы калгаснікаў сталі такімі, што за мінулы год шмат хто з калгаснікаў купіў сабе па карове. Гэтай заможнасці калгас дабіўся дзякуючы арганізацыі працы, ашчадным адносінам да працадня і добрай свядомай дысцыпліне.

І вось бачачы гэтае заможнае жыццё, бачачы жыта ростам вышэй чалавека, бачачы поле, шырокае, як мора, бачачы рост культурнасці селяніна,— сам напаўняешся вялікай радасцю, вялікай любоўю да нашай Бацькаўшчыны, якая стварыла і стварае новае, шчаслівае жыццё для працоўнага люду, напаўняешся вялікай удзячнасцю да арганізатараў гэтага жыцця — да нашай Камуністычнай партыі і тав. Сталіна. І крыўдна ведаць, што ў Заходняй Беларусі, у Польшчы і ў іншых капіталістычных дзяржавах жывуць рабамі, у цёмных хатках пад прыгнётам паноў, у вялікай пакуце працоўныя — рабочыя і сяляне. Крыўдна ведаць, што «Кур'еры» памешчыка і фабрыканта друкуюць хлусню пра нашу Бацькаўшчыну, пра Савецкі Саюз і неадлучную частку яго — Савецкую Беларусь. Яны спекулююць на тым, што капіталістычныя ўрады забараняюць пісаць праўду пра Савецкі Саюз. Але нічога! Праўда дойдзе да працоўных, яе не стрымаюць ні межы, ні жандары, ні турмы, ні нават лакейская хлусня буржуазнага друку. І вось пра гэту радасную праўду радаснага, новага жыцця я прапеў у сваіх песнях з калгаса «Чырвоны баец» (вершы «Чырвоны баец», «Барысаў»), пра гэту праўду я хачу сказаць і гэтым лістом.

## МОГУЧАЯ СИЛА

Первый Всесоюзный съезд писателей — большой праздник не только самих писателей, но и всей нашей советской общественности. Собирается цвет создателей новой, передовой для всего мира литературы. Собирается многонациональная, но единая по своей воле, по своей целеустремленности литература страны, строящей социализм. И на этом празднике особенно счастливы мы, писатели бывших отсталых, неграмотных национальных окраин.

Мы счастливы и горды за расцвет культуры наших республик в единой семье народов Советского Союза при братской взаимопомощи всех народов, при братской помощи русских товарищей, по программе и под руководством Коммунистической партии и товарища Сталина.

Мы счастливы и горды за всесоюзную литературу, за ее успехи как творцы ее, ибо внесли — пусть каждый народ понемногу — свою лепту в создание этой великой литературы.

Неузнаваема наша страна, наша великая Родина, и особенно неузнаваемы ее бывшие окраины: ленинская национальная политика подняла их до уровня передовых областей. Вместо маленьких, кустарных мастерских выросли гиганты-заводы. Их трубы высятся часто там, где до революции было гладкое и чистое поле. Вековечные болота, источник лихорадок и седых туманов, стали источником электровооруженности нового человека — строителя социализма, стали источником технической революции в промышленности и сельском хозяйстве даже в самых захолустных уголках, куда, казалось, еще 15 лет назад ни один сказочный чародей не сможет принести ничего подобного тому, что мы видим сегодня.

Традиционная соха и деревянный «смык» исчезают даже из песни, а необъятные колхозные поля бороздят сотни тысяч наших, сделанных нами до последнего винтика тракторов.

Глядя на бурный рост культуры у нас, я проникаюсь уверенностью, что мы скоро придем к такому времени, когда мировые конгрессы науки и техники будут проводиться в Советском Союзе, ибо здесь обеспечены все возможности для творческого взлета человеческой мысли, все возможности для глубокой плановой изыскательной и научной работы. Наука у нас опирается на опыт миллионов. А эти миллионы трудящихся — как мощно поднялись они в своей культурности!

Одна бывшая неграмотная и сверхотсталая Белоруссия ежегодно обучает в высших и средних учебных заведениях свыше 36 тыс. студентов, не считая почти миллиона детворы и подростков, охваченных начальной и семилетней школами.

Когда я читаю про успехи советской науки в разрушении атомного ядра, мне кажется, что в октябре 1917 года, когда мы разбили капиталистическую оболочку ядра, в котором заключалась творческая энергия трудящихся, мы уже создали силу, равную предполагаемой силе атомного ядра: эта сила способна разрушить все преграды, которые создали эксплуататоры и сама природа на пути к светлой жизни всего челове-

чества, она способна построить эту жизнь на всей земле, она способна создать межпланетное общение.

Вот почему величайшая обязанность каждого деятеля культуры, если он только действительно предан ей, а не является простым лакеем денежного мешка и кустарем куцей, прикладной для капитализма, культуры,— защищать ту страну, где конденсируется и нарастает эта сила человечества,— защищать Советский Союз.

## САМАЯ ИНТЕРЕСНАЯ ВСТРЕЧА — ВЕСЬ СЪЕЗД

*В фойе Колонного зала, окруженный украинскими друзьями, стоит народный поэт Белоруссии Янка Купала.*

— Вы спрашиваете о встречах,— говорит он.— Самая интересная встреча — это весь съезд. Особенно я рад встрече с Алексеем Максимовичем, которого я, как представитель белорусских писателей, один из первых встречал в Негорелом, когда Горький приехал из Сорренто.

В съездовские дни, в перерывах между заседаниями, я беседовал с Куликом, Тычиной и грузинским писателем Джавахишвили. Я лично познакомился здесь со многими писателями советских республик. Но об этих встречах мне еще трудно говорить.

Вообще говорить о себе так же трудно, как и о своей работе.

Вот вы меня спрашиваете о моих творческих планах. А я никогда не знаю, о чем я буду писать. Недавно вышла моя поэма «Над рекой Орессой»,— она, кстати, переведена на русский язык. Я ее писал в колхозе Белоруссии.

Но когда я ехал в этот колхоз, я не думал писать. Поэма сложилась неожиданно для меня самого, когда я увидел необычайные контрасты. Еще 2—3 года назад здесь было непроходимое болото, трясина, где гибли люди, если они сбивались с узкой тропы. Теперь там огромный колхоз. Осушено несколько тысяч гектаров. Проведены прекрасные дороги, даже узкоколейка проложена. Это социалистическое преображение земли меня поразило, и за несколько дней до отъезда из коммуны я начал работать над поэмой.

## СТВОРЫМ ЛІТАРАТУРУ, ЛЕПШУЮ Ў СВЕЦЕ

— Маё першае слова да маіх слухачоў і чытачоў,— кажа т. Купала,— будзе аб вялікім Сталіне, які даў пісьменнікам асноўныя творчыя лозунгі, які святлом рэвалюцыйнай тэорыі асвятліў нашу творчую практыку. Гэта ён паставіў перад намі вялізную задачу: быць інжынерам чалавечых душ. За ўсе 15 дзён работы з'езда мы кожны дзень і ў кожную гадзіну адчувалі клапатлівую руку нашага любімага і вялікага друга. Вось чаму, падагульняючы работу нашага вялікага з'езда, маю першую думку, маё першае слова я адрасую яму — геніяльнаму правадыру сусветнага пралетарыяту, вялікаму мысліцелю, чуламу другу, любімаму чалавеку.

З надзвычайнай яркасцю я на з'ездзе пераканаўся, што вялікая партыя Леніна ператварыла літаратуру ў агульнапралетарскую, агульнадзяржаўную справу. Адна з характэрных рыс з'езда ў тым, што ён стаў не толькі з'ездам савецкіх пісьменнікаў, але і з'ездам савецкіх народнасцей. Мы бачылі дэманстрацыю дружбы, дэманстрацыю ідэйнага адзінства нацыянальнасцей. Аб гэтым нельга гаварыць без хвалявання і без найвялікшай радасці. І ў дакладзе Аляксея Максімавіча Горкага, і ў дакладах нацыянальных рэспублік і абласцей, і ў выступленнях дэлегатаў з'езда раскрывалася багацце нашай маладой савецкай сацыялістычнай літаратуры.

Гэта адчуваў не толькі я і не толькі мы ўсе, прадстаўнікі ўсіх савецкіх літаратур, але нават наш паважаны госць — французскі пісьменнік Жан Рышар Блок, які следам за выступленнем Ільі Эрэнбурга аб жудасным адзіноцтве, у якім знаходзіцца пісьменнік на Захадзе, аб ізаляцыі Рамэна Ралана, аб Людвігу Рэне, якога фашысцкія каты гвалтуюць у германскай турме, выступіў і сказаў: «Вы, савецкія пісьменнікі, уладаеце сакрэтам, які адзін раўнацэнны ўсім нашым сакрэтам у жыцці. Масы, да якіх вы звяртаецеся, не хварэюць, як нашы чытачы, малакроўем, не стынуць ад жудасці перад сваім уласным лёсам. Ваша прынцэса — у поўным цвеце маладосці».

Так, прынцэса ў поўным росквіце маладосці. Яна прыгожая, і шукае прыгожага, і пакланяецца прыгожаму. Вось чаму нам лёгка жыць і тварыць, бо мы маладзеем разам з усёй нашай краінай, бо наша сапраў-

днасць пазбавіла нас нашай нацыянальнай абмежаванасці, вывела на шырокі гасцінец сусветнай культуры, якую — сапраўды вялікую і грандыёзную — створым толькі мы — узыходзячы клас будаўнікоў новага жыцця, контуры якога мы так наглядна бачым, бо мы іх самі намячаем.

Адсюль і зразумела, чаму на з'ездзе з такой палкасцю спрачаліся па дакладах тт. Радэка і Бухарына.

У небывалых размерах узрасла адказнасць пісьменніка за сваю практыку. На пытаннях барацьбы за якасць мастацкай літаратуры была сканцэнтравана ўвага ўсяго з'езда. Наш час дыктуе практыцы савецкіх літаратараў другі, больш высокі маштаб, больш высокую ступень майстэрства. Мне б не хацелася ўзяць на сябе ролю настаўніка, але ўсё ж я хачу дазволіць сабе напомніць маім таварышам па барацьбе за стварэнне новай, сацыялістычнай літаратуры, што гэты сацыяльны заказ нашага часу павінен быць улічан кожным пісьменнікам, калі ён не хоча страціць сувязі са сваім народам, са сваім чытачом. А наш чытач — не толькі працоўныя Беларусі, але ўсяго Савецкага Саюза, усяго свету.

Якасць! Высокая якасць! Гэта генеральны лозунг.

Чытач патрабуе кнігу, у якой высокая ідэйнасць, высокая мысль рэвалюцыі спалучаліся б з класічнай літаратурнай формай. Чытач патрабуе кнігу, якая б з усёй выразнасцю расказала праўду аб нашай гераічнай барацьбе, нашай сацыялістычнай будоўлі, у якой быў бы на ўвесь рост паказан удзельнік гэтай барацьбы і будоўлі — новы чалавек новага свету.

І такія творы мы павінны даць. Гэта тым больш радасна рабіць, калі ведаеш, што з намі Горкі — гэты магутны волат, разумны і дбайны правадыр арміі мастакоў слова. Які віхар воплескаў заўсёды раздаваўся, калі ў прэзідыуме паказвалася гэта магутная фігура тытана чалавечай мыслі. Цэлымі днямі прастойвалі тысячы людзей ля дзвярэй Дома Саюзаў, каб убачыць свайго любага песняра-буравесніка. Працаваць і жыць, як Горкі,— вось да чаго хочацца заклікаць. Простае, вялікае жыццё, гіганцкая праца!

Я — не прамоўца. Я з трыбуны з'езда не выступаў, і таму я хачу са старонак газеты яшчэ раз падкрэсліць праўдзівасць і своечасовасць для нас, беларускіх пісь-

меннікаў, папрокаў, зробленых нашай літаратуры Аляксеем Максімавічам Горкім. У краіне, якая мае сусветныя дасягненні ў любой галіне народнага жыцця, у краіне, якая кіруецца перадавымі ідэямі, літаратура павінна быць лепшай літаратурай у свеце. І нам, беларускім пісьменнікам, трэба старацца як мага больш багаццяў уносіць ва ўсесаюзную скарбніцу сацыялістычнай літаратуры.

Ва ўвесь час работы з'езда, у спатканні з тт. Молатавым, Кагановічам, Варашылавым, Мікаянам, Чубарам і другімі членамі Палітбюро і ўрада на дачы ў Аляксея Максімавіча Горкага, на прыёме ў рэдакцыі «Правды» я меў шмат магчымасці адчуць, якой любоўю і ўвагай акружае нас пралетарскі чытач, якой любоўю акружаюць нас наша сацыялістычная краіна, наша партыя і ўрад. Адказам на гэта давер'е няхай будуць нашыя новыя — высокай якасці — творы, падымаючыя і натхняючыя масы на барацьбу за нашу сацыялістычную Радзіму, за яе дабрабыт і росквіт, за шчасце яе грамадзян, за яе славу і магутнасць.

## <МЫ ЖИВЕМ В СКАЗОЧНОЕ ВРЕМЯ...>

Мы живем в сказочное время, когда техника шагает вперед не по годам, а по часам. Авиация, гидротехника, использование малоценных видов топлива, производство сложных машин, стройка гигантских каналов, подъем с морского дна затонувших кораблей и т. п.— все это знаменует собой необычайное развитие технической мысли. Но наша литература в этом отношении отстает и не находит еще достаточных средств для того, чтобы отразить этот превратившийся в действительность гигантский размах технической мысли.

Если Жюль Верн за много десятков лет сумел предсказать такое развитие техники, которое для нас стало реальной жизнью, то наша литература — прозаики и поэты — не только не смогла еще предугадать наше техническое будущее, но даже не сумела отобразить нашу реальную действительность, такую богатую, многокра-

сочную и сказочную. В лучшем случае мы имеем хорошие очерки и два-три научных романа, которые ни в какой мере еще не отражают технического прогресса великой Страны Советов.

Советским писателям и поэтам надо стремиться к созданию таких произведений, которые наглядно бы показали нашу прекрасную жизнь. Но эти произведения должны не только говорить о пути, уже пройденном, но и намечать пути будущего нашей техники, и, применяя в своем творческом методе фантастику, являться как бы пророчествами. Нам надо, подымаясь до грани фантастики, поучиться этому у таких мастеров, как Беллами, Жюль Верн, Уэллс, Келлерман и другие.

## 1935

### <ВЫСТУПЛЕННЕ НА XI УСЕБЕЛАРУСКІМ З'ЕЗДЗЕ САВЕТАЎ>

Дарагія таварышы!

Найвялікшая радасць, гордая радасць пераможцаў і над класавым ворагам, і над самой прыродай агортвае народы нашай вялікай радзімы, калі яны аглядаюцца назад на пройдзеныя шляхі, калі яны падлічваюць свае перамогі. А шляхі, пройдзеныя намі,— вялікія шляхі і цяжкія. Ад саматужных майстэрняў — да Сталінгрэса; ад Гомсельмаша, ад мазольнай сахі да трактара і камбайна; ад палынавых меж паміж вузкіх палосак да калгасных палей, якіх і вокам не акінеш; ад кулацкага і памешчыцкага падняволля да светлага заможнага культурнага калгаснага жыцця — вось вялікі шлях Савецкай Беларусі. Мы прайшлі гэты шлях, як казачныя багатыры, сямімільнымі ленінскімі крокамі, прайшлі яго, скідаючы з дарогі ўсіх і ўсякіх ворагаў: кулакоў, нэпманаў, трацкістаў, зіноўеўцаў, нацыяналістаў, беларускіх нацдэмаў і ўсіх злыдняў, якія сядзелі або хацелі сесці на хрыбет працоўных, прайшлі гэты шлях пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі бальшавікоў

Беларусі — адзінага кіраўніка, адзінага арганізатара нашых перамог; прайшлі гэты шлях пад сцягам Ленінска-Сталінскага ЦК ВКП(б).

Вось гэтую вялікую, заслужаную, гордую радасць пераможцаў раздзяляем з усім народам Краіны Саветаў і мы — яго пісьменнікі, яго песняры. Яна, наша краіна, наша партыя выхавала талантлівых маладых паэтаў і пісьменнікаў, яна перавыхавала нас — старшае пакаленне пісьменнікаў. Нас уздымае, нас натхняе гераізм будаўнікоў сацыялізму, гераізм, які мы назіраем у любым куточку нашай Савецкай Беларусі і ўсяго Саюза. Мы разам з усёй краінай класавай нянавісцю ненавідзім і знішчаем класавых ворагаў. Мы разам з усёй краінай будуем сацыялізм. Нас натхняе на новыя радасныя песні нязмерная веліч таго, што будуе геній чалавека, вызваленага з капіталістычнай няволі рабочым класам пад мудрым правадырствам тав. Леніна і тав. Сталіна. Ад усяго сэрца, поўнага вялікай творчай радасцю маёй радзімы — вялікага Савецкага Саюза і неадлучнай часткі яго — Савецкай Беларусі — дазвольце мне, шчасліваму народнаму савецкаму паэту, прынесці сваё палкае прывітанне гаспадару зямлі Беларускай — XI з'езду Саветаў, Камуністычнай партыі, Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну. *(Гучныя апладысменты.)*

*(Зачытвае вершы, прысвечаныя XI Усебеларускаму з'езду Саветаў.)*

## СОЗДАДИМ ПЕСНИ О ПРЕКРАСНОЙ РОДИНЕ

Оживился Кремль торжественным всесоюзным сходом, сходом знатных людей, подлинных хозяев необъятной Советской страны: от холодных полярных стран до горячих южных полей, от Сахалина до пограничных столбов с белыми орлами явились люди труда, люди героизма, строители новой, радостной жизни. Явились, чтобы громко, на весь мир рассказать о своих победах, о торжестве на земле советского социалистического строительства.

Явились, чтобы своими глазами увидеть своего друга, учителя, вождя мирового пролетариата И. В. Сталина

и чтобы всем сердцем приветствовать его, ведущего человечество к новой, солнечной жизни.

И нужно было видеть, как эти две тысячи лучших людей аплодировали своему Сталину, сколько было вложено любви, сердечности, задушевности в овации в честь великого вождя пролетариата.

Отчетный доклад т. Молотова... Разве можно в нескольких словах высказать, что сказано т. Молотовым?

Одно только чувствовалось,— что это говорит непобедимая Советская страна, строящая социализм и прокладывающая ясные пути к мировой революции.

И как хочется всем сердцем создать и создавать песни о своей счастливой, прекрасной социалистической Родине, о ее героях, строителях, и чтобы в песнях путеводной звездой встали мудрые мысли Ленина, мудрые мысли Сталина.

## НА АДКРЫЦЦІ ПОМНІКА ТАРАСУ ШАЎЧЭНКУ

Па запрашэнні ўрада УССР дэлегацыя Беларускай Акадэміі навук і Саюза пісьменнікаў БССР 24 сакавіка ў дзень адкрыцця помніка паэту Тарасу Шаўчэнку, прыбыла ў Харкаў. У склад дэлегацыі ўваходзілі Платон Галавач, акадэмік Шчарбакоў і я.

Адкрыццё помніка геніяльнаму рэвалюцыянеру-паэтуператварылася ў слаўную ўрачыстасць працоўных Украіны. Тысячныя масы індустрыяльнай сталіцы, упрыгожаныя чырвонымі сцягамі вуліцы і пляцы горада — усё гэта прадстаўляла сабою грандыёзнае відовішча.

Адкрыццё помніка паэту Тарасу Шаўчэнку было прызначана на 2 гадзіны дня. Але ўжо раніцаю шматлікія калоны спяшалі на ўрачыстасць. Адчувалася, што масы з нецярплівасцю чакалі адкрыцця помніка. І вось, калі на трыбуне з'явіліся прадстаўнікі ЦК КП(б)У і ўрада Савецкай Украіны, масы горача і сардэчна іх віталі.

Тут, ля падножжа помніка Тарасу Шаўчэнку, працоўныя Савецкай Украіны яшчэ раз прадэманстравалі

сваю любоў, сардэчнасць, гордасць, цеснае адзінства са сваёй партыяй, са сваім урадам.

Трудна словамі выказаць тое захапленне, тую непасрэдную радасць, якая ўсіх нас напаўняла ў гэты велічны дзень. Адкрыццё помніка геніяльнаму паэту-рэвалюцыянеру мае вялікае значэнне не толькі для Савецкай Украіны, але і для ўсіх нашых братніх рэспублік, для ўсяго нашага вялікага Савецкага Саюза.

Што прадстаўляе сабою помнік, які быў урачыста адкрыты 24 сакавіка? Гэта грандыёзны, высокамастацкі манумент, які выяўляе сабой не толькі помнік Шаўчэнку ў выглядзе яго магутнай фігуры, але і адлюстроўвае мастацкую творчасць паэта.

Зварочвае на сябе ўвагу такая дэталь: у адным канцы помніка ўстаноўлена фігура жанчыны з дзіцем эпохі Шаўчэнкі, эпохі прыгонніцтва, і заканчваецца скульптурная група фігурай вызваленай жанчыны нашай вялікай пралетарскай Радзімы.

І ў той урачысты момант, калі адкрываўся помнік Шаўчэнку, мімаволі напрошвалася параўнанне. У фашысцкай Германіі нядаўна зраўнялі з зямлёй магілы перадавых байцоў пралетарыяту — магілы Карла Лібкнехта і Розы Люксембург. Там фашысцкі бот у шалёнай нянавісці да працоўных мас спрабуе зраўняць з зямлёй магілы перадавых байцоў рэвалюцыі.

Увекавечанне памяці Тараса Шаўчэнкі, усенароднае ўшанаванне яго, магутны росквіт украінскай сацыялістычнай культуры, як і культуры ўсіх працоўных Савецкага Саюза,— усё гэта яшчэ раз сведчыць аб тым, як наша партыя Леніна — Сталіна правільна праводзіць нацыянальную палітыку, ажыццяўляе мару лепшых людзей чалавецтва, мару Тараса Шаўчэнкі аб вызваленні ад уціску паноў, гетманаў і цароў, ад уціску капіталізму.

Мы варочаліся ў БССР, натхнёныя бадзёрасцю і энергіяй працоўных Савецкай Украіны, гатовыя пад прадвадытарствам вялікага Сталіна з яшчэ большай энергіяй працаваць над будаўніцтвам сацыялізму, над умацаваннем гаспадарчай і культурнай магутнасці ардэнаноснай БССР — неадлучнай часткі нашай вялікай сацыялістычнай Радзімы.

## ДОБРА ЖЫЦЬ, ТВАРЫЦЬ І ЗМАГАЦЦА Ў ЭПОХУ НАШАГА МУДРАГА СТАЛІНА

Царства няволі, турмаў, пахаронных званоў — царства, якое называлася жандарам Еўропы. Гэта Расію царскую скалыхнуў трыццаць год таму назад 1905 год.

Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала ўстоі самаўладства, устоі векавечнай цемры, няволі. Прабудзілася сацыяльная і нацыянальная вызваленчая думка ў падняволеных народаў Расіі. Зазвінелі яны ад Белага да Чорнага мора і ад усходу сонца і да захаду сонца на зямлі першага рускага дваранiна Мікалая Другога.

У 1905 годзе пачаў і я падаваць сільней свой голас ад імя многапакутнага беларускага працоўнага народа. Людзьмі звацца, а не падняволенымі царскімі і панскімі парабкамі — такая была думка думак маіх, песень маіх.

Так было спачатку. Але ішлі гады. Раз'юшаная царская рэакцыя здабытыя рабочым народам свабоды штораз болей і болей душыла сваімі змяінымі кляшчамі. І ў апошнія гады перад сусветнай вайной гэта рэакцыя, здавалася, задушыла ў народах, падняволеных расійскім царом, усё, што было лепшага ў думках, усё, што імкнулася да свабоды, да святла. Жандарскі бот, здавалася, зрабіў сваё. Цар, пан, поп і нагайка, здавалася, зноў запанавалі навекі.

Але прыйшоў 1917 год, прыйшлі бальшавікі, і адвечная турма народаў рухнула.

Беларусь мая ўсяго толькі за пятнаццаць год пад мудрым кіраўніцтвам партыі Леніна — Сталіна сягнула ў сваім творчым размаху наперад, як бы 150 год прайшла. Наша поле, нашы фабрыкі, заводы, іх рост і росквіт, хто мае вочы, той бачыць. Нашы новыя песні, звонкія, радасныя песні, хто мае вушы, той чуе. Не бачыць толькі і не чуе толькі той, хто вораг нашага шчаслівага жыцця, хто за слупамі з белымі арламі куе нам здраду, куе няволю.

Паглядзіце, азірніцеся, таварышы, на нашу моладзь, на нашу слаўную Чырвоную Армію, якая стаіць на стражы нашых граніц. Ці ж не напаўняецца сэрца вялікай радасцю і гордасцю?

Мы ідзём сонечным шляхам яшчэ да болей сонечных дзён.

Аб сваім пройдзеным творчым шляху за гэтыя трыццаць год я не буду гаварыць.

Гэтаму з'яўляюцца сведкай мае творы, аб гэтым раскажуць вам крытыкі. Скажу толькі адно: я шчаслівы, што дажыў да той пары, калі мая Беларусь разам з усімі рэспублікамі Савецкага Саюза творыць новае, шчаслівае жыццё. Я шчаслівы, што ў час малейшай трывогі беларускі народ паднімецца як адзін на абарону савецкіх межаў. Я ганаруся і гарджуся, што Камуністычная партыя і Савецкі ўрад даў мне годнасць народнага паэта рэспублікі, што над маёй хатай, як і над мільёнамі хат неабсяжнай маёй Бацькаўшчыны — Краіны Саветаў, развяваецца чырвоны непераможны сцяг.

Дык наперад, таварышы, да новых перамог, да новых радасцей, да сацыялізму! Добра, таварышы, жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна!

## НАРОДНЫЙ ПОЭТ РЕСПУБЛИКИ ЯНКА КУПАЛА ОБ ОЛИМПИАДЕ

Олимпиада красноармейской художественной самодеятельности частей пограничной и внутренней охраны НКВД БССР показала большие способности, подлинные таланты наших верных и преданных бойцов, непобедимых стражей границ нашей родины — СССР. И если там, на «культурном» Западе, офицерши бьют по лицу своих денщиков, офицеры бьют вообще солдат, то у нас жена командира танцует на сцене с рядовым красноармейцем «Лявониху», а командир танцует с красноармейцем гопака.

Радостно делается на сердце и на душе, когда видишь, когда наши бойцы, которые так хорошо били врагов пролетариата, теперь показывают свои блестящие способности, свои большие достижения в искусстве.

От души желаю нашим славным командирам и бойцам непобедимой Красной Армии еще с большим успехом так веселиться во время «межбурья», как это они удачно показали на своей олимпиаде, а если позовет партия — бить врага, как они били его совсем недавно.

## У ЧЭХАСЛАВАКІІ

Самая паездка пачалася, уласна кажучы, ад польскай граніцы, дзе польскія пагранічнікі адабралі ад удзельнікаў дэлегацыі ўзятыя імі з Масквы кніжкі. Кніжкі гэтыя былі потым, праўда, вельмі хутка атрыманы назад у Празе.

Польшча робіць уражанне не то памёршай, не то паміраючай краіны. Вельмі невялікая колькасць пасажыраў у поездзе, амаль поўная адсутнасць людзей на астаноўках. За ўвесь час паездкі на перонах польскіх вакзалаў можна было бачыць амаль выключна адных жандараў і ксяндзоў. У Варшаве дэлегацыя і па дарозе ў Чэхаславакію і назад была ўвечары. Здзіўляе, што ў 10 гадзін вечара па вуліцах горада было вельмі мала людзей. Толькі ў прамысловай частцы Польшчы, бліжэй к чэхаславацкай граніцы, прыкметна некаторае ажыўленне.

Ужо на чэхаславацкай граніцы савецкія пісьменнікі і журналісты сустрэлі самы цёплы і таварыскі прыём, які яны мелі ва ўвесь час прабывання ў Чэхаславакіі. Прывітанні ў гонар таварыша Сталіна, чырвоныя сцягі — вось чым сустракалі савецкіх гасцей у прамысловых цэнтрах.

Чэхаславакія робіць уражанне велізарнага горада. Там, дзе савецкім пісьменнікам і журналістам прыходзілася бываць, нават у вёсках, няма драўляных будынкаў. На станцыях і ў гарадах прыкметнае ажыўленне.

Прамысловасць у Чэхаславакіі займае галоўнае месца ў народнай гаспадарцы. Большая частка насельніцтва занята ў прамысловасці. Сельская гаспадарка вядзецца даволі прымітыўна, хоць апрацоўка зямлі даволі добрая.

У Празе ў гонар савецкай дэлегацыі быў арганізаваны рад прыёмаў і сустрэч з дзяржаўнымі і грамадскімі дзеячамі краіны. Такія ж прыёмы і сустрэчы, якія нязменна суправаджаліся самымі цёплымі, прыяцельскімі адносінамі, адбываліся ў правінцыі.

Савецкія пісьменнікі і журналісты былі ў Празе на паказе оперы «Праданая нявеста» ў Народным дзівадле (Нацыянальны тэатр) і на паказе «Бравага ваякі Швейка» ў тэатры Бурыяна.

Было арганізавана наведванне інтэрната імя Масарыка — нешта накшталт велізарнага дабрачыннага камбіната.

У Зліне дэлегацыя наведала вядомы абутковы камбінат фірмы «Баця». Прадпрыемства гэта вялікага маштабу.

Немалы інтарэс прадстаўляе сабой тое, што Баця робіць у адносінах прымацавання працуючых да завода, а па сутнасці, забеспячэння сябе штрэйкбрэхерамі. Пачынаюцца гэтыя мерапрыемствы з таго, што Баця набірае сабе вучняў. Апошнія жывуць у інтэрнатах з двума паверхамі нараў, атрымліваюць заработную плату за сваю працу, але аплочваюць выдаткі на сваё ўтрыманне. Асабістыя выдаткі вучняў знаходзяцца пад гаспадарскім кантролем, і «перавыдатак» пагражае выключэннем з ліку вучняў.

Баця ганарыцца, што яго рабочыя з'яўляюцца акцыянерамі прадпрыемства. Ажыццяўляецца гэта вельмі арыгінальна. Баця прэміруе найбольш добра працуючых, але грошай на рукі ён не выдае, а захоўвае іх ва ўласнай ашчаднай касе. Грошы выдаюцца толькі з дазволу і ў выпадку выключнай патрэбы, як, напрыклад, вяселле, хвароба або смерць. Баця патрабуе, каб яго рабочыя былі людзьмі «забяспечанымі», а таму ён імкнецца, каб яны жылі ў яго ўласных дамах, набывалі прадукты ў яго магазінах, елі ў яго сталоўках і г. д. У выпадку звальнення рабочы ўсё траціць і астаецца на вуліцы.

Беспрацоўе ў Чэхаславакіі даволі значнае. Баця, напрыклад, мае да 50 тыс. заяў аб прыёме на работу, але прыняў усяго 500 чалавек.

Сустрэчы з чэхаславацкімі пісьменнікамі, грамадскімі і дзяржаўнымі дзеячамі былі выключна цёплыя. Трэба адзначыць, што чэхаславацкая інтэлігенцыя вызначаецца высокай ступенню культурнасці. Многія ведаюць рускую, французскую і нямецкую мовы.

Чэхаславацкі друк увесь час вялікую ўвагу аддаваў прабыванню савецкіх пісьменнікаў і журналістаў у Чэхаславакіі. Камуністычная «Рудэ права» змясціла на сваіх старонках рад твораў Янкі Купалы, артыкул Мікітэнкі. У газеце «Чэшскае слова» быў змешчан партрэт тав. Купалы.

У Чэхаславакіі існуе сіндыкат пісьменнікаў і яго філіялы на месцах. Але невялікі лік пісьменнікаў займаецца выключна творчай пісьменніцкай работай.

Савецкія пісьменнікі і журналісты сустракаліся з вялікай колькасцю людзей. Многія з іх звярачаліся з запы-

таннямі аб Савецкім Саюзе. Адна ўкраінка ўсё распытвала т. Мікітэнку аб Савецкай Украіне і потым доўга сумавала, што калісьці выехала адтуль за граніцу.

Дэлегацыя, апрача камбіната «Баця», наведала заводы «Шкода», вітковіцкія заводы і г. д. На высокім узроўні ў краіне знаходзіцца паліграфічная прамысловасць.

Не хапіла часу заехаць у Прыкарпацкую Русь — між іншым, самую адсталую і бедную частку Чэхаславакіі.

У Празе дэлегаты былі на ваенным аэрадроме, дзе іх сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфар і камандны састаў авіяцыйных часцей. Лётчыкі прадэманстравалі перад гасцямі бліскучае майстэрства вышэйшага пілатажу, а таксама падымалі іх на машынах у паветра.

Ва ўсіх удзельнікаў савецкай дэлегацыі асталіся самыя прыемныя ўспаміны аб прабыванні ў Чэхаславакіі. У гэтай краіне адносяцца з сімпатыяй да Савецкага Саюза як магутнага аплоту міру.

Прабыванне дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў у Чэхаславакіі, як і прабыванне чэхаславацкіх пісьменнікаў і журналістаў у нас, з'яўляецца адным са сродкаў умацавання сяброўскіх сувязей народаў СССР і Чэхаславакіі, якія накіраваны на захаванне міру і яго ўмацаванне, а таксама ўзмацнення гаспадарчага і культурнага росквіту абедзвюх краін. Іменна з такім перакананнем ад'язджалі з Чэхаславакіі савецкія пісьменнікі і з ім жа асталіся ў Чэхаславакіі праводзіўшыя савецкіх гасцей прыяцелі.

Хутка мільгалі бязлюдныя польскія станцыі, шэра і сумна прабягалі перад вокнамі поезда сялянскія палоскі. Вось граніца, і зноў — свая, савецкая зямля.

## ПАДАРОЖЖА ПА ЧЭХАСЛАВАКІІ

— Надзвычайна багатыя і разнастайныя ўражанні ад гэтай паездкі... Я яшчэ не паспеў сістэматызаваць усяго матэрыялу, таму толькі збольшага раскажу пра бачанае, чутае.

З першых жа крокаў у Чэхаславакіі наша дэлегацыя

апынулася ў атмасферы надзвычай шчырай прыязні і сімпатыі да нас, да нашае Бацькаўшчыны — Савецкага Саюза. На мяжы і на Пражскім вакзале нас сустракалі і бурна віталі лепшыя людзі краіны — прадстаўнікі літаратуры, мастацтва, грамадскасці. Гэтая сімпатыя выказвалася нам і шматлікай публікай, якая падхоплівала прывітанні, прымала нас як любых гасцей сваё краіны. І так на кожным вакзале, у кожным, які мы наведвалі, горадзе. У Аломоўце сустракаўшая нас на вакзале публіка спявала «Інтэрнацыянал», чуліся воклічы: «Няхай жыве таварыш Сталін!» У Прасцепаве нас ля будынка ратушы сустрэў тысячны натоўп рабочых воклічамі ў гонар СССР, яго магутнай Чырвонай Арміі. Работніцы перадалі старшыні дэлегацыі т. Кальцову букет чырвоных кветак. Будынкі ўстаноў, гасцініц, дзе мы спыняліся, былі ўпрыгожаны савецкімі сцягамі.

Гэтую прыязнь да савецкае культуры, да нашае краіны, у якой народ Чэхаславакіі бачыць адзінага абаронцу міру і цывілізацыі, мы з хваляваннем адчувалі на афіцыйных прыёмах у магістратах, на спатканні з міністрам замежных спраў п. Бенешам, пра якое досыць падрабязна пісаў наш савецкі друк, і ў кожным горадзе, мястэчку, вёсцы па шляху нашага двухтыднёвага падарожжа.

Мы з цікавасцю знаёміліся з краінай. Прырода Чэхаславакіі надзвычай прыгожая. Краіна ўзгоркаватая, нагадвае некаторыя раёны нашай Беларусі.

Сельская гаспадарка ў Чэхаславакіі вядзецца прымітыўна — аруць валамі, найчасцей каровамі. Плугі — у драўлянай аправе. Але абрабляюць глебу сяляне старанна: за баронамі ідуць з адмысловымі даўбежкамі, разбіваючы імі ўсе груды. Сеюць пераважна хмель і ячмень для вырабу славутага пільзенскага піва. Значна кантрастуе з сельскай гаспадаркай чэхаславацкая прамысловасць, моцна развітая ў краіне. Вылучаюцца па сваёй тэхнічнай дасканаласці заводы «Шкода», вітковіцкія, «абутковы горад» Баці ў Зліне.

У часе свайго падарожжа мы наведалі мясціны, якія прыцягваюць увагу турыстаў. Гэта — курорты Карлавы Вары, Марыянске лазне, гэта казачна прыгожыя Мацохскія пячоры. Мы аглядалі выдатныя гістарычныя мясціны, замкі, будынкі ў Празе і іншых гарадах. У Празе мы наведалі «дабрачынны камбінат» імя Масарыка, дом спартыўнай чэшскай арганізацыі «Сокал», аглядалі ва-

енны аэрадром, дзе нас сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфар і дзе нам лётчыкі паказалі майстэрства пілатажу.

Мы наведалі рад прамысловых прадпрыемстваў у Аломоўце, Прасцепаве, Зліне, Брно, Пільзене, Вітковіцах, аглядалі вядомыя заводы «Шкода».

Productionовішча прамысловасці Чэхаславакіі, яе сістэму лепш за ўсё характарызуе «абутковы горад» Баці ў Зліне. Баця мае своеасаблівую сістэму, якая вельмі нагадвае амерыканскага Форда. Баця рыхтуе для сябе «кадры» рабочых, арганізаваўшы для падлеткаў заводскія школы. Падлеткі жывуць у інтэрнатах, у якіх пабудаваны двухпавярховыя нары. Вучні працуюць на заводзе, наведваюць лекцыі, але ў школьных прадметах вы не знойдзеце гуманітарных навук. Баця лічыць іх «лішнімі» для сваіх рабочых. Ён, вядома, не хоча рыхтаваць адукаваных, сацыяльна свядомых людзей, яму патрэбен чалавек-машына, «робат». Заработак падлетка амаль не ўвесь ідзе на аплату яго ўтрымання «клапатлівым» Бацем. Рэшта яго грошай, што хаваецца ў бацеўскай «ашчадкасе»,— пад суровым кантролем. Мы былі сведкамі выпадку, калі адзін падлетак не ўлічыў сваіх пагрошовых магчымасцей, зрабіў перавыдатак, і яму пагражала камедыя «таварыскага суда», выдаленне з інтэрната, з бацеўскага «фабзавуча».

Бацеўская ашчадкаса дае кожнаму рабочаму дзесяць працэнтаў за пакладзеныя грошы замест звычайных чатырох. Гэтым Баця сцягвае патрэбныя яму абаротныя сродкі, гэта дае яму повад гаварыць пра ўдзел рабочых у прыбытках, пра сваё «акцыянерства» з рабочымі. Так, хітра прыкрываючы эксплуататарства, Баця закабальвае рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.

Баця тчэ сваю павуціну ўсімі сродкамі. Вы можаце, напрыклад, убачыць вясёлы, камедыйны фільм, праз які выразнай ніткай «шчасця» праходзяць ... бацевы боты. Так, знясільваючая праца бурлакоў робіцца проста святочнай, калі бурлакам падаруюць гумавыя бацевы боты — бурлакі пачынаюць спяваць і скакаць. Каханне хлапца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны даразумеюцца набыць чаравікі бацеўскага вырабу...

— Мы наведалі тэатр вядомага рэжысёра Эміля Бурыяна, дзе прагледзелі пастаноўку «Удалага салдата

Швейка». Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэну і горача вітаў савецкіх пісьменнікаў і журналістаў. Публіка паднялася з месц і наладзіла нам авацыю. Праглядалі мы таксама оперу кампазітара Сметаны «Праданая нявеста» ў тэатры «Народнае дзівадла».

Савецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як драматургі Гонзль, Бурыян, пісьменнікі Ольбрахт, Томан, Гора, Кубка і інш. Высокая ступень культуры ўласціва ўсім ім, шмат хто з іх ведае 3—4 мовы. Большасць добра ведае рускую мову, надзвычай цікавяцца яны і любяць савецкую літаратуру. Гэта наша знаёмства з культурнымі дзеячамі Чэхаславакіі з'яўляецца пачаткам цеснай культурнай сувязі абедзвюх краін. Можна для прыкладу паказаць хоць бы на тое, што А. Талстой разам з Францам Кубкам будзе працаваць над перакладам пастаноўкі на савецкай сцэне оперы Сметаны «Праданая нявеста» — чаго не ўдалося зрабіць у часы царызму.

— Нас надзвычай узрушыла адна сустрэча, на абедзе ў Прасценаўскай ратушы выступіла адна жанчына з хвалюючай прамовай. Яе сын — паэт-камуніст Валькер — памёр у 1924 годзе. Мы з вялікай чуласцю выслухалі яе апавяданне пра вялікую любоў яе сына да Леніна, да краіны Леніна. Наш адказ, наша спачуванне да маці, страціўшай сына, наша пашана да памяці паэта-камуніста як найлепей выказаны былі т. Кальцовым, які перадаў ёй букет кветак з просьбай ускласці на магілу сына.

— А вось нашы «Правда» і «Известия»,— дадае Іван Дамінікавіч,— у Чэхаславакіі ідуць проста нарасхват. Цяжка паспець купіць савецкую газету.

— Наша паездка ў Чэхаславакію была сапраўдным трыумфам савецкай культуры, палітыкі Савецкай улады, маніфестацыяй дружбы і супрацоўніцтва Чэхаславакіі і СССР у справе барацьбы за мір, у справе абароны агульначалавечай культуры. У самую гушчу чэхаславацкага народа пранікла і глыбока ўмацавалася вера і надзея на Савецкі Саюз як на адзіны аплот міру. Адсюль такая прыязнь, любоў, глыбокая сімпатыя да нас — людзей Савецкае краіны. Адсюль варожасць да фашызму, да яго захопніцкіх мэтаў.

— Мы праязджалі толькі праз Польшчу. Гэта зусім іншы свет. Мы бадай што не бачылі па дарозе таварных

цягнікоў, калеі на такіх буйных станцыях, як Слонім, Беласток, пазарасталі травой. Дзе-нідзе на іх стаіць пара-другая вагонаў. На вакзалах бязлюдна. З вокан вагона мы не бачылі ніводнай грузавой машыны. Цяжкае ўражанне робіць гэтая не то памёршая, не то паміраючая краіна... Вольна ўздыхнулася, калі пераехалі мы праз мяжу ў СССР, адчулі сябе дома.

— Не магу не сказаць,— заключае Іван Дамінікавіч,— пра вельмі светлае ўражанне ад сяброўскага яднання з членамі нашай дэлегацыі, асабліва са старшынёй дэлегацыі т. Кальцовым, які ні на хвіліну не пакідаў сваіх таварыскіх клопатаў пра кожнага ўдзельніка дэлегацыі. Цёплай і прыемнай была сустрэча з савецкім паслом у Чэхаславакіі т. Александроўскім. Гэтыя сустрэчы яшчэ больш павялічваюць прыемнае ўражанне ад мае паездкі.

## СЛАВА ТВОРЦУ НОВАГА, ШЧАСЛІВАГА ЖЫЦЦЯ

Магутнай ракой, перакідваючыся з завода на завод, з фабрыкі на фабрыку, з калгаса ў калгас, пацёкразліўся стаханаўскі рух на нашай Радзіме.

Ён не з'явіўся сам сабою, бо само сабою нічога не бывае. Яго спарадзіла мудрая палітыка партыі рабочага класа, стварыўшая новае, радаснае жыццё, яго спарадзіла геніяльнае прадбачанне правадыра ўсіх працоўных — мудрага Сталіна, які паказвае далейшае развіццё гэтага руху аж да камуністычнай грамады. І чым бліжэй да яе, тым магутней будзе папаўняцца гэты рух мільёнамі працоўных. Гэты рух паказвае, што чалавек усур'ёз і назаўсёды падначальвае сабе прыроду, але той чалавек, які вырваўся з нядолі і ланцугоў старога ладу і разгарнуў арліныя крыллі вызваленай працы. Гэты рух дае такія магчымасці росквіту нашай Радзімы, узбагачэння яе і праз гэта ж такога паляпшэння дабрабыту рабочых і калгаснікаў, што цяжка нават прадбачыць зараз у марах.

Слава творцу новага, шчаслівага жыцця — вялікаму

Сталіну, заслужыўшаму найвялікшую павагу і найшчырэйшую любоў усяго працоўнага чалавецтва.

Слава сокалу, што родам
З-пад каўказскіх скалаў,
Што з Крамля праменні сее
З юнацкім запалам!

## «ЖЫЦЦЁ НАША ТАКОЕ ВЯСЁЛАЕ, ШТО ПЕСНІ САМІ НА ВУСНЫ ПРОСЯЦЦА...»

Таварышы! Я пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупах рэвалюцыйных рабочых, калі сялянства бунтавала па вёсках і царскія сатрапы секлі яго бізунамі. Не дзіва, што многа жалю, многа смутку і жальбы было ў маіх песнях, бо незабыўнае гора, голад і смутак паланілі сэрца шматпакутнага народа.

Рэвалюцыя 1905 года страсянула царызм, запаліла ярка і непераможна надзею на яго пагібель, надзею на свабоду, і ў песнях маіх прагучэла гэта надзея і заклік да барацьбы з царатам і панамі. Але толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя дала сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне былым падняволеным народам царскай Расіі. Толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі разаслалася шырокае поле да новых вольных песень, да новых думак.

І сёння, праглядаючы з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў бы сам, закрэсліў бы я тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя тварымай партыяй і пралетарыятам эпосе.

Але адно скажу — як рад я за першыя крокі свае ў літаратуры, калі разам з беднатой беларускай вёскі я горача пратэставаў супроць паноў і цара, так бязмежна рад я за апошнія гады.

Рад таму, што песні і думы мае — па меры сіл маіх і здольнасцей — знаходзяць водгук ва ўсім Савецкім Саюзе, што песні і думы мае служаць узмацненню дружбы народаў, усіх працоўных усяго свету. А дружба народаў Савецкага Саюза, як сказаў таварыш Сталін, мае нават большае значэнне, чым нашы гаспадарчыя поспехі, і калі мае вершы зараз сугучны нашаму вяліка-

му часу, калі яны ўносяць сваю долю ў крэпасць дружбы народаў,— дазвольце мне радавацца разам з вамі гэтай дружбе вялікай радасцю паэта.

Яшчэ хачу сказаць словамі Іосіфа Вісарыёнавіча: «Радасна жыць, весела жыць, весела працаваць». Жыццё наша такое бадзёрае, вясёлае, што песні самі на вусны просяцца. Далі такія ў нас ясныя і прыгожыя, людзі такія ў нас, што сапраўды кожны з іх можа стаць героем у любы час, у любы міг, справы такія ў нас пайшлі, што ў кожным куточку Саюза Саветаў, у любым калгасе, на любым заводзе можна заваяваць сабе сусветную славу. Ну, як пры такіх справах, пры такіх перспектывах не захапіцца паэту новай бадзёрай песняй, не запець яе разам з усім родным працоўным калектывам. І я ўсім сэрцам жадаю выліць у свае песні вясёлкавую радасць, горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас нашай рэспублікі.

Там, за мяжою, за пагранічнымі слупамі, дзе распасціраецца панаванне над часткай Беларусі белага арла,— голад, здзекі, катаванне працоўнага народа, як і за царом Мікалаем. Там не чутно песень вясёлых, адно толькі смутныя вочы ў людзей глядзяць у наш бок — на Усход, чакаючы вызвалення, і затоена ловяць вострым вухам нашы песні, шумы трактароў нашых, несціхаючыя гукі нашых фабрык і заводаў.

За вызваленне гэтай падняволенай краіны, за яе светлае ў скорым часе сацыялістычнае жыццё я не забуду заклікаць у сваіх думах-песнях.

Наша Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — як бы фарпост на рубяжы дзвюх сацыяльных сістэм — развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў. Яе шырокія калгасныя палі буйна рунеюць, яе фабрыкі і заводы растуць і жывуць новым, сацыялістычным жыццём. Упартая, але радасная праца працоўнага народа маёй Бацькаўшчыны ў саюзе з усімі брацкімі рэспублікамі дала вынікі незвычайныя. За ўсё гэта яна ўзнагароджана вялікай ганаровай адзнакай — ордэнам Леніна. І мне тут — у гэты шчаслівы, ганаровы для мяне час — хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі да таго, каб Беларусь жабрацкая ў царскія часы стала Беларуссю калгасна-заможнай, Беларуссю вольнай нацыянальна і сацыяльна. Я вітаю ўсім сэрцам Камуністычную партыю і наш Савецкі ўрад. Я вітаю нашых ардэнаносцаў — Мікалая Фёдаравіча Гі-

калу і Мікалая Мацвеевіча Галадзеда, вітаю старшыню Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саветаў — Аляксандра Грыгор'евіча Чарвякова.

Я хачу з усёй шчырасцю ў гэты ўрачысты для мяне дзень падкрэсліць тую вялікую ўвагу, тыя клопаты аб маім жыцці з боку бальшавіцкай партыі і Савецкай улады.

Я дзякую тав. Гікалу, які заўсёды ўважліва адклікаўся на мае ўдачы і няўдачы на маім творчым шляху.

Шчаслівы сягоння той, хто можа глядзець адкрытымі сумленнымі вачыма ў вясёлыя вочы нашай будучыні.

Я нарадзіўся і рос у цёмнае царскае ліхалецце, я пражыў большую частку свайго жыцця ў так званай «турме народаў» — царскай Расіі, і песні мае былі тады — песні паднявольніка. Сягоння ж я шчаслівы, што магу па-іншаму, як вызвалены з нацыянальных і сацыяльных пут, складаць песні-гімны вызвалення. Я шчаслівы. І крыху зайздрошчу, што наша пісьменніцкая моладзь выхавалася і загартавалася ў агні Вялікага Кастрычніка. Што яна, гэта моладзь — мае дарагія таварышы па пяру,— усё сэрца аддае ў сваёй творчасці вялікім дням нашага маладога кераічнага, слаўнага жыцця.

Я вітаю цябе, моладзь, у гэты небывалы росквіт нашай долі і веру, што ты яшчэ сягнеш туды, куды думка чалавечая не здагадвалася сягнуць, што цябе, моладзь, у вяках будуць успамінаць добрым і чулым словам.

Я вітаю сардэчнымі словамі паэта нашу магутную Чырвоную Армію, якая надзейна і пільна сталёвай аховай вартуе савецкія граніцы, вартуе нашу мірную працу, наша радаснае жыццё, якая, калі гэта трэба будзе, ад любога ворага абароніць Краіну Саветаў.

Хай жа жыве, расце і ўзносіцца ўвысь радасная песня ў гонар і славу нашай арміі, у гонар і славу нашых герояў — савецкіх людзей, якіх слава разносіцца па ўсяму свету!

Хай жыве песня, нацыянальная па форме, сацыялістычная па змесце!

Хай жыве і красуе ленінска-сталінская партыя, якая адна толькі магла вывесці Беларусь на вольны шырокі прастор шчаслівага жыцця!

Хай жыве вялікі і мудры правадыр народаў — Іосіф Вісарыёнавіч Сталін!

## «БРАТСКИЙ ПРИВЕТ ПОЭТАМ СОВЕТСКОЙ СТРАНЫ...»

Братский привет поэтам Советской страны, собирающимся в столице орденоносной Белоруссии.

Созыв пленума у нас я рассматриваю как акт великого уважения тех многочисленных достижений, которыми так богата наша советская белорусская действительность. Хорошо жить и творить в такую эпоху, в такой стране, где братство народов — это не слова, не пустая фраза, а великая, ощущаемая реальность.

Итоги, с которыми мы приходим на пленум, поистине огромны, но мы уже ощущаем их незначительность по сравнению с тем, что нам нужно и что у нас будет.

# 1936

## <«В НАШЕЙ СОВЕТСКОЙ СТРАНЕ...»>

В нашей Советской стране литература — дело не узкого круга людей. Это дело масс. Широкие трудящиеся массы глубоко заинтересованы в расцвете своей социалистической литературы.

Это с необычайной силой чувствуем мы сейчас, когда по всему Советскому Союзу и в нашей Советской Белоруссии идет подготовка к пленуму правления Союза писателей.

О пленуме говорят и его задачами интересуются не только в литературных кругах. И на заводах, и в колхозах — повсюду с нетерпением ждут его открытия, и это еще и еще раз подчеркивает, насколько сильна связь нашей советской литературы с массами.

Предстоящий пленум правления Союза советских писателей — особый. Он особый уже и потому, что в повестке дня его впервые с такой полнотой поставлены вопросы поэзии. Очень важно то, что мы будем разбирать перспективы роста поэзии трех народов — белорусского, русского и украинского. Одновременно пленум будет заниматься судьбами роста литератур белорусской и башкирской.

Никогда раньше, да и теперь ни в какой другой стране невозможно такое внимание к вопросам национальной по форме и социалистической по содержанию литературе, как у нас.

Меня радуют успехи нашей белорусской советской литературы, и я счастлив, что о ней в полный голос будет сказано на пленуме.

Хочется подчеркнуть, что вдохновленная работа славных стахановцев Советского Союза заслуживает яркого отображения в нашей советской поэзии.

Пленум, собирающийся в Минске, еще и еще раз подтвердит несокрушимое братство народов великого Советского Союза, под гениальным водительством Сталина идущих к новым победам.

## ЛЕПШЫ НАСТАЎНІК І ДРУГ

Цяжкая вестка аб смерці вялікага пісьменніка, пачынальніка пралетарскай мастацкай літаратуры, друга прыгнечанага чалавецтва, нястомнага барацьбіта за новае бяскласавае сацыялістычнае грамадства,— вострым болем адзавецца ў сэрцах працоўных усяго свету. Савецкая Беларусь будзе помніць Аляксея Максімавіча як аднаго з вялікіх змагароў за сацыяльнае вызваленне прыгнечаных народаў былой царскай Расіі.

Я ўсім сэрцам хварэю з прычыны смерці Аляксея Максімавіча, які быў маім лепшым настаўнікам і другам.

## ЗА БІБЛІЯТЭКІ, ДАСТОЙНЫЯ НАШАЙ КАЛГАСНАЙ ВЁСКІ

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя дала сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ўсім народам былой паднявольнай царскай імперыі. Пад мудрым кіраўніцтвам партыі бальшавікоў быстрымі тэмпамі ліквідавана

праклятае наследства жандарскай Расіі — цемра і жабрацтва.

Буйна зарунела калгаснае поле. Стаханаўскі рух шырыцца шпаркім тэмпам і ў калгасах. Калгаснікі законна патрабуюць і з кожным днём будуць патрабаваць яшчэ больш высакаякасных кніжак.

І вось праведзены ўсесаюзны конкурс на лепшую пастаноўку бібліятэчнай справы ў вёсцы адпавядаў гэтай важнейшай патрэбе — даць кожнаму калгасніку кнігу.

Якую кнігу? Зразумела, мастацкую, з жывым і цікавым зместам, каб пасля работы можна было паслухаць або прачытаць аб героях нашага Савецкага Саюза і аб нашых вялікіх правадырах, тэхнічную, агранамічную кнігу, якая б адказвала на пытанні калектыўнай сельскай гаспадаркі.

У свеце няма такой краіны, дзе кніга так глыбока пранікла б у масы працоўных, як у нашым слаўным Савецкім Саюзе. Велізарныя тыражы разыходзяцца вельмі хутка. Попыт на карысную літаратуру расце з кожным днём.

Усесаюзны конкурс вясковых бібліятэк, у якім прынялі ўдзел сотні і тысячы работнікаў культурнага фронту, а асабліва ў гэтым вызначыўся Ленінскі камсамол, адыграў вялікую станоўчую ролю ў стварэнні такіх бібліятэк, якія дастойны нашай калгаснай вёскі.

Але задаволіцца тым, што ў нас ёсць, мы не можам. Надзвычай многа трэба яшчэ зрабіць па вырошчванню кадраў бібліятэчных работнікаў. Апошнія павінны стаць сапраўднымі праваднікамі сацыялістычнай культуры ў масы працоўных. Бібліятэкар павінен сам быць палітычна развітым, культурным чалавекам, які можа расказаць, парэкамендаваць кнігу, дапамагчы чытачу павышаць свой культурны і палітычны ўзровень.

Дружна возьмемся за павышэнне кваліфікацыі бібліятэкараў шляхам правядзення курсаў, семінараў, кансультацый, наладжвання самаадукацыі. У бібліятэчнай справе, як і ў іншых галінах гаспадарчай і культурнай дзейнасці, патрэбен шырокі абмен вопытам. Насустрач гэтаму няхай пойдзе наш цэнтральны і раённы друк.

Пачэсная задача савецкіх пісьменнікаў — дапамагчы ўмацаваць бібліятэчную работу на вёсцы. Чаму не ўвесці ў практыку перапіску загадчыкаў бібліятэк з мастакамі слова?

Усяго гэтага патрабуе наша гераічная эпоха, наша шчаслівае, сацыялістычнае жыццё.

## ‹ВЫСТУПЛЕННЕ НА XII НАДЗВЫЧАЙНЫМ З'ЕЗДЗЕ САВЕТАЎ БССР›

Дарагія таварышы, вітаючы Надзвычайны XII з'езд Саветаў Савецкай Беларусі і жадаючы дэлегатам поспехаў у іх адказнай рабоце перад нашым народам, дазвольце мне, таварышы, прачытаць свой верш. Верш будзе гаварыць аб тым, аб кім былі нашы думкі ўчора, аб кім мы думаем сёння, аб кім будзем думаць, пакуль будзем жыць на свеце. Я гэты верш прысвяціў *Вялікаму Сталіну.*

## ПИСАТЕЛИ О КОНСТИТУЦИИ

Это было «на заре» моей литературной деятельности. Я, тогда еще молодой поэт, пытался вложить в суровые строки тяжкие страдания и мечты о нормальной человеческой жизни:

* * *

А кто там идет по болотам и лесам
Огромной такою толпой?
Белорусы.

А что они несут на худых плечах,
Что подняли они на худых руках?
Свою кривду.

А куда они несут — эту кривду всю,
А кому они несут напоказ свою?
На свет Божий.

А кто ж это их, не один миллион,
Кривду несть научил, разбудил их сон?
Нужда, горе.

А чего ж теперь захотелось им,
Угнетенным века, им, слепым и глухим?
Людьми зваться.

Это стихотворение стало известно широкой читающей публике благодаря мастерскому переводу Алексея Максимовича. Как известно, Горький сыграл большую роль в развитии белорусской литературы.

Я читаю давно написанные строки, и меня охватывает глубокое волнение. Как далеко шагнул мой народ! Какие солнечные дали открывает перед нами Сталинская Конституция! Белорусы давно «стали людьми зваться». Вместе с другими народами они призваны строить бесклассовое общество. Как же не петь? Как же не радоваться? Разумеется, песни нам нужны не те, что раньше приходилось писать.

Песен хотим мы таких, что неслись бы,
Радости нашей давая огласку,
Песен мы ждем пролетарских по мысли,
Национальных по звукам и краскам.

## ПАМЯЦІ МІКАЛАЯ АСТРОЎСКАГА

Памёр вялікі пісьменнік, чалавек-грамадзянін, лепшы сын вялікай партыі Леніна — Сталіна.

Уся наша Радзіма, увесь наш Савецкі Саюз, усе нашы народы, незалежна ад іх нацыянальнасці, чыталі, любілі яго, як свайго роднага.

Ён пакінуў аб сабе выдатную памяць, аб якой будуць ведаць нашы патомкі. «Як гартавалася сталь» — гэта дакумент, па якім будзе вучыцца наша маладое савецкае пакаленне, гэта дакумент, які будзе заклікаць масы да новых перамог, да радасці новага чалавечага грамадства.

Я стаю над свежай магілай пісьменніка-калегі, лепшага сына нашай вялікай радзімы — энтузіяста, прыгожага прыяцеля нашага сацыялістычнага грамадства, і гэта магіла — жывое напамінанне нам аб тым, як трэба жыць, як трэба змагацца за вялікую справу нашай эпохі, эпохі нашага вялікага Сталіна.

## 1937

# НАШЕ СОЛНЕЧНОЕ СЕГОДНЯ

Редактирую Полное собрание моих сочинений, которое издает Академия наук Белоруссии.

Перевожу «Медного всадника» Пушкина на мой родной язык.

Временами возвращаюсь к лирическим стихам. В частности, два таких лирических стихотворения были премированы «Комсомольской правдой» («Снаряжала матка сына» и «Хлопчик и летчик»).

К 20-летию Великой Октябрьской социалистической революции и напишу вещь, в которой найдет отражение наше солнечное сегодня.

Сталин! Вот чудесное имя, которое творчески меня сильно волнует, которое проходит через ряд моих стихотворений. Но это пока только, так сказать, эскизы. Мое большое полотно о человеке, давшем имя великой эпохе,— впереди. Слишком ответственна тема, чтобы ее плохо выполнить. Я вынашиваю мысли о нашем великом вожде в сердце и хочу надеяться, что они будут достойны этого бессмертного имени.

Большую зарядку и бодрость мне, старому литератору, дает работа с молодыми авторами и особенно — встречи с читателями на вечерах в Минске.

В литературный кабинет Белоруссии поступает огромное количество рукописей от начинающих писателей. Создается впечатление, что пишет вся страна. Лучшие произведения мы отбираем и печатаем. Радует наша смена: Андрей Александрович, Бровко, Глебко, Кулешов.

Братские связи с московскими товарищами по перу вдохновляют и дают огромную зарядку.

Побывав в Москве, мы еще острее ощущаем, что наша белорусская литература есть часть общей советской литературы, братски объединяющей творчество всех народов СССР.

На русском языке выпущена книга моих стихов «Под новым солнцем» в издании Гослитиздания. Последнему я сдал также однотомник «Избранное» (25—30 печатных листов). Это стихи и поэмы.

Вот все, что занимает сейчас мое время и над чем я работаю.

## ВОРАГІ НАРОДАЎ ПАВІННЫ БЫЦЬ ЗНІШЧАНЫ

Гісторыя чалавецтва ведае нямала ворагаў народа, але няма роўнага таму здрадніцтву, якое ўвасоблена ў вобразе трацкісцкіх нягоднікаў — Пятакова, Радэка і іншых на чале з обер-шпіёнам Троцкім.

У прыёмных нямецкіх і японскіх контрразведак трацкісцкія шпіёны і здраднікі гандлявалі нашай крывёю і нашым нацыянальным гонарам. Не толькі Прымор'е, Урал і Украіну трацкісцкія дыверсанты прадавалі фашыстам.

Такую ж долю рабства і пагібелі яны рыхтавалі нашаму беларускаму народу і нашай Савецкай Беларусі.

Нашу цудоўную Савецкую Беларусь, расквітнеўшую пасля доўгіх вякоў рабства і нацыянальнага прыгнёту, трацкісцкія тыраны хацелі ператварыць у калонію нямецкага фашызму. Яны хацелі разграміць нашы фабрыкі і квітнеючыя калгасы, якія зажылі светлым, радасным жыццём.

Яны рыхтавалі зноў для нас бізун памешчыка, ураднiка і кабалу фабрыканта.

Няхай гэтыя здраднікі будуць пракляты навекі! Іх трэба раздушыць.

Слава нашаму вялікаму Сталіну — бацьку і настаўніку народаў.

## ЛЮБІМЫ ПАЭТ

Люблю я Пушкіна за яго прыгожы, чароўны верш. Люблю за яго багацце думак, за сюжэтнасць, за зразумеласць яго мовы для ўсіх — ад малога да вялікага.

Яго песня ў маім юнацтве знаходзіць водгук у глухой, забітай Беларусі. Мне помніцца песня «Гляжу я, безумный, на черную шаль, и хладную душу терзает печаль...».

Гэтую песню я чуў у Беларусі год 40 таму назад. І, захапляючыся ёю, я не ведаў, што гэта песня А. С. Пушкіна.

Люблю я Пушкіна за яго гордасць, за свядомасць чалавечай дастойнасці, Пушкіна, акружанага прыдворнай камарылляй. Ён смела бічаваў вершамі і эпіграмамі ўладальнікаў таго часу. Ён не баяўся цароў і генералаў. Ён пісаў супроць імператара і яго прыслужнікаў, і пісаў шчыра-бунтарскі, не баючыся за сваё жыццё.

Люблю я Пушкіна за тое, што ў дэспатычным жандарскім акружэнні ён, адзінокі, быў страшным для царскіх сатрапаў. Імператар быў бяссільны са сваёй ахранай, прыдворнай гвардыяй і казематамі перад Пушкіным — паэтам. Вальнадумства Пушкіна было не толькі ў вершах і эпіграмах. Яго вальнадумства ішло ў нагу з дзекабрыстамі. Імператар, які загнаў на вечную катаргу — у Сібір лепшых барацьбітоў за свабоду — дзекабрыстаў, не пасмеў крануць безабароннага паэта. У цара хапіла храбрасці толькі спадцішка забіць вялікага песняра.

Я люблю Пушкіна за тое, што ён у дні вялікай сталінскай эпохі паўстаў як жывы барацьбіт за свабоду, за шчасце чалавецтва. І калі сёння народы многамільённага СССР і ўсё прагрэсіўнае чалавецтва свету ўспамінаюць добрым словам памяць вялікага паэта, мне хацелася б так пісаць, як пісаў любімы мною А. С. Пушкін.

## САРДЭЧНАЕ ПРЫВІТАННЕ БАЛЬШАВІЦКАЙ «ПРАВДЕ»!

У дзень слаўнага дваццаціпяцігоддзя ленінска-сталінскай «Правды» выказваю пачуццё гарачай любові, пачуццё глыбокай удзячнасці газеце, якая з бацькоўскай клапатлівасцю выхоўвае кадры лепшых мастакоў слова, барацьбітоў за сапраўднае, сацыялістычнае мастацтва.

Голас «Правды» — гэта голас нашай вялікай партыі, голас сапраўднай жыццёвай бальшавіцкай праўды. І таму з такой увагай сачу за кожным словам любімай газеты.

Дзякуючы «Правде» беларуская літаратура ўвайшла ў шчыльнае садружаства з літаратурамі народаў, а леп-

шыя творы пісьменнікаў БССР зрабіліся вядомымі ўсяму Савецкаму Саюзу...

Са старонак «Праўды» мы, старэйшыя работнікі літаратуры, адчуваем штодзённую ўвагу, штодзённыя клопаты аб нас найвялікшага генія чалавецтва — таварыша Сталіна.

Няхай жыве «Праўда» — барацьбіт за ідэі бальшавіцкай партыі, за стварэнне сацыялістычнага мастацтва, за мастака-бальшавіка, за пісьменніка — сапраўднага інжынера чалавечых душ!

## Я З ГОРДАСЦЮ ВЫБІРАЮ СВОЙ НАРОДНЫ ЎРАД

У замучанай царызмам Беларусі, як і ва ўсёй Расійскай імперыі, працоўныя былі пазбаўлены права ўдзельнічаць у якой бы то ні было дзяржаўнай рабоце.

Я, беларускі паэт, быў безгалосы, як і мой народ, бо не меў цэнзу. Я падаваў свой голас супроць тыраніі царызму праз песні, але і тут насцігалі мяне царскія сатрапы. Яны душылі маю песню, баяліся, каб яе не пачуў народ. Так, першая мая кніжка — «Жалейка» была канфіскавана двойчы: пецярбургскай цэнзурай і віленскім генерал-губернатарам.

Цяпер воляй Сталінскай Канстытуцыі я з гордасцю выбіраю свой працоўны, сапраўды народны ўрад.

Ад казахскага чабана да прафесара, ад беларускага пастуха да стаханаўца — усё насельніцтва будзе ўдзельнічаць у адзіна дэмакратычных у свеце выбарах.

Словы вялікага Леніна аб тым, што кожная кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржавай,— здзяйсняюцца. Не адна жанчына зойме сваё пачэснае месца сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савета СССР.

Я ведаю, за каго галасаваць.

Я падам свой голас за вялікага з вялікіх, за генія чалавецтва, за таго, хто даў сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне народам, за таго, хто даў права на радасць

нам, нашым дзецям і іншым патомкам, я падам свой голас за Сталіна.

За яго я прагаласую не толькі выбарчым бюлетэнем, але і сваёй песняй.

## МАСКВА, КРЭМЛЬ. НАРОДНАМУ КАМІСАРУ ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ тав. ЯЖОВУ

Дарагі Мікалай Іванавіч!

Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў праўлення ССП БССР, сабраўшыся на свой перадвыбарчы сход, аднагалосна вылучыў сваім кандыдатам у Вярхоўны Савет Саюза ССР Вас, Мікалай Іванавіч, вернага вучня нашага геніяльнага правадыра таварыша Сталіна, як бясстрашнага наркома ўнутраных спраў.

Вы, таварыш Яжоў, адзін з любімейшых сыноў вялікай Савецкай краіны, блізкі сэрцу беларускага народа. Жалезнай рукой вы грамілі і громіце змяіныя гнёзды трацкісцкай, бухарынскай і нацыянал-фашысцкай контррэвалюцыі, выкурваючы ворагаў з усіх гнёзд. Пад Вашым кіраўніцтвам савецкая зямля, у тым ліку і Савецкая Беларусь, з поспехам ачышчаецца ад германа-японскіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў. Беларускі народ не першы год ведае доблеснага сталінца, вернага сына нашай партыі т. Яжова.

Яшчэ ў гады грамадзянскай вайны Вы, Мікалай Іванавіч, нямала зрабілі для беларускага народа, адстойваючы яго самастойнасць ад нямецкіх і польскіх фашыстаў, умацоўваючы эканоміку, цэментуючы вакол Леніна і Сталіна рады КП(б)Б.

Вылучаючы Вас, таварыш Яжоў, кандыдатам у Вярхоўны Савет СССР, мы просім даць сваю згоду балаціравацца па Менскай выбарчай акрузе.

Няхай жыве на многія гады наш правадыр Іосіф Вісарыёнавіч Сталін!

Няхай жыве верны вучань і паплечнік таварыша Сталіна Мікалай Іванавіч Яжоў!

Па даручэнню агульнага схода — народны паэт рэспублікі Янка Купала.

Грымнуць аркестры, і магутнае чалавечае мора, чароўнае і юнае, як сонца, рушыцца наперад. Грозны і вясёлы пачнецца парад сіл краіны, народжанай 20 год таму назад. Наперад пройдуць сыны працоўнага народа, якія кляліся абараняць радзіму і якія ахоўваюць яе мір і працу. Іх вострыя штыхі будуць блішчэць упэўненасцю і спакоем. Потым неба і зямлю зоймуць лёгкія і рухавыя, як птушкі, танкі і самалёты — машыны, якіх 20 год таму назад не ведала наша краіна. Нарэшце — дзеці, юнакі, рабочыя, якія бачылі тры рэвалюцыі, сяляне, якія перажылі панаванне і падзенне двух цароў, узыдуць на плошчу, і на іх сцягах будзе напісана дарагое і дзіцяці, і юнаку, і даросламу імя Сталін.

Плошча зоймецца нябачанай яркасцю фарбаў, дзеці і юнакі будуць скакаць, весяліцца, спяваць, і зноў будзе гучаць магутнае і непераможнае, роднае і блізкае слова — Сталін.

На плошчу ўзыдуць фізкультурнікі, і гледачы будуць поўны захаплення. Якія стройныя юнакі, якія прыгожыя дзяўчаты! Дзіцянё высока ўзлятае над галовамі, будзе працягваць кветкі — яму, роднаму Сталіну, як падзяку за шчаснае дзяцінства.

Зачараваны, з шырока раскрытымі вачыма, я буду глядзець на гэта выключнае відовішча, адзінае за ўсю чалавечую гісторыю, з якім не могуць спаборнічаць святочныя карнавалы старажытнай Грэцыі.

Душа мая будзе перапоўнена ціхай унутранай радасцю, што бывае ў хвіліны, калі чалавек адчувае сябе асабліва шчаслівым. Ёю авалодаюць невыказныя пачуцці і настроі. Узбуджаны, павольна пройду и сярод сцягоў і штандараў уздоўж Савецкай праз пляц Волі да сябе ў дом.

І на хвіліну мяне агорае смутак.

Чым я ўспомню цябе, бязрадаснае маё юнацтва? Мне было столькі ж год, сколькі, напэўна, таму юнаку, што ўзначальваў калону фізкультурнікаў, высока трымаючы над галавою сцяг, на якім былі напісаны вогненныя словы правадыра. Гэты юнак быў шчаслівы. Я гэта прыкмеціў па асабліваму бляску вачэй. Я ж прыход свайго юнацтва сустрэў чатырма магіламі. Памёр бацька, а следам за ім брат і дзве сястры ў адзін тыдзень. Гэта страшэнна мяне змагло. Як старэйшы, я стаў

«гаспадаром», карміцелем сям'і. Пан прагнаў з арандаванай зямлі, як неаднойчы тыя ж польскія паны прагнялі майго бацьку, прымушаючы вандраваць па свеце. З жабрака-ўласніка я ператварыўся ў жабрака-пралетара, чорнарабочага ў бровары. У гэтым бровары я працаваў тры гады і зазнаў там такога пекла, якога яшчэ не ведаў у сваім жыцці.

Вось як сустрэў я цябе, маё юнацтва, вось як я выйшаў «у людзі», у жыццё.

Прыкладна ў гэты перыяд я і пачынаю складаць свае горкія песні.

Захавалася ў мяне адна фатаграфія. Мне да болю цяжка глядзець на яе. Я сфатаграфаваны там у сялянскай світцы — на мяне глядзіць белакуры твар юнака-селяніна. Ці ж не паказальная гэта фатаграфія! Сялянскі хлапец, праняты вялікай верай у будучыню свайго народа, поўны энтузіязму і паэтычнага запалу, я разам з такімі ж, як і я, маімі таварышамі-паэтамі былі галасамі забітага і замучанага да крыві польскімі панамі і царскімі сатрапамі слаўнага народа. Мы імкнуліся выражаць думы народа, яго крыўду, яго пакуты. Плакалі разам з ім, гнеўна бунтавалі і верылі ў яго будучыню. Мы былі бунтарамі наіўнымі. У гэты час рабочы клас на чале з партыяй бальшавікоў выкоўвалі волю народа, вялі яго да сацыялістычнай рэвалюцыі.

Царскія сатрапы душылі маю песню. Стараліся, каб яна не дайшла да народа. Зборнікі вершаў, як праз турэмныя муры і краты, павінны былі прабрацца праз рагаткі цэнзуры, каб дайсці да чытача. Па-беларуску кнігі забаранялі друкаваць. Ды і хто іх мог друкаваць? «Дабрадзейныя» мецэнаты? Але такіх было вельмі мала. А калі ўжо друкавалі, дык тыраж іх быў мізэрны. Калі кніга «Жалейка» выйшла з друку, дык яе двойчы канфіскавалі.

Тыраж усіх маіх кніг да рэвалюцыі складае не больш 10 тысяч экземпляраў, у той час як пасля рэвалюцыі выдадзена больш 225 тысяч экземпляраў кніг. Апрача гэтага, яны выйшлі на рускай, украінскай, польскай, літоўскай, яўрэйскай мовах.

Хто мяне прыкмячаў да рэвалюцыі, хто пра мяне клапаціўся? У гэты радасны дзень XX Кастрычніка я павінен заявіць, што хаваю на працягу многіх год чысцейшую і бязмежную любоў у сваім сэрцы да вя-

лікага рускага народа і яго геніяльнага пісьменніка А. М. Горкага, які ў тыя беспрасветныя і горкія дні быў адзіным чалавекам, што заўважыў маю песню. Да слёз мяне расчуліў тады цёплы водгук Аляксея Максімавіча і яго пераклад верша «А хто там ідзе?».

У гэтым жа сэрцы ёсць месца для праклящця беларускім буржуазным нацыяналістам, якія бессаромна і подла імкнуліся спекуляваць маёй творчасцю, цягнучы мяне ў балота шавінізму і ідэалізацыі цяжкай і пакутнай прошласці майго народа.

Але песню не ўтрымалі ў кратах ні царская цэнзура, ні банда луцкевічаў.

Яна дайшла да народа, народ яе па-сапраўднаму пачуў, дзякуючы Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і яе геніяльным правадырам Леніну і Сталіну, якія далі сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ўсім народам былой царскай імперыі, у тым ліку і беларускаму народу.

У той момант, калі думка мая спынілася на Вялікім Кастрычніку, я схіліў сваю галаву перад святой памяццю гераічных барацьбітоў, якія аддалі сваё жыццё за лепшую будучыню дарагой Радзімы.

Правільна сказаў наша сонца Сталін: «Прыемна і радасна ведаць, што кроў, багата пралітая нашымі людзьмі, не прайшла дарма».

Зрок мой ахапіў карту Радзімы. Я пабачыў новыя гарады, якія ўзняліся на пустэчы, чырвоны сцяг, які пераможна палымнее над сцюдзёнай Арктыкай, індустрыяльныя гіганты. Я ўспомніў магутнасць нашай Чырвонай Арміі, слаўных сокалаў, якія нясуць славу нашай краіны праз мацерыкі, я ўспомніў дзень сталінскай дэмакратыі 12-га снежня, і твар дзяўчынкі, якая працягвае ружы Сталіну, уліў у маё сэрца нявыказаную радасць. Два радкі з верша «Беларусі ардэнаноснай» прыйшлі мне на памяць:

Чым ты была, Беларусь мая родная?

І другі:

Беларусь, мая радзіма, як жа расцвіла ты!

Некалькі часу таму назад я даведаўся, што заходнебеларускія нацыянал-фашысты называюць мяне бальшавіком.

Тут яны не памыліліся.

У гэты радасны дзень XX Кастрычніка я заяўляю: Так, я сам лічу сябе беспартыйным бальшавіком

і гэтым ганаруся. Я з радасцю буду выконваць усе тыя задачы, якія паставіць перада мной партыя бальшавікоў.

Я аддам усю сваю творчасць, а калі трэба будзе — і жыццё, за вялікую справу нашай савецкай Бацькаўшчыны, за справу Леніна — Сталіна.

## ⟨ВЫСТУПЛЕННЕ НА МІТЫНГУ НА ПЕРОНЕ ТБІЛІСКАГА ВАКЗАЛА⟩

Дорогие товарищи! Я счастлив на цветущей грузинской земле, родине величайшего гения революции, вождя всего трудящегося человечества Иосифа Виссарионовича Сталина, приветствовать героический грузинский народ с большим радостным праздником — 750-летием со дня написания гениальной поэмы Шота Руставели.

Творчество Шота Руставели проникло в самые глубины широких масс всех народов Советского Союза. Ленинско-сталинская национальная политика сделала громадные достижения национальных культур общими, родными и дорогими для всех народов социалистического Отечества.

Только советская действительность, воздав должное бессмертному гению грузинского народа Шота Руставели, сделала его имя, его непревзойденное творчество общим достижением всех народов великого Советского Союза, вкладом в богатейшую сокровищницу социалистической культуры.

Разрешите еще раз горячо приветствовать вас с великим торжеством и выразить вам от белорусского народа, белорусской литературы нашу горячую любовь, нашу сердечную радость и братскую признательность.

Разрешите также заверить вас, дорогие товарищи, что наш белорусский народ, живущий на западной границе нашей священной Родины, как и прежде, будет зорко и неусыпно хранить советские рубежи и что нашу общую радость не посмеет омрачить никто и никогда.

Да здравствует нерушимая дружба народов Советского Союза!

Да здравствует ленинско-сталинская национальная политика!

Слава великому грузинскому народу, который дал человечеству замечательных гениев!

Слава Сталину, нашему отцу и учителю!

## ИДЕИ ЕГО ПОЭМЫ — ИДЕИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА

Многие, писавшие до и после Руставели,— забыты, Руставели ж не только живет, Руставели вечно современен.

Идеи, выраженные в его поэме, это идеи всего передового человечества.

Верность в дружбе, которую прославил поэт в своих героях, стала в наши дни, в нашей стране чувством более широким, более глубоким.

Сейчас это дружба не только человека с человеком, но и народа с народом — великая дружба, основа процветания Советского Союза.

Верность народов в дружбе — так расширила идеи Руставели современность.

Поэт ставил женщину на небывалую для своей эпохи высоту. Он провозглашал полное равенство ее с мужчинами.

Наша эпоха утвердила это равенство во всех областях общественной и государственной жизни, предоставила женщине то высокое место, которое по праву принадлежит ей.

Наших современников, людей Страны Советов, воодушевляет героизм, которым проникнута поэма Руставели. Этот героизм живет в душе каждого советского патриота. Мы все готовы проявить его, когда это понадобится, в борьбе с врагом.

Значение Руставели для литературы народов Советского Союза огромно. И только нашей эпохе, эпохе ленинской национальной политики, обязаны мы тем, что яркое творчество Руставели стало достоянием широких масс.

Прежде, в царской России, Белоруссии, Украине, о Грузии знали по стихам Лермонтова. Руставели был известен немногим по отрывкам из перевода Бальмонта.

Наша современность озарила ярким светом творчество гениального поэта, дала возможность живущим в тесном содружестве всем народам черпать из его сокровищницы.

## ЛЮБОЎ УСІХ НАЦЫЙ

У сям'і вялікіх народаў Украіна, як адна з перадавых рэспублік, цвёрда крочыць уперад. Яна дасягнула вялікіх поспехаў у адзінай сям'і народаў.

Моцная згуртаванасць, пашана, любоў усіх нацый, мудрае кіраўніцтва роднай партыі — вось запарука нашай магутнай хады.

Украіна і Беларусь — дзве заходнія суседкі — непасрэдна стыкуюцца з граніцай старога свету, які ўсёй сваёй звярынай натурай прагне задушыць нас.

Украіна, табе вораг
Ніякі не страшны,
Сцяг твой роўны паміж роўных
У Саюзе нашым.

# 1938

## НАД ЧЫМ МЫ ПРАЦУЕМ

Што значыць — над чым [redacted] працую? Задаць такое пытанне паэту — рызыкоўна. Можна атрымаць адказ — «ні над чым», але можна і сказаць — «над усім».

Мы жывём у такі час, калі амаль кожны дзень прыносіць падзеі вялікай палітычнай важнасці. І абавязак паэта, калі ён не хоча адарвацца ад жыцця, своечасова і высокамастацкімі творамі адгукнуцца на ўсе гэтыя падзеі.

Ці ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў, агентаў царскай ахранкі, аб'яднаных у адной смярдзючай кучцы «праватрацкісцкага блока»?

І як шчаслівы паэт, калі ён можа ў той жа дзень прачытаць на мітынгу гневу і нянавісці да гэтых адкідаў чалавецтва свае вершы, у кожным радку якіх — праклён агідным здраднікам Радзімы.

І ў гэтыя ж дні — другая падзея сусветнага зна-

чэння: на радзіму вяртаецца гераічная чацвёрка папанінцаў. Вяртаецца яна са свайго надзвычайнага дрэйфу, не толькі поўнасцю выканаўшы план навуковых работ, але і яшчэ раз давёўшы ўсяму свету, хто такія бальшавікі, натхнёныя на вялікія справы вялікім Сталіным.

Ці ж можа паэт не адгукнуцца на іх радасны прыезд вершамі, вартымі гэтых вялікіх людзей?

Вось над чым, па сутнасці, я і працую.

А між іншым, у перапынках паміж адной паэтычнай успышкай і другой — я перакладаю «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі для юбілейнага зборніка. Я пераклаў ужо каля пяці тысяч радкоў і мяркую перакласці яшчэ тысяч з пяць.

## СЛАВА БЯССТРАШНЫМ

Бясстрашныя сыны вялікага савецкага народа вярнуліся на сваю радзіму. Слава аб іх пройдзе ва ўсе гады і вякі і будзе служыць прыкладам для жыцця пакаленняў.

Слава аб іх будзе ззяць над нашай зямлёю, як зоры, як сонца на небе.

Слава іх радуе сэрцы мільёнаў і заклікае да такога ж гераізму, да такой жа барацьбы са стыхіяй на карысць нашай непераможнай сонечнай радзімы, на карысць усяго чалавецтва.

Слава ленінска-сталінскай партыі, пад кіраўніцтвам якой маглі выхавацца такія героі.

Слава таварышу Сталіну, чые клопаты натхняюць савецкіх людзей да такіх гераічных подзвігаў.

## ДРУЖБА НАРОДОВ

1

Давным-давно, еще в детстве, я услышал чудесный рассказ о счастье, скрытом от народа.

Раз в год,— говорило поверье,— в ночь под Ивана

Купалу, земля на несколько мгновений раскрывает свои тайны. И тому, кто ровно в полночь найдет цветок папоротника, откроются все земные дары, несметные клады и богатства — этот человек найдет счастье.

То было очень древнее поверье. Оно передавалось из поколения в поколение. Угнетенный белорусский народ мечтал о грядущем счастье и в прекрасных легендах выражал свои мечты.

Но проходили весны, проходили Купальские ночи. А сказочный папоротник все не расцветал.

Когда-то я писал стихи об Ивановой ночи. Но не в июльскую ночь расцвел волшебный папоротник, он начал цвести в грозные октябрьские дни, в суровые годы гражданской войны, когда белорусский народ боролся с интервентами.

2

Цветет, колосится мой край! Я вижу тебя, моя республика, охраняющая могущество моей Родины. Я вижу твои густые леса, твои полноводные озера и реки, твои луга и поля. Я слышу гудки заводов и гул тракторов и комбайнов.

А давно ль понуро шли мы за сохою,
Высевали жито пополам с тоскою,
На обед была нам лебеда с мякиной,
А потом — могила под сухой осиной.

Я не знаю, как была устроена фантастическая «машина времени», придуманная Гербертом Уэллсом. Эта машина переносила и в прошлое. Но разве не в это прошлое переносит человека обыкновенный поезд, отходящий из Минска в Польшу?

Даже фашистская печать не в состоянии скрыть нищенства и разорения польской деревни. В одном польском сборнике, вышедшем не так давно в Варшаве, помещено письмо крестьянина из Виленщины, рисующее «деревенские картины» фашистской Польши:

«Телега на деревянных осях, примитивная упряжь, дохлая лошадь — вот весь прогресс сельскохозяйственной культуры. Словом, я сказал бы, что отступили мы на сто лет назад...»

— Когда на колхозных полях, лежащих у самой границы,— рассказывают пограничники,— работают на-

ши тракторы и комбайны, польские крестьяне тайком от жандармов подходят к пограничной черте и с восхищением наблюдают за радостным трудом советских колхозников.

С восхищением, надеждой и упованием глядят пролетарии всех стран на великое созвездие, озаряющее своим ресиянием мир,— созвездие одиннадцати советских республик.

Моя Белоруссия — одна из одиннадцати, равная среди равных!

### 3

Недавно в Минске выпущена небольшая книжка. Называется она «Советская Белоруссия». В ней приведено множество фактов, ярко раскрывающих величайшие перемены, происшедшие в когда-то закабаленной стране.

В старой Белоруссии насчитывалось 113 костелов, 704 синагоги, тысячи церквей, всего лишь несколько десятков школ и, конечно, ни одного высшего учебного заведения. Семьдесят процентов населения Белоруссии было неграмотным. И стояла, например, деревня Вендраж с церковью да корчмой. Но никто из вендражских крестьян не мог написать и прочесть своего имени. Сейчас, высчитали статистики, вендражские колхозники выписывают 200 экземпляров газет! В Вендраже полная средняя школа, клуб, библиотека. Но ведь деревня Вендраж — лишь одна из иллюстраций культурного расцвета Советской Белоруссии. Такой иллюстрацией может быть каждая деревня, каждый колхоз. Есть, например, в Белоруссии деревня Задубье. За советские годы из задубьевских крестьян выросло 24 учителя, 5 инженеров, 2 врача, 2 командира РККА, 1 летчик, 1 танкист, 2 директора совхозов. А еще 32 молодых колхозника из деревни Задубье учатся сейчас в белорусских вузах.

Еще несколько цифр: в настоящее время в Белоруссии имеется 4259 массовых библиотек (помимо колхозных и совхозных передвижных библиотек) и 1427 изб-читален. С 1835 по 1916 г.— за 81 год — на белорусском языке было издано всего лишь 244 книги. С 1932 по 1936 г.— за 5 лет — издано 5909 книг тиражом 37 миллионов экземпляров. В 1938 г. будет издано 9 901 000 экземпляров книг.

В письме к товарищу Сталину мы вспоминали, как

Белорусский язык был закован цепями,
Чтоб не вышел народ из тюрьмы немоты.

Сегодня с белорусским народом на его родном языке разговаривают Маркс, Энгельс, Ленин и Сталин. На белорусский язык переведены Пушкин и Гете, Шекспир и Бальзак, Горький и Маяковский. Переведены «Слово о полку Игореве», «Витязь в тигровой шкуре», «Кобзарь». На языке своего народа пишут стихи и поэмы, романы и повести, драмы и оперные либретто писатели Советской Белоруссии.

4

В последнее время белорусская литература создала ряд произведений, показывающих прошлое белорусского народа. Характерно, что многие из этих произведений были выпущены после разоблачения подлых наемников фашизма — троцкистов и бухаринцев, буржуазных националистов. Это они скрывали и искажали героическое прошлое белорусского народа, который на протяжении всей своей истории, с древнейших времен, защищал свою кровную связь с русским народом и боролся против иноземных захватчиков — польских панов и немецких грабителей-рыцарей. Подлые, трижды проклятые враги белорусского народа предательски проектировали развитие белорусской культуры, литературы и искусства на фашистскую Польшу. Не удалось им осуществить свои изменнические планы. Советская разведка, весь белорусский народ, ведомый партией Ленина — Сталина, разоблачил предателей и шпионов.

Никому не отделить нас от Союза Советских Республик, никому не разорвать нашу кровную связь с великим русским народом.

Ни один белорус никогда не забудет, что великий русский народ помогал Советской Белоруссии стать социалистической орденоносной республикой, несокрушимым форпостом на западных рубежах Советской страны. Для молодой белорусской литературы великие русские писатели явились воспитателями и учителями. И если Белорусская Советская Социалистическая Республика заняла почетное место в семье братских советских народов, то так же почетно место белорусской литературы среди братских советских литератур.

Развитие многонациональной советской литературы, в сущности, отражает великую сталинскую дружбу народов, населяющих одну шестую часть земного шара.

«А дружба между народами СССР,— сказал товарищ Сталин,— большое и серьезное завоевание. Ибо пока эта дружба существует, народы нашей страны будут свободны и непобедимы. Никто не страшен нам, ни внутренние, ни внешние враги, пока эта дружба живет и здравствует...»

Мы — друзья!

Мой казахский друг, мудрый акын Джамбул — любимый поэт белорусского народа. 750-летие «Слова о полку Игореве» будет большим праздником и Советской Белоруссии, как было праздником 750-летие «Витязя в тигровой шкуре».

5

Богатой, могущественной, культурной встречает Белорусская Советская Социалистическая Республика день выборов в свой Верховный Совет. 26 июня — вот дата, которую навечно мы заносим в летопись нашей страны.

26 июня...

В архивах царской России среди документов, относящихся к Белоруссии, найден любопытный циркуляр, датированный 26 июня.

26 июня 1840 года Комитет министров извещал председателя комитета по делам западных губерний князя Голицына:

«По случаю поднесения высочайшему подписанию проекта указа, в котором упоминались губернии Белорусские и Литовские под сими наименованиями, государь император зачеркнул название Белорусских и Литовских, изволил приказать переписать указ с поименованием губерний каждую отдельно — Витебскую, Могилевскую, Виленскую и Гродненскую; причем последовало собственноручное высочайшее повеление: «Правила сего держаться и впредь, никогда иначе не прописывая, как поименно, губернии».

Так царское правительство вытравляло все, что могло хотя бы отдаленно напоминать о независимости белорусского народа. Но так и сегодня за пограничной

аркой, в панской Польше, вытравляют национальные черты, уничтожают национальные права белорусского народа.

Великая Октябрьская социалистическая революция, партия Ленина — Сталина впервые в истории дали белорусскому народу государственность. С гордостью и любовью мы называем имя великого вождя, по инициативе которого 20 лет назад создавалась Белорусская Советская Социалистическая Республика.

Это имя — Сталин!

Сейчас, в эти весенние дни, белорусский народ, осуществляя нерушимые права, данные ему Сталинской Конституцией, выбирает свой народный советский парламент.

Я читаю ежедневно в газетах резолюции фабрик, колхозов, пограничных застав. Я вчитываюсь в речи рабочих, колхозников, бойцов. Радостью и ликованием преисполнено каждое слово, печатающееся обычным петитом на газетной полосе.

Когда народ хочет выразить свои величайшие чувства, он обращается к поэзии, он слагает сказания и песни. Поэты положили в стихах письмо к товарищу Сталину миллионов колхозников. Это письмо — одно из значительных произведений советской поэзии.

Поэтов не могли не взволновать высокие чувства, которые владеют сейчас белорусским народом. Мы решили к выборам в Верховный Совет БССР издать сборник стихов, посвященный Конституции Белорусской республики. В книгу войдут новые стихи поэтов о Сталине, о величайших правах, данных Сталинской Конституцией гражданам БССР. Эпиграфом к книге будут слова Маяковского:

Читайте,
завидуйте,
я —
гражданин
Советского Союза.

Великая сталинская дружба спаяла 11 равных республик. Любовь и преданность к Родине, к большевистской партии и родному Сталину спаяли воедино 170 миллионов граждан Советского Союза.

В июньскую ночь, говорило старинное поверье, можно увидеть цветение папоротника, можно найти счастье.

Белорусский народ свое счастье нашел. Великий Сталин указал нам на зацветший папоротник.

Высоко подняв боевые знамена,
Свою благодарность, любовь и почет,
Как дар человечий, как песню миллионов,
Приносит тебе белорусский народ.

## ВЯЛІКІ КАБЗАР УКРАІНСКАГА НАРОДА

З творчасцю вялікага ўкраінскага паэта [redacted] знаёмы даўно. Я пачуў упершыню яго словы, яшчэ не ведаючы, каму яны належаць. Я пачуў гэтыя словы з вуснаў беларускіх сялян. Я быў яшчэ падлеткам, калі ў адной вёсцы пад Барысавам пачуў песню:

От села до села
Танці та музики:
Курку, яйця продала,
Куплю черевики!
От села до села
Буду танцювати:
Ні корови, ні вола —
Осталася хата.

Песню спявалі беларускія сяляне на беларускай мове. Словы ўрэзаліся мне ў памяць. Я тады не ведаў, што гэтую песню спявае кабзар у бессмяротным творы Тараса Шаўчэнкі «Гайдамакі». Я даведаўся пра гэта, калі пазнаёміўся з вялікім кабзаром украінскага народа, калі я пазнаёміўся з творамі Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі. Я прыгадваю яшчэ адну сустрэчу з паэтам. Гэта было ў час імперыялістычнай вайны. Эшалон цягнуўся ў Мінск, падоўгу прастойваючы на кожнай сустрэчнай станцыі. На адной станцыі я ўбачыў групу салдат, якія збіраліся вакол казанка. Яны ўважліва слухалі тое, што чытаў ім па кніжцы іх таварыш. Я падышоў бліжэй, каб пачуць тое, што чытае салдат. Ён чытаў «Кабзара». Потым ён старанна схаваў кніжку ў свой рэчавы мяшок. У тыя ліхія гады прыходзілася хаваць «Кабзара». Царскі ўрад не дапускаў да народа палымяных шаўчэнкаўскіх слоў. З вуснаў у вусны перадавалі працоўныя беларусы слова паэта. Цэнзура забараняла пераклады Шаўчэнкі гэтак жа, як забараняліся яго творы на яго роднай мове.

Над перакладамі з Шаўчэнкі я працую даўно. Для «Кабзара», які выдаецца на беларускай мове, я пераклаў такія творы, як «Кацярына», «Гайдамакі», «Сон», «Прычынна», «Перабендзя», «Тарасова ноч» і іншыя.

Радасна зараз працаваць над перакладамі гэтых цудоўных твораў, ведаючы, што іх не давядзецца хаваць і што іх будуць чытаць сотні тысяч беларускіх рабочых, калгаснікаў, інтэлігентаў.

## 1939

### КАК РОДИЛАСЬ СЧАСТЛИВАЯ ПЕСНЯ

Был я когда-то незадачливым, тихим, несмелым. Попросту был верен родной земле, попросту пел свои песни, горячо мечтая о времени, когда:

Счастье увидев в родимом народе,
Сам бы стал счастлив Янка Купала.

Из края в край родной Белоруссии бродил я в потемках скорби народной, как путник на огонек, шел на крик человека. Страшен был этот крик — выразитель тяжелейших страданий Беларуси.

...Темень,— как взглядом ни кинуть...

И думалось:

...Неужто огонь не зажжется,
Неужто прохожему сгинуть?

Неужели только и будет народу награда богата — грязный кабак и острожные тюрьмы?

Где дороги? Где правда? Где взойдет наше солнце и взойдет ли оно когда-нибудь?

А потом загремела гроза над страной. Недаром рождение белорусской поэзии так тесно связано с революцией 1905 года, как и расцвет ее — с социалистической революцией. В болотных гатях, в глухом Полесье, вспоенная борьбой, рождалась надежда на лучшую долю, а из тоски вековой вырастала ненависть к угнетателям.

На волнах людского горя выплывала еще неясная народу правда, и тогда вот — тридцать четыре года назад — в 1905 году в первый раз сложились мои стихи.

От первой моей книжки, от первой «Жалейки» до сегодняшних дней прошло немало — 30 лет.

Долгой этой дорогой шел я по-разному. Бывало, и спотыкался, и слеп, и дорогу терял, и в болоте вяз... Но поводырем приходил народ, не забывший, не бросивший меня, и выводил на верную стежку.

Так я и шел через жизнь.

А великое чудо уже ходило по белорусским хатам, хлебом-солью встречал народ ясную ленинскую правду. И я ей поклонился до земли и — плохо ли, хорошо ли — спел ей свои песни.

Пел о свободном народе, о яркой, солнечной стране, о счастье... Когда половину жизни поешь о горе, нет ничего радостней для поэта на свете, как право на счастливую песню.

А песня моя не могла быть несчастливой. Вставала страна, одетая весенним венком, нарядившаяся на труд, как на свадьбу, поднятая из болота прямо к небу.

Партии, великому Сталину, старшему брату — русскому народу — отдана самая взволнованная, самая горячая и благодарная любовь белорусского народа. А я — слуга народа. И не могла не воплотиться в моих песнях эта любовь. И когда о Сталине, об отце, о вожде, запевает песню Беларусь, пою и я.

Тебе, наш учитель, мои все желанья,
И песни, и думы, и сердца порывы!
Кому это снилось, кто мог знать заране,
Что буду я вольным, что буду счастливым?
Ты делаешь явью мечты миллионов,
Людей ты избавил от бед и страданья,
Чудесным посевом засеял загоны,
И жизнь превратилась в легенду, и сказанье.
На небе заря разгорается краше,
В полях колосится пшеница и жито...
Тебе, наш учитель, все помыслы наши,
Тебе наше жаркое сердце открыто.

Богатой наградой ответил мне народ на мои песни.

Сторицей вознагражден мой скромный, но шедший всегда от полного сердца труд. Орден Ленина, великого Ленина, чье имя одно звучит как лучшая песня в народе, дан мне правительством.

Эту награду, большую, как жизнь, я принимаю, беру и буду хранить как самое заветное и драгоценное в мире. А жизнь моя до последнего дыхания будет отдана народу и его вождю — Иосифу Сталину.

# ЖЫЦЦЁ МАЁ НАЛЕЖЫЦЬ НАРОДУ, ПРАВАДЫРУ

Дзень узнагароджання мяне ордэнам Леніна з'яўляецца самым шчаслівым у маім жыцці. А жыццё маё змалку дзён было невясёлае, аблітае потам і слязьмі сваімі, потам і слязьмі майго закаванага народа.

З краю ў край па загонах роднай Беларусі блукаў я ў пацёмках народнага гора і няволі народнай. Як абнядолены падарожны ноччу на аганёк, ішоў я на крык чалавека. Страшны быў гэты крык — крык бязмернага мучэння Беларусі. І здавалася, канца не будзе вялікаму гору народнаму, катаржнай няволі народнай.

Дзе шляхі да яснай долі і волі? Дзе светазарная праўда? Калі ўзыдзе наша сонца і ці ўзыдзе яно калі-небудзь?

І вось загрымеў гром над краінай. Нездарма нараджэнне беларускай паэзіі звязана з рэвалюцыяй 1905 года, як і росквіт яе — з сацыялістычнай рэвалюцыяй. На балотных дрыгвах, па лясах і пушчах, у жабрачых хатах беларускага народа, выгадаваная барацьбой, нараджалася надзея на лепшую долю, а з адвечнай пакуты вырастала нянавісць да прыгнятальнікаў.

На хвалях людскога гора выплывала яшчэ няясная народу праўда, і тады вось — 34 гады назад, у 1905 годзе — упершыню пачалі складацца мае вершы-песні.

Ад першай маёй кніжкі, ад першай «Жалейкі» да сённяшніх дзён прайшло нямала — 30 год. Доўгай гэтай дарогай ішоў я па-рознаму. Бывала, і спатыкаўся, і дарогу губляў, і ў цянёты трапляў балотныя... Але правадыром прыходзіў народ, які не забываў, не пакідаў мяне і выводзіў на правільную сцежку. Гэтак ішоў я цераз жыццё.

А вялікі цуд ужо хадзіў па беларускіх хатах, хлебам-соллю сустракаў народ ленінскую праўду. І я гэтай праўдзе нізка, шчыра пакланіўся і — кепска ці добра — праспяваў ёй свае родныя песні.

Спяваў я аб вольным народзе, аб яснай, сонечнай краіне, аб шчасці. Калі палавіну жыцця прыходзілася спяваць аб горы, то няма нічога болей радаснага для паэта, як права на шчаслівую песню.

А песня мая не магла не быць шчаслівай. Уставала краіна, прыбраная вясеннім вянком, прыаздобіўшыся на працу, як на вяселле, узнятая з балота проста да неба.

Партыі, вялікаму Сталіну, старэйшаму брату — рускаму народу аддадзена самая ўсхваляваная, самая гарачая і ўдзячная любоў беларускага народа. І калі аб Сталіне, аб бацьку, аб правадыру, спявае песню Беларусь, то і я спяваю.

Багатай узнагародай адказаў мне народ на мае песні.

У многа разоў узнагароджана мая скромная, але ішоўшая заўсёды ад самага сэрца праца. Ордэн Леніна, вялікага Леніна, чыё імя адно гучыць як лепшая песня ў народзе, дадзен мне ўрадам.

Гэту ўзнагароду, вялікую, як жыццё, прымаю, бяру і буду берагчы як самае заветнае і дарагое ў свеце. А жыццё маё да апошняй мінуты будзе аддадзена народу і яго правадыру — вялікаму Сталіну.

Табе, правадыр, мае песні і думы,
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы?

Што яваю станецца сон мільёнаў,
Цудоўныя казкі ў жыццё ператворыш,
Абсееш пасевам жывучым загоны
І сцежкі наметзіш да сонца і зораў.

На небе — Шлях Млечны, на небе — вясёлкі.
На гонях красуе пшаніца і жыта...
Бягуць, не спыняюцца думкі-саколкі
К табе, правадыр мой, у сонцы спавіты!

## <ИНТЕРВЬЮ «ЛИТЕРАТУРНОЙ ГАЗЕТЕ»>

Перевожу Лермонтова на белорусский язык. Это очень большая, волнующая и нужная работа. Пока еще в голове — стихи о Шевченко, о замечательном поэте, о большом человеке с яркой и трагической жизнью. Очевидно, скоро я напишу их. Работаю и над сценарием кинокартины по своей поэме «Над рекой Орессой».

## <ВЫСТУПЛЕНИЕ В СОВХОЗЕ «ПЛАМЯ» РАМЕНСКОГО РАЙОНА МОСКОВСКОЙ ОБЛАСТИ>

Дорогие товарищи и друзья!

Сегодня у нас простой, будничный разговор. Рядовая наша встреча состоялась без всяких торжественных причин. У нас с вами — горячая рабочая пора, и для вас, колхозников, работников, и для нас, поэтов, весна всегда была временем большого волнения и большого труда.

И все-таки такие вот наши встречи, как будто привычные и простые,— замечательное явление нашей советской жизни, нашей сталинской эпохи. Это все-таки праздник, наш общий праздник, и именно потому, что он каждодневен и прост.

Не видав своими глазами, не щупав руками, не прожив вместе с нами эти годы борьбы и побед, трудно осознавать все значение таких вот наших деловых, будничных разговоров.

Позавчера вы здесь же обсуждали очень важный вопрос о направлении развития образования в сельских колхозных школах. Не об образовании, а именно о направлении образования говорили вы, потому что образование в деревне, в колхозе — дело уже решенное. В капиталистических странах о таких вещах разговаривают разве что в министерствах.

Сегодня разговор не менее важный идет о другом — о литературе.

Вы знаете, дорогие товарищи, что на XVIII съезде партии была поставлена большая задача — коммунистически воспитать советского человека.

Да, недалек час, когда весь советский народ, все рабочие и крестьяне станут культурными и образованными людьми. Это звучит как сказка, но ведь это самое близкое наше завтра.

В фашистских странах по понятным причинам сейчас делается все для того, чтобы уничтожить интеллигенцию, уничтожить волю, разум и знания у людей.

Зачем и для чего?

«Всякая идея становится материальной силой только тогда, когда она овладевает массами»,— сказал Маркс. А как превратить в реальную силу идею фашизма — идею реакционную, идею утонченного издевательства над народом, идею рабства, если народ будет разбираться в идеях и понимать, какая идея к чему? Ведь если

немецкий и итальянский народ поймет так называемую «идею фашизма», то от фашизма на другой же день ничего не останется. Поэтому фашисты и ведут крестовый поход против интеллигенции, против знания и культуры, потому что знания и культура — это смерть фашизма и, наоборот, фашизм — это смерть культуры и знания.

У нас власть принадлежит вооруженному идеей народу. Вот почему призыв партии к дальнейшему и всеобщему коммунистическому воспитанию советского человека нашел такой горячий отклик в наших сердцах, и вот почему мы клянемся тебе, товарищ Сталин, что все свои силы отдадим на строительство, на создание 170 миллионов крепостей большевизма в нашей стране. *(Аплодисменты.)*

Нам с вами легко разговаривать. Прошлое у нас одинаковое. Вы росли в деревне, и я вырос в ней.

И если бы не Великая Октябрьская революция, если бы не партия Ленина — Сталина, то и вы, и я по-прежнему тянули бы ярмо рабства и унижения. Одинаковыми путями пришли к своему счастью наши народы. Мучителен был этот путь. Столетия голода и рабства. Понимаете, товарищи, столетия! Человек рождался и умирал, за свою жизнь ни разу не ощутив настоящей радости, тысячи людей жили и умирали, ни разу не наевшись досыта.

О какой культуре народа тогда могла идти речь! За 80 лет на белорусском языке было напечатано 15 книг. Да и то, знаете ли вы, как эти книги печатались? Их приносили в царскую цензуру как болгарские книги, и только тогда их разрешали печатать неграмотные дикари-чиновники, боявшиеся даже не содержания, а самих слов — белорусская культура, родной язык. Не мудрено, что мой народ в те глухие, страшные времена был забит, неграмотен и нищ.

За годы Советской власти освобожденный белорусский народ создал свою культуру и литературу. Народ наш оказался способен на великие героические, на творческие дела. Многим нашим колхозам землю пришлось отнимать у трясин, у болот, у лесов. И какую замечательную землю взял себе с бою наш народ, какие замечательные колхозы он на ней создал! Какие замечательные люди выросли в этих колхозах! И мы, представители белорусской советской литературы, горды от сознания

того, что своим словом в меру наших сил помогли росту нашего народа, росту его культуры, росту его творческих сил.

Хорошо и складно сказанное слово скорее доходит до сердца. Кто из вас не знает силу такого слова, силу песни, силу стиха, силу сказки, присказки, рассказа? Вот почему писательский труд в нашей стране так высоко ценится, вот почему с такой щедростью награждают партия и правительство писателей, если они работают честно на пользу народа.

Давно уже лучший поэт нашей советской эпохи Владимир Маяковский сказал, что «и песня и стих — это бомба и знамя, и голос певца поднимает класс». К этому можно добавить, что и песня, и стих, и роман, и рассказ — это еще и спутник агитатора, и друг, и брат, и товарищ.

Недавно на большом собрании московских писателей т. Фадеев, писатель, автор книг, которые вы все, очевидно, знаете, говорил о том, что нет у нас силы воздействия на человека, равной искусству. И он был прав. Огромное оружие дано нам, и мы его должны очень остро оттачивать, чтобы оно было на своем деле полезным народу, нашему государству, нашей партии.

Для этого наша литература должна прежде всего стать народной, т. е. доходить до сердца каждого из своих читателей, до сердца каждого человека, плохого или хорошего. Хорошего она должна поддерживать и устремлять вперед, плохого — выправлять и перевоспитывать. Литература должна быть неразрывно связана с народом, учиться у народа, проверять себя на народе, советоваться с народом — иначе она не будет советской литературой.

Многое достигнуто уже советскими писателями. Их знает и любит весь советский народ. Много у нас поэтов и писателей, хороших и разных, но это еще не то, что нам надо в литературе. Нам нужны отличные писатели, отличная великая советская литература.

Дорогие друзья! У нас сегодня дружеская беседа. Вы знаете, писатель творит для народа. Писатель, который с народом, с массами не связан, ничего не стоит. Поэтому каждому советскому писателю всегда интересно послушать, что думают о современной ему литературе читатели, чего они ждут от литераторов. И гораздо лучше будет, если не я буду говорить сейчас, а вы о том,

русі> і З<аходняй> У<краіны> — баявыя атрады Камінтэрна — ні шалёным тэрорам, ні правакацыямі.

З велізарнейшым абурэннем спатыкаюць працоўныя масы Беларусі новую камедыю суда над лепшым прадстаўніком працоўных мас З<аходняй> Б<еларусі> тав. Браніславам Тарашкевічам — былым старшынёй стотысячнай рабоча-сялянскай Грамады. Пераапранутым у судзейскія мундзіры вешацелям і жандарам не ўдасца схаваць класавую сутнасць гэтай камедыі. Правасуддзе фашыстаў, разграміўшых стотысячную арганізацыю рабочых і сялян, здрадніцкі захапіўшых у міжнародным цягніку чалавека, якога не ўдалося ні зламаць катаваннем, ні падкупіць дачасным выпускам з турмы,— добра вядомае працоўным масам.

Мы, пісьменнікі Савецкай Беларусі, падымаем свой голас абурэння і пратэсту супроць камедыі суда над Браніславам Тарашкевічам. Мы патрабуем яго вызвалення. Мы заклікаем пісьменнікаў усяго свету, усіх тых, каму дарага справа вызвалення эксплуатуемых, далучыць разам з намі свой голас да пратэсту мільённых мас рабочых і сялян Беларусі ў абарону Тарашкевіча.

Няхай жыве сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўных мас Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам КПЗБ!

Няхай жыве гераічная КПП і КПЗБ!

Прэч фашыстоўскі тэрор!

Волю вязням капіталу! Волю змагару за вызваленне працоўных мас Браніславу Тарашкевічу!

*Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, М. Аляхновіч, З. Аксельрод, С. Баранавых, М. Багун, П. Бройка, Хв. Бужан, Л. Бэндэ, П. Глебка, А. Дудар, М. Зарэцкі, С. Знаёмы, В. Каваль, М. Клімковіч, А. Куляшоў, Р. Кобец, К. Крапіва, Т. Кляшторны, М. Лынькоў, С. Ліхадзіеўскі, А. Ліпнёвы, М. Лужанін, Б. Мікуліч, М. Модэль, Р. Мурашка, М. Нікановіч, Ул. Стэльмах, Ю. Таўбін, М. Тэйф, І. Харык, Ул. Хадыка, М. Хведаровіч, М. Чарот, К. Чорны, С. Шушкевіч.*

## АДКАЗ КАМСАМОЛЬЦАМ СЛУЧЧЫНЫ

Таварышы камсамольцы Случчыны!

У газеце «Чырвоная змена» мы прачыталі ваш ліст да пісьменнікаў БССР, ваш рахунак да ўсіх нас. Вы патрабуеце ад нас новых п'ес, песеннікаў, дэкламатараў, інсцэніровак, зборнікаў з мастацкімі апавяданнямі.

Вы нам прад'явілі вельмі цяжкае абвінавачванне, што з-за нас вельмі рэдка ўзнімаецца заслона калгаснай сцэны. Так, таварышы, мы адчуваем адказнасць і ў сваю чаргу хочам прыцягнуць да адказнасці і Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, якое за апошні час фактычна ігнаруе справу выдання рэпертуару для калгаснай сцэны. Той факт, што ДзВБ у 1933 годзе выдала 2 п'ескі, ■ ў плане чацвёртага квартала няма ніводнае, гаворыць сам за сябе.

Вы, таварышы камсамольцы Случчыны, хаця крыху са спазненнем, але ўзнялі гэтае пытанне, бо і сапраўды, як можна праводзіць культмасавую работу ў калгасах, калі не будзе адпаведнага матэрыялу? Канчатковы паварот бядняцкіх і серадняцкіх мас у бок сацыялізму, барацьба з кулацтвам, барацьба за арганізацыйнае ўмацаванне калгасаў, барацьба за падняцце ўраджайнасці, за ахову сацыялістычнай маёмасці і цэлы рад важнейшых мерапрыемстваў нашага сацыялістычнага будаўніцтва, якія праходзяць пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, вядуць да пабудовы бяскласавага грамадства, да сацыялізму. У гэтых важнейшых гістарычных працэсах адбываецца пераробка ўласніцкай псіхікі працоўнага селяніна старой вёскі, праводзіцца пераробка чалавека, знішчэнне эксплуатацыі чалавека чалавекам, аб чым нас вучыць наша партыя і яе генеральныя тэарэтыкі, правадыры Маркс — Энгельс — Ленін — Сталін.

Сённяшні ўдарнік сацыялістычнага поля, дэлегат з'езда калгаснікаў — гэта новы селянін. Аднак рэшткі капіталістычнага ладу ў вёсцы яшчэ трымаюцца, і пры аслабленні палітвыхаваўчай культмасавай работы яны вылазяць са ўсіх шчылін. Кулак яшчэ не дабіты, ніткі яго ідэалогіі тонка і хітра сплятаюцца там, дзе няма вострай зброі партыі, камуністычнай літаратуры, спектакля, песні, дзе няма новага віду разумнай забавы, адпачынку.

Сённяшні ўдарнік сацыялістычнага поля прад'яўляе і да літаратуры, і да мастацтва новыя запатрабаванні. Вы, таварышы камсамольцы, праваднікі ленінскіх ідэй у гушчы беспартыйнай моладзі і ўсёй масы калгаснікаў, аформілі гэтыя запатрабаванні ў рахунак.

Так, гэта — рахунак, які мы, савецкія пісьменнікі, прымаем і абавязваемся аплаціць.

Аплаціць мы яго павінны разам з Народным Камісарыятам Асветы і Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі.

Мы ўпэўнены, што пры напружанай нашай працы пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б адсталы ўчастак на фронце культмасавай работы ў калгасах, а менавіта самадзейнае мастацтва — будзе ўзнята на належную вышыню, на ўзровень задач эпохі сацыялізму, на ўзровень запатрабаванняў новага земляроба сацыялістычнага поля.

Заслона калгаснай сцэны павінна быць увесь час узнятай для барацьбы з класавым ворагам, для камуністычнага выхавання калгасных мас, і таксама беднякоў, сераднякоў, аднаасобнікаў — будучых калгаснікаў, для разумнай забавы і адпачынку.

*Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Ільля Гурскі, М. Ільінскі, Андрэй Александровіч, Міхась Лынькоў, В. Сташэўскі, К. Крапіва, Кузьма Чорны, Міхась Зарэцкі, Барыс Мікуліч, Платон Галавач, Міхась Блісцінаў, Васіль Каваль, Ул. Стэльмах. В. Шашалевіч, Яўг. Рамановіч.*

## 1934

### ПИСАТЕЛИ БЕЛОРУССКОЙ ССР, ДЕЛЕГАТЫ ПЕРВОГО ВСЕСОЮЗНОГО СЪЕЗДА,— ТОВАРИЩУ СТАЛИНУ

Дорогой Иосиф Виссарионович!

Нам, белорусским писателям, делегатам Всесоюзного съезда, хочется поделиться с Вами, лучшим другом советских писателей, вождем и учителем, неизгладимы-

ми впечатлениями, которые оставляет в наших сердцах этот великолепный съезд.

Прежде всего наш съезд — это замечательный показатель единения пролетарских культур, национальных по форме, показатель их огромного роста, показатель триумфа национальной политики партии. Вот почему, когда мы слышим, что народы, не имевшие до Октябрьской социалистической революции своей письменности или, как мы, белорусы, имевшие ее формально, а фактически почти поголовно безграмотные, теперь, в результате ленинской национальной политики, создали свою промышленность, создали в изумительно короткий срок богатейшую культуру,— наши взоры обращаются к Вам, дорогой Иосиф Виссарионович. Ибо Вы еще в глубоком подполье разработали принципы национальной политики большевистской партии, под Вашим руководством наша славная партия с таким успехом проводит их в жизнь. Вы учили, помогали, вооружали нас теорией в борьбе против буржуазных националистов. Вы сплачивали народы великого Союза Советских Социалистических Республик.

Мы счастливы, что единство политических и хозяйственных интересов всех республик и областей, единство их воли, направленной к защите Родины и ее процветанию, нашло свое отражение в работах нашего писательского съезда, нашло свое отражение в художественной литературе. В этом — огромная заслуга Алексея Максимовича Горького.

Мы счастливы сказать Вам, что мы, как и выступавшие представители других литератур, были полны гордостью творцов всесоюзной литературы, искренними заботами о ней во всем ее объеме. Съезд поднял ответственность каждого писателя за всю литературу. Это — наилучший показатель большевистского единства и боевого пролетарского интернационализма советской литературы. «Крепите единство» — с этой мыслью разъедутся все писатели после 1-го своего съезда. «Крепите боевой пролетарский интернационализм» — эта мысль звучала в выступлениях всех делегатов, это звучало в выступлениях наших гостей, революционных писателей Запада. Они вместе с нами радовались нашим успехам. Да и не только они. Мы знаем, как радуются нашим успехам — успехам Советской Белоруссии — задавленные нуждой и гнетом трудящиеся массы Запад-

ной Белоруссии. Они не имеют своих школ, у них отнято элементарное человеческое право говорить на своем родном языке. Разве развитие нашей советской науки, нашей советской белорусской литературы, развитие экономики и благосостояния нашей страны — неотъемлемой части Союза ССР — не является для них путеводной звездой среди мрака национального и социального гнета? Разве наши успехи не вдохновляют и их, и нас на защиту Советского Союза?

Мы заверяем Вас, Иосиф Виссарионович, и в Вашем лице ЦК ВКП(б), что мы отдадим все наши силы, все наше умение, а если нужно — и жизнь, великому делу социализма, гениально начатому Лениным и победившему под Вашим руководством.

*А. Александрович, П. Бровко, Я. Бронштейн, З. Бядуля, П. Головач, Х. Дунец, И. Гурский, Ц. Гартный, М. Климкович, Я. Колас, Я. Купала, А. Корпачев, К. Крапива, Кульбак, М. Лыньков, К. Чорный, М. Чарот, И. Харик.*

## 1935

### БАРАЦЬБІТУ ЗА ПЕРАДАВЫЯ ІДЭІ ЧАЛАВЕЦТВА

Дарагі Рамэн Ралан!

Вы ўпершыню ўступілі на зямлю нашай вялікай Радзімы, перавыкоўваючай шчасце для чалавека, за якое горда і неаслабна змагаецеся Вы — чалавек ідэйнай мужнасці, чэснасці і непадкупнасці.

У гэтыя дні Вашы сябры і таварышы на Міжнародным кангрэсе сабраліся для абароны культуры, супроць фашызму і яго варварства, для абароны СССР. Вы сваім прыездам тое самае дэманструеце тут, на радзіме пралетарыяў свету.

Нашы шчырыя і сардэчныя прывітанні і пажаданні Вам, дарагі і лепшы прадстаўнік інтэлігенцыі свету, змагар супроць фашызму, супроць новых войн, за спра-

ву міру, за сапраўдную культуру, за лепшыя ідэі чалавецтва, якія ажыццяўляе на справе наша сацыялістычная Радзіма.

По даручэнню Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР

*М. Клімковіч, Андрэй Александровіч, Я. Купала, Я. Браніштэйн, І. Харык, К. Крапіва, П. Галавач, Кузьма Чорны.*

## ТРОХКУТНІКУ МАГІЛЁЎСКАЙ ФАБРЫКІ ШТУЧНАГА ШОЎКУ

Жыць стала лепш, таварышы! Жыць стала весялей — вось неўміручыя словы вялікага Сталіна, што просяцца на вусны, калі мы вітаем вас, таварышы рабочыя, тэхнічны персанал і служачыя Магілёўскай фабрыкі штучнага шоўку, з вашай пераможнай пяцігодкай.

Адышла беспаваротна ў мінулае старая, жабрачая, бескультурная Беларусь — краіна нябачнага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

Гіганты сацыялістычнай індустрыі пераможна крочаць па нашай краіне,— сярод іх пачэснае месца вашай фабрыцы.

На працягу пяці год пабудаваць падобную фабрыку, перавыхаваць пяцітысячны калектыў, асвоіць сучасную складанейшую тэхніку вытворчасці штучнага шоўку, біць тэхнічныя нормы капіталістычных прадпрыемстваў — ці ж не з'яўляецца гэта найпрыгажэйшым цудам нашых дзён?

Ці ж не таму савецкія пісьменнікі лічаць для сябе справай гонару пісаць аб такіх, як вы,— выдатных будаўніках бяскласавага грамадства?

Праўленне Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР шле вам гарачыя прывітанні к дню вашай слаўнай пяцігодкі.

*А. Александровіч, Я. Браніштэйн, П. Бройка, І. Гурскі, П. Галавач, Я. Купала, Я. Колас, М. Клімковіч, М. Лынькоў, К. Чорны, М. Чарот, І. Харык.*

## ПАМЯТИ ВЕЛИКОГО ЧЕЛОВЕКА

Скорбь и острая боль огромной утраты.

Умер Алексей Максимович Горький, величайший писатель нашей эпохи! Умер огромной значимости человек, писатель-гражданин. Это он написал на своем писательском знамени: «Пока мы не научимся любоваться человеком, как самым красивым и чудесным явлением на нашей планете, до той поры мы не освободимся от мерзости и лжи нашей жизни. С этим убеждением пришел я в мир и уйду из него. И, уходя, буду непоколебимо верить, что когда-то мир признает: святая святых — человек».

Да, дорогой Алексей Максимович, одна шестая часть мира торжественно и всенародно устами своего гениального вождя утвердила свое пророческое убеждение, что святая святых — человек. Но в то время, когда все граждане великого 170-миллионного освобожденного народа, радостно взволнованные, обсуждали эти права человека как результат побед нашего социалистического строя и его вдохновителя,— неумолимая смерть стояла у Твоего изголовья.

Ты умер, дорогой Алексей Максимович, но Ты незримо живешь с нами и будешь всегда жить как наш наставник, неустанно зовущий вперед, к прогрессу, к вершинам знания, совершенствованию человеческой личности, к художественному воплощению ее в поэтических образах, в борьбе с пошлостью, с мещанством. Никогда не забудут Тебя угнетенные народы, сегодня освобожденные и счастливые, и в частности белорусский народ, ибо Ты — единственно великий писатель, признавший право этого народа на развитие его художественной литературы.

Народные поэты БССР *Якуб Колас, Янка Купала.*

## БЫВАЙ, НАШ ГОРКІ!

Памёр Максім Горкі! Памёр найвялікшы пісьменнік сучаснасці, імя якога знаёма і любіма працоўнымі ўсяго свету, творы якога выхоўвалі, выхоўваюць і будуць выхоўваць пакаленні бясстрашных барацьбітоў за справу пралетарыяту. Памёр вялікі рэаліст — наследнік вялікіх рускіх пісьменнікаў XIX века, жывое звяно паміж класічным мастацтвам мінулага і новым мастацтвам сацыялізму. Памёр найвялікшы пісьменнік рабочага класа, буравеснік пралетарскай рэвалюцыі, які ўсё жыццё, да апошняга ўздыху, аддаў служэнню пралетарыяту, магутны мастак слова, сэрца якога білася вялікай любоўю да ўсіх прыгнечаных і спапяляючай нянавісцю да ўсіх эксплуататараў і прыгнятальнікаў.

Памёр вялікі друг Леніна і Сталіна, памёр чалавек родны і блізкі кожнаму працоўнаму Саюза Савецкіх Рэспублік, кожнаму працоўнаму любой краіны, любой нацыі. Памёр найвялікшы пралетарскі гуманіст, чый голас будзіў сумленне лепшых людзей свету, лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі Захаду і Усходу. Голас Горкага клікаў іх на смяротную барацьбу з усякім мракабессем, чалавеканенавісніцтвам, з фашысцкімі бандамі, рыцарамі бізуна і вайны. Ён вёў іх на барацьбу ў імя шчаслівага камуністычнага жыцця, у імя чалавечай годнасці, бо «чалавек — гэта гучыць горда».

У горы, схіляючы сцягі над трунoй Аляксея Максімавіча, мы ведаем: геніяльныя словы яго будуць гучаць у вяках, імя яго ніколі не будзе забыта чалавецтвам.

Для нас жа, савецкіх пісьменнікаў, якім выпаў гонар быць малодшымі саратнікамі Аляксея Максімавіча, ён — і ў далейшым, як пры жыцці сваім, будзе служыць вялікім прыкладам пісьменніка, беззаветна адданага справе рабочага класа.

Бывай, друг, бывай, настаўнік, бывай, наш Горкі!

*Шчарбакоў, Ангараў, Айні, Афінагенаў, Асееў, Александровіч, Алазан, Алекберлі, Астэміраў, Акоп-Акапян, Аросеў, Айсханаў, Адаліс, Анісімаў, Бахмецьеў, Бах, Безыменскі, Балотнікаў, Бегімаў, Біль-Белацаркоўскі, Беразоўскі, І. Бабель, Беспашчадны, Верасаеў, Вішнеўскі, Віртанскі, Вургун, Гладкоў, Гарбуноў, Гарэлаў, Герасімава В., Гайраці, Гольдберг, Галодны, Джавахішві-*

*лі, Дзям'ян Бедны, Джансугурaў, Джывелегаў, Золатаў, Зошчанка, Іваноў Вс., Ілеш, Іргат Кадыр, Кірпоцін, Кіршон, Клімковіч, Кулік, Катаеў, Караваева, Кальцоў, Кірыленка, Капыленка, Купала, Колас, Касіль, Катаеў В., Кочын, Лахуці, Лявонаў Л. Е., І. Лупол, Лібедзінскі, Лайцэн, Лідзін, Лугаўской, Леўман, Мікітэнка, Маджыдзі, Малышкін, Маршак, Маркіш, Мірскі, Малчанаў, Новікаў-Прыбой, Накаракаў, Наджмі, Нікулін Л., Нікандраў, Нейштат, Алеша, Авалаў, Аршанскі, Асінскі, Панфёраў, Панч, Паўленка, Пільняк, Пастэрнак, Пагодзін, Прышвін, Первамайскі, Папоў, Пельшэ, Стаўскі, Сейфуліна Л., Сіманян, Серафімовіч, Слонімскі, Субоцкі Л., Собалеў, Сямёнаў, Сіткоўскі, Тынянаў, Ціханаў, Талстой, Тарашэлідзе, Таш-Назараў, Трэнёў, Тычына, Тагіраў, Такамбаеў, Фадзееў, Федзін, Фефер, Форш, Фінк, Харык, Чарыеў, Чапыгін, Чанда, Чубар, Шолахаў, Шагінян, Шырабон, Шторм, Эрэнбург, Эйдэман, Эрдберг, Эулі, Эфрос, Юдзін, Ясенскі, Яшэн, Яшвілі, Яноўскі.*

## РОДНЫ, ЛЮБІМЫ ІОСІФ ВІСАРЫЁНАВІЧ!

Гневам, усё нарастаючым, усё знішчаючым магутным гневам — напоўніліся сэрцы 170-мільённага народа, калі даведаўся ён з матэрыялаў абвінаваўчага заключэння аб усіх агідных злачынствах мярзотнікаў з контррэвалюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай банды, прадаўшы душу сваю і цела германскай фашыстоўскай ахранцы, з жахлівым цынізмам і разлікоўнасцю рыхтаваўшых замах на самае дарагое, што ёсць у народа,— на яго правадыроў.

Пачуццё вялікага болю, нянавісці да ворагаў агарнула нас, калі даведаліся мы, што тройчы прэзрэнныя Троцкі, Зіноўеў і Каменеў адабралі ад народа палкага

правадыра, чалавека вялікага сэрца Сяргея Міронавіча Кірава.

Ледзяным жахам павеяла на нас, калі даведаліся мы, што трацкісцка-зіноўеўскія вырадкі рыхтавалі замах на Вашае жыццё — жыццё, што належыць усяму працоўнаму чалавецтву, жыццё, за якое мы — сыны вялікага народа Саюза Саветаў — гатовы аддаць сваю кроў.

Родны Іосіф Вісарыёнавіч!

Вы — правадыр працоўнага чалавецтва, яго бацька і настаўнік. Вы — сонца, пад якім квітнее камуністычнае грамадства ў нашай краіне. Вы і лёс камунізму — непарыўнае цэлае. Вось чаму народы Савецкага Саюза поўны да Вас высокай любові, вось чаму яны, абкружаючы Вас, свайго роднага і любімага генія, і ўсіх Вашых саратнікаў жалезнай сцяной, недаступнай для ворага і здраднікаў, аднадушна заяўляюць:

Смерць бандыцкім вырадкам, якія ёсць у рэвалюцыі і што замахнуліся на яе мозг, сэрца — на Сталіна!

Выпаліць і да канца раскрыць усе змяіныя гнёзды трацкісцка-зіноўеўскай контррэвалюцыі!

Родны Іосіф Вісарыёнавіч!

Мы яшчэ больш узмоцнім нашую пільнасць, рэвалюцыйную непрымірымасць да ворагаў народа. Вы ж беражыце сябе, беражыце сваё здароўе, жывіце ў добрым здароўі многа-многа год на радасць і шчасце чалавецтва.

Беларускія савецкія пісьменнікі выказваюць Вам сваю гарачую любоў і адданасць і заканчваюць словамі з ліста беларускага народа да Вас:

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ!

Ад імя Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР:
*Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Платон Галавач, Ільля Гурскі, Якаў Бранштэйн, Міхась Чарот, Пятро Глебка, Ізі Харык, Кандрат Крапіва, Эдуард Самуйлёнак, Кузьма Чорны, М. Кульбак, Ал. Кучар, Барыс Мікуліч, Змітрок Бядуля.*

## ДАРАГІ КАНСТАНЦІН МІХАЙЛАВІЧ!

Трыццаць год назад, у глухую поўнач народнага гора і гневу, над палітымі крывёю і потам працоўных беларускімі абшарамі ўпершыню ўзнялася Ваша песня, простая і хвалюючая, гордая і суровая, яна клікала на штурм супраць багацеяў, паноў і самаўладства.

Былі гады, калі Ваша песня падала ў багну нацыяналізму. Але, зноў узнімаючыся, яна нарэшце ажыла, знайшла свой народны голас і цяпер дапамагае савецкаму беларускаму народу будаваць пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў Беларусі і яе баявога кіраўніка М. Ф. Гікалы новае, радаснае і шчаслівае жыццё.

Вашы песні, Ваша мастацкае слова, дарагі Канстанцін Міхайлавіч, як ніколі расквітнелі ў вясне новых чалавечых спраў, у вясне краіны сацыялізму. Вы адчулі, што толькі Кастрычнік і ленінска-сталінская нацыянальная палітыка вядуць да разняволення працоўныя народы, да разняволення мастацкага слова.

Няхай жа Ваша мастацкае слова яшчэ больш горда, яшчэ больш моцна загучыць на гора ворагам і на радасць творцам сацыялізму. Няхай жыве пераможная партыя бальшавікоў! Няхай жыве вялікі Сталін!

Праўленне Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР: *Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Якаў Браніштэйн, Платон Галавач, Ілья Гурскі, Янка Купала, Міхась Лынькоў, Ізі Харык, Міхась Чарот, Кузьма Чорны.*

## ГЕРАІЧНАМУ НАРОДУ ІСПАНІІ. ЛАРГА КАБАЛЬЕРА, ХАСЭ ДЫЯСУ, ДАЛОРЭС ІБАРУРЫ, РАФАЭЛЮ АЛЬБЕРЦІ

Дарагія таварышы!

Пад сцягам пралетарскага адзінства гераічны народ Іспаніі мужна і самаахвярна змагаецца з варварскім фашысцкім збродам, абараняючы ідэі чалавецтва, ідэі прагрэсу, росквіту, культуры, міру і свабоды. У цяснінах гор, на палях Валенсіі, на подступах да Мадрыда леп-

шыя сыны іспанскага народа праліваюць сваю кроў у імя гэтых ідэй. Націск ворага, які нечуваным тэрорам, пажарамі і расстрэламі, здзекамі над безабаронным мірным насельніцтвам гарадоў і вёсак імкнецца пасеяць страх у сэрцах байцоў народнага фронту, атакі азвярэлых наёмных забойцаў, узброеных да зубоў з арсеналаў Гітлера і Мусаліні, сустракаюць дастойны адпор. У адзіным парыве паўстаў працоўны народ Іспаніі на рашучы бой з фашызмам, і ў шэрагах герояў ідуць мужныя жанчыны Іспаніі. «Перамагчы альбо загінуць!», «Лепш быць удавой героя, чым жонкаю труса!»

Ад першых дзён, калі ўспыхнуў пажар грамадзянскай вайны на палях Іспаніі, нашы лепшыя думкі і пачуцці з вамі, слаўныя абаронцы Мадрыда, з вамі, адважныя байцы Авіеда, фашысцкія орды будуць разбіты, разгромлены дашчэнту, іх сустрэне ганебны лёс рускай белагвардзейшчыны. Дзень расплаты блізкі! Мы з вамі, дарагія таварышы, любоў і дружба перадавога чалавецтва акружае вас. Народы вялікага Савецкага Саюза падаюць вам братнюю руку дружбы і дапамогі.

Працоўныя Савецкага Саюза «...добра ўяўляюць сабе, што вызваленне Іспаніі ад гнёту фашысцкіх рэакцыянераў не ёсць прыватная справа іспанцаў, а — агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва». Так сказаў правадыр савецкага народа, геній пралетарскай рэвалюцыі — вялікі Сталін!

Хаваючыся ад гневу працоўных мас за блудлівымі дэкларацыямі, германскія, італьянскія і партугальскія фашысты ўзбройваюць банды вашых ворагаў. Савецкі ўрад выкрыў гэтую брудную работу, і ў зарыве пажару вашай зямлі ўсё чалавецтва бачыць цяпер узброеную акрываўленую лапу, што рыхтавала ўдар з тылу. Наглы вораг будзе абяззброены! Мы з вамі, таварышы!

Народы Краіны Саветаў спяваюць песні вашага змагання. Народы вялікага Саюза паўтараюць імёны вашых герояў. Словы вашых трыбунаў і паэтаў гімнамі перамогі гучаць у нашых сэрцах. Мы з вамі, таварышы!

Смела ідзіце ў бой, не адступаючы ні на крок, бо перамога за вамі, за вамі праўда гісторыі! Чорная пена фашысцкай рэакцыі будзе змыта з цудоўнай зямлі вялікага і мужнага народа Іспаніі. Вашы спра-

вы будуць памятаць праз вякі шчаслівыя пакаленні будучыні!

Смела, таварышы! Памятайце, мы з вамі!

*А. Александровіч, З. Аксельрод, З. Бядуля, П. Бройка, Я. Бранштэйн, І. Гурскі, П. Галавач, П. Глебка, Ц. Гартны, Ал. Звонак, Я. Купала, Я. Колас, М. Кульбак, К. Крапіва, Г. Камянецкі, Л. Кацовіч, М. Лынькоў, Б. Мікуліч, Эд. Самуйлёнак, І. Харык, К. Чорны, М. Чарот, Хв. Шынклер.*

## ПРАВАДЫРУ НАРОДАЎ ВЯЛІКАМУ СТАЛІНУ

Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч!

Вы, правадыр працоўнага чалавецтва, разам з вялікім Леніным вывелі беларускі народ з-пад цемры царскага самаўладства, Ваша воля правяла нас праз франты грамадзянскай вайны, праз вялікае сацыялістычнае будаўніцтва ў наша радаснае, шчаслівае сягонняшняе жыццё. Беларускі народ цвёрда стаіць на заходняй граніцы нядрэмным вартавым кастрычніцкіх заваёў, мужным абаронцам дарагой нам Радзімы — вялікага Савецкага Саюза.

Працоўныя Савецкай Беларусі ніколі не забудуць катаванні эксплуатататараў і іх прыслужнікаў, агентаў фашызму — беларускіх нацыяналістаў. Гнеў народа назаўсёды змёў іх з нашай свяшчэннай савецкай зямлі. Яго гнеў і цяпер, як і раней, неўміручы да ўсяго, што адзначана жахлівасцю вайны і шавіністычнай рэакцыяй.

Вялікая любоў у нашага народа да неабсяжнай сацыялістычнай Радзімы, да нашай Камуністычнай партыі бальшавікоў.

Крывавы фашызм, які нясе свету вайну, голад, знішчэнне працоўных мас, узнёс цяпер сваю чорную руку над палямі і гарадамі гераічнага іспанскага народа, каб задушыць дэмакратычную рэспубліку, каб знішчыць культуру, якую чалавецтва збірала вякамі. Мову найвялікшых майстроў Гётэ, Сервантэса, Дантэ замянілі яны мовай снарадаў і авіябомб. Яны мараць пératварыць

вольную іспанскую зямлю і гарады ў канцэнтрацыйныя лагеры і турмы.

Не, не быць гэтаму! Няхай ведаюць праклятыя вырадкі чалавецтва, што кожная кропля пралітай імі крыві разгарыцца непаўторным гневам усіх працоўных свету!

Дарагі і любімы Іосіф Вісарыёнавіч! Працоўныя і ўсе сябры міру ніколі не забудуць вашых слоў вялікага чалавечага бальшавіцкага гуманізму пра тое, што «...вызваленне Іспаніі ад гнёту фашысцкіх рэакцыянераў не ёсць прыватная справа іспанцаў, а — агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва».

Ужо ўстаюць на барыкады новыя і новыя сілы працоўных свету, і ў голасе іх мы чуем: «Яны не пройдуць!» Не ўдасца іспанскім бандытам і інтэрвенцкаму фашызму Германіі, Італіі і Партугаліі паставіць на калені народную Іспанію! Не ўдасца ім кроўю вайны знішчыць дэмакратычны народ!

Пісьменнікі Савецкай Беларусі яшчэ вышэй узнімуць сцяг сацыялістычнага мастацтва, зробяць яшчэ больш баявой і магутнай сваю зброю, яшчэ вышэй узнімуць сцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму, сцяг братэрскай салідарнасці і яшчэ больш голасна скажуць: «Яны не пройдуць!» Не быць на каленях народу Іспаніі перад сусветным фашызмам!

*А. Александровіч, З. Аксельрод, З. Бядуля, П. Бройка, Я. Бранштэйн, І. Гурскі, П. Галавач, П. Глебка, Ц. Гартны, Ал. Звонак, Я. Купала, Я. Колас, М. Кульбак, К. Крапіва, Г. Камянецкі, Л. Кацовіч, М. Лынькоў, Б. Мікуліч, Эд. Самуйлёнак, І. Харык, К. Чорны, М. Чарот, Хв. Шынклер.*

## ПАЭТЫ І ПІСЬМЕННІКІ ПРА ДОМ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

Тое, што мы бачылі,— цудоўна. Людзі, якія ствараюць Дом Чырвонай Арміі, забяспечваюць надзвычай удалае спалучэнне высокай змястоўнасці будучай работы Дома з добрым мастацкім густам. У ДЧА мы нібы

ўбачылі разумны, культурны твар камандзіра нашай роднай Чырвонай Арміі.

Жаданне наша — даць камандзіру вартую ствараемага Дома работу і забяспечыць жывы кантакт Дома з нашым атрадам работнікаў мастацтва.

Прывітанне будаўнікам! Прывітанне нашым выдатным камандзірам!

Хутчэй заканчвайце такую ж другую чаргу!

*А. Суркоў, Я. Купала, Іван Лэ, Т. Масэнка, І. Муратаў, В. Кудзімаў, Я. Браништэйн, П. Галавач, А. Гурло, М. Хведаровіч.*

## БЕЛАРУСКІЯ САВЕЦКІЯ ПІСЬМЕННІКІ — тав. С. АРДЖАНІКІДЗЕ

Дарагі Сярго!

Вам, адданаму са слаўнейшых з кагорты старой ленінскай гвардыі, найбліжэйшаму другу і саратніку геніяльнага Сталіна, беларускія савецкія пісьменнікі шлюць палкае прывітанне ў дзень Вашага пяцідзесяцігоддзя.

Ваша імя і справы, дарагі Сярго, непарыўна звязаны з бяссмертнай і свяшчэннай справай Леніна — Сталіна. І ў змрочныя дні Вашага юнацтва, і ў громах грамадзянскай вайны, і ў пераможным будаўніцтве сацыялізму Вы высока і непарушна нясеце сцяг працоўнага чалавека — Сцяг Леніна — Сталіна.

Ваша выдатнае, яркае жыццё прайшло ў бітвах і наступленнях. Вы, як і Вашы вялікія настаўнікі і саратнікі Ленін і Сталін, не ведалі паражэнняў.

Вашай выключнай энергіі абавязана Савецкая Краіна не адной перамогай на франтах грамадзянскай вайны, у абароне нашай радзімы і ў галіне цяжкой прамысловасці, слаўным кіраўніком якой Вы з'яўляецеся.

Дарагі Сярго!

Нам, беларускім савецкім пісьменнікам, асабліва дарага Ваша імя таму, што з ім звязана не адна перамога беларускага народа, Чырвонай Арміі ў гады барацьбы супраць панскіх польскіх наймітаў. Мы ўспамінаем

дваццаты год, Беларусь, якая стагнала пад пятой пілсудчыны, гарады і сёлы, знішчаныя дарэшты ворагам, і Вас, наш родны Сярго, які асабіста ідзе ў разведку на белапалякаў, Ваш сакрушальны ўдар па часцях польскай арміі пад Барысавам.

Горача вітаючы Вас у дзень Вашага слаўнага пяцідзесяцігоддзя, беларускія пісьменнікі жадаюць Вам многа год жыцця, радасці і шчасця.

Няхай жыве наш слаўны родны Сярго!

Няхай жыве геній чалавецтва — Сталін!

*Андрэй Александровіч, З. Аксельрод, З. Бядуля, Я. Бранштэйн, П. Броўка, П. Глебка, П. Галавач, І. Гурскі, Янка Купала, Якуб Колас, А. Кучар, М. Кульбак, К. Крапіва, М. Лынькоў, Ізі Харык, Кузьма Чорны.*

## 1937

### БЕССМЕРТНЫЙ ОБРАЗ

Наши сердца потрясены страшной вестью...

Всего несколько месяцев назад мы с горячей любовью и радостью приветствовали нашего родного Григория Константиновича в день его 50-летия. Мы привыкли видеть его всегда веселым, улыбающимся, жизнерадостным, действенным, творящим.

И вот этот могучий ум, эта пламенная воля бесстрашного большевика, выдающегося соратника великого Сталина сражены неумолимой смертью.

Скорбна и горька эта весть!

Вся необъятная наша Родина, весь трудящийся мир безмолвно склонили головы перед прахом борца и вождя.

Белорусский народ разделил боль великой утраты со всем народом Советского Союза, навеки сохранит в своем сердце бессмертный образ Серго, всю свою огненную жизнь отдавшего делу пролетарской революции, делу Ленина — Сталина.

Творческие походы Серго Орджоникидзе за освобождение Белоруссии от белопольского нашествия будут вечно жить в песнях и преданиях белорусского народа.

Прощай, родной Григорий Константинович!

Мир твоему праху и вечная слава твоим делам.

*Янка Купала, Якуб Колас, Андрей Александрович, Петрусь Бровка, Петро Глебка, З. Аксельрод, А. Кучар, Яков Бронштейн, Изи Харик, Илья Гурский, Михась Лыньков, Платон Головач, Кузьма Чорный, Кондрат Крапива.*

## ПРОТИВ ФАШИСТСКИХ ВАНДАЛОВ, ПРОТИВ ПОДЖИГАТЕЛЕЙ ВОЙНЫ!

Дорогие друзья!

Двадцать три года тому назад выстрел на Балканах взорвал все пороховые погреба в Европе, и в течение четырех лет мир содрогался в убийствах и разрушениях. Более десяти миллионов молодых и сильных людей было вырвано из жизни, сотни миллионов их близких повержены в отчаяние, тяжесть которого до сих пор не ушла из сердца.

Слезы высыхают, но память остается. Она вновь и вновь открывает перед нами страшные картины — земли, покрытой нарывами взрывов, городов, охваченных ужасом и пламенем, людей, распятых на проволочных заграждениях... Списки убитых, вопли матерей, армии намогильных крестов, следующие за армиями солдат как их бледные двойники.

С великими усилиями воздвигали народы здание всеобщего мира. Самая мысль вернуться к пережитому казалась ужасной.

И вот новые выстрелы загремели. Сначала в Маньчжурии, потом в Абиссинии. Многие пытались утешить себя тогда тем, что это — в Азии, в Африке. «То, что возможно в Китае и в Абиссинии, невозможно в Европе»,— говорили они.

Жестокое заблуждение!

Летом 1936 года вновь появились роковые сводки с упоминанием занятых и разрушенных городов. Теперь это было уже в Европе. На этот раз трагедия начиналась не на восточном, а на западном полуострове материка.

Но любители иллюзий находили и здесь себе утешение. Они хотели верить, что в Испании — лишь внутренняя распря. Они думали, что, закрыв глаза на правду, они заставят ее исчезнуть. Семь месяцев рвутся снаряды и трещат пулеметы, тысячи ни в чем не повинных женщин, детей и стариков гибнут от взрывов авиабомб, но официально это не называют войной.

Теперь эта иллюзия или эта сознательная ошибка разоблачена. Нет, в Испании идет уже не подавление мятежа, уже не внутренняя распря. В Испании идет война.

С Испанией воюют две страны — Германия и Италия, и генерал Франко — лишь марионетка в их руках. Армии этих фашистских государств вторглись в Испанию и ведут военные действия, ничем, кроме неслыханной жестокости и зверств, не отличающиеся от всех прочих войн, которые знала история империализма.

В Европе идет война.

В двух днях пути от Женевы, где заседает Лига Наций и хранится ее Статут, идет война, о которой в этом Статуте сказано:

«Члены Лиги обязуются уважать и поддерживать против всякого внешнего нападения территориальную целость и существующую ныне политическую независимость всех членов Лиги».

То, что созидалось в течение долгих послевоенных лет и что казалось одной из гарантий против повторения ужасов недавней бойни, попрано.

Вновь несутся стоны, вновь пылают музеи, фашисты превращают университеты в поля сражений, архитектуру — в руины, и на кровавых парусах пламени к гибели несется культура.

Пусть это происходит лишь на одной из оконечностей континента, пусть гангрена еще отделена от нас вершинами Пиренеев...

Сегодня — да, а завтра?

Или то, что возможно в Испании, невозможно во Франции?

Зверь, попробовавший крови, становится еще яростнее, еще наглее.

Владычество над миром, грабеж народов, захват территорий — вот цель фашизма.

Уничтожение лучших и умнейших — вот его тактика. Ибо разум и справедливость, ради которых мы с вами живем, самое страшное, что может он встретить на своем пути.

Композитор Антонио Хозе, ректор Овиедского университета Леопольдо Аргуэнса, знаменитый поэт Гарсиа Лорка и еще десятки, имена которых мы узнаем потом...

Тысячи женщин, детей, стариков, имен которых мы, вероятно, так и не узнаем,— они убиты, никогда не бравшие в руки оружия.

А те, кто взял его, чтобы защищать свою страну?

Их тела, разрезанные на куски, обезумевшие от крови, остервенелые фашистские звери бросают с самолетов на парашютах, чтобы кровавое сумасшествие в целости дошло до земли.

Организованный, государственный садизм, который демонстрирует миру себя с голым бесстыдством, с наглой беззастенчивостью.

И мы, мастера культуры, носители идей добра и правды, мы отвернемся в сторону?!

Равнодушные, мы предоставим варварам строить свою всемирную гильотину, верхушка которой уже показалась над Пиренейским хребтом?

Нет, мы не сделаем этого! Ибо так мы обрекли бы себя на позор перед судом будущих поколений, которые и к нам обратят свой суровый вопрос.

Нет, никто из нас не останется равнодушным. На весь мир и от лица всего мыслящего человечества мы должны сказать:

— Довольно!

Грозное слово протеста против чудовищного вандализма, против новой войны, против миллионов новых могил должно прозвучать повсюду. И должны его произвести мы, работники культуры, мастера науки, искусства и техники.

Довольно! Нельзя более терпеть чудовищных зверств и обдуманного садизма фашистских психопатов, пытающихся потопить в крови героический двадцатимиллионный испанский народ.

Довольно! Нельзя более терпеть вопиющего нарушения всех установлений, созданных усилиями народов для сохранения мира в Европе.

Довольно! Нельзя более терпеть унизительную возню вокруг так называемого комитета по невмешательству, где за видимыми процедурами идет невидимая торговля кровью испанских женщин и детей, где за кулисами дипломатической комедии работают поджигатели войны, которым важно пока одно: выиграть время.

Довольно!

Мы призываем вас, работников культуры, сказать это твердое слово вашим правительствам.

Мы ждем от вас энергичного протеста против преступлений, которые совершаются сейчас, и против тех, которые неминуемо будут совершены в ближайшем будущем, если голос ваш и всего разумного человечества не заставит одуматься трусов и торгашей.

Война началась. Фашистские страны решили заставить историю повторить кошмар мировой бойни.

Пора схватить их за руки!

Еще не поздно.

Президент Академии наук СССР *В. Л. Комаров*, президент Академии наук УССР *А. А. Богомолец*, акад. *А. Ф. Иоффе*, акад. *С. И. Вавилов*, акад. *А. В. Винтер*, акад. *И. Орбели*, акад. *А. А. Борисяк*, акад. *Г. Графтио*, акад. *М. Павлов*, акад. *В. Фесенков*, акад. архитектуры *А. В. Щусев*, акад. архитектуры *И. В. Желтовский*, директор Института физических проблем Академии наук СССР *П. Л. Капица*.

Заслуженные деятели науки проф. *А. Д. Сперанский*, проф. *М. П. Кончаловский*, проф. *Н. Н. Бурденко*, проф. *Д. Д. Плетнева*, проф. *Р. А. Лурия*, проф. *В. М. Броннер* и профессора *Л. Н. Федеров* и *А. Предводителев*.

Народные артисты Союза ССР: *К. С. Станиславский, В. И. Качалов, А. В. Нежданова, М. И. Литвиненко-Вольгемут, А. А. Васадзе, А. А. Хорава*, народные артисты республики: *А. Б. Гольденвейзер, В. Э. Мейерхольд, А. Я. Таиров, А. А. Яблочкина.*

Заслуженные деятели искусств: *И. Бродский, П. П. Кончаловский, И. И. Машков, К. С. Петров-Водкин, К. Ф. Юон,*

*К. Н. Игумнов, С. М. Эйзенштейн* и *Н. Шенгелая*, заслуженные артисты республики: *В. В. Барсова, Л. П. Орлова* и *С. Э. Радлов*, солистка ГАБТ *М. Семенова.*

Режиссеры-орденоносцы: *Г. Александров, С.* и *Г. Васильевы, В. Пудовкин, М. Чиаурели.*

Проф. *Г. Г. Нейгауз*, проф. *А. И. Ямпольский*, композитор *И. Дзержинский.*

Скульпторы *С. М. Меркулов, И. Д. Шадр.*

Писатели: *А. Афиногенов, Б. Агапов, Александрович, Микола Бажан, Самед Вургун, Вс. Вишневский, Вс. Иванов, Якуб Колас, Янка Купала, Леонид Леонов, Георгий Леонидзе, С. Маршак, А. Новиков-Прибой, Тициан Табидзе, Павле Яшвили, Павло Тычина, Борис Пастернак, Николай Тихонов, А. Серафимович, Михаил Шолохов, Бруно Ясенский.*

## СКОРБЬ БЕЛОРУССКИХ ПИСАТЕЛЕЙ

Правление Союза советских писателей БССР выражает свое глубокое соболезнование по поводу смерти талантливого русского советского писателя Ильи Ильфа.

Широким читательским кругам советской страны имя Ильфа знакомо и близко. Книги И. Ильфа и Е. Петрова стали любимыми книгами народа.

Тяжелая утрата!

*Янка Купала, Якуб Колас, А. Александрович, М. Лыньков, П. Головач, П. Бровка, Я. Бронштейн, П. Глебка, З. Бядуля, К. Чорный, И. Харик, Б. Ковальский, К. Крапива.*

## ОДНОЙ ЖИЗНЬЮ С ВЕЛИКИМ СОВЕТСКИМ НАРОДОМ

С чувством глубочайшего восторга мы присоединяем свой голос к голосу трудящихся нашей страны, выдвинувших кандидатуры товарища Сталина и лучших людей эпохи в Совет Союза.

Писатели живут одной жизнью с великим советским народом — своим читателем.

Многим писателям доверена большая и почетная работа — участие в избирательных комиссиях, и мы уверены, что с честью будет выполнена эта почетная обязанность.

Участие в выборной кампании даст мастерам пера большую творческую зарядку.

В такие дни мы чувствуем особую ответственность за свое творчество. Наши произведения должны быть яркими факелами, освещающими цветущую, радостную жизнь в социалистической стране.

*Янка Купала, Якуб Колас, Михась Лыньков.*

# 1938

## ВАЕННАЙ КАЛЕГІІ ВЯРХОЎНАГА СУДА СССР

Велізарнейшым гневам і нянавісцю напоўніліся нашы сэрцы, калі мы даведаліся, што тройчы праклятыя вырадкі, здраднікі, шпіёны і забойцы з праватрацкісцкай банды Троцкага, Бухарына, Рыкава і інш. хацелі прадаць нашу Бацькаўшчыну азвярэламу фашызму, раскрамсаць свяшчэнную зямлю нашай дарагой Радзімы, затапіць у крыві здабытыя ў баях свабоду і шчасце вялікага савецкага народа.

Усё лепшае, усё перадавое чалавецтва жахнулася ад нябачанай у гісторыі чорнай здрады подлых іуд, злачыннай зграі халопаў капіталу.

З чым параўнаць злачынствы гэтых шалёных фашысцкіх сабак?

Змрочнае і жудаснае сярэдневякоўе, кастры інквізі-

цыі, звярынае езуіцтва — усё гэта меркне перад метадамі і сродкамі гэтых падкалодных змей.

Яны падымалі свае брудныя акрываўленыя рукі на лепшых людзей чалавецтва, на вялікіх Леніна і Сталіна — геніяў і правадыроў працоўных і прыгнечаных усяго свету.

Перад намі ўстаюць першыя дні Кастрычніка — гераічны рабочы Петраград, уся маладая, узброеная Савецкая краіна. Галодная і разбураная сусветнай вайной, яна выйшла на абарону сваёй свяшчэннай свабоды ад нашэсця чатырнаццаці імперыялістычных дзяржаў. Белагвардзейскія полчышчы, нямецкія генералы, японскія самураі, польскія паны, англійскія і французскія інтэрвенты ўзнялі крыжовы паход супроць нашай рэвалюцыі. Але ў няроўным баі рэвалюцыйны народ перамог. Ён перамог таму, што вялікія Ленін і Сталін кіравалі яго мужнай барацьбой, жылі ў сэрцы кожнага байца сацыялістычнай рэвалюцыі. А ў гэты час загаворшчыкі, правакатары і тэрарысты — Троцкі, Бухарын, Рыкаў — разам з гнуснымі падонкамі царскай ахранкі — эсэрамі, меншавікамі і нацыяналістамі — з-за вугла накіроўвалі сваю зброю ў чыстыя і благародныя сэрцы Леніна, Сталіна, Свярдлова.

Вышкаленыя агенты міжнародных ахранак, яны хацелі знішчыць Савецкую ўладу і ўстанавіць уладу буржуазіі.

*Бруднай крывёю сваёй заплоціць злачынная зграя за подлую, чорную здраду.*

Гестапаўскія махляры, яны імкнуліся распрадаць самае дарагое, што ёсць у савецкага народа,— яго вялікую Радзіму, яго светлае і шчаслівае жыццё.

Яны імкнуліся разарваць сувязі сталінскай дружбы народаў, аддаць пад ярмо фашысцкіх дзяржаў Украіну, Беларусь і другія братнія рэспублікі.

Нашу родную Савецкую Беларусь, якая пышна расквітнела пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі, праватрацкісцкія бандыты разам з буржуазнымі нацыяналістамі прагнулі задушыць пад ботам нямецкіх і польскіх фашыстаў. Але свабодны беларускі народ — нашы рабочыя, нашы калгаснікі, наша інтэлігенцыя, якія перажылі шматвяковы гнёт нямецкіх памешчыкаў і польскай шляхты, жудасці нямецкай і польскай акупацыі,— ніколі не дазволіць ступіць подлай назе інтэрвентаў на свяшчэнную і непарушную зямлю.

*Бруднай крывёю сваёй заплоціць злачынная зграя за подлую, чорную здраду.*

У вяках будуць пракляты імёны забойцаў, на руках якіх гарыць благародная кроў Кірава, Куйбышава, Мянжынскага, Горкага.

Родны Аляксей Максімавіч, горды наш буравеснік!

Яшчэ так нядаўна, чулы, ветлівы і скромны, ты вучыў нас бязмежна любіць Радзіму, яе вялікіх правадыроў, наш народ, яго цудоўную сучаснасць і светлую будучыню. Ты вучыў нас ненавідзець лютых ворагаў народа — фашыстаў, якія знішчаюць найвялікшыя здабыткі сусветнай культуры.

На ўвесь свет гучаў твой мудры голас вешчуна сацыялістычнага гуманізму і бальшавіцкай праўды і знаходзіў жывы водгук у сэрцах усяго прагрэсіўнага чалавецтва.

Не дрогнула рука забойцы, які ля ложка хворага замест лякарства сыпаў у шклянку яд, які адабраў у народа любімага яго сына, геніяльнага рускага пісьменніка, чалавека вялікага, палымнеючага сэрца.

Будзьце пракляты, подлыя забойцы! Неўміручым агнём гараць словы вялікага Горкага: «Калі вораг не здаецца — яго знішчаюць!»

*Бруднай крывёю сваёй заплоціць злачынная зграя за подлую, чорную здраду.*

Не зацямніць нікому і ніколі сталінскае сонца!

Высока над Радзімай гараць рубінавыя крамлёўскія зоры, іх яркае святло далёка відаць за межамі нашай краіны.

На варце нашага радаснага жыцця мужна і пільна стаіць атуленая ўсенароднай любоўю савецкая разведка на чале з маршалам савецкай разведкі Мікалаем Іванавічам Яжовым.

Слава бясстрашным чэкістам, рыцарам пралетарскага мяча!

Ад усёй душы дзякуй вам, верныя сыны народа — непахісныя і бязлітасныя да ворагаў народа, доблесныя наркамундзельцы, за выкрыццё прэзрэннай праватрацкісцкай банды.

Ад усёй душы дзякуй вам, наш родны і любімы таварыш Сталін, за бацькоўскія клопаты аб беларускім народзе, за шчаслівае жыццё, за ачыстку нашай Савецкай зямлі ад фашысцкай нечысці.

Выкрыццё фашысцкай банды яшчэ і яшчэ раз напа-

мінае нам, што мы знаходзіліся ў капіталістычным акружэнні, адкуль падсылаюцца да нас забойцы, шпіёны і дыверсанты. Мацаваць рэвалюцыйную пільнасць — вось пярвейшы абавязак савецкага грамадзяніна. Мы абяцаем яшчэ вышэй узняць рэвалюцыйную пільнасць, цясней згуртавацца вакол вялікай партыі Леніна — Сталіна, вакол правадыра народа таварыша І. В. Сталіна.

Таварышы члены Ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда!

Мы, савецкія пісьменнікі БССР, далучаем свой голас да перапоўненага гневам голасу ўсяго савецкага народа і патрабуем знішчыць гадаў, змесці іх з твару зямлі.

Благародная кроў вялікіх сыноў народа — Горкага, Кірава, Куйбышава і Мянжынскага — кліча да самай бязлітаснай кары.

*Патрабуем шалёных фашысцкіх сабак расстраляць — усіх да аднаго!*

*Янка Купала, Якуб Колас, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, Пятрусь Броўка, Кандрат Крапіва, Іван Шапавалаў, Пятрусь Глебка, М. Клімковіч, А. Александровіч, І. Гурскі, А. Куляшоў, Г. Камянецкі, А. Кучар, Ц. Даўгапольскі, З. Аксельрод, М. Тэйср, Я. Маўр, М. Хведаровіч, Э. Агняцвет, А. Якімовіч, М. Калачынскі, А. Стаховіч* і іншыя.

## ПРИВЕТ БРАТСКОГО БЕЛОРУССКОГО НАРОДА

Союз советских писателей Белоруссии приветствует вас, маститого певца казахского народа, одного из старейшин и лучших поэтов Советского Союза. В вашем лице мы приветствуем великий казахский народ, героически боровшийся против русского царизма и собственного байства, отвоевавший у них под руководством Ленинской партии большевиков ■ русского рабочего класса власть и создавший новую, счастливую жизнь.

Ваши песни, посвященные этой борьбе, посвященные партии и гениальному руководителю ее — Иосифу Виссарионовичу Сталину, равно близки и дороги каждому трудящемуся великого Советского Союза. И у нас ■ Бе-

лоруссии их знают, читают, любят и любят вас, мудрый баян братского народа. Советская власть и партия дали вам 170-миллионную аудиторию, и вся она заслушивается глубокой, сверкающей горными самоцветами поэзии Джамбула.

Мы учимся у вас и желаем вам еще долгие-долгие годы творить на славу нашей великой Родины и ее многонационального единого советского народа.

*Янка Купала, Якуб Колас, Михась Лыньков, Петрусь Бровка, Кузьма Чорный, Змитрок Бядуля, Кандрат Крапива, Петрусь Глебка, Иван Шаповалов, Михась Климкович, Илья Гурский.*

## ОТВЕТ СОВЕТСКИХ ПИСАТЕЛЕЙ ПИСАТЕЛЯМ ЧЕХОСЛОВАКИИ

Дорогие наши друзья и собратья!

Мы получили от вас ваше волнующее воззвание — «К совести всего человечества».

В дни, когда совершилось страшное предательство и войска фашистских варваров при пособничестве правительств Англии и Франции раздирают живое тело вашей миролюбивой демократической страны, мы, советские писатели, от глубины нашего сердца выражаем вам нашу братскую солидарность, нашу любовь.

В эти грозные часы знайте, что мы с вами, с вашей мужественной страной, которая имеет тяжелые жертвы.

Совесть человечества, к которой вы обращаетесь, не может не содрогнуться от вопиющей оскорбительной несправедливости, совершенной над вашей страной.

Мы восхищаемся ее выдержкой и мужеством вашего народа, восхищаемся вашей верностью ему.

Пусть фашистские варвары знают, что никакие лишения и жертвы не сломят свободного духа чехословацкого народа. Вы не будете одиноки, мы вас не оставим, мы вам поможем.

*А. Толстой, А. Фадеев, В. Герасимов, С. Кирсанов, А. Новиков-Прибой, В. Лидин, В. Финк, И. Лежнев, Н. Зарьян, О. Войтин-*

*ская, В. Ставский, И. Сельвинский, Н. Погодин, Л. Славин, В. Катаев, А. Корнейчук, Ф. Гладков, И. Новиков, Вс. Иванов, М. Джалиев, Г. Лахути, В. Вересаев, А. Серафимович, Н. Асеев, К. Тренев, Вс. Вишневский, Р. Григорян, Ю. Либединский, А. Безыменский, Мих. Голодный, Н. Ляшко, А. Жаров, Е. Усиевич, В. Ермилов, А. Караваева, Мих. Шолохов, Л. Леонов, М. Шагинян, К. Паустовский, В. Ильенков, Г. Шторм, Ю. Яновский, А. Копыленко, М. Бажан, А. Барто, В. Билль-Белоцерковский, П. Антокольский, А. Файко, И. Мосашвили, А. Макаренко, В. Луговской, Т. Ахумян, А. Платонов, И. Бабель, П. Павленко, С. Маршак, В. Бахметьев, Ф. Юлдашев, Б. Лавренев, О. Форш, М. Слонимский, Ю. Тынянов, Сатты Хусаинов, Н. Вирта, А. Усенбаев, Б. Пастернак, К. Федин, И. Френкель, В. Перцов, Л. Соболев, Янка Купала, Якуб Колас, Перец Маркиш, Е. Петров.*

Москва, 6 октября 1938 г.

## ВЯЛІКАЯ СТРАТА

Сорак год позіркі ўсіх працоўных і работнікаў мастацтва ўсіх краін былі накіраваны да Мастацкага тэатра, створанага і кіруемага геніяльным майстрам сцэны Канстанцінам Сяргеевічам Станіслаўскім. Яшчэ ярчэй заззяў велізарны талент Канстанціна Сяргеевіча пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая вызваліла мастацтва і стварыла ўсе ўмовы для буйнога росквіту ўсіх духоўных сіл чалавека.

Савецкая грамадскасць заўсёды горача падтрымлівала творчую думку вялікага мастака, заўсёды бурна радавалася яго поспехам. І не хочацца верыць, што гэтага майстра савецкага тэатра — майстра з майстроў — ужо няма сярод нас.

Пісьменнікі Савецкай Беларусі разам з усімі працоўнымі СССР глыбока смуткуюць аб гэтай вялікай страце.

*Янка Купала, Якуб Колас, Міхась Лынькоў, З. Бядуля, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, З. Аксельрод, М. Клімковіч, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Эд. Самуйлёнак, М. Ільінскі, Г. Камянецкі.*

## ДА ЮБІЛЕЮ ВЯЛІКАГА ПАЭТА-РЭВАЛЮЦЫЯНЕРА

У сакавіку 1939 года вялікі ўкраінскі народ разам з усімі братнімі народамі Савецкага Саюза будзе святкаваць 125-гадовы юбілей з дня нараджэння паэта Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі — найвялікшага паэта, рэвалюцыянера-дэмакрата.

Народы СССР, якія выраслі пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі, дзякуючы ажыццяўленню ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, пры штодзённых клопатах свайго бацькі, настаўніка і правадыра — вялікага Сталіна, атрымаўшы шчаслівае, радаснае жыццё, з надзвычайнай увагай вывучаюць творы геніяльных паэтаў усіх народаў, з бязмежнай пашанай шануюць памяць гэтых людзей. У мінулым годзе наша Радзіма святкавала два вялікіх, слаўных юбілеі — юбілей Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна і юбілей Шата Руставелі. Мы знаем, што імя Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі побач з гэтымі выдатнейшымі геніямі чалавецтва. Творы Шаўчэнкі, як і творы Пушкіна і Руставелі, вядомы шырачэйшым масам Савецкага Саюза.

Камуністычная партыя, Савецкая ўлада, вялікі Сталін далі народам заможнае, культурнае жыццё, далі ўсе магчымасці для выяўлення талентаў з народа, для іх жыцця і працы. На кожным кроку мы бачым рост нашых дараванняў, і як далёка процілегла, як чорная ноч, супраць яснага сонечнага дня, стаіць цяжкае жыццё вялікага паэта Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі ў часы самаўладства. Царызм душыў яго ўсё жыццё, і толькі дзякуючы непамернай сіле свайго генія Тарасу Рыгоравічу праз ланцугі царскага самаўладства ўдавалася

гаварыць з народам сваім цудоўным, бунтарскім словам.

Нарадзіўся Тарас Рыгоравіч 25 лютага 1814 года ў сяле Морынцы Звенігародскага павета ў сям'і прыгоннага селяніна. У адзінаццацігадовага Шаўчэнкі паміраe бацька, і ён астаецца сіратой. Многа пакутаваў Шаўчэнка, каб пражыць,— пас сялянскую жывёлу, працаваў парабкам у пана.

Пятнаццацігадовым Тараса Рыгоравіча Шаўчэнку забіраюць як прыгоннага ў панскі двор да пана Энгельгарта. Там яго вучылі паварчуком, а пасля паставілі прыслугоўваць «казачком» пану. Поўныя гора і адчаю юнацкія гады найвялікшага паэта. Прыезд у Пецярбург, нявольніцкая работа ў мастака Шыраева. Пасля — знаёмства з вялікімі мастакамі: вучоба ў Карла Брулова. Брулоў, зацікавіўшыся таленавітым юнаком, малюе партрэт Жукоўскага, партрэт разыгрываецца за 2500 рублёў праз латарэю. І за гэтыя грошы Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка выкупляецца ў пана на волю. Вызвалены Тарас Рыгоравіч зараз жа пяе цудоўную, магутную песню аб сваім народзе. У 1840 годзе невялічкай кніжкай выходзіць «Кабзар» Шаўчэнкі. Яго слова заве народ да барацьбы з самаўладствам. У 1847 годзе царская жандармерыя арыштоўвае яго. Вось паведамленне кіеўскага губернатара Фундуклея:

«III аддзяленне ўласнай яго імператарскай вялікасці канцылярыі.

У ліку асоб, на якіх па атрыманаму мной прадпісанню ад п. кіеўскага ваеннага, падольскага і валынскага генерал-губернатара звернута была ўвага, указан быў мастак С.-Пецярбургскай акадэміі Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка.

Мастак гэты пры звароце з Чарнігаўскай губерні быў затрыман учарашняга чысла ля ўезда ў гор. Кіеў і прадстаўлен прама да мяне. Паміж папер яго аказалася рукапісная кніга з маларасійскімі ўласнага яго твора вершамі, з якіх многія абураючага і злачыннага зместу. Чаму, як гэтыя, так і ўсе іншыя, аказаўшыяся ў Шаўчэнкі вершы, роўна прыватную яго перапіску, я палічыў абавязкам прадставіць у III аддзяленне ўласнай яго імператарскай вялікасці канцылярыі.

Разам з гэтым суправаджаецца і мастак Шаўчэнка пад строгім каравулам пры адным паліцэйскім афіцэры і адным радавым жандары. Грамадзянскі губернатар Фундуклей».



## 1914

### НАШЫ ПІСЬМЕННІКІ І ГРАМАДСКІЯ ДЗЕЯЧЫ НА ВАЙНЕ

Наляцеўшая, быццам навальніца, вайна адарвала ад родных хат і ніў багата народу. Пайшлі ваяваць усе, каму доля гэта судзіла.

Багата на вайне і нашых беларусаў. Усіх не пералічыш. Ведаем адно тых, каго паклікалі спакойную грамадскую службу замяніць на ваенную.

Пайшоў шчыры народны паэт Якуб Колас, выдатная сіла між нашымі песнярамі. Далей — малады і здольны пісьменнік — Максім Гарэцкі; публіцыст Лявон Гмырак, добра вядомы нашым чытачам; А. Гурло — паэт; А. Аўрэйцэвіч — фельетаніст «Нашай нівы», ды Ф. Умястоўскі, вядомы як «Дзядзька Пранук». А поруч з імі б. прадседацель віленскага беларускага музыкальна-драматычнага кружка, кандыдат у выбаршчыкі ад Вільні ў Чацвёртую Гасударственную Думу Барыс Даніловіч; памоцнік прысяжнага адваката Гаўрыла Царык; студэнт медыцынскага факультэта Сцяпан Луцкевіч; артыст беларускага тэатра Кіткевіч; земянін барысаўскага павета Ал. Цюндзявіцкі; Ал. Пошавіцкі — ды многа іншых, аб каторых не маем акуратных вестак.

Усім ім пасылаем на поле бітвы шчырае жаданне, каб цэлымі і здаровымі вярнуліся з вайны ў родну старонку, каторай гэтак патрэбны працоўныя рукі на ніве грамадзянскай работы. Рэдакцыі ўдалося дастаць толькі некаторых з іх фатаграфіі, якія тутака і памяшчаем:

*Якуб Колас*, паэт-лірык, родам з Міншчыны, народны вучыцель.

*М. Гарэцкі*, пісьменнік-містык, родам з Магілёўшчыны, каморнік (землямер).

*Л. Гмырак*, крытык-публіцыст, родам з Віленшчыны, тэхнік.

*С. Луцкевіч*, грамадскі працаўнік, родам з Мінска, доктар.

## 1920

### ЛЁС БЕЛАРУСІ

Перагаворы паміж Польшчай і Сав<ецкай> Расіяй, нягледзячы на зацяжкі, якія цяпер выйшлі ў гэтай справе, пачнуцца, пэўна, у хуткім часе. Аснаўным пунктам у перагаворах будзе вырашэнне лёсу Беларусі.

Польскія правыя групы — эндэкі — стаяць катэгарычна за падзел Беларусі паміж Польшчай і Расіяй з тым, каб расійска-польская граніца была ўздоўж Дзвіны і Бярэзіны. Пры гэткай дзяльбе землі, якія ляжаць к захаду ад гэтай лініі, павінны адысці да Польшчы, як чыста польская правінцыя.

Іншага погляду трымаюцца польскія ўмеркаваныя, радыкальныя і сацыялістычныя кругі. Польскі ўрад, які апіраецца на гэтыя кругі, што складаюць парламенцкую большасць у Сойме, глядзіць таксама з гэтага пункту. Ён лічыць, што Расія павінна адмовіцца ад якіх бы ні было правоў на тыя тэрыторыі, якія ляжаць к захаду ад быўшай паміж Польшчай і Расіяй граніцы 1772 г. Польшча ў згодзе з воляй народаў, якія насяляюць гэтыя тэрыторыі, вырашыць лёс гэтых зямель. Гэта праграма федэралістаў. Яна прапануе стварыць з літоўска-беларускіх і ўкраінскіх зямель дзве буферныя дзяржавы, звязаныя з Польшчай на прынцыпах федэрацыі. Але невядома, як польскі ўрад думае стварыць гэтыя дзяржавы, якія чынныя сілы гэтых тэрыторыяў выклікаць да жыцця, якія будуць узаемныя адносіны паміж гэтымі дзяржавамі і Польшчай — палітычныя, вайсковыя, эканамічныя і г. д., дзе, урэшце, будзе ляжаць этнаграфічная мяжа Польшчы на ўсходзе.

У адносінах да Украіны польскі ўрад вядзе болей ясную палітыку. Ён дагаварыўся з украінскім урадам, дзе Пятлюра стаіць на чале, і памагае яму фармаваць армію, вызначаючы дзеля гэтай мэты Бярэсце. У адносінах да Беларусі палітыка польскага ўрада абсалютна цёмная. Да гэтага часу польскі ўрад не даў ніякіх тлумачэнняў аб сваіх адносінах да Беларусі. На мірavую канферэнцыю прадстаўнікі беларускага народа не будуць дапушчаны, і лёс краю і народа будзе вырашацца без яго ўдзелу.

Аднак жа цяпер трудна сказаць, якія формы прымець гэтае пытанне ў самым хуткім часе. Справа ў тым, што паміж Польшчай і Расіяй не дайшлі да згоды аб месце перагавораў. У звязку з гэтым магчыма, што ў разборы ўсходняга пытання прымуць учасце дзяржавы Антанты, якія да гэтага часу давалі Польшчы «вольную руку» ў гэтай справе. Дзяржавы Антанты розна глядзяць на палітычную адбудову Польшчы. Адны, галоўным чынам Францыя, дамагаюцца стварэння вялікай адзінай Польшчы, у адпор Нямеччыне. Другія, як Англія і Амерыка, з'яўляюцца гарачымі праціўнікамі вялікай Польшчы, дапускаючы Польшчу толькі ў яе этнаграфічных граніцах. Цяпер адбываецца канферэнцыя Антанты. Калі на канферэнцыі перамогуць тыя, хто адносіцца да Польшчы апазіцыйна, дык тады Польшча будзе старацца ўтварыць паміж ёю і Расіяй дзве незалежныя саюзныя з ёю дзяржавы — Украіну і Беларусь. Тады лёс Беларусі стане больш-менш ясным. Апрача таго, Польшча можа, як у Галіччыне, адтрымаць мандат на ўпраўленне.

# КАМЕНТАРЫ[1]



Восьмы том складаецца з трох раздзелаў: першы — артыкулы, нататкі, выступленні і лісты, прысвечаныя актуальным пытанням грамадска-палітычнага жыцця 1907—1942 гг., другі — калектыўныя творы, трэці — Dubia. Тэксты падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці. Пры адсутнасці аўтарскай даты творы датуюцца годам апублікавання.

У выніку карпатлівай пошукавай працы дадзены том папоўніўся значнай колькасцю матэрыялаў з публіцыстычнай спадчыны Янкі Купалы.

Крыніцамі для вызначэння асноўнага тэксту з'яўляюцца: аўтографы, машынапісы і публікацыі ў прыжыццёвых перыядычных выданнях.

У параўнанні з папярэднімі Зборамі твораў (1961—1963, 1972—1976) значна пашыраны гісторыка-тэксталагічны і рэальны каментарый, удакладнены даты і месца напісання. У публіцыстычных матэрыялах, якія ў папярэдніх выданнях друкаваліся з купюрамі, узноўлены аўтарскі тэкст.

Артыкул «Кастусь Каліноўскі», які, па сцвярджэнні даследчыкаў, не належыць пяру Янкі Купалы, рашэннем рэдкалегіі ў дадзены том не ўключаны.

---

[1] Каментарыі да першага і другога раздзелаў: 1907—1922 гг.— *Строева Т. Р.*, 1923—1936 гг.—*Золава Э. А.*, 1937—1939 гг.— *Шамякіна А. І.*, 1940—1942 гг.— *Забродская С. В.*, раздзел «Dubia» — *Якаўлева Г. В.*

## АРТЫКУЛЫ, НАТАТКІ, ВЫСТУПЛЕННІ

### 1907

*«Беніцкая воласць, Ашмянскага павету...»* (с. 7)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1907, № 25, 25 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «З Беларусі і Літвы» (Ад нашых карэспандэнтаў) пад крыптанімам *И. Л.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Старыя праўды на новы лад* (с. 7)

Друкуюцца па газ. «Наша ніва», 1907, № 26, 3 жн., дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Янук з-пад Мінска.*

Датуюцца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаюцца ўпершыню.

Выказванні Янкі Купалы наконт палітычнага і эканамічнага ладу ў Расіі. Амаль кожная асобная думка пацвярджаецца блізкай па сэнсу прыказкай.

Магчыма, што Янка Купала даслаў у газету не менш чым 21 выказванне, але рэдакцыя надрукавала толькі 6.

*Хто к лесу, а хто к бесу* (с. 8)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1907, № 27, 17 жн., дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Янук з-пад Мінска.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Фельетон — рэакцыя Янкі Купалы на дзяржаўны пераварот 3 чэрвеня 1907 г., які азначаў падаўленне рэвалюцыі 1905—1907 гг. і адмову ўрада ад безумоўнай гарантыі тых «непахісных асноў грамадзянскай свабоды», «свабоды сумлення, слова, сходаў і саюзаў...», якія абвяшчаліся ў Маніфесце Мікалая II ад 17 кастрычніка 1905 г. «Аб удасканаленні дзяржаўнага парадку».

*Прапаўшае дзіця* (с. 9)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1907, № 30, 28 верас., дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «Аб усім патроху».

Другая нататка з гэтай рубрыкі «Ніхто і нішто не выцягае...» друкуецца ніжэй цераз доўгую рысу. Пад тэкстам — крыптанім *К.*, які, можна меркаваць, належыць таксама і першаму допісу.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*У час ляоянскай бітвы...* — Бітва (11(24).8 — 21.8(3.9).1904 г.) каля г. Ляоян у Паўднёва-Усходнім Кітаі ў час руска-японскай вайны. Руская Маньчжурская армія пацярпела паражэнне ад трох японскіх армій і адышла за раку Шахэ.

*Хунхузы* (ад кіт. хунхузцы, літаральна — чырванабародыя) — удзельнікі ўзброеных банд у Маньчжурыі з сярэдзіны XIX ст. да 1949 г.

*«Ніхто і нішто не выцягае...»* (с. 9)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1907, № 30, 28 верас., дзе ўпершыню апублікавана як другая нататка пад рубрыкай «Аб усім патроху». Пад тэкстам: *К.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## 1908

*«М<ястэчка> Мір Мінск<ай> губ<ерні>...»* (с. 10)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1908, № 11, 22 мая, дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «З Беларусі і Літвы» (Ад нашых карэспандэнтаў). Пад тэкстам: *Я. К.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*«М<ястэчка> Астрашыцкі Гарадок...»* (с. 10)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1908, № 19, 11 верас., дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «З Беларусі і Літвы» (Ад нашых карэспандэнтаў) пад псеўданімам *Сусед з-пад Гарадка.*

Даследчык У. Содаль у кніжцы «Тут бачу свой край» піша: «Гэтая нататка зацікавіла не толькі сваім зместам. Прыцягнуў увагу і псеўданім аўтара — «Сусед з-пад Гарадка». Думаецца, гэта Купалаў псеўданім: сваім ладам і настроем ён аналагічны нашаніўскаму псеўданіму Янкі Купалы: «Янук з-пад Мінска», якім ён падпісваў свае допісы ў «Нашай ніве» ў 1907 годзе»[1].

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*«Астрашыцкі Гарадок... належыць да графоў Тышкевічаў...»* — Маецца на ўвазе магнацкі род на Беларусі, Украіне і ў Літве. Беларуская лінія роду ў першай палавіне XVI ст. набыла Лагойск, у 1569 г. атрымала графскі тытул. У пачатку XX ст. Тышкевічы валодалі маёнткамі ў Мінскай, Віленскай, Ковенскай і Кіеўскай губернях.

*«Новы камісар жнеям з в. Б. ...»* — Хутчэй за ўсё гаворка ідзе пра вёску Бараўцы, дзе сям'я Луцэвічаў жыла з 1904 па 1909 гг.

*«М<ястэчка> Гарадок...»* (с. 11)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1908, № 22, 23 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «З Беларусі і Літвы» (Ад нашых карэспандэнтаў) пад крыптанімам *К.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Загарак* (*пол.* zegarek) — гадзіннік.

## 1909

*Письмо в редакцию <газеты «Новая Русь»>* (с. 11)

Друкуецца па публікацыі Я. Хлябцэвіча «Пісьмо Янкі Купалы ў газету «Новая Русь» і ўдзел у ёй Л. М. Талстога» (Полымя. 1953. № 9. С. 142).

Упершыню — газ. «Новая Русь», 1909, № 355, 18 сн. Пад тэкстам: 29 января 1909 г. С.-Петербург.

Напісаны з выпадку публікацыі ў «Альманахе-календаре для всех на 1910 год» вершаў Янкі Купалы «Песня беларускага мужыка», «З песень беларускага мужыка» і «Мужыцкая песня», «Вось тут і жыві...» у перакладзе С. Ан-скага.

С. 12: *...оно поместило в этом же календаре чью-то фотографию, подписав под нею мою фамилию «Янка Купала».*— Гаворка ідзе пра партрэт Ф. Багушэвіча, памылкова змешчаны ў «Альманаху...».

---

[1] Содаль У. Тут бачу свой край. Мн., 1994. С. 30.

*«М<ястэчка> Здарэнне...»* (с. 12)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1909, № 16, 16 крас., дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «З Беларусі і Літвы» пад псеўданімам *Здарэнец*.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## 1910

*З Фінляндыі* (с. 13)

Друкуецца па сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (адз. зах. 14).

Упершыню са скарачэннямі — газ. «Наша ніва», 1910, № 29, 15 ліп. пад крыптанімам *Я. К.*; № 30, 22 ліп. Пад тэкстам: *Іматра-Пецярбург. Я. К-а.*

Разам з тым адноўлены паасобныя сказы, якія не ўвайшлі ў тэкст «Нашай нівы», відаць, па цэнзурных меркаваннях.

Датуецца годам апублікавання.

Нарыс напісаны ў сувязі з паездкай паэта ў Фінляндыю, дзе ён знаходзіўся 20—21 чэрв. 1910 г. разам з Б. І. Эпімах-Шыпілам і А. А. Грыневічам. Паводле ўражанняў ад паездкі напісаны і верш «Над Іматрай» (1910).

*Эпімах-Шыпіла Браніслаў Ігнатавіч* (1859—1934) — беларускі выдавец і мовазнавец. У 1925—1927 гг.— рэдактар, а ў 1927—1929 гг. — дырэктар камісіі па складанню слоўніка жывой беларускай мовы. Арганізатар і адзін з кіраўнікоў беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» (1906—1914). У 1912—1917 гг. быў фактычным кіраўніком беларускага студэнцкага руху ў Пецярбургу.

Б. І. Эпімах-Шыпіла адыграў значную ролю ў жыцці і творчасці паэта, рэдагаваў першы зборнік вершаў «Жалейка». Са снежня 1909 г. да лета 1913 г. Янка Купала жыў у яго на кватэры ў Пецярбургу.

Янка Купала напісаў вершы «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з новым 1910 годам», «Прафесару п. Б. І. Эпімах-Шыпілу», прысвяціў яму верш «Паляўнічы і пара галубкоў». На працягу многіх гадоў яны вялі перапіску.

*Грыневіч Антон Антонавіч (1877—1937)* — збіральнік і папулярызатар беларускага музычнага фальклору, выдавец. У 1910 г. заснаваў у Пецярбургу сваё выдавецтва («Выдавецтва Антона Грыневіча»), якое выпускала творы беларускай літаратуры і музыкі. У кастр. 1910 г. выдаў зборнік Янкі Купалы «Гусляр» (лацінскім шрыфтам) і паэму «Адвечная песня». А. Грыневіч — аўтар папулярных у Заходняй Беларусі песень на словы Я. Купалы «Касцу», «Гэй, наперад!».

*<У рэдакцыю газеты «Наша ніва»>* (с. 19)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ДзЛМЯнК ф. э., воп. II, адз. зах. 1). Зверху памета: Пецярбург, 19/X-1910 г. Подпіс: [*І. Луцэвіч*].

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1945, 22 жн. Публікацыя падрыхтавана В. Таўлаем.

С. 19: *Што выбраць для календара... сам я добра не ведаю...*— Рэдакцыя газеты звярнулася да паэта з просьбай даць твор у «Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1911 год».

*...я напісаў сезонны вершык к юбілейнаму нумару... можаце надрукаваць (у юб<ілейным> №).*— Верш «Роднае слова» прысвечаны «Рэдакцыі, супрацоўнікам, чытачам і прыхільнікам «Нашай нівы» (10.XI — 10.XII.1910 г.) быў апублікаваны ў газ. «Наша ніва», 1910, 16 снеж.

С. 20: *Пасылаю Вам такжа «Курган» — гэтую штучку, па праўдзе гаворачы, я бы хацеў убачыць надрукаванай у календары.*— Паэма ўпершыню была апублікавана ў газ. «Наша ніва», 1912, № 25, 21 чэрв., а затым у зб. «Наша ніва», 1912, № 2 і ў «Беларускім календары на 1916 год».

*Калі б баяліся яе пусціць з прычыны неблаганадзёжнасці, то 32-ю зваротку, дзе гаворыцца аб вісельні, выкіньце саўсім і замяніце точкамі.*— Янка Купала меў на ўвазе 32-ю страфу.

*Нізкі і шчыры паклон п. Бульбе.*— Бульба Альгерд (сапр. Чыж Вітаўт, гады нар. і смерці невядомы) — беларускі пісьменнік і крытык. Іншыя псеўданімы: Яленскі Ян, Гідальго.

Апошнія тры радкі ліста дапісаны Я. Купалам зверху. Пад імі: *Я. К.*

## 1911

### *<Беларуская вечарынка ў Пецярбургу>* (с. 20)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1911, № 8, 24 лют., дзе ўпершыню апублікаваны ў рубрыцы «З усіх старон. Пецярбург». Пад тэкстам: *Янка Купала. Пецярбург. 17.VI.1911 г.* Паколькі з тэксту відаць, што падзея адбылася 15 лют., відавочна, што пры друкаванні была зроблена памылка. Трэба: 17.II.1911 г.

Датуецца годам апублікавання.

С. 20: *...газета «Речь»...* — штодзённая газета, цэнтральны орган партыі кадэтаў у 1906—1917 гг., выходзіла ў Пецярбургу. Фактычныя рэдактары І. Гесэн, П. Мілюкоў.

*Крапіўніцкі Марка Лукіч* (1840—1910) — украінскі драматург, акцёр, рэжысёр. Аўтар больш за 40 драматычных твораў. Вадэвіль «Пашыліся ў дурні» напісаны ў 1875 г.

*Шымкус Стасіс Стасевіч* (1887—1943) — літоўскі кампазітар, дырыжор, грамадскі дзеяч. Апрацаваў шэраг мелодый для спектакляў Першай беларускай трупы І. Буйніцкага. Удзельнічаў у беларускіх вечарынках у Пецярбургу. Напісаў музыку да пастаноўкі «Паўлінкі» Я. Купалы ў Пецярбургу (1913).

*Буйніцкі Ігнат Цярэнцьевіч* (1861—1917) — беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч. Стваральнік нацыянальнага прафесійнага тэатра. У 1907 г. стварыў у в. Палевачы аматарскі тэатр, які ў 1910 г. стаў прафесійным і атрымаў назву «Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага».

### *З гуты «Залессе»* (с. 22)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1911, № 31—32, 11 жн., дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Ня-Гутнік*[1].

Датуецца годам апублікавання.

*Gutta (лац.)* — кропля.

*Гута (пол.)* — шклозавод.

Гутамі ў Беларусі называлі пераважна шклозаводы.

---

[1] Саламевіч І. Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў XVI — XX стст Мн., 1983. С. 95.

## 1912

*Святкаванне Купалы ў Вільні* (с. 24)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1912, № 26, 28 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Беларускі музычна-драматычны гурток быў створаны ў Вільні ў 1910 г. Першы спектакль гуртка, які адбыўся 12 лют. 1910 г.,— п'еса «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага. Частка артыстаў гуртка пазней перайшла ў трупу І. Буйніцкага.

*Антокаль* — раён Вільнюса.

## 1913

*Чаму плача песня наша?* (с. 26)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, № 30, 26 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *«Адзін з "Парнаснікаў"».*

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся са скарачэннямі.

Напісаны ў сувязі з артыкулам В. Ластоўскага «Сплачвайце доўг» («Наша ніва», 1913, № 26—27, 5 ліп. пад псеўданімам Юры Верашчака). Сярод літаратуразнаўцаў няма адзінства погляду на тое, што аўтарам «адказу Юрцы Верашчаку» быў менавіта Я. Купала. Артыкулам «Сплачвайце доўг» распачалася літаратурная дыскусія аб шляхах развіцця беларускага прыгожага пісьменства, ролі і прызначэнні літаратуры ў грамадскім і духоўным жыцці народа. Свой працяг палеміка атрымала ў артыкулах Л. Гмырака «Яшчэ аб сплачванні доўгу» («Наша ніва», 1913, № 33, 10 жн.), М. Гарэцкага «Развагі і думкі» («Велікодная пісанка на 1914 год». Вільня, 1913. С. 39—40).

Асобныя палажэнні артыкула В. Ластоўскага былі ім канкрэтызаваны і ўдакладнены ў далейшых публікацыях — «Да ўбогіх духам» («Наша ніва», 1913, № 29, 19 ліп.), «На сваім шляху» («Наша ніва», 1914, № 9, 27 лют.), «Шляхам творчасці» («Гоман», 1916, № 9, 14 сак.).

*Ластоўскі Вацлаў Юстынавіч* (псеўд. Власт, Юры Верашчака і інш.; 1883—1938) — пісьменнік, публіцыст, літаратуразнавец, гісторык, беларускі грамадскі-палітычны дзеяч.

*...як кажуць французы, «bon ton».*— Bon ton *(фр.)* — добрыя манеры. У дадзеным выпадку — на належным узроўні.

*Міцкевіч Адам* (1798—1855) — польскі паэт, грамадскі дзеяч, публіцыст, асветнік.

Самы значны мастацкі твор, вялікая нацыянальная эпапея — паэма «Пан Тадэвуш» (завершана і надрукавана ў Парыжы ў 1834 г.).

Творчасць А. Міцкевіча зрабіла вялікі ўплыў на ўсё далейшае развіццё беларускай літаратуры і, у прыватнасці, на Янку Купалу, які перакладаў вершы і ўрыўкі з паэм Міцкевіча.

*Сыракомля Уладзіслаў* (сапр. Кандратовіч Людвік Францішак Уладзіслаў, 1823—1862) — польскі і беларускі паэт. Тэматыка пераважнай большасці твораў — беларуская. Я. Купала перакладаў вершы Сыракомлі, называў яго першым сярод аўтараў, творчасцю якіх захапляўся.

*...дзякуючы запанаваўшай у нас чужой культуры...*— Гаворка ідзе пра пашырэнне на тэрыторыі Беларусі ў XVI — пачатку XIX ст. польскай мовы і культуры, а пазней — рускай.

С. 27: *Калі ў памятны 1905 г. эрабілася завіруха...*— Маецца на ўвазе пачатак першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гг.

...*«вокны затканы анучай»...*— Янка Купала прыводзіць недакладна працытаваныя В. Ластоўскім радкі з верша Я. Коласа «Наша сяло», якi быў апублікаваны ў зб. «Песні жальбы» (1910):

Ў адзін плех злілісь будынкі;
Ў шыбы ўсаджаны лучынкі
Ці анучак цэлы жмут.

...*«гразь, балота ды пясок...»* — Радок з верша Я. Коласа «Наш родны край» (1906), надрукаванага ў газ. «Наша доля» (1906, № 1, 1 верас.).

...*«Янка ды Сымонка...»* — Радкі з верша Я. Купалы «З песень аб сваёй старонцы» (1905—1907).

С. 28: ...*«польскі крытык»...*— Маецца на ўвазе Пяткевіч Зянон (1862—1932). У артыкуле «Янка Купала. «Адвечная песня» («Prawda». Варшава, 1910, № 39) выступіў з нападкамі на паэму Я. Купалы, яе ідэйны змест, кампазіцыю, трактоўку вобраза селяніна. Ён імкнуўся даказаць, што «смутак і плач у творы Я. Купалы штучныя», што Купала не ведае «сапраўдных» беларускіх народных песень.

*Як яны ваююць* (с. 29)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, № 38, 19 верас., дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Стары Мінчук.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Артыкул належыць да публіцыстычных прац Янкі Купалы, у якіх ставіцца пытанне аб негатыўных адносінах часткі рускіх і польскіх дзяржаўных дзеячаў да беларускага адраджэння, у прыватнасці да мовы, культуры, рэлігіі беларусаў.

*Корвін-Мілеўскі Іпаліт Аскаравіч* (1848—1932) — публіцыст, доктар права. З 1.09.1905 г. да 1.12.1905 г. выдаваў у Вільні газету «Kurjer Litewski». Не прымаў асноўных патрабаванняў беларускага нацыянальнага руху — увядзення беларускай мовы ў касцельнае набажэнства, радыкальнай аграрнай рэформы і г. д., не прызнаваў беларусаў за самастойны этнас, лічыў неабходным пашырэнне сярод іх польскай мовы і культуры.

С. 30: *Усім вядома, што яшчэ цар Мікалай I забараніў гаварыць казання ў касцёлах беларускіх па-беларуску...*— Паўстанне 1830—1831 гг. вымусіла царскі ўрад зрабіць захады па ўмацаванню сваёй сацыяльнай базы на беларускіх землях. На Полацкім царкоўным саборы ў 1839 г. ліквідавана грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква, яе вернікі далучаны да рускай праваслаўнай царквы. З 1840 г. канчаткова адменена дзеянне законаў Вялікага княства Літоўскага (Статут ВКЛ 1588 г.) і ўведзена агульнарасійскае заканадаўства і інш.

С. 31: ...*а ў Вільні выходзіць «Наша ніва».*— Штотыднёвая беларуская грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета нацыянальна-адраджэнскага кірунку (10(23).11.1906—7(20).8.1915).

*Чым чорт не шуціць* (с. 31)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, № 43, 24 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны з падзагалоўкам «Маленькі фельетон» пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*«Kurjer Litewski»* — газета, якая выходзіла ў 1905—1910 гг. і ў 1912—1915 гг. у Вільні на польскай мове.

*Агляд кнігі* (с. 32)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, № 50, 12 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *І. Л.*

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся са скарачэннямі.

*«Маладая Беларусь»* — літаратурны альманах. Выдаваўся суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбургу ў 1912—1913 гг. Выйшлі 3 сшыткі.

*Буйло Канстанцыя* (сапр. Калечыц Канстанцыя Антонаўна; 1898—1986) — беларуская паэтэса. Першыя вершы з'явіліся ў «Нашай ніве» ў 1909 г. У 1914 г. выдала зборнік вершаў «Курганная кветка», рэдактарам якой быў Янка Купала. У дакастрычніцкай паэзіі Буйло пераважаюць роздум пра цяжкае жыццё селяніна, матывы любві да Радзімы, яе людзей, прыроды, звычаяў. Аўтар зб. «Світанне» (1950), «На адноўленай зямлі» (1961), «Май» (1965), зб. вершаў для дзяцей.

*Журба Янка* (Івашын Іван Якаўлевіч; 1881—1964) — беларускі паэт. Першы верш па-беларуску апублікаваў у газ. «Наша ніва» ў 1909 г. Выдаў зб. паэзіі «Заранкі» (1924), «Ясныя шляхі» (1959), кнігі для дзяцей «Ластаўкі» (1950), «Сонечная раніца» (1955), «Светлыя дні» (1959).

*Гурло Алесь* (Аляксандр Кандратавіч; 1892—1938) — беларускі паэт. Служыў матросам на Балтыйскім флоце. Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый, грамадзянскай вайны. Прымаў удзел у штурме Зімняга палаца, у падаўленні эсэраўскага мяцяжу ў Яраслаўлі. У 1921 г. вярнуўся на Беларусь і працаваў у Інбелкульце і ў Інстытуце мовы АН БССР. Быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Полымя», «Пробліск». У 1930 г. рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

У 1907 г. у газ. «Наша ніва» надрукаваў першы верш. Выдаў зб. паэзіі «Барвёнак» (1924), «Спатканні» (1925), «Сузор'і» (1926), «Зорнасць» (1927), «Межы» (1929).

*Петрашкевіч Альфонс Баляслававіч* (1894—1918) — паэт, празаік, перакладчык. Пісаў на беларускай, польскай і рускай мовах. З 1911 г. друкаваўся ў «Нашай ніве», а таксама ў інш. перыядычных выданнях — «Беларус», «Маладая Беларусь», «Лучынка» і інш.

*А. Навіна* (сапр. Луцкевіч Антон Іванавіч; 1884—1942) — палітычны і грамадскі дзеяч, адзін з ідэолагаў беларускага адраджэння.

У 1902 г. скончыў Мінскую гімназію, здаў экстэрнам экзамены за курс прыродазнаўчага і юрыдычнага факультэтаў Пецярбургскага і Дэрпцкага універсітэтаў. З 1906 г. рэдактар-выдавец газ. «Наша доля» і «Наша ніва». У 1918 г. абраны старшынёй Віленскай беларускай рады — каардынацыйнага цэнтра беларускіх палітычных і грамадскіх арганізацый (студз. 1918 г.— чэрв. 1919 г.). 18 сак. 1918 г. кааптаваны ў склад Рады БНР, адзін з ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці БНР. З лістап. 1918 г. да сак. 1920 г. узначальваў урад БНР і адначасова быў міністрам замежных спраў. Пасля расколу Рады БНР 28 лют. 1920 г. выйшаў у адстаўку. У 1921—1939 гг.— дырэктар Беларускага музея ў Вільні. У кастр. 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі па абвінавачванні ў шпіянажы на карысць СССР, але судом апраўданы. З 1928 г. пасля самагубства жонкі адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці. У 1929 г. ізноў арыштаваны польскімі ўладамі і зноў апраўданы. Працаваў у Віленскай беларускай гімназіі. 30 верас. 1939 г. арыштаваны аператыўнай групай НКУС БССР, пераведзены ў Мінскую турму. 14 чэрв. 1941 г. пастановай Асобай нарады НКУС СССР асуджаны на 8 гадоў ППЛ. Пакаранне павінен

быў адбываць у Варкутапячлагу. Загінуў у 1942 г. Рэабілітаваны Пракуратурай Літоўскай ССР ад 31 сак. 1989 г.

*Галубок Уладзіслаў* (сапр. Уладзіслаў Пятровіч Голуб; 1882—1937) — беларускі драматург. У 1917—1920 гг. — акцёр і рэжысёр Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Адзін з заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра. У 1920 г. стварыў беларускі вандроўны тэатр, які называўся «Трупа Галубка», пазней называўся БДТ-3 (1932). У 1908 г. апублікаваў першы твор — апавяданне «На вяселле», а ў 1913 г. выйшаў першы зборнік — «Апавяданні». Напісаў каля 40 п'ес на гістарычныя і бытавыя тэмы. У 1937 г. рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Бядуля Змітрок* (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941) — беларускі пісьменнік. З Я. Купалам пазнаёміўся ў пачатку 1913 г., разам з ім працаваў у рэдакцыі газ. «Наша ніва». Першы зб. «Абразкі» выдаў у 1913 г. У 1915 г. вярнуўся ў родную вёску Пасадзец, потым пераехаў у Мінск, дзе працаваў у беларускім бежанскім камітэце. Пасля рэвалюцыі некаторы час працаваў у газ. «Савецкая Беларусь», быў рэдактарам дзіцячага часоп. «Зоркі» і краязнаўчага «Наш край». Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», затым — ва «Узвышша».

*Цётка* (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна; 1876—1916) — беларуская паэтэса.

Пісаць пачала ў 1902 г. пад уплывам твораў Ф. Багушэвіча. У «Калядных пісанцы на 1904 год» і «Велікоднай пісанцы» (1904) надрукавала вершы, прасякнутыя спачуваннем да цяжкай долі селяніна. У 1906 г. у Галіцыі выйшлі зб. «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская». Сярод украінскай інтэлігенцыі прапагандавала беларускую літаратуру, перапісвалася з Я. Купалам, які прысвяціў ёй верш «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай». Цётка — адна з пачынальніц беларускай прозы, працягвала традыцыі нацыянальнага апавядання. Пяру Цёткі належаць даследаванне па гісторыі беларускага народнага тэатра, нарысы.

*Вальтэр Э.* (сапр. Вольтэр Эдуард Аляксандравіч; 1856—1941) — гісторык, этнограф, філолаг, бібліёграф.

*Міхалка С.* (сапр. Мялешка Міхаіл Вінцэнтавіч; 1892—1941) — беларускі пісьменнік, гісторык, этнограф, публіцыст.

Некаторы час у пачатку 1910-х гг. жыў у Пецярбургу. У 1914 г. у газ. «Наша ніва» быў змешчаны яго верш «Разгані па небе». Першая празаічная публікацыя з'явілася ў 1913 г. у альманаху «Маладая Беларусь». Друкаваўся ў газ. «Вольны сцяг», «Дзянніца», «Савецкая Беларусь». З 1915 г. актыўна дзейнічаў на Віцебшчыне як арганізатар Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ). У 1918 г. працаваў у Віцебскім аддзяленні Белнацкома, з 1923 г. — у Інстытуце беларускай культуры. Быў арыштаваны ў 1930 г. і 10.4.1931 г. высланы на 5 гадоў у Самару. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Колас Якуб* (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — беларускі паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, перакладчык, вучоны, грамадскі дзеяч. Адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай мовы. Народны паэт Беларусі (1926).

*Гартны Цішка* (сапр. Жылуновіч Зміцер Хведаравіч; 1887—1937) — пісьменнік, публіцыст, гісторык, дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, дзяржаўны і грамадскі дзеяч БССР.

*Новіч А.* (сапр. Ціхановіч) — беларускі празаік пач. XX ст.

*Чэхаў Антон Паўлавіч* (1860—1904) — рускі пісьменнік.
*«Мядзведзь»* — вадэвіль, напісаны ў 1881 г. Упершыню пастаўлены ў 1889 г. у Александрыйскім тэатры.

## 1914

*Ці маем мы права выракацца роднай мовы?* (с. 34)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 15, 17 крас., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *І. Л.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Артыкул напісаны ў сувязі з вострай палемікай па пытаннях беларускай мовы ў друку. Супраць газ. «Наша ніва» выступалі газеты — «Виленский вестник», «Минское слово», пецярбургская газета «Новая Русь» і інш.

С. 36: *...калі Беларусь жыла сваім незалежным жыццём, мела сваіх князёў, сваё веча...*— Маюцца на ўвазе часы Кіеўскай Русі, калі Беларусь уваходзіла ў склад Полацкага княства. У Полацку існавала веча — сход жыхароў горада, на якім вырашаліся пытанні вайны, міру і гандлю.

*...беларуская мова закасавала «крывую» сваіх заваяваццеляў...*— Ва ўмовах феадальнай раздробленасці Кіеўскай Русі беларуская мова пачала складвацца ў XIII ст. Пасля татара-мангольскага нашэсця Беларусь і Украіна ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, дзе адбылася дыферэнцыяцыя беларускай і ўкраінскай моў. Беларуская мова ў ВКЛ доўгі час з'яўлялася дзяржаўнай мовай.

*Калі з часам Літоўска-Беларускае княства злучылася з Польшчай...*— Маюцца на ўвазе палітычная Кіеўская унія (1385), эканамічная Люблінская унія (1569) і духоўная Брэсцкая унія (1596), якія вялі да сацыяльнага, нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту. У выніку гэтага ў 1696 г. беларуская мова была канчаткова забаронена ў дзяржаўных і судовых установах.

*Уладыслаў, сын Ігната Эпімах-Шыпілы* (с. 38)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 19, 16 мая, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) артыкул друкаваўся са скарачэннямі.

*Эпімах-Шыпіла Уладыслаў Ігнатавіч* (1864—1914) — малодшы брат Б. І. Эпімах-Шыпілы. Арганізатар культурна-асветніцкага руху беларусаў у Пецярбургу.

С. 40: *«Пахаванне»* — верш Якуба Коласа ўпершыню надрукаваны ў «Нашай ніве» (1909, № 20, 14(27) мая). Датуецца 1908 г.

*А ўсё ж такі мы жывём!..* (с. 40)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 21—22, 6 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *І. Л.*

Датуецца годам апублікавання.

У якасці эпіграфа Янка Купала выкарыстаў радкі са свайго верша «Нашай ніве» (1911).

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся са значнымі скарачэннямі.

Артыкул накіраваны супраць выступленняў вялікадзяржаўных шавіністаў, якія імкнуліся даказаць, быццам беларусы не самастойная нацыя і не маюць уласнай культуры, і супраць польскіх

нацыяналістаў, якія лічылі беларусаў адгалінаваннем польскага народа.

С. 40: *...сыпаліся і сыплюцца на яе апекуны.*— Янка Купала мае на ўвазе каланізатараў — чарнасоценцаў і польскіх нацыяналістаў, выступленні якіх мелі месца на старонках рэакцыйных выданняў «Северо-Западная жизнь», «Kurjer Litewski» і інш.

...«stan posiadania»... *(пол.)* — маёмасны стан.

...«od morza do morza»... *(пол.)* — ад мора да мора.

...«gałęź»... *(пол.)* — адгалінаванне.

С. 41: *Выходзіць у свет колькі беларускіх газет ∞ кнігарні і т. п.*— Можна меркаваць, што маюцца на ўвазе газеты «Наша ніва», «Беларус», кнігі і зборнікі Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, К. Буйло, Я. Журбы, А. Гурло, З. Бядулі, Цёткі і іншых беларускіх пісьменнікаў, выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца», Беларускае выдавецкае таварыства і г. д.

С. 42: *«Наша ніва»* (№ 25 ад 12 чэрв.) змясціла наступны тэкст: «У № 21—22 «Нашай нівы» ў канцы стацці «А ўсё ж такі мы жывём!..» праз недагляд карэктара памылкова надрукавана слова Капернік, павінна быць Галілей...»

*За «А ўсё ж такі мы жывём!..»* (с. 42)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 24, 20 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *І. Л.*

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) артыкул друкаваўся са скарачэннем цэнзурнага характару.

Адказ Я. Купалы на нападкі чарнасоценнай прэсы, накіраваныя супраць рэдактара «Нашай нівы» і пазіцыі газеты.

*Начнём ад «господина» Саланевіча. — Саланевіч Лук'ян Міхайлавіч* (1868 — ?) — журналіст. У 1902 г. рэдактар газеты «Гродненские губернские ведомости». Супрацоўнічаў у газеце «Виленский вестник», заснаваў газету «Северо-Западная жизнь».

С. 43: *...прыводзіць гаспадарку ў нашым краі вялікага нацыяналіста Мураўёва.*— Гаворка ідзе пра Мураўёва Міхаіла Мікалаевіча (1796—1866). У час паўстання 1863—1864 гг. прызначаны віленскім генерал-губернатарам з надзвычайнымі паўнамоцтвамі. З дапамогай жорсткіх рэпрэсіўных мер, за якія ў сучаснікаў атрымаў прозвішча «Вешальнік», да верасня 1863 г. падавіў асноўныя ачагі паўстання ў Літве і Беларусі.

*...астаўляем гэты інтарэс тым, каму за «лганьё» добра плацяць... Казённых падачак не шукалі...*— Тут Я. Купала мае на ўвазе тое, што П. Сталыпін, у канцылярыі якога ў свой час працаваў у Гродна Саланевіч, забяспечыў «Северо-Западную жизнь» самай высокай урадавай субсідыяй — 2400 рублёў у месяц. (Гл. камент. да верша «Усё саюзы...», том 2 гэтага выдання, с. 276).

*«Виленскому вестнику ∞ «забраны край».*— Янка Купала мае на ўвазе эпіграф да артыкула «А ўсё ж такі мы жывём...», радкі з якога з'яўляюцца часткай верша «Нашай ніве» (1911).

*Вера і нацыянальнасць* (с. 44)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 27, 10 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *І. Л.*

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) артыкул друкаваўся без радкоў: *Прыкладаў далёка ∞ Рубяжэвіцкім крыжам і іншыя.*

Артыкул прысвечаны праблеме этнічнай еднасці беларусаў, нягледзячы на рознае веравызнанне.

С 44: *...узяць бы хоць справу з Рубяжэвіцкім крыжам...*— У мястэчку Рубяжэвічы ў выніку канфлікту паміж вернікамі праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў у 1913 г. знік асвечаны праваслаўны крыж-абярог. Каб зменшыць канфесійны напал пачуццяў, паліцыя вымушана была пачаць крымінальную справу. (Гл.: ЛіМ, 2001, № 47, 23 лістап.)

*Хай рунь красуе...* (с. 45)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 35, 4 верас., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *Я. К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Вайна і самапомач* (с. 46)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 38, 25 верас., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Вайна і налогі* (с. 48)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 40, 9 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *І. Л.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Чвэрць года вайны* (с. 50)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 42, 23 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) надрукаваны са скарачэннем.

*На французскай граніцы ∞ не відаць.*— 20.7(2.8).1914 г. германскія войскі пачалі наступленне на Заходне-еўрапейскім фронце. Яны хутка прайшлі Бельгію і Люксембург і дайшлі да Парыжа. 23—30 жн. (5—12 верас.) паміж Вердэнам і Парыжам пачалася вялікая бітва. У выніку ўпартага супраціўлення немцы страцілі ініцыятыву, і ў лістападзе бакі перайшлі да абароны.

*Тры пабеданосныя ∞ граніцы Расіі не ўдаліся.*— На першым этапе вайны, у жн.— верас. 1914 г. рускія войскі разбілі аўстра-венгерскія войскі, занялі Львоў, адкінуўшы ворага да Карпат, і блакіравалі крэпасць Перамышль. У ходзе Варшаўска-Івангародскай аперацыі сустрэчныя баі паміж расійскімі і германскімі войскамі таксама закончыліся перамогай Расіі.

*Цындао* — горад ва Усходнім Кітаі, на паўднёвым узбярэжжы Шаньдунскага паўвострава. У 1897 г. захоплены Германіяй і ператвораны ў ваенна-марскую базу. У час 1-й сусветнай вайны япона-англійскія войскі пасля аблогі (з верас. 1914 г.) 7 лістап. 1914 г. захапілі горад.

## 1915

*«Залёты»,*
*аперэтка Вінцука Дуніна-Марцінкевіча* (с. 51)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1915, № 5, 6 лют., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У якасці эпіграфа Я. Купалам выкарыстаны радкі з працы М. Гарэцкага «Наш тэатр» (1914).

Рэцэнзія напісана з нагоды пастаноўкі аперэты В. Дуніна-Марцінкевіча «Залёты».

*Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт* (1808—1884) — паэт, драматург, класік беларускай літаратуры XIX ст.

*«Залёты»* — камедыя, напісаная ў 1870 г., надрукавана ў 1918 г.

С. 51: *Беларускі музычна-драматычны гурток* быў створаны ў Вільні. Дзейнічаў у 1910—1916 гг. Праводзіў у жыццё ідэі газеты «Наша ніва», актыўна садзейнічаў грамадска-палітычнаму адраджэнскаму руху, разгарнуў шырокую культурную і асветную дзейнасць.

*М. Кімант* — маецца на ўвазе Ячыноўская (Кімант — Ячыноўская, Ячыноўская — Кімант, Кімант Яцына) Марыя (1858 (?) — 1922) — беларуская піяністка, кампазітар і грамадскі дзеяч. Скончыла Пецярбургскую кансерваторыю. У 1914 г. скампанавала музыку аперэты «Залёты», пастаноўку якой здзейсніла разам з А. Бурбісам у зале Віленскай філармоніі 25.1.1915 г.

Да пачатку 1980-х гг. дзейнасць Ячыноўскай памылкова прыпісвалася яе дачцэ Марцаліне Кімант — Яцыне.

С. 52: Паколькі, па словах Я. Купалы, «Залёты» ў арыгінале напісаны мешанай мовай — беларускай і польскай, ён пераклаў польскі тэкст на беларускую мову. Пра гэта сведчыць і Я. Карскі — «Беларусы» (1922. Т. 3. С. 61).

*Душэўскі* (Душ-Душэўскі) *Клаўдзій Сцяпанавіч* (1891—1959) — беларускі культурны і грамадскі дзеяч. Адзін з заснавальнікаў студэнцкага Беларускага навукова-літаратурнага гуртка, удзельнік Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні.

*Ягучанская, Страздэс, Баневічанка, Вітась, Марачэўская, Барташэвіч, Бурбісовая* — удзельнікі Беларускага музычна-драматычнага гуртка.

*Маркевіч* (Маркевічанка) *Соф'я* — удзельніца Беларускага музычна-драматычнага гуртка, выканаўца ролі Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Янкі Купалы.

*Бурбіс Алесь* (Аляксандр Лаўрэнавіч; 1885—1922) — беларускі грамадскі і тэатральны дзеяч.

С. 54: *Манюшка Станіслаў* (1818—1872) — польскі кампазітар. Напісаў музыку да чатырох опер на тэксты В. Дуніна-Марцінкевіча. У гэтых операх выкарыстаў беларускія народныя мелодыі. Я. Купала пераклаў на беларускую мову лібрэта оперы Манюшкі «Галька».

*Шаляпін Фёдар Іванавіч* (1873—1938) — рускі спявак.

## 1919

### *Як у казцы* (с. 54)

Друкуецца па часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 4, 10 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 54: *прашчуры нашы — дрэговічы...* — Гаворка ідзе пра дрыгавічоў, аднаго з племянных аб'яднанняў усходніх славян.

*...крывічы* — аб'яднанне ўсходнеславянскіх плямён, якія жылі ў басейне верхняга Дняпра, Заходняй Дзвіны, Волгі, на поўдні Чудскога возера.

*...палачане* — частка ўсходнеславянскай групы крывічоў, якія ў IX ст. насялялі тэрыторыю сучаснай Віцебскай і поўнач Мінскай абласцей.

*...царства Візантыйскага* — дзяржава IV—XV стст., якая ўтварылася ў выніку распаду Рымскай імперыі, у яе ўсходняй частцы. Сталіца — Канстанцінопаль.

С. 55: *...прывезлі яны новага Бога, Бога з крыжам.*— Маецца на ўвазе Ісус Хрыстос. На Беларусі хрысціянства з'явілася ў X ст., калі яго прыняло насельніцтва Кіеўскай Русі (988 ці 989 гг.).

*Уваскрашэнне польскага універсітэта ў Вільні* (с. 56)

Друкуецца па газ. «Звон», 1919, № 24—25, 17 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Артыкул напісаны з нагоды адкрыцця ў кастрычніку 1919 г. Віленскага універсітэта.

С. 56: *Баторый Сцяпан* — маецца на ўвазе Баторый Стэфан (1533—1586) — дзяржаўны дзеяч, палкаводзец, вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль польскі. Прывілеяй ад 1.4.1579 года пераўтварыў Віленскі езуіцкі калегіум у акадэмію (пазней — Віленскі універсітэт), даў дазвол на заснаванне езуіцкіх калегіумаў у Полацку, Рызе, Дэрпце (Тарту). Яму належыць ініцыятыва стварэння езуіцкага калегіума ў Гародні.

С. 56: *77 год была Вільня сіратою...*— У сапраўднасці — 87 гадоў.

*Міцкевіч Адам* — гл. камент. да арт. «Чаму плача песня наша?», с. 366.

*...Снядэцкі...* — Відаць, Я. Купала мае на ўвазе старэйшага з братоў Снядэцкіх, Яна (1756—1830). Астраном, матэматык, філосаф-асветнік. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, ва універсітэтах Гётынгема, Лейдэна, Утрэхта і Парыжа. Адзін з арганізатараў Астранамічнай школы ў Вільні. У 1806—1825 гг.— дырэктар астранамічнай абсерваторыі, адначасова рэктар Віленскага універсітэта.

Больш за ўсё Я. Снядэцкі клапаціўся пра выхаванне сапраўдных патрыётаў і грамадзян. З'яўляецца аўтарам прац «Пра літаратуру», «Пра творы класіцызму і рамантызму», «Конкурс на кафедру красамоўства і паэзіі ў Віленскім імператарскім універсітэце» і інш.

*...Леляваль* (сапр. Лялёвель) *Іаахім* (1786—1881) — польскі гісторык, грамадскі дзеяч. Адзін з заснавальнікаў і рэдактараў часопіса «Tygodnik Wileński». У 1824 г. пасля раскрыцця тайных студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў як іх ідэйны натхняльнік звольнены з пасады, пераехаў у Варшаву. У 1830—1831 гг.— дэпутат сейма. У час паўстання 1830—1831 гг.— старшыня Патрыятычнага таварыства; уваходзіў у склад Часовага ўрада. Лічыцца аўтарам дэвіза «За нашу і вашу свабоду!».

*Пілсудскі Юзаф* (1867—1935) — польскі грамадска-палітычны, дзяржаўны і ваенны дзеяч. Маршал Польшчы (1920). Скончыў Віленскую гімназію, вучыўся ў Харкаўскім універсітэце. У 1885 г. пераехаў у Вільню. У 1887 г. быў арыштаваны і сасланы ў Сібір на 5 гадоў за прыналежнасць да «Народнай волі». У 1892 г. вярнуўся ў Вільню, далучыўся да Польскай сацыялістычнай партыі (ППС). У снеж. 1916 г. уключаны ў склад польскага Часовага дзяржсавета, у ліп. 1917 г. абвінавачаны ў падрыхтоўцы антынямецкага паўстання, арыштаваны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі і зняволены ў Магдэ-

бургскую цытадэль. Пасля Лістападаўскай рэвалюцыі 1918 г. у Германіі вызвалены. З восені 1918-га па 4.12.1922 г. узначальваў Польскую дзяржаву ў якасці яе «начэльніка». Выступаў за далучэнне да Польшчы Літвы, Беларусі і Украіны і пашырэнне яе тэрыторыі да межаў Рэчы Паспалітай 1772 г. У лістап. 1919 г. адхіліў прапановы кіраўніцтва РСФСР, УССР і Беларускай ССР па нармалізацыі адносін з Польшчай. У 1919—1920 гг. ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва ваеннымі дзеяннямі супраць Чырвонай Арміі. 18—19 верас. 1919 г. наведаў Мінск. Неаднаразова сустракаўся з прадстаўнікамі беларускага нацыянальнага руху, абяцаў вырашыць «беларускае пытанне», але ў лют. 1920 г. заявіў, што падтрымае культурныя патрабаванні беларусаў, але палітычных уступак рабіць не жадае. У 1923—1925 гг. адышоў ад палітычнай дзейнасці. Прыняў актыўны ўдзел у дзяржаўным перавароце 12.5.1926 г., пасля якога стаў фактычна дыктатарам Польшчы. У 1926—1928 гг. і ў жніўні — снежні 1930 г. узначальваў польскі ўрад. Дзейнічаў аўтарытарнымі метадамі, душыў палітычную апазіцыю. З 1931 г. ажыццяўляў кіраўніцтва знешняй палітыкай і ваеннымі справамі дзяржавы. Не перашкаджаў правядзенню палітыкі паланізацыі беларускага і ўкраінскага насельніцтва Заходніх Беларусі і Украіны.

С. 57: *Ліманоўскі Баляслаў* (1835—1935) — польскі публіцыст, гісторык, палітычны дзеяч. Вучыўся ў Маскоўскім і Дэрпцкім універсітэтах, скончыў у 1876 г. Львоўскі універсітэт. Адзін з арганізатараў Польскай сацыялістычнай партыі. Выступаў супраць рэжыму Пілсудскага, асуджаў палітыку нацыянальнага ўціску беларусаў і іншых народаў.

*Адбудова Беларусі* (с. 57)

Друкуецца па газ. «Звон», 1919, № 27, 19 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Гаворка ў артыкуле ідзе пра тое, што Беларусь не атрымала ад Германіі рэпарацый. Гэта сталася таму, што, заключаючы Брэсцкі мір 3 сак. 1918 г., Расія і Германія адмовіліся ад пагашэння страт, прычыненых вайною насельніцтву абедзвюх краін.

*Больш самачыннасці* (с. 59)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 2, 22 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Прыйшлі немцы...* — Маецца на ўвазе акупацыя германскімі войскамі земляў Цэнтральнай і Усходняй Беларусі ў выніку наступлення германскай арміі, распачатага 18 лют. 1918 г.

*Прыйшлі ізноў бальшавікі...* — Маецца на ўвазе, што пасля падпісання дадатковага пратаколу да Брэсцкага мірнага дагавора нямецкія войскі пакінулі тэрыторыю на ўсход ад Бярэзіны, а пасля Лістападаўскай рэвалюцыі ў Германіі Чырвоная Армія заняла частку Гродзенскай і Віленскай (з Вільняй) губерняў.

*Прыйшлі палякі...* — У маі 1919 г. польскія войскі занялі Вільню і перайшлі да наступлення на Мінск. Усяго ж да сярэдзіны ліп. 1919 года польскія інтэрвенты акупіравалі каля 3/4 тэрыторыі Беларусі і Літвы. 8.8.1919 г. яны занялі Мінск і ў верасні прасунуліся да лініі Дзвінск — Полацк — Лепель — Барысаў — р. Прыпяць.

*Зямельная спекуляцыя* (с. 60)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 4, 24 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Яшчэ далятае да нас ∞ палякамі ды маскалямі...* — Гаворка ідзе пра ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі паміж войскамі Чырвонай Арміі і Польшчы на працягу 1919 г.

*...дзе польская ўлада так мала зрабіла для бытавання нармальнага жыцця ў краю...*— Маюцца на ўвазе часы акупацыі польскімі войскамі Беларусі на працягу 1919 г.

*Беларускае войска* (с. 62)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 6, 26 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Беларуская вайсковая камісія* — орган па фарміраванні беларускіх часцей у польскім войску ў 1919—1921 гг. Утворана ў Вільні 2.8.1919 г. паводле дамоўленасці з Начальнікам польскай дзяржавы Ю. Пілсудскім. Яго дэкрэтам ад 22.10.1919 г. афіцыйна дазвалялася пачаць фарміраванне сумесна з польскім камандаваннем на добраахвотнай аснове беларускіх часцей. Камандаванне беларускага войска падпарадкоўвалася непасрэдна польскай ваеннай адміністрацыі. У сак. 1920 г. распараджэннем ваеннага міністэрства вярбоўка і адбор добраахвотнікаў былі выключаны з кампетэнцыі БВК і перададзены мясцовым органам акупацыйнай адміністрацыі, якія гэту справу баймкатавалі. У выніку ўдалося скамплектаваць толькі адну беларускую пяхотную роту. У ліп. 1920 г. пры эвакуацыі польскіх войск з Мінска БВК фактычна распалася. Адноўлена 3.10.1920 г. у г. Лодзь (Польшча). Прапановы аб рээвакуацыі камісіі ў адзін з гарадоў Заходняй Беларусі былі адхілены польскімі ўладамі. 15.5.1921 г. БВК была скасавана.

*...пасля падзелу Польшчы...* — Янка Купала меў на ўвазе тры падзелы Рэчы Паспалітай (1772, 1792, 1795).

С. 63: *Ішлі беларускія сыны ∞ у Турэччыну...*— Гаворка ідзе пра войны, у якіх прымала ўдзел Расія на працягу XVIII—XIX стст.

*Стварылася ў той час польская армія...*— Маецца на ўвазе, што ў час першай сусветнай вайны ў складзе расійскай арміі былі створаны два польскія корпусы.

*...На Украіне таксама паўстала ўкраінскае войска...*— Маюцца на ўвазе ўкраінскія вайсковыя фарміраванні (гайдамацкія палкі) пад кіраўніцтвам С. Пятлюры, якія аказвалі супраціўленне атрадам Чырвонай Арміі.

*...дзянікінцамі.*— Тут аўтар мае на ўвазе войскі пад камандаваннем Дзянікіна Антона Іванавіча (1872—1947), які вёў узброеную барацьбу супраць савецкай улады. Прыхільнік адзінай непадзельнай Расіі адмоўна ставіўся да права нацый на самавызначэнне. Быў вярхоўным правіцелем Расіі з 4.1.1920 г. да 4.4.1920 г.

*Генералы Керанскага інакай на гэта не глядзелі.*— Гаворка ідзе пра тое, што генералы рускай арміі, вярхоўным галоўнакамандуючым якой з 30 жн. (12 верас.) 1917 г. з'яўляўся Керанскі Аляксандр Фёдаравіч (1881—1970), адстойвалі ў час першай сусветнай вайны інтарэсы Расіі, а не яе меншасцей.

С. 64: *...беларуская моладзь пайшла ў «зялёную армію».*— Маюцца на ўвазе баявыя атрады, якія пачалі стыхійна ствараццa ў 1919 г. Афармлены як беларуская сялянская партыя «Зялёны дуб» у 1920 г. Створана па ініцыятыве Беларускай вайсковай камісіі і Беларускага палітычнага камітэта ў Варшаве. Партыя кіравала антыбальшавіцкім сялянскім рухам.

*...калчакоў...*— Калчак Аляксандр Васільевіч (1874—1920) — адзін з галоўных арганізатараў узброенай барацьбы супраць савецкай улады, адмірал. У 1917 г. камандаваў Чарнаморскім флотам. У 1918—1919 гг.— вярхоўны правіцель расійскай дзяржавы. Расстраляны бальшавікамі.

*...юдзенічаў...*— Юдзеніч Мікалай Мікалаевіч (1862—1933) — адзін з галоўных арганізатараў узброенай барацьбы супраць савецкай улады, генерал. У 1917 г.— галоўнакамандуючы Каўказскага фронту, у 1919 г.— белагвардзейскай Паўночна-Заходняй арміі. З 1920 г.— эмігрант.

*...«Як вольны з вольным, як роўны з роўным».*— Словы Ю. Пілсудскага, прамоўленыя ў верас. 1919 г., у якіх ён дэклараваў ладзіць адносіны адроджанай польскай дзяржавы з Беларуссю.

*Беларускі сцяг уваскрос!* (с. 64)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 9, 30 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...ў чацвер, 23 кастрычніка.*— Насамрэч 22 кастр. 1919 г. (гл. камент. да арт. «Беларускае войска», с. 376).

С. 65: *...павядзе нас «к свабодзе, роўнасці і знінню».*— Перыфраз вядомага лозунга Вялікай французскай рэвалюцыі «Свабода, роўнасць і братэрства».

*«Як вольны з вольным»...*— Гл. камент. да арт. «Беларускае войска», с. 376.

*...«Вясна народаў».*— Гэткую назву атрымала рэвалюцыя 1848—1849 гг. у краінах Еўропы.

С. 66: *Дзве вялікія, не нашыя арміі стаяць адна проці другой на беларускіх гонях...*— Войска Польскае і Чырвоная Армія, ваенныя дзеянні паміж якімі адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў 1919 г.

*Забабон* (с. 66)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 14, 5 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...крываждаднага ката Тарквомаду.*— Тарквемада Томас (каля 1420—1498), з 80-х гг. XV ст. стаяў на чале іспанскай інквізіцыі (вялікі інквізітар). Ініцыятар выгнання яўрэяў з Іспаніі (1492).

*...спаліў бязлітасна на кастры вялікага, светлага Гуса.*— Ян Гус (1371—1415) — нацыянальны герой чэшскага народа. Прапаведнік, мысліцель, ідэолаг чэшскай Рэфармацыі. У сваіх пропаведзях выкрываў каталіцкае духавенства, патрабаваў карэннай рэформы царквы, выступаў супраць засілля немцаў у Чэхіі, прыгнечання беднякоў.

За сваю дзейнасць у 1410 г. быў адлучаны ад царквы. У канцы 1414 г. быў выклікаиы на царкоўны сабор у Канстанцы і, нягледзячы на ахоўную грамату, быў схоплены і кінуты ў турму. Спробы каталіцкіх царкоўнікаў схіліць Гуса да адрачэння ад яго вучэння не мелі поспеху. Гус быў асуджаны як ерэтык і спалены на кастры.

*...працэс Бэйліса.*— Працэс над прыказчыкам цагельні ў Кіеве Мэндэлем Бэйлісам, якога дзеячы чарнасоценных арганізацый беспадстаўна абвінавачвалі ў рытуальным забойстве праваслаўнага хлопчыка.

С. 67: *Kredens (пол.)* — шафа.

*...славянскімі псалмамі Давідавымі.*— Маюцца на ўвазе псалмы (песнаспевы), якія ўключаны ў Псалтыр, што складаецца з 150 твораў. Лічыцца, што 73 (яўрэйскі тэкст) або 84 (грэчаскі тэкст) псалмы напісаў цар Давід. Псалмы ўключаны ў хрысціянскую багаслужбу. У праваслаўных выконваюцца на царкоўнаславянскай мове, таму Янка Купала назваў іх славянскімі.

*Моладзь ідзе!* (с. 68)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 23, 15 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...адзінай беларускай часопісі «Наша ніва»...*— Гл. камент. да арт. «Як яны ваююць», с. 367.

*...урываліся жандары і «ахраннікі»...*— Паводле ацэнкі Віленскага ахоўнага аддзела, у 1908 г. газета «стала змяшчаць артыкулы ўзбуджальнага характару, за што падвяргалася некалькі разоў канфіскацыі».

С. 69: *...М. Багдановіч* (Багдановіч Максім Адамавіч; 1891—1917) — беларускі паэт, перакладчык, крытык, гісторык літаратуры. Першы друкаваны твор — алегарычнае апавяданне «Музыка». Ранні перыяд творчасці паэта завяршыў зборнік «Вянок». Яго паэзія набыла новую якасць. Вядучай у творах паэта становіцца сацыялістычнапатрыятычная праблематыка. Разам з З. Бядуляй, М. Гарэцкім і інш. ён становіцца адным з найбольш актыўных прадстаўнікоў малодшага пакалення беларускіх рэвалюцыйна-дэмакратычных пісьменнікаў, паслядоўнікам і аднадумцам Я. Купалы і Я. Коласа. Важную ролю ў фарміраванні густаў і арыентацый М. Багдановіча адыграла яго перакладчыцкая дзейнасць. Перакладаў антычных, рускіх і заходнееўрапейскіх аўтараў. Гэта далучала беларускую літаратуру да сусветнага літаратурнага працэсу.

*Цётка* — гл. камент. да арт. «Агляд кніг», с. 368.

*Луцкевіч Іван* (Іван Іванавіч; 1881—1919) — беларускі грамадскі дзеяч, этнограф, археолаг. Скончыў Маскоўскі (1904) і Пецярбургскі (1905) універсітэты. У Пецярбургу ўдзельнічаў у стварэнні Беларускага гуртка народнай асветы, у выданні «Калядная пісанкі на 1904 год» і «Велікоднай пісанкі» (1904), у зборніку «Вязанка» (1903) выдаў літаратурную спадчыну Я. Лучыны. Адзін з арганізатараў і член ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады. Уваходзіў у рэдакцыі газет «Наша доля» і «Наша ніва», удзельнічаў у арганізацыі Беларускага выдавецкага (1913) і Беларускага навуковага таварыства ў Вільні. Быў ініцыятарам стварэння Беларускага музея ў Вільні, першай беларускай гімназіі.

С. 70: *Бонч-Асмалоўскі Анатоль Восіпавіч* (1857—1930) — рэвалюцыянер-народнік. З дваран.

Бонч-Асмалоўскі — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі, удзельнік рэвалюцыі 1905—1907 гг. У крас. 1908 г. арыштаваны, у лют. 1910 г. аддадзены пад суд, у студз. 1911 г. апраўданы, а ў 1912 г. зноў арыштаваны і прыгавораны да 8 месяцаў зняволення ў крэпасці. У час першай

сусветнай вайны быў у эвакуацыі, працаваў у арганізацыях дапамогі бежанцам. У 1917 г. у Маскве, гласны гарадской думы. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. выбраны членам выканкома Уладзімірскага Савета сялянскіх дэпутатаў. Дэлегат Усебеларускага з'езда (1917). З 1918 г. у Мінску. У час акупацыі Беларусі польскімі войскамі знаходзіўся на нелегальным становішчы. З 1926 г. у Маскве.

С. 70: *...беларуская часопісь «Наша каляіна».*— Маецца на ўвазе газета, орган культурна-грамадскай арганізацыі «Папараць-кветка». Выдавалася з 6.2. па 4.3.1920 г. у Слуцку на беларускай мове. Рэдактар А. Бараноўскі. Апублікавала апавяданне У. Галубка «Язэпавы сыны», пераклад апавядання М. Горкага «Макар Чудра», творы мясцовых аўтараў. Інфармавала пра дзейнасць беларускага тэатра ў Слуцку, у тым ліку пра пастаноўку п'есы Галубка «Праменьчык шчасця».

*Торжышча* (с. 70)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 27, 20 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 71: *у рабскай Маскоўшчыне за часаў Івана Грознага.*— Іван IV Васільевіч Жахлівы (Грозны; 1530—1584) — з 1547 г.— цар Маскоўскі.

*...антанты і процi-антанты...*— Антанта — ваенны блок Вялікабрытаніі, Францыі і Расіі. Сфармаваўся ў 1904—1907 гг. і аб'яднаў у ходзе першай сусветнай вайны супраць аўстра-германскай кааліцыі звыш 20 дзяржаў (ЗША, Японія, Італія і інш.).

*Настаўніцкая вечарынка* (с. 72)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 29, 22 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *N.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

«Беларуская хатка» — клуб беларускай мастацкай інтэлігенцыі ў Мінску ў 1916—1921 гг. Праводзіў культурна-асветніцкую работу, прапагандаваў беларускі тэатр і музычнае мастацтва. У 1916—1917 гг. у клубе наладжваліся вечарынкі (удзельнічалі У. Галубок, М. Багдановіч, З. Бядуля, З. Верас і інш.), чыталі творы беларускіх пісьменнікаў, спяваў хор. Потым там працавалі розныя тэатральныя калектывы.

*Антанта* (с. 73)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 32, 27 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны як «Маленькі фельетон» пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Антанта* — гл. камент. да арт. «Торжышча», с. 379.

С. 74: *Калчак А. В., Дзянікін А. І., Юдзеніч М. М.*— гл. камент. да арт. «Беларускае войска», с. 376—377.

*Ленін* (Ульянаў) *Уладзімір Ільіч* (1870—1924) — расійскі палітычны і грамадскі дзеяч. З 1918 г.— Старшыня СНК.

*Троцкі* (сапр. Браништэйн) *Лей Давыдавіч* (1879—1940) — палітычны дзеяч. У 1928 г. быў высланы з СССР за антысавецкую дзейнасць. Забіты агентамі НКУС СССР у 1940 г. у Мексіцы, дзе жыў апошнія гады.

*Калмановіч Майсей Іосіфавіч* (1888—1937) — палітычны дзеяч. У 1919 г. — член першага ўрада БССР, намеснік старшыні ЦВК, нарком харчавання БССР, потым Літоўска-Беларускай ССР. У 1919—1920 гг.— член ЦВК БССР. 11.6.1937 г. арыштаваны як «актыўны ўдзельнік у 1933 г. трацкісцкай арганізацыі». У 1937 г. расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Пятлюра Сімон Васільевіч* (1878—1926) — лідэр Украінскай сацыял-дэмакратычнай партыі. Адзін з арганізатараў Цэнтральнай рады (1917) і Дырэкторыі (1918), яе кіраўнік з лют. 1919 г. У савецка-польскай вайне падтрымліваў Польшчу. З 1920 г.— эмігрант. Забіты ў Парыжы.

*Ульманіс* (Улманіс) *Карл* (1877—1942) — латвійскі палітычны дзеяч, лідэр партыі «Сялянскі саюз». У 1919—1934 гг. неаднаразова ўзначальваў урад. У 1936—1940 гг.— прэм'ер і прэзідэнт Латвіі.

*Тарыба* (*літ.* Taryba) — рада, савет.— Маецца на ўвазе Літоўская дзяржаўная Тарыба, прадстаўнічы орган літоўскага народа. (22.9.1917—15.5.1920, Вільня; кіраўнік — А. Сметана). У чэрв. 1918 г. абвясціла Літву манархіяй з запрашэннем на трон нямецкага прынца.

С. 75: *Пангерманія* — маецца на ўвазе аўстра-германская кааліцыя.

*Незалежнасць* (с. 76)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 33, 28 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 77: *Пасля уніі з Польшчай...*— 1.7.1569 г. быў прыняты акт, паводле якога адбылося аб'яднанне Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. У выніку кожная краіна захавала суверэнітэт, свае законы, сваю дзяржаўную мову. Стварылася моцная дзяржава — Рэч Паспалітая, якая дапамагала беларускаму народу захаваць незалежнасць.

*Незалежная дзяржава і яе народы* (с. 78)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 34, 29 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Друкаваўся таксама ў «Беларускім календары на 1920 год» (Вільня, 1919), але без загалоўка і першага абзаца.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 80: *Кінуты ў нядаўні час амерыканскім прэзідэнтам лозунг — мір на аснове самавызначэння народаў...*— У 1912—1921 гг. прэзідэнтам ЗША быў Вільсан (Уільсан) Томас Вудра (1856—1924). У студз. 1918 г. ён прапанаваў мірную праграму — «т. зв. 14 пунктаў» — для выхаду краін са стану вайны.

*Узяць бы хоць бураў: цэлы год ∞ вялікую Англію.*— Буры (афрыканеры) — народ у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, у асноўным нашчадкі галандскіх, а таксама французскіх і нямецкіх каланістаў. Змагаліся за сваю незалежнасць супраць Вялікабрытаніі. Вайна пачалася ў кастр. 1899 г., але сілы былі няроўныя, і ў сак. 1900 г. бурскія рэспублікі былі аб'яўлены брытанскімі калоніямі.

С. 81: *...не павінна быць «ні эліна, ні іудзея».*— Цытата з Паслання апостала Паўла да каласянаў (3 : 11).

*Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год* (с. 81)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1920, № 2, 3 студз.; № 8, 14 студз., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а*. Складаецца з дзвюх частак.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...а за ёю рэвалюцыя ў Расіі, Нямеччыне і Аўстрыі...*— Маюцца на ўвазе Лютаўская рэвалюцыя, рэвалюцыя ў Германіі (пачалася 9 лістап. 1918 г.), рэвалюцыя ў Аўстра-Венгрыі (у кастр. 1918 г.).

С. 82: *Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ)* — нацыянальная партыя, блок народнікаў і марксістаў. Утворана зімою 1902—1903 гг. пад назвай Беларуская рэвалюцыйная грамада.

*...каля «Нашае нівы»...*— Гл. камент. да арт. «Як яны ваююць», с. 367.

*Калі немцы, пасля бальшавіцкага перавароту ў Расіі часць нашай тэрыторыі...*— Гл. камент. да арт. «Больш самачыннасці», с. 380.

*Калмановіч М. Г.* — гл. камент. да арт. «Антанта», с. 73.

*Мяснікоў* (сапр. Мяснікян) *Аляксандр Фёдаравіч* (1886—1925) — рэвалюцыянер, савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з кіраўнікоў устанаўлення савецкай улады на Беларусі.

*Яркін Віктар Іванавіч* (1889—1937) — у 1918 г. старшыня Заходняй абласной Надзвычайнай камісіі.

*Яны аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губ<ернію> і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны.*— Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў склад Заходняй вобласці ўваходзілі Віленская, Віцебская, Магілёўская і Мінская губерні. Калі ў лютым 1918 г. Выканком і Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту быў вымушаны эвакуіравацца ў Смаленск, гэты горад стаў цэнтрам вобласці. Са згоды кіруючых органаў РСФСР у красавіку Смаленская губерня была выведзена з Маскоўскай вобласці і далучана да Заходняй. У верасні 1918 г. Заходняя вобласць, у склад якой намінальна ўваходзілі Віленская, Віцебская, Магілёўская, Мінская і Смаленская губерні, была перайменавана ў Заходнюю Камуну, скасавана пасля абвяшчэння БССР.

*Пры ўрадзе быў створаны камісарыят нацыянальных меншасцеи (літвінаў, палякаў, латышоў, жыдоў), апрача беларусаў.*— Маецца на ўвазе, што другі з'езд Саветаў Заходняй вобласці (Смаленск, крас. 1918 г.) пастанавіў стварыць Нацыянальны аддзел, які складаўся 6 з секцый, у тым ліку і беларускай. 17 крас. 1918 г. загадчык аддзела С. І. Берсан звярнуўся ў Беларускі нацыянальны камісарыят у Маскве з просьбай прапанаваць кандыдатуру на пасаду кіраўніка беларускай секцыі. Камісар Белнацкома А. Р. Чарвякоў 22 мая 1918 г. прызначыў Ф. Г. Шантыра загадчыкам Смаленскага Заходнеабласнога аддзялення. Меркавалася, што Смаленскае аддзяленне Белнацкома адначасова будзе з'яўляцца беларускім пададдзелам Нацыянальнага аддзела Заходняй вобласці. Але ў пачатку чэрв. 1918 г. Нацыянальны аддзел быў ліквідаваны, і Смаленскае аддзяленне Белнацкома сваю дзейнасць, пачатую 30 мая, вымушана было спыніць. У ліп. 1918 г. Смаленскае аддзяленне Белнацкома было адноўлена, яно дзейнічала да канца снеж. 1918 г.

*Берсан Станіслаў Ігнатавіч* (1895—1919) — удзельнік рэвалюцыйнага руху на Беларусі, дзяржаўны дзеяч БССР.

С. 83: *Тады маскоўскія беларусы-бальшавікі, якія ў той час кіравалі беларускім аддзелам пры камісарыяце нацыянальных меншасцей...*— Маюцца на ўвазе дзеячы беларускіх секцый РКП(б), кіраўнікі Беларускага нацыянальнага камісарыята — структурнага падраздзялення Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцей РСФСР.

*Жылуновіч Зміцер Хведаравіч* (Цішка Гартны) — гл. камент. да арт. «Агляд кніг», с. 368.

*Дыла Язэп* (Восіп Лявонавіч; 1880—1973) — дзеяч беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння, пісьменнік. У дарэвалюцыйны час працаваў у выдавецтвах і газетах. У студзені — лютым 1919 г. узначаліў камісарыят працы ў першым урадзе БССР. З 1921 г. у Наркамасветы, Дзяржплане. З 1924 г.— правадзейны член і вучоны сакратар Інстытута беларускай культуры. У 1925—1926 гг.— дырэктар БДТ-1, а затым дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства пры Інбелкульце.

Аўтар драматычных твораў («Панскі гайдук», «Юнак з Крошына»), рамана «На шляху з варагаў у грэкі» (не закончаны).

Арыштаваны 18 ліп. 1930 г. Дзяржаўным палітычным упраўленнем БССР па «Справе "Саюза вызвалення Беларусі"». Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Шантыр Фабіян Гіляравіч* (1887—1920) — беларускі пісьменнік, публіцыст, грамадскі дзеяч. З 1909 г. друкаваўся ў «Нашай ніве». Аўтар рамантычных апавяданняў пра гаротнае жыццё вёскі. У публіцыстычных артыкулах узнімаў пытанні пашырэння асветы як умовы росту нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. У студз.— лют. 1919 г. узначальваў камісарыят па справах нацыянальнасцей у першым урадзе БССР.

*На чале «чразвычайкі» стаў не Яркін, вядомы ў Смаленску сваёй крывавай ненасытнасцю, а нейкая другая асоба.*— У 1919 г. НКУС БССР узначальваў Іваноў Сямён Варфаламеевіч (1880—1955).

*Пачалі выдаваць «Известия» на 4-х мовах: расійскай, беларускай, польскай і жыдоўскай (выйшла 4 ці 5 нумароў).*— Маюцца на ўвазе «Весткі Часовага Работніцка-Сялянскага Радавога Ураду Беларусі». Янка Купала працаваў у рэдакцыі газеты сакратаром-перакладчыкам на беларускую мову.

С. 84: *Фальскі Усевалад Сцяпанавіч* (1886 ці 1887 — ?) — беларускі акцёр, тэатральны і мастацкі дзеяч. Старшыня Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. З'яўляўся арганізатарам і кіраўніком Мінскага таварыства працаўнікоў мастацтва. Ініцыятар першай пастаноўкі драмы Янкі Купалы «Раскіданае гняздо». У студз.— лют. 1919 г. узначальваў камісарыят замежных спраў у першым урадзе БССР.

*Пры менскім камісарыяце прасветы ўтварыць літаратурна-выдавецкі аддзел, які папраўдзе шчыра заняўся падгатоўкай літаратурнага беларускага матэрыялу.*— Маецца на ўвазе Літаратурна-выдавецкі аддзел Наркамасветы БССР, Мінскага губернскага камісарыята асветы, затым Літбела. Пад грыфам Мінскага губернскага камісарыята асветы ў 1919 г. у Вільні выдадзена драма Я. Купалы «Раскіданае гняздо».

*Іваноўскі Вацлаў Леанардавіч* (1880—1943) — беларускі палітычны і грамадскі дзеяч.

*Спачатку зрабілі «прылучэнне» Літ<оўска>-Бел<арускай> рэспублікі да Расіі.*— Магчыма, маецца на ўвазе дэкрэт «Аб аб'яднанні савецкіх рэспублік: Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы і Беларусі для барацьбы з «сусветным імперыялізмам», прыняты УЦВК 1.6.1919 г.

С. 85: *...вядомая адозва Начальніка Польскай дзяржавы Язэпа Пілсудскага.*— Маецца на ўвазе зварот «Да насельніцтва былога Вялікага княства Літоўскага» ад 29 красав. 1920 г.

С. 87: *Міцкевіч Адам* — гл. камент. да арт. «Чаму плача песня наша?», с. 366.

*Красінскі* — відаць, гаворка ідзе пра Красінскага Валяр'яна (1795—1855), гісторыка, публіцыста.

*Славацкі Юльюш* (1809—1849) — польскі паэт і драматург.

*Колішнія лозунгі «За нашу і вашу волю», «Вольны з вольным, роўны з роўным»...*— Маюцца на ўвазе выказванні Я. Пілсудскага ў час візіту ў Мінск 18—19 верас. 1920 г.

*...ўдалося там склікаць Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.*— Маецца на ўвазе Беларускі з'езд Віленшчыны і Гродзеншчыны, што адбыўся 8—10 чэрв. 1920 г. у Вільні. З'езд абраў Цэнтральную беларускую раду Віленшчыны і Гродзеншчыны.

*Прымерам гэтага можа служыць закрыццё Буцслаўскай гімназіі.*— Будслаўская беларуская гімназія была заснавана ў канцы 1917 г. у мястэчку Будслаў Вілейскага павета (цяпер Мядзельскі раён). Забаронена польскай акупацыйнай адміністрацыяй перад пачаткам 1919—1920 навучальнага года.

С. 88: *Арганізаваўся Беларускі Нацыянальны камітэт.*— Маецца на ўвазе Часовы Беларускі нацыянальны камітэт, створаны ў Мінску ў жн. 1919 г. Узначальвалі А. Прушынскі (А. Гарун), з канца 1919 г.— К. Цярэшчанка.

*...пачала выходзіць штодзённая беларуская газета...*— З 25 жн. 1919 г. у Мінску пачала выдавацца газета «Звон». Рэдактарам была Ядзвіга (Іадвіга) Луцэвіч. Подпіс у № 1—5 «Рэдактар-выдавец І. Луцэвіч» даў падставу некаторым даследчыкам сцвярджаць, што рэдактарам быў Янка Купала (Іван Луцэвіч). У кастр. 1919 г. газета «Беларусь» стала пераемніцай гэтага выдання.

*За «плебісцыт» паліцыя пры дапамозе слесара ўлезла ў рэдакцыю беларускай газеты...*— Гаворка ідзе пра артыкул М. Краўцова «Плебістытныя размовы», які быў змешчаны ў газ. «Беларусь» (1919, № 39, 6 снеж.) і выклікаў негатыўную рэакцыю польскіх улад. Наступны нумар газеты выйшаў 7 снеж. у нядзелю, а № 41 — толькі ў сераду, 10 снеж. 1919 г.

*...Эндэцкая рэакцыя.*— Маецца на ўвазе палітыка, што праводзілася Нацыянальна-дэмакратычнай партыяй Польшчы (эндэкамі). Партыя існавала ў 1897—1945 гг. У час першай сусветнай вайны ўзначальвала палітычны лагер, што арыентаваўся на Антанту. У 1919 г. уваходзіла ва ўрадавую кааліцыю.

*«Страхі жыцця»,*
*драма ў 3-х актах Ф. Аляхновіча* (с. 89)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1920, № 3, 4 студз., у рубрыцы «Тэатр і мастацтва» пад крыптанімам *N*. Рэцэнзія на п'есу Ф. Аляхновіча «Страхі жыцця».

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Аляхновіч Францішак Каролевіч* (1883—1944) — беларускі драматург, тэатральны дзеяч. У 1916 г. арганізаваў тэатральны гурток у Вільні, дзе паставіў сваю першую п'есу «На Антокалі». У 1918 г. прабраўся праз лінію фронту ў Мінск, з'яўляўся дырэктарам і галоўным рэжысёрам мінскага «Беларускага тэатра». З ліп. 1920 г.— у Вільні. У 1919—1920 гг. выдаваў часоп. «Беларускае жыццё»,

у 1921—1923 гг.— рэдактар газ. «Беларускі звон». У 1926 г. пераехаў у БССР. Абвінавачаны ў шпіянажы на карысць Польшчы і сасланы на 10 гадоў на Салаўкі. У верас. 1933 г. польскімі ўладамі абменены на палітвязня Б. Тарашкевіча. Займаў паланафільскія пазіцыі. Аўтар кніг «Праўда пра Саветы» і «У кіпцюрах ГПУ» (1937). У час Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнічаў з немцамі. Забіты 3 сак. 1944 г. на ўласнай кватэры ў Вільні польскімі ці савецкімі партызанамі.

*Справа беларускага нацыянальнага гімна* (с. 90)

Друкуецца па часоп. «Рунь», 1920, № 4, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...у тыя часы, калі існавала незалежная Літоўска-Беларуская дзяржава.*— Вялікае княства Літоўскае, утварэнне якога з цэнтрам у Навагародку адносіцца да 1240-х гг.

*Рагоўскі Людамір Міхал* (1881—1954) — кампазітар і дырыжор. Творчасць цесна звязана з беларускай музычнай культурай: удзельнічаў у рабоце Беларускага музычна-драматычнага гуртка, ствараў музычнае афармленне да спектакляў трупы І. Буйніцкага, склаў «Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хораў» (1911). Аўтар 7 сімфоній, 6 опер, 2 балетаў, у тым ліку «Купала» (1926, Варшава), сімфанічных паэм і сюіт, камерных, харавых і інш. твораў (у тым ліку на верш Я. Купалы «А хто там ідзе?», 1910).

С. 91: *...да верша Каганца «О Божа, спасе наш!..»* — Каганец Карусь (Будзімір, сапр. Кастравіцкі Казімір Карлавіч; 1868—1918) — беларускі пісьменнік, перакладчык, мастак. Адзін з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху. Друкаваўся з 1893 г. «О Божа, спасе наш...» — радок з верша «Малітва» К. Каганца, які друкаваўся ў «Велікоднай пісанцы на 1904 год». СПб, 1904.

С. 91: *...да верша Я. Купалы «Не загаснуць зоркі ў небе...»* — Маецца на ўвазе верш «Нашай ніве» з першым радком «Не загаснуць зоркі ў небе...» (1911).

*Янчук Мікалай Андрэевіч* (1859—1921) — беларускі, рускі і украінскі вучоны-славіст, пісьменнік, этнограф, фалькларыст.

Першы на навуковай аснове збіраў, даследаваў і апрацоўваў беларускі музычны фальклор. Прымаў удзел у перакладзе, складанні, рэдагаванні і выданні першай кнігі Я. Купалы на рускай мове «Выбраныя вершы ў перакладах рускіх паэтаў» (М., 1919). Прысвяціў Я. Купалу верш на палескай гаворцы «Янкові Купалі» (1918).

Аўтар апрацовак беларускіх, рускіх і ўкраінскіх народных песень.

*Тэраўскі Уладзімір Васілевіч* (1871—1938) — беларускі кампазітар, фалькларыст і дырыжор. У 1914 г. стварыў у Мінску адзін з першых харавых калектываў, рэарганізаваны ў 1917 г. у Беларускі народны хор. Стварыў музыку да спектакляў «Паўлінка» і паводле драматычных паэм Я. Купалы «Адвечная песня», «На папасе» і «Сон на кургане». Аўтар шматлікіх рамансаў і песень на словы Я. Купалы, З. Бядулі, М. Чарота і інш. Рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*З прычыны прыезду Начальніка Польскай дзяржавы ў Мінск...*— Маецца на ўвазе прыезд 18—19.9.1919 г. у Мінск Ю. Пілсудскага.

*Думка за думкай* (с. 92)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1920, № 129, 18 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 92: *Вось хоць бы тая «вясна народаў»...* — Гл. камент. да арт. «Беларускі сцяг уваскрос!», с. 377.

*<Прамова на юбілейным вечары, прысвечаным 15-годдзю літаратурнай працы>* (с. 92)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1920, № 136, 26 чэрв., дзе ўпершыню апублікавана. Прамова ўключана ў артыкул «15-гадовы юбілей Янкі Купалы», падпісаны крыптанімам *Я. К-ч*, які, па сцверджанні даследчыка А. Жынкіна, належыць Я. Лёсіку.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Пры жыцці паэта прамова друкавалася ў кн. Я. Карскага «Беларусы» (1922, т. III, кн. 3).

*Усяго пятнаццаць год ∞ беларускага грамадзянства.*— Перыяд, які прайшоў ад 1905 г.— пачатку першай рускай рэвалюцыі.

С. 94: *У адным з псальмаў біблейных сказана: «Стануў Бог у зграмаджэнні багоў і паміжы богамі суды судзіць».*— Янка Купала працытаваў радок 1 з 81 псалма, аўтарам якога лічыцца Асаф.

## 1923

*Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 год* (с. 94)

Друкуецца па часоп. «Полымя», 1923, № 1, дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *Менск, 14/1-23 г. Ів. Луцэвіч.* Артыкул з'явіўся ў выніку службовай працы Я. Купалы на пасадзе намесніка загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела Наркамасветы БССР (1921) і ў кааператыўна-выдавецкім таварыстве «Савецкая Беларусь» (1922).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 95: *Багушэвіч Францішак* (Францішак-Бенядзікт) *Казіміравіч* (1840—1900) — беларускі паэт, празаік, публіцыст, рэвалюцыйны дэмакрат.

*Бядуля Зм.*— гл. камент. да арт. «Агляд кніг», с. 368.

*Гартны Ц.*— гл. камент. да арт. «Агляд кніг», с. 368.

*Чарот Міхась* (сапр. Кудзелька Міхась Сямёнавіч; 1896—1938) — беларускі пісьменнік, грамадскі і культурны дзеяч. Аўтар паэмы «Босыя на вогнішчы» (1921).

С. 99: *...трэба адзначыць выхад у свет першага беларускага рамана — гэта «Сокі цаліны» Цішкі Гартнага.*— Раман ствараўся на працягу 15 гадоў (1914—1929). Першая частка рамана — «Бацькава воля» — выйшла ў 1922 г.

*...«Дудка Беларуская» і «Смык Беларускі», якія пасля болей як паўвяковага працягу часу першы раз надрукаваны «грамадзянкай», г. ё. рускімі літарамі...*— «Дудка беларуская» пад псеўд. Мацей Бурачок выйшла ў Кракаве ў 1891 г.; «Смык беларускі» пад псеўд. Сымон Рэўка з-пад Барысава — у Познані ў 1894 г.

*...рускімі літарамі...*— Маецца на ўвазе кірыліца.

*Лёсік Язэп Юр'евіч* (1883—1940) — празаік, публіцыст, мовазнавец, літаратуразнавец, палітычны дзеяч. Акадэмік АН БССР. Рэпрэсіраваны. Памёр у 1940 г. у Саратаўскай турме. Рэабілітаваны ў 1988 г.

*Некрашэвіч Сцяпан Міхайлавіч* (1883—1937) — мовазнаўца, акадэмік АН БССР. У 1927—1928 гг.— старшыня Аддзела гуманітарных навук Інбелкульта. У 1929 г.— віцэ-прэзідэнт АН БССР. Рэпрэсіраваны. Расстраляны 20 снеж. 1937 г. Рэабілітаваны ў 1988 г.

*Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч* (1892—1938) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец, публіцыст, перакладчык, літаратуразнавец. Акадэмік АН БССР. У 1917 г.— адзін з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады, з 1918 г.— Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1919 г.— выкладчык беларускай і грэчаскай моў у Мінскім беларускім педінстытуце. Падрыхтаваў і выдаў першую беларускую граматыку для школ (Вільня, 1918). У 1921—1922 гг.— дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў Таварыства беларускай школы.

З Янкам Купалам пазнаёміўся ў рэдакцыі «Нашай нівы», калі абодва вучыліся ў Пецярбургу (1911—1913). Сустракаліся на кватэры ў Б. І. Эпімах-Шыпілы.

У студз. 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі. У 1928 г. на «працэсе 56» асуджаны на 12 гадоў. Вызвалены ў 1930 г., а ў лют. 1931 г. зноў арыштаваны і праз год асуджаны на 8 гадоў катаржнай турмы. З верас. 1933 г. па абмене палітвязнямі жыве ў СССР. 6.5.1937 г. арыштаваны АДПУ СССР. 5.1.1938 г. асуджаны і расстраляны. Рэабілітаваны 26.1.1957 г.

*Янчук М. А.*— гл. камент. да арт. «Справа беларускага гімна», с. 384.

*Ігнатоўскі Усевалад Макаравіч* (1881—1931) — беларускі гісторык і грамадскі дзеяч, акадэмік АН БССР. З 1926 г.— старшыня Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта), у 1929—1930 гг.— прэзідэнт АН БССР. У студз. 1931 г. выключаны з партыі, 4 лют. 1931 г. пасля «гутаркі» ў ДПУ застрэліўся. У 80-я гг. XX ст. У. Ігнатоўскаму вернута добрае імя.

С. 100: *...надрукавана ў сваім часе ў расійскай газеце «Звезда» напісаная т. Кнорыным антыкрытыка...*— Гаворка ідзе пра артыкул «Беларуская літаратура» («Звязда», 1921, 11 лістап.), які з'явіўся адказам на нарыс У. Ігнатоўскага «Матывы лірыкі беларускага песняра М. Чарота» («Савецкая Беларусь», 1921, 6 лістап.).

*Кнорын* (Кнорыньш) *Вільгельм Георгіевіч* (1890—1938) — грамадскі і партыйны дзеяч. У 1937 г. арыштаваны і рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1955 г.

*Тэраўскі У. В.*— гл. камент. да арт. «Справа беларускага гімна», с. 385.

С. 101: Часопіс для дзяцей «Зоркі» выходзіў з 25 лют. 1921 г. па чэрв. 1922 г. Выйшла 10 нумароў. У наступныя гады часопіс не ўзнаўляўся.

*Некалькі вершаў па-беларуску надрукавала і другая расейская тутэйшая часопісь «Юный пахарь».*— Гаворка ідзе пра маладзёжную штотыднёвую газету, орган ЦК ЛКСМБ. Выдавалася з кастр. 1922 г. да 1925 г. у Мінску. Да 1924 г. выходзіла на рускай мове, затым на беларускай пад назвай «Малады араты».

## 1924

### *Думкі і пажаданні ў звязку з прадстаячым дакладам на 3-й сесіі ЦВК Беларусі* (с. 103)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 256, 4 лістап. пад агульным загалоўкам «Інстытут Беларускай Культуры», дзе ўпершыню надрукаваны.

Датуецца годам апублікавання.

*Інстытут Беларускай Культуры* (Інбелькульт) — навукова-даследчая ўстанова БССР, якая існавала ў 1922—1928 гг. у Мінску. Інсты-

тут быў заснаваны на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР. Па Пастанове ЦВК і СНК БССР ад 13.10.1928 г. пераўтвораны ў Беларускую АН (БАН). Урачыстае адкрыццё адбылося 1.1.1929 г. Да 1936 г. называлася Беларуская АН, да 1991 — АН БССР.

## 1925

### *Ліст у рэдакцыю* (с. 104)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1925, № 140, 25 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *Мінск, 23 чэрвеня 1925 г.*

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся са скарачэннямі.

*...надання мне годнасці беларускага народнага паэта...*— СНК БССР прыняў Пастанову аб прысваенні Янку Купалу звання народнага паэта БССР 10 чэрв. 1925 г. у сувязі з 20-годдзем творчай дзейнасці.

### *<Зварот да маладых пісьменнікаў>* (с. 106)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1925, № 220, 29 верас., дзе ўпершыню апублікаваны разам з аналагічным заклікам Я. Коласа. Напісаны з нагоды пабудовы самалёта імя КПБ.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Вольны Анатоль* (сапр. Ажгірэй Анатоль Іўсцінавіч; 1902—1937) — паэт. Актыўны ўдзельнік літаратурна-мастацкага руху ў Беларусі ў 1920—1930 гг. З 1923 г. уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». Адзін з пачынальнікаў прыгодніцкага жанру ў беларускай прозе. У 1925 г. выйшаў раман «Ваўчаняты» (у сааўт. з А. Александровічам і А. Дударом). Аўтар аповесцей «Два» (1925), «Антон Савіцкі» (1927, газ. «Савецкая Беларусь»), «Зборнік фельетонаў» (1927). Выступаў як кінадраматург. У 1935 г. выйшла кінааповесць «Шасцідзесятая паралель».

Рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч* (1900—1976) — паэт. У 1924 г. скончыў творчае аддзяленне Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытута імя В. Брусава. Быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша». Выдаў зб. вершаў «Строма» (Вільня, 1923), «Трысцё» (1925), «Credo» (1926), «Наля» (Масква, 1927), «Палеская рапсодыя» (1961).

Рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Пушча Язэп* (сапр. Плашчынскі Іосіф Паўлавіч; 1902—1964) — паэт. Адзін з заснавальнікаў літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша». Выйшлі зб. вершаў «Раніца рыкае» (1925), «Vita» (1926), «Дні вясны» (1927), «Песні на руінах» (1929), паэма «Крывавы плакат» (1930) і інш.

Рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Якімовіч Алесь* (Аляксандр Іванавіч; 1904—1979) — беларускі пісьменнік. Быў членам літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Пісаў пераважна для дзяцей. Выдаў кнігі «Гул бубна» (1925), «Перамога» (1932), «Незвычайны мядзведзь» (1934), «Выпадак на чыгунцы» (1938), «Помста» (1946), «Сябры» (1948) і інш.

Асобнымі выданнямі выйшлі зборнікі беларускіх казак у апрацоўцы: «Каток — залаты лабок» (1955), «Бацькаў дар» (1957), «З рога ўсяго многа» (1959) і інш.

*Бабарэка Адам Антонавіч* (1899—1938) — пісьменнік і крытык. Адзін з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання «Узвышша». У 1925 г. выдаў кнігу «Апавяданні». У 1930 г. рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1957 г. Быў арыштаваны і ў 1937 г., па гэтай справе рэабілітаваны ў 1959 г.

*Александровіч Андрэй Іванавіч* (1906—1963) — паэт. Адзін з арганізатараў літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Прымаў удзел у падрыхтоўцы правапісу беларускай мовы (1933). Выйшлі зб. вершаў «Камсамольская нота» (з А. Вольным, 1924), зб. апавяданняў «Сутарэнне» (1925), таксама раман «Ваўчаняты» (разам з А. Вольным і А. Дударом, 1925), зб. паэзіі «Па беларускім бруку» (1925), «Празалаць» (1926), «Угрунь» (1927) і інш. Рэпрэсіраваны ў 1938 г. Рэабілітаваны ў 1956 г.

## 1926

### *Ліст да палачан* (с. 106)

Друкуецца па газ. «Чырвоная Полаччына», 1926, № 54, 13 мая, дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *Полацк, 12 трайня 1926 г.* Напісаны ў час знаходжання ў Полацку з 10-га па 13 мая 1926 г.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з нязначнымі скарачэннямі.

*Адамовіч Язэп Аляксандравіч* (1897—1937) — былы старшыня СНК БССР (1924—1927). Рэпрэсіраваны. Ва ўмовах масавых рэпрэсій у красавіку 1937 г. застрэліўся. У 1980-я гг. Я. А. Адамовічу вернута добрае імя.

*Баліцкі Антон Васільевіч* (1891—1937) — нарком асветы ў 1926—1929 гг. Арыштаваны і асуджаны ў верас. 1930 г. У кастр. 1937 г., расстраляны. Рэабілітаваны ў 1958-м і ў 1988 г.

*«Маладняк»* — літаратурная арганізацыя, якая існавала з лістап. 1923 г. па лістап. 1928 г. У далейшым рэарганізавана ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП).

## 1927

### *У рэдакцыю газ⟨еты⟩ «Савецкая Беларусь»* (с. 107)

Друкуецца па газ. «Чырвоная краіна» (дадатак да газ. «Савецкая Беларусь»), 1927, № 2, 15 мая, дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «Народныя паэты аб нашай газеце». Напісаны ў сувязі з выхадам у свет 2000-га нумара газеты.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Памятаю: газета ў Смаленску.*— «Савецкая Беларусь» як часопіс (першыя 10 нумароў) пачала выходзіць у Смаленску 1 лют. 1920 г., з 15 жн. 1920 г. з № 11 — у Мінску як газета на беларускай мове. Выходзіла да 21 сак. 1933 г.

*Гартны Ц.*— гл. камент. да арт. «Агляд кніг», с. 368.

*Булат Сцяпан Герасімавіч* (1894—1921) — беларускі дзяржаўны і палітычны дзеяч, журналіст. Са жн. 1920 г.— рэдактар газ. «Савецкая Беларусь». Купала напісаў верш «На смерць Сцяпана Булата» (9 жн. 1921 г.).

*Эпоха «Нашай нівы».*— Газета «Наша ніва» выдавалася ў Вільні з 10(23).11.1906 г. па 7(20).8.1915 г. на беларускай мове.

*Гутарка з Янкам Купалам* (с. 108)

Друкуецца па газ. «Наша праца» (Вільня), 1927, № 2, 5 кастр., дзе ўпершыню апублікавана з падзагалоўкам «Ад нашага карэспандэнта». Пад тэкстам: *Варшава, 1927, 1 кастр.* Запісаў А. Кандратовіч.

У Зборы твораў (1972—1976) надрукавана з купюрай.

1 кастр. Купала вяртаўся на радзіму з Карлсбада[1] (Чэхаславакія), дзе знаходзіўся на лячэнні. Але ўрад Польшчы не выдаў яму візы на права наведаць Вільню па дарозе дадому, каб не дапусціць сустрэчы беларускага паэта з грамадскасцю. Ён спыніўся ў Варшаве, выступіў перад жыхарамі так званай беларускай калоніі ў Варшаве.

*...я даваў свае вершы ў «Полымя» і іншыя газеты...*— У 1926 г. у названым часопісе ўпершыню была апублікавана нізка вершаў, напісаных у Акопах: «За ўсё...», «Царскія дары», «На пагранічны», «Улетку», «У лесе», «Вецер», «Маладая ачуняла», «Каб...», «Ёсць жа яшчэ». Першыя публікацыі вершаў з'явіліся таксама ў газетах «Беларуская вёска» («Сей, вольны сейбіт», «І што я ёй зрабіў такое?», «Гутарка аб кепскім гаспадару», «Гутарка аб кепскай гаспадыні») і «Савецкая Беларусь» («Акоў паломаных жандар», «Два светы», «Праз гультайства», «Дзе стаяў двор панскі»).

*...быў заняты ўпарадкаваннем і пераглядам старых твораў, якія цяпер друкуюцца ў поўным сабранні іх.*— Гаворка ідзе пра першы Збор твораў у 6-і т. (1925—1932).

*Пераклаў... адрывак з песні «O wojnie domowej».*— Маецца на ўвазе пераклад уступу да паэмы У. Бранеўскага «Песня аб вайне грамадзянскай», які ўпершыню быў надрукаваны ў часоп. «Полымя», 1927, № 4.

С. 109: *Спадзяюся, што ў беларускім перакладзе «Галька» выйдзе на сцэне дужа ўдала.*— Пры жыцці паэта пастаноўка не была ажыццёўлена.

*Урэшце ў асобнай кніжцы, незалежна ад агульнага збору маіх твораў, выйдзе мой пераклад з польскай цудоўнай п'есы Жулаўскага «Эрос і Псіха».*— Фантастычна-алегарычная драма Е. Жулаўскага (1874—1915) была напісана ў 1904 г. Пастаўлена ў БДТ-2 у 1926 г. Пераклад п'есы асобным выданнем не выходзіў. Тры раздзелы былі апублікаваны ў часоп. «Вольны сцяг», № 5, 6 за 1921 г. і № 1 за 1922 г. Чацвёрты раздзел упершыню апублікаваны ў Зб. тв., 1972—1976, т. VII.

*Ужо гадоў пяць назад заснавалася першая арганізацыя нашае літаратурнае моладзі пад назовам «Маладняк».*— Тут Купала недакладна называе дату заснавання аб'яднання. У сапраўднасці літаратурнае аб'яднанне было створана ў лістап. 1923 г.

Літаратурнае аб'яднанне «Узвышша» арганізавана ў 1926 г.

*Цяпер творыцца яшчэ адна — «Пробліск».*— Гаворка ідзе пра пралетарска-сялянскую беларускую літаратурную суполку. Суполка заснавана ў Мінску, існавала з ліп. 1927 г. па студз. 1928 г.

*Праектуецца агульная Федэрацыя Беларускіх пісьменнікаў.*— Гаворка ідзе пра пытанне аб стварэнні Усебеларускай асацыяцыі, якое разглядалася на агульным сходзе пісьменнікаў Беларусі. З дакладам аб асноўных прынцыпах стварэння федэрацыі выступіў Ц. Гартны.

---

[1] Сучасная назва курорта Карлавы Вары.

## 1928

*Ад Інбелкульта — да Акадэміі навук* (с. 110)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1928, № 238, 14 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «Грамадскія і навуковыя дзеячы аб гістарычнай Пастанове Ураду». Пад тэкстам: *Янка Купала. Народны паэт БССР.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Перайменаванне Інстытута Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук.*— Гл. камент. да арт. «Думкі і пажаданні ў звязку з прадстаючым...», с. 387.

## 1929

*Вільня. Рэдакцыі «Шлях моладзі»* (с. 111)

Друкуецца па машынапісным тэксце, які захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (ф. 242, воп. 6, спр. 546, л. 223). Пад тэкстам уласны подпіс Я. Купалы.

Упершыню — кн. «Публіцыстыка», Мн., 1972. С. 230.

Часоп. «Шлях моладзі» пачаў выходзіць з лют. 1929 г. Таму ў папярэдніх публікацыях ліст умоўна датаваўся 1929 годам.

Калі дадзены том ужо знаходзіўся ў вытворчасці, рэдактарам В. У. Скалабанам было праведзена дадатковае даследаванне. Высветлілася, што машынапісны тэкст ліста з праўкамі знаходзіўся ў звязцы з артыкулам М. Клімковіча «Пра скарыстанне літаратурнай спадчыны і пра паэтычную дробязь, якую аб'яднаді паны Шутовічы і тыя, хто з імі», які быў напісаны не раней жніўня 1933 г. Магчыма, што ліст таксама быў напісаны адначасова з названым артыкулам.

*...чатыры радкі з майго старога верша.*— Я. Купала меў на ўвазе радкі з верша «Маладая Беларусь» (1912), якія прыводзяцца па выданні зб. «Шляхам жыцця», 1913:

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі.

*...падпанкамі Шутовічамі...*— З 1932 г. членамі рэдкалегіі былі Ізабэла і Альфонс Шутовічы і М. Пецюкевіч.

## 1930

*Ліст у рэдакцыю* (с. 111)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1930, № 124, 30 мая, дзе ўпершыню апублікаваны з падзагалоўкам «Замест прамовы на сходзе ў Доме працасветы 28.V.1930 г». Напісаны ў сувязі з 25-годдзем літаратурнай дзейнасці. Друкаваўся ў газ. «Савецкая Беларусь», № 124, 30 мая, часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1930, № 5—6.

С. 112: ...*«за слупамі з арламі».*— Так паэт азначае Заходнюю Беларусь.

*Кон Фелікс Якаўлевіч* (1864—1941) — дзеяч міжнароднага рэвалюцыйнага рабочага руху.

*Луначарскі Аляксандр Васільевіч* (1875—1933) — рускі палітычны дзеяч, крытык, літаратуразнавец, пісьменнік. Народны камісар адукацыі (1917—1929). Напярэдадні юбілею Я. Купалы апублікаваў артыкул «Народны паэт Беларусі» («Известия», 1930, 15 мая).

*Халатаў Арташэс (Арцёмій) Багратавіч* (1894—1938) — дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1927—1932 гг. — член калегіі Наркамасветы РСФСР, старшыня праўлення Дзяржаўнага выдавецтва.

*Да А. Чарвякова* (с. 113)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (ДзЛМЯнК, КП 15993/А609). Пад тэкстам: *Менск, 20/XI-30 г.*

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1988, 3 чэрв. у арт. Б. Сачанкі «Бэндэ (30-ыя ў абліччах і дакументах)»[1].

Друкаваўся часткова ў часоп. «Нёман», 1990, № 10 у арт. Працькі Т. С., Лапца П. Д. і Антановіч Т. М. «Я. Купала: трагический 1930-й».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Чарвякоў Аляксандр Рыгоравіч* (1892—1937) — дзяржаўны і партыйны дзеяч. Старшыня СНК БССР у 1920—1924 гг. У 1920—1937 гг. — старшыня ЦВК БССР, адзін са старшынь ЦВК СССР (1922—1937 гг.).

Пазнаёміўся з Я. Купалам у 1918 г.

16 чэрв. 1937 г. застрэліўся ў час работы XVI з'езда КП(б)Б.

*Верш мой «Паўстань...»* — Напісаны 28 жн. 1919 г. у г. Калізбергу. Упершыню апублікаваны ў газ. «Звон», 1919, 17 верас.

*Лёсік, надрукаваўшы яго побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму...* — Артыкул «Досьвідкі п. Я. Пілсудскага» быў змешчаны ў наступным нумары газ. «Звон» — ад 19 верас.

*Шыла, які асвятліў Дзям'яну Беднаму гэты верш...* — Шыла Мікалай (1888—1948) — беларускі грамадскі дзеяч. Б. Сачанка меркаваў, што Я. Купала ведаў пра сустрэчу М. Шылы з Дзям'янам Бедным. Відаць, пасля гэтага Дз. Бедны напісаў верш, у якім беспадстаўна абвінаваціў Я. Купалу ў здрадзе народу.

*Я сам, змясціўшы яго ў зборніку...* — Я. Купала ўключыў верш «Паўстань...» у зб. «Спадчына», 1922. Але ён быў зняты па цэнзурных меркаваннях. Пасля першай публікацыі верш быў перадрукаваны ў літаратурна-навуковым весніку Інстытута беларускай культуры «Адраджэнне» (1926, № 1. Рэдактар Я. Лёсік). Тыраж часопіса пасля выхаду быў амаль увесь знішчаны.

*Верш, змешчаны ў зборніку, мной выпраўлены.* — Гаворка ідзе пра зб. «Творы 1918—1928» (1930), пры падрыхтоўцы якога Я. Купала значна перапрацаваў твор. Пры жыцці паэта верш больш не друкаваўся. І толькі ў 1993 г. у зборніку твораў Я. Купалы «Жыве Беларусь» ён зноў пабачыў свет у першапачатковым варыянце.

*Ясенін Сяргей Аляксандравіч* (1895—1925) — рускі паэт.

*Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч* (1893—1930) — рускі паэт.

Ліст да А. Чарвякова з'явіўся вынікам шматгадовых цяжкіх маральных і фізічных выпрабаванняў, якія выпалі на долю паэта. Не вытрымаўшы арганізаванага націску, Янка Купала спрабуе разлічыцца з жыццём. Што прымусіла паэта пайсці на такі крок? Што папярэднічала трагічным падзеям?

---

[1] У публікацыі пад тэкстам недакладная дата: 22.XI.30 г.

У другой палавіне 20-х гадоў разгарнулася планамерная шырокамаштабная барацьба з праявамі нацыянал-дэмакратызму. Сярод інтэлігенцыі «пачаліся звальненні з працы і арышты. Арыштаваныя абвінавачваліся ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі»[1]. Іх прымушалі даваць ілжывыя паказанні і ў адрас Я. Купалы. Апублікаваныя ў часоп. «Нёман» (1990, № 10) дакументы паказваюць, як здабываліся гэтыя «прызнанні», якія амаль усім арыштаваным каштавалі ўласнага жыцця. Гэтаму працэсу спрыялі і публікацыі ў часопісах і газетах крытыкаў-вульгарызатараў, сярод якіх асабліва вылучаўся Л. Бэндэ.

1930 год стаў кульмінацыйным у бязлітасным цкаванні паэта. Улады рыхтавалі працэс над членамі так званай контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі». 15 кастр. 1930 г. Палітбюро ЦК ВКП(б) разгледзела ход выкрыцця «СВБ». У тым ліку было даручана Бюро ЦК КП(б)Б «дабіцца выступленняў шэрагу беспартыйных інтэлігентаў-нацыяналістаў з асуджэннем поглядаў і дзейнасці арыштаваных па справе СВБ»[2].

Янку Купалу некалькі разоў выклікалі на допыт у ДПУ. Яго паказанні, рукапісныя варыянты якіх знаходзяцца ў ДзЛМЯнК (КП 15993/А609), датуюцца 15 лістап. 1930 г.

Па рашэнні рэдкалегіі прыводзім тэкст паказанняў, якія паэт даў следчым:

«Па чыёй ініцыятыве паўстаў журнал «Адраджэнне», хто ўваходзіў у склад рэдакцыйнай калегіі і хто фактычна яго рэдагаваў — не помню.— Чым тлумачыцца такая назва і змест змешчаных у ім артыкулаў,— скарэй усяго дэкрэтамі савецкага ўраду, якія надавалі права на культурнае і нацыянальнае развіццё вызваленым з-пад царскага ярма паднявольным народам былой Расійскай імперыі.

Спецыяльна верша для журнала я не пісаў і не думаў аб гэтым. Як і кожны паэтыцкі твор, ён вылўся неяк сам па сабе, і аб палітычных установках яго я не задумываўся. Напісаў верш гладкі, значыць, і дзякуй. Якія прычыны маглі паслужыць да напісання так іменна? Разумеецца — цяжкая да таго часу доля Беларусі і яе працоўнага люду, плюс тое, што я сказаў у папярэднім паказанні, што не ўся Беларусь была аб'яднана ў БССР, і пагардлівыя адносіны да ўсяго беларускага з боку вялікадзяржаўных шавіністых.

Аб заснаванні Тэрміналагічнай камісіі, пераіменаванай потым у Інбелкульт, і іх працы я магу сказаць наступнае. Набіраліся ў камісію працаўнікі, зразумела, такія, што ведалі беларускую мову, т. е. тых, што тым ці іншым спосабам знали гэта знанне ў друку. Іншых меркаванняў, як я ўпэўнены, быць не магло. Але ўсе гэтыя працаўнікі не былі спецамі па ўкладанні тэрміналогіі. Праца вялася па-кустарнаму.— Гэта было не ўкладанне стройнай навукова вытрыманай тэрміналогіі, а скарэй за ўсё перакладанне з расейскай мовы на беларускую.— Я асабіста выходзіў з такога палажэння, што тэрмін павінен даваць яснае прадстаўленне аб прадмеце, што гэта будзе больш...

У дабавак да мінулага паказання аб частым бываннi ў мяне гасцей, я магу сказаць наступнае. Больш усяго гэтаму прычынай традыцыя госцепрыемства.— Калі толькі пераехаў у Мінск, а мяне шмат хто знаў з беларускай інтэлігенцыі, сталі мяне то тыя, то сія наведываць. З бегам часу гэты лік асоб, якія да мяне прыходзілі,

---

[1] Літ. і мастацтва. 1988. 20 мая, 3 чэрв., 10 чэрв.

[2] Касцюк М. Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі. Мн., 2000. С. 144—145.

павялічваўся.— Мне часам самому гэта было не ўмагату, бо гэта адрывала мяне ад працы і даводзіла да лішняй п'янкі. Але змагацца з гэтым па дабраце сваёй і жонкі быў не ў сілах.— Бывалі, разумеецца, па большай частцы беларусы. Такія беларусы, як Воўк-Левановіч і яму падобныя, у мяне не бывалі. І вось партыйцы і непартыйцы, якія часта любілі заходзіць да мяне, ведалі мяне, як шчыра адданага савецкага уладзе грамадзяніна.— Іначай яны не заходзілі б. Гэта было ўсім і кожнаму вядома. З якімі мэтамі і скрытымі думкамі некаторыя з іх заходзілі, мне невядома. Я не дапускаў і ў думках, што ёсць паміж імі такія, якія праследуюць антысавецкія намеры. Мажліва, што некаторыя з іх імкнуліся выкарыстоўваць маё імя для сваіх скрытых палітычных інтарэсаў, але я аб гэтым не ведаў і не даваў для гэтага поваду. Я ў палітыку не ўмешваўся праз усё сваё жыццё ніколі. Што рабіла партыя і савецкая ўлада, гэта было для мяне непраложным законам. Змест гутарак, якія вяліся ў мяне, былі амаль цалкам на тэмы аб вялікадзяржаўным шавінізме, які ўсімі сіламі імкнуўся і імкнецца тармазіць беларусізацыю, ствараючы немажлівую атмасферу для працы над культурным будаўніцтвам БССР згодна дэкрэтаў партыі і Савецкай улады.

Ад утварэння БССР і па сягонняшні дзень маёй адной думкай было, каб не паўтарылася ваенная разруха.— Усякая, якая б ні была, палітычная перамена мяне пужала.— Я зжыўся з Савецкай уладай, яна мне зрабіла столькі дабра, як ніякая іншая гэтага не змагла б. Абранне мяне ў члены ЦВК, наданне годнасці народнага паэта, акадэміка — захапляла мяне, каб як найсумленней адслужыцца за ўсё гэта ўладзе, ад якой гэта атрымаў.— Чаго ж мне не хапала, ці мог я аб нечым іншым думаць? Ці ж маглі б даць мне ўсё гэта якія б там ні было палітычныя перамены.— Такім чынам, недаволіцца Савецкай уладаю ніякіх у мяне прычын не было.— Прытым мая падзяка за наданне мне годнасці народнага паэта, надрукавалася ў газетах, тое самае ў часу дваццаціпяцігадовага юбілею, ці ж не сведчыць аб шчырасці і адданасці Савецкай уладзе? А цяпер нейкае няшчасце валіцца на маю галаву.— Я абвінавачваюся ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі, аб якой ■ не маю ніякага паняцця.

— Я яшчэ раз заяўляю, што да ніякай контррэвалюцыйнай арганізацыі не належу і не збіраўся належыць».

У службовай запісцы К. В. Гея, які ў той час узначальваў рэспубліканскую партарганізацыю, накіраванай сакратару ЦК ВКП(б) П. П. Постышаву, выкладзены асноўныя падзеі, звязаныя са «Справай СВБ» і адносін да яе Я. Купалы: «Янка Купала входил в руководящий центр «Союза Вызвалення Беларусі», как о том свидетельствуют показания Лёсика, Некрашевича и других. Янка Купала являлся идейным центром национал-демократической контрреволюции, что нашло отражение ■ в его творчестве»[1]. Адкрыты судовы працэс над «удзельнікамі» контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі так і не адбыўся. Сярод арыштаваных па гэтай справе Янкі Купалы не было. Вось як тлумачыць дадзены факт К. В. Гей у прыгаданай запісцы: «Мы решили не требовать от Я. Купалы признания участия в Союзе вызваления Белоруссии и сосредоточить свои силы на требовании выступить с открытым осуждением контрреволюционной деятельности группы белорусских интеллигентов, арестованных по делу «СВБ». Думаю, что нам это удастся». 6 снеж. 1930 г. бюро ЦК КП(б)Б

[1] Нёман. 1990. № 10. С. 167.

пастанавіла: «Дэкларацыі Янкі Купалы ў друку не змяшчаць да азнаямлення з ёю членаў бюро ЦК»[1]. Так з'явіўся вядомы «Адкрыты ліст Я. Купалы», які паэт быў вымушаны падпісаць.

*Адкрыты ліст Я. Купалы* (с. 114)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1930, 14 сн., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *Менск. 10.12.1930 г.*

Друкаваўся ў рэспубліканскіх і абласных газетах, у некаторых — са скарачэннямі. Часткова быў апублікаваны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1988, 3 чэрв.

«Адкрыты ліст Я. Купалы» не быў першы сярод пакаянных лістоў, у якіх вядомыя і аўтарытэтныя ў Беларусі людзі «прызнаваліся ў грахах і памылках, якіх не мелі, публічна каяліся ў тым, у чым не былі вінаватыя»[2]. 30 лістап. 1930 г. першы такі ліст быў надрукаваны за подпісам Я. Коласа, затым ліст У. Ігнатоўскага, З. Бядулі і інш. Публічнае пакаянне не ўсім дапамагала. 4 лют. 1931 г. У. Ігнатоўскі пакончыў жыццё самагубствам. 5 сн. 1930 г. газ. «Звязда» патрабавала ад Янкі Купалы такога ж пакаяння. Відавочна, што аўтары гэтых лістоў пісалі іх пад прымусам. Нельга не пагадзіцца з некаторымі даследчыкамі, якія маюць падставы сцвярджаць, што «Адкрыты ліст Я. Купалы» хутчэй за ўсё пісалі за яго.

Ёсць меркаванне, што аўтарам «Ліста» мог быць і Л. Бэндэ.

Пасля трагічнай падзеі 20 лістап. 1930 г.— спробы Янкі Купалы развітацца з жыццём, выкліканай беспадстаўнымі палітычнымі абвінавачваннямі,— у многіх апублікаваных артыкулах, пад якімі стаіць подпіс паэта, маюць месца неаб'ектыўныя, прадузятыя ацэнкі з'яў грамадскага і нацыянальна-культурнага жыцця Беларусі. Гэтыя ацэнкі, паводле меркавання сучасных даследчыкаў, не належалі пяру Я. Купалы, яны супярэчылі яго светапогляду і грамадскай пазіцыі, і былі ўнесены ў тэкст прадстаўнікамі ўлады.

## 1931

*Вы працярэбліваеце шляхі да сусветнай пралетарскай рэвалюцыі* (с. 119)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1931, № 38, 31 сак., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *30.III. Мінск.* Друкаваўся адначасова ў газ. «Рабочий». Напісаны з нагоды 63-й гадавіны з дня нараджэння М. Горкага.

*«...адгукнуліся на маю першую кніжку вершаў «Жалейка...»* — Маецца на ўвазе арт. М. Горкага «О писателях-самоучках», які быў змешчаны ў часоп. «Современный мир», 1911, № 2, с. 208. Зборнік «Жалейка» выйшаў у 1908 г.

*Ліст у рэдакцыю <газеты «Звязда»>* (с. 120)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1931, № 90, 2 крас., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *Менск, 30.III.<19>31 г.*

*«Беларускі звон»* — штотыднёвая газета, орган Цэнтральнага саюза культурных і гаспадарчых арганізацый Цэнтрасаюза. Выдавалася з 6.1.1931 г. да 2.12.1931 г. у Вільні на беларускай мове.

---

[1] Платонаў Р. На крутым павароце. Мн., 1999. С. 297.
[2] Звязда. 1930. 14 снеж.

*«Беларуская крыніца» («Bielaryskaja krynica»)* — штотыднёвая газета, орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД). Выдавалася з 8(21)10.1917 г. у Петраградзе на беларускай мове, № 3 за 1918 г. у Мінску, з 7.9.1919 г. да 12.7.1940 г. у Вільні. З 15.4.1937 г. да 16.11.1939 г. газета не выходзіла. Да 1925 г. і з 17.11.1939 г. называлася «Крыніца».

*Тарашкевіч Б.А.*— гл. камент. да арт. «Выдавецкая справа ў Беларусі», с. 386.

С. 121: *Астроўскі Радаслаў Казіміравіч* (1887—1976) — дзеяч беларускага палітычнага і нацыянальна-вызваленчага руху. У той час дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Пасля судовага працэсу над Грамадой у 1927 г. змяніў палітычную арыентацыю і прапагандаваў ідэі супрацоўніцтва з польскімі ўладамі.

## 1932

### *Дасцігнем нявіданых сусветных поспехаў* (с. 122)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1932, № 8, 15 мая, дзе ўпершыню апублікаваны. Напісаны ў сувязі з публікацыяй у газ. «Правда» 24 крас. і «Савецкая Беларусь» 27 крас. Пастановы ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» ад 23 крас. 1932 г.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

### *Ліст у рэдакцыю <газеты «Савецкая Беларусь»>* (с. 122)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1932, № 201, 10 верас., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *Менск, 9-IX-1932.* Адначасова друкаваўся ў газ. «Літ. і мастацтва» і «Звязда».

*У звязку з маім пяцідзесяцігоддзем да дня нараджэння...*— Юбілейны вечар, прысвечаны гэтай падзеі, адбыўся 10 верас. 1932 г. У сувязі з юбілеем паэта дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў (Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, А. Александровіч) была прынята ўрадам БССР («Звязда», 14 верас.).

*...ў польскім і заходнебеларускім фашыстоўскім друку змешчаны матэрыялы, якія маюць выразна правакацыйны характар.*— Гаворка, магчыма, ідзе пра артыкулы А. Сакалінскага (А. Станкевіча) у газ. «Беларуская крыніца», 1925, 14 чэрв. і часоп. «Шлях моладзі», 1930, № 10.

### *«Усе свае сілы, усе свае парывы думак і сэрца аддаю на ажыццяўленне гэтай вялікай ідэі — пабудовы сацыялізму...»* (с. 124)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1932, № 203, 13 верас. Пад тэкстам: *9-IX-1932 г.* Прамова на ўрачыстым вечары, прысвечаным 50-годдзю з дня нараджэння паэта. Вечар адбыўся 10 верас.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з нязначным скарачэннем.

С. 125: *На гэтую подлую брахню польскіх і беларускіх нацыянал-фашыстаў я даў учора свой адказ у лісце да рэдакцый нашых газет.*— Гаворка ідзе пра «Ліст у рэдакцыю» ад 10 верас. 1932 г. Ліст такога ж зместу быў апублікаваны і ў 1931 г. ў газ. «Звязда» ад 2 крас.

*Пастанова ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка г.г. ...*— Пастанова аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый была апублікавана ў газ. «Правда» ад 24 крас. 1932 г.

*Антываенны кангрэс, які адбыўся ў Амстэрдаме па закліку Анры Барбюса, Рамэна Ралана, Максіма Горкага...*— Міжнародны антываенны кангрэс пачаў працаваць 27 жн. 1932 г. Газ. «Правда» і «Известия» ад 5 верас. 1932 г. апублікавалі даклад М. Горкага, прызначаны для выступлення на кангрэсе. Але ўлады Галандыі не дазволілі савецкай дэлегацыі ўезд у краіну.

*Барбюс Анры* (1873—1935) — французскі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

*Ралан Рамэн* (1866—1944) — французскі пісьменнік.

*...камедыйнасць Жэнеўскай «мірнай» канферэнцыі.*— Гаворка ідзе пра Жэнеўскую канферэнцыю па раззбраенні 1932—1935 гг. Працу сваю пачала 2 лют. 1932 г. пры ўдзеле 63 дзяржаў. Галоўныя імперыялістычныя дзяржавы імкнуліся выкарыстаць канферэнцыю для аслаблення сваіх магчымых праціўнікаў і ўзмацнення ўласнай ваеннай магутнасці.

*Максіму Горкаму* (с. 126)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1932, № 213, 25 верас., дзе ўпершыню апублікаваны. Адначасова друкаваўся ў газ. «Звязда». Напісаны да 40-годдзя творчай дзейнасці М. Горкага.

Датуецца годам апублікавання.

*«Песня аб Сокале»* — напісана ў 1895 г. Янка Купала выкарыстаў гэты твор у п'есе «Паўлінка».

*...прарочылі «Буравесніка»...*— Маецца на ўвазе «Песня пра Буравесніка» (1901).

С. 127: *«Безумству храбрых поем мы славу!»* — Радок з «Песні пра Буравесніка».

## 1933

*«Свою судьбу я навсегда связал с судьбой пролетарской революции...»* (с. 127)

Друкуецца па «Литературной газете», 1933, № 8, 17 лют., з падзагалоўкам «Выступленне Янкі Купалы на пленуме». Другі пленум Аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў праходзіў з 12-га па 19 лют. у Маскве. На ім былі заслуханы даклады: «Аб задачах паэзіі і савецкай драматургіі» і «Аб статуце ССП СССР».

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся таксама ў газ. «Звязда», 1933, № 40, 20 лют. і «Савецкая Беларусь», 1933, 3 сак.

У Зборы твораў (1972—1976) змешчаны са значнымі скарачэннямі.

*...насыщая свои стихи ненавистью к классовому врагу («А в Висле плавает утопленник», «Суд идет» и другие)...* — Названыя вершы былі напісаны адпаведна 10 крас. 1931 г. і 22 лістап. 1932 г.

С. 128: *Белорусские националисты в лице Сидоренко, частично Баранавых...*— Маюцца на ўвазе артыкулы А. Сідарэнкі «Шлях паэта» («Беларусь калгасная», 1932, № 6—7) і С. Баранавых «Матчын сын» у газ. «Літ. і мастацтва», 1932, № 17. Названыя публікацыі афіцыйнымі коламі былі беспадстаўна ацэнены як ідэалагічна шкодныя.

*Сідарэнка* (Пеначкін) *Апанас* (191? — 1937?) — крытык. Арыштаваны ў 1933 г. і асуджаны. Адбываў пакаранне ў ГУЛАГу.

*Баранавых Сымон* (Сымон Якаўлевіч Баранаў; 1900—1942) — беларускі пісьменнік. Арыштаваны ў 1936 г. Асуджаны на 10 год зняволення. Рэабілітаваны ў 1954 г.

*Прамова народнага паэта Янкі Купалы*
*на пашыраным пленуме Аргкамітэта ССП БССР* (с. 129)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1933, № 47, 1 сак., дзе ўпершыню апублікаваны. Пленум праходзіў у Мінску з 24 лют. па 2 сак. 1933 г.

Датуецца годам апублікавання.

С. 130: *Ад пачатку існавання Савецкай Беларусі...* — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка была абвешчана 1 студз. 1919 г.

*У 1925 годзе было адзначана маё дваццацігоддзе літаратурнай дзейнасці і надана мне высокая годнасць народнага паэта рэспублікі.* — 20-годдзе літаратурнай дзейнасці паэта грамадскасць рэспублікі адзначала ў маі — чэрв. 1933 г. Пастанова аб прысваенні Янку Купалу звання была апублікавана ў газ. «Савецкая Беларусь» 13 чэрв.

*Увосень мінулага года Камуністычная партыя і савецкая грамадскасць адзначылі маё пацьстагоддзе з дня нараджэння.* — Урачысты вечар, прысвечаны гэтай падзеі, адбыўся 10 верас. 1932 г.

*Я нядаўна на другім Усесаюзным пленуме Аргкамітэта ў Маскве...* — Пленум Аргкамітэта ССП СССР праходзіў у Маскве з 29 кастр. па 3 лістап. 1932 г.

*«А ў Вісле плавае тапелец» (1931), «Суд ідзе» (1932), «Сыходзіш, вёска, з яснай явы» (1929).*

С. 131: *Беларускія нацыяналісты ў асобе Сідарэнкі, часткова Баранавых.* — Гл. камент. да папярэдняга артыкула.

*Сталін* (Джугашвілі) *Іосіф Вісарыёнавіч* (1879—1953) — палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1922—1953 гг. — Генеральны сакратар ЦК партыі.

*23.IV.32 г. — 23.IV.33 г.* (с. 132)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1933, № 12, 23 крас., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *21. IV.33 г.* Напісаны ў гадавіну прыняцця Пастановы ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 133: *...аб гэтым я выступаў ужо на старонках «ЛіМа».* — Маецца на ўвазе артыкул «Дасцігнем нявіданых сусветных поспехаў», які быў апублікаваны на старонках газеты 15 мая 1932 г.

*Чудо, созданное большевиками* (с. 133)

Друкуецца па «Литературной газете», 1933, № 40, 29 жн., дзе ўпершыню апублікаваны. Напісаны пасля наведвання Беламорска-Балтыйскага канала, які быў пабудаваны ў 1931—1933 гг. Адкрыццё канала адбылося ў жн. 1933 г., на ім Янка Купала прысутнічаў у складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў. Друкаваўся ў газ. «Літ. і мастацтва», 1933, № 40, 18 верас.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...Беломорско-Балтийский водный путь...* — Канал злучыў Белае мора з Анежскім возерам. Пабудаваны асуджанымі ГУЛАГа.

*Ягода Генрых Рыгоравіч* (1891—1938) — савецкі дзяржаўны дзеяч, з 1920 г. на кіруючай рабоце ў ВЧК — ДПУ — АДПУ — НКУС, у 1934—1937 гг. — народны камісар унутраных спраў СССР. Адзін з арганізатараў масавага тэрору ў СССР. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

*Фірын* (Пупко) *Сямён Рыгоравіч* (1888—1937) — начальнік Беламорска-Балтыйскага выпраўленча-працоўнага лагера, намеснік начальніка Галоўнага Упраўлення выпраўленча-працоўных лагераў АДПУ.

*Успенскі Дзмітрый Уладзіміравіч* — начальнік Паўночнага участка будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала.

## 1934

*Што было сном, тое стала явай* (с. 134)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1934, № 13, 17 студз., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *Кіславодск, 4 студзеня 1934 года.* Напісаны ў сувязі з Пастановай СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» ад 26 жн. 1933 г.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...XV гадавіны БССР і XV з'езда... Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі.* — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка была ўтворана 1 студз. 1919 г. XV з'езд КП(б)Б пачаў сваю работу 16 студз. 1934 г. Верш «Песня будаўніцтву», які прыводзіць Янка Купала ў лісце, напісаны 22.XI.1931 г.

С. 137: *Луцкевічы, Станкевічы і г. д.*— Луцкевіч А. І.— гл. камент. да арт. «Агляд кніг», с. 368. Луцкевіч І. І.— гл. камент. да арт. «Моладзь ідзе», с. 378.

*Станкевіч Адам Вінцэнтавіч* (1891—1949) — рэлігійны і палітычны дзеяч, гісторык і публіцыст. Скончыў каталіцкія тэалагічную семінарыю ў Вільні і духоўную акадэмію ў Пецярбургу. Адзін з заснавальнікаў Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі, выдаваў часоп. «Хрысціянская думка», выкладаў у Віленскай гімназіі. У 1922 г. выбраны паслом у польскі сейм, дзе стварыў фракцыю Беларускага сялянскага саюза. У 1924—1926 гг.— старшыня Таварыства беларускіх школ, кіраўнік Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Адзін з заснавальнікаў друкарні імя Францыска Скарыны ў Вільні, з 1939 г.— старшыня Беларускага цэнтра ў Вільні, рэдагаваў часоп. «Крыніца». У 1944 г. арыштаваны органамі НКУС, у 1949 г. асуджаны на 25 гадоў. Аўтар кніг «Доктар Францішак Скарына, першы друкар Беларусі», «Родная мова ў святынях», «Беларуская мова ў школах Беларусі XVI — XVII ст.» і інш.

*Сам напаўняешся вялікай радасцю* (с. 137)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1934, № 175, 9 жн., дзе ўпершыню апублікаваны пад агульным загалоўкам «Бурна расце і квітнее беларуская сацыялістычная культура». Напісаны пад уражаннем ад творчай камандзіроўкі ў Барысаўскі раён, дзе паэт разам з І. Гурскім і В. Кавалём знаходзіўся з 1-га па 24 ліп. 1934 г.

Датуецца годам апублікавання.

С. 140: *...я прапеў у сваіх песнях з калгаса «Чырвоны баец» (вершы «Чырвоны баец», «Барысаў»)...*— Гаворка ідзе пра верш «Калгасу «Чырвоны баец» (нап. 10.VII.1934 г.). Паэма «Барысаў» напісана 6 ліп. 1934 г.

*Магутная сіла* (с. 140)

Друкуецца па газ. «Правда», 1934, № 226, 17 жн., дзе ўпершыню апублікаваны. Напісаны да адкрыцця I з'езда ССП СССР, які праходзіў у Маскве з 17 жн. па 1 верас. 1934 г.

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з нязначным скарачэннем.

*Самая интересная встреча — весь съезд* (с. 142)

Друкуецца па газ. «Литературный Ленинград», 1934, № 42, 24 жн., дзе ўпершыню апублікаваны. Інтэрв'ю, дадзенае паэтам на Першым Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў СССР.

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з купюрай.

*...один из первых встречал в Негорелом, когда Горький приехал из Сорренто.*— Я. Купала разам з Ц. Гартным і А. Александровічам сустракаў М. Горкага на пагранічнай станцыі Негарэлае 30 мая 1929 г.

*...я беседовал с Куликом, Тычиной и грузинским писателем Джавахишвили.*— Кулік Іван Юл'янавіч (1897—1941) — украінскі пісьменнік.

*Тычына Паўло* (1891—1967) — украінскі пісьменнік.

*Джавахішвілі* (псеўд. Адамашвілі) *Міхаіл Савіч* (1880—1937) — грузінскі пісьменнік.

*Недавно вышла моя поэма «Над рекой Орессой», кстати, переведена на русский язык.*— Паэма была напісана ў маі 1933 г., апублікавана ўпершыню 29 чэрв. 1933 г., асобным выданнем выйшла ў 1933 г. Перакладзена С. Гарадзецкім на рускую мову ў тым жа годзе.

*Створым літаратуру, лепшую ў свеце* (с. 143)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1934, № 201, 9 верас., дзе ўпершыню апублікаваны з падзагалоўкам: «Гутарка з народным паэтам рэспублікі т. Янкам Купалам». Уражанні ад Першага Усесаюзнага з'езда ССП СССР, у рабоце якога Янка Купала прымаў удзел.

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з купюрамі.

С. 143: *І ў дакладзе Аляксея Максімавіча Горкага...*— Гаворка ідзе пра даклад, з якім М. Горкі выступіў на І з'ездзе ССП СССР 17 жн. 1934 г.

*Блок Жан Рышар* (1884—1947) — французскі пісьменнік, грамадскі дзеяч.

*Эрэнбург Ілья Грыгоравіч* (1891—1967) — рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч.

*Рэн Людвіг* (1889—1979) — нямецкі пісьменнік.

*Радэк Карл Бернгардавіч* (1885—1939) — дзеяч сацыял-дэмакратычнага руху з канца XIX ст., партыйны публіцыст. Выступаў з дакладам на з'ездзе ССП СССР. Рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны пасмяротна.

*Бухарын Мікалай Іванавіч* (1888—1938) — дзяржаўны і партыйны дзеяч. Тэарэтык марксізму. Выступаў на І з'ездзе ССП СССР з дакладам «Поэзия, поэтика и задачи поэтического творчества в СССР» (Лит. газета. 1934, № 78, 22 жн.). У 1937 г. рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1988 г.

С. 145: *Молатаў* (Скрабін) *Вячаслаў Міхайлавіч* (1890—1986) — дзяржаўны і партыйны дзеяч.

*Кагановіч Лазар Майсеевіч* (1893—1991) — дзяржаўны і партыйны дзеяч.

*Варашылаў Клімент Яфрэмавіч* (1881—1969) — дзяржаўны, партыйны і ваенны дзеяч.

*Мікаян Анастас Іванавіч* (1895—1978) — дзяржаўны і партыйны дзеяч.

*Чубар Улас Якаўлевіч* (1891—1939) — дзяржаўны і партыйны дзеяч.

*...на дачы ў Аляксея Максімавіча Горкага...*— Сустрэча М. Горкага з дэлегатамі I з'езда пісьменнікаў СССР адбылася 26 жн. 1934 г.

*...на прыёме ў рэдакцыі «Правда»...*— Янка Купала прымаў удзел у сустрэчы беларускай дэлегацыі з супрацоўнікамі рэдакцыі газеты 22 жн. 1934 г.

*<Мы живем в сказочное время...>* (с. 145)

Друкуецца па часоп. «Борьба за технику», 1934, № 17—18, дзе ўпершыню быў апублікаваны. Адказ на анкету часопіса: «Мастацкая кніга — праваднік найвялікшых тэхнічных ідэй». Надрукавана разам з адказамі А. Талстога, Ф. Гладкова, В. Катаева, М. Асеева, М. Бажана і інш.

Датуецца годам апублікавання.

*Верн Жуль* (1828—1905) — французскі пісьменнік.

*Белямі Эдуард* (1850—1898) — амерыканскі пісьменнік.

*Уэлс Герберт Джордж* (1866—1946) — англійскі пісьменнік.

*Келерман Бернхард* (1879—1951) — нямецкі пісьменнік.

## 1935

*<Выступленне на XI Усебеларускім з'ездзе Саветаў>* (с. 146)

Друкуецца па стэнаграфічнай справаздачы XI Усебеларускага з'езда рабоча-сялянскіх, чырвонаармейскіх дэпутатаў, які праходзіў з 14-га па 22 студз. 1935 г. у Мінску. Гэтай падзеі паэт прысвяціў верш «З'езду Саветаў».

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Создадим песни о прекрасной Родине* (с. 147)

Друкуецца па «Литературной газете», 1935, № 7, 5 лют., дзе ўпершыню апублікаваны. Напісаны да VII Усесаюзнага з'езда Саветаў, у якім паэт прымаў удзел. З'езд праходзіў у Маскве з 28 студз. па 6 лют. 1935 г.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*На адкрыцці помніка Тарасу Шаўчэнку* (с. 148)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1935, № 74, 1 крас., дзе ўпершыню апублікаваны. Напісаны пад уражаннем ад паездкі ў Харкаў, дзе 24 сак. 1935 г. быў адкрыты помнік Т. Шаўчэнку. Паэт знаходзіўся на Украіне ў складзе дэлегацыі ад ССП БССР, Акадэміі навук БССР разам з П. Галавачом і В. Шчарбаковым. Помнік Т. Шаўчэнку быў створаны па праекце скульптара М. Манізера, архітэктара Г. Лангбарда.

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з нязначнымі скарачэннямі.

*Галавач Платон Раманавіч* (1903—1937) — беларускі пісьменнік. У 1937 г. рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Шчарбакоў Васіль Карлавіч* (1898—1938) — беларускі гісторык. У той час віцэ-прэзідэнт АН БССР. Асуджаны і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1954 г.

*Лібкнехт Карл* (1871—1919) — дзеяч міжнароднага рабочага руху.

*Люксембург Роза* (1871—1918) — дзеяч міжнароднага рабочага руху.

*Добра жыць, тварыць і змагацца*
*ў эпоху нашага мудрага Сталіна* (с. 150)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1935, № 28, 31 мая, дзе ўпершыню апублікаваны. Прамова на юбілейным вечары, прысвечаным 30-годдзю літаратурнай дзейнасці паэта, які адбыўся ў Мінску ў Доме пісьменніка 28 мая 1935 г.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Народный поэт республики Янка Купала*
*об олимпиаде* (с. 151)

Друкуецца па газ. «Рабочий», 1935, № 152, 10 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*У Чэхаславакіі* (с. 152)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1935, 23 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны. Уражанні ад паездкі ў Чэхаславакію ў 1935 г. у складзе дэлегацыі пісьменнікаў і журналістаў (М. Кальцоў, А. Талстой, А. Фадзееў, Г. Караваева, І. Мікітэнка і інш.).

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з нязначнымі скарачэннямі.

*...на паказе оперы «Праданая нявеста»...* — Опера напісана кампазітарам Б. Сметанай (1824—1884), заснавальнікам чэшскай оперы.

*... на паказе «Бравага ваякі Швейка»...*— Інсцэніроўка па раману «Прыгоды бравага ваякі Швейка ў час сусветнай вайны» Я. Гашака (1883—1923).

Чэхаславацкі драматычны тэатр імя Бурыяна заснаваны ў 1933 г.

*Бурыян Эміль* — чэшскі рэжысёр.

*...інтэрнат імя Масарыка...*— Масарык Тамаш Гарыг (1850—1937) — першы прэзідэнт Чэхаславацкай рэспублікі (абвешчана 14 лістап. 1918 г.).

*Мікітэнка Іван Кандратавіч* (1897—1937) — украінскі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч.

*Заводы «Шкода».*— Марка аўтамабіляў і аўтобусаў, якія выпускае прадпрыемства «Škoda», заснаванае ў XIX ст.

*Падарожжа па Чэхаславакіі* (с. 154)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1935, № 57, 29 кастр. Гутарка з народным паэтам рэспублікі т. Янкам Купалам.

Упершыню — газ. «Звязда», 1935, № 242, 23 кастр. у скарочаным варыянце.

Датуецца годам апублікавання.

У дадзеным артыкуле маюць месца тэкстуальныя супадзенні з арт. «У Чэхаславакіі».

С. 155: *Кальцоў* (Фрыдлянд) *Міхаіл Яфімавіч* (1898—1942) — рускі пісьменнік, чл.-кар. АН СССР.

*Бенеш Эдуард* (1884—1948) — дзяржаўны і палітычны дзеяч Чэхаславакіі.

С. 157: *Гонзль Індржых* (1894—1953) — чэшскі тэатральны дзеяч, рэжысёр.

*Ольбрахт Іван* (сапр. Земан Каміл; 1882—1952) — чэшскі пісьменнік.

*Гора Ёзаф* (1891—1945) — чэшскі паэт.

*Талстой Аляксей Мікалаевіч* (1882/83—1945) — рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч, акадэмік АН СССР.

*Волькер Іржы* (1900—1924) — чэшскі паэт.

С. 158: *Александроўскі Сяргей Сяргеевіч* (1889—1949) — у 1933—1939 гг.— пасол СССР у Чэхаславакіі.

*Слава творцу новага, шчаслівага жыцця* (с. 158)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1935, № 63, 24 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*...разліўся стаханаўскі рух на нашай радзіме.*— Стаханаўскі рух нарадзіўся і набыў развіццё на пачатку другой пяцігодкі (1933).

*Стаханаў Аляксей Рыгоравіч* (1905/1906—1977) — шахцёр, пачынальнік масавага руху наватараў вытворчасці.

С. 159: *...Слава сокалу, што родам// З-пад каўказскіх скалаў, // Што з Крамля праменні сее // З юнацкім запалам!* — Радкі з верша «Нашаму святу» (1935).

*«Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца...»* (с. 159)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1935, 14 снеж., дзе ўпершыню апублікавана. Прамова на вечары ў Мінску, прысвечаным 30-годдзю літаратурнай дзейнасці, які адбыўся 11 снеж. 1935 г.

Датуецца годам апублікавання.

Друкавалася ў газ. «Літ. і мастацтва», 1935, № 67, 17 снеж.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 160: *Там, за мяжою, за пагранічнымі слупамі, дзе распасціраецца панаванне над часткай Беларусі белага арла...*— Маецца на ўвазе Заходняя Беларусь, якая да верас. 1939 г. уваходзіла ў склад Польшчы.

*...ўзнагароджана вялікай ганаровай адзнакай — ордэнам Леніна.*— Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка была ўзнагароджана 15 сак. 1935 г.

*Гікала Мікалай Фёдаравіч* (1897—1938) — партыйны і ваенны дзеяч БССР. Са студз. 1932-га па студз. 1937 г. першы сакратар ЦК КП(б)Б. Асуджаны. Расстраляны ў крас. 1938 г. Рэабілітаваны.

*Галадзед Мікалай Мацвеевіч* (1894—1937) — партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. У 1927—1937 гг.— старшыня СНК БССР. Арыштаваны органамі НКУС у Маскве. Накіраваны ў Мінск, дзе ў час чарговага допыту выкінуўся з акна 5-га паверха будынка НКУС 21 чэрв. 1937 г. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Чарвякоў А. Р.*— гл. камент. да «Ліста да А. Чарвякова», с. 391.

*«Братский привет поэтам Советской страны...»* (с. 162)

Друкуецца па «Литературной газете», 1935, № 71, 24 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны. Інтэрв'ю ў сувязі з маючым адбыцца III пленумам ССП СССР па пытаннях развіцця беларускай і башкір-

скай літаратур, а таксама паэзіі. Пленум праходзіў у Мінску з 10-га па 16 лют. 1936 г.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## 1936

<*«В нашей Советской стране...»*> (с. 162)

Друкуецца па газ. «Рабочий», 1936, № 16, 2 лют., дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «Писатели о предстоящем III пленуме ССП». Адначасова друкаваўся ў газ. «Советская Белоруссия», 1936, 2 лют. Прамова на літаратурным вечары ў Бабруйску 30 студз. 1936 г. напярэдадні III пленума ССП СССР, які праходзіў у Мінску з 10-га па 16 лют. 1936 г.

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з нязначнымі скарачэннямі.

*Лепшы настаўнік і друг* (с. 163)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1936, № 39, 20 чэрв. Адначасова друкаваўся ў газ. «Рабочий».

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*За бібліятэкі, дастойныя нашай калгаснай вёскі* (с. 163)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1957, № 74, 14 верас., дзе надрукаваны ў публікацыі І. Сіманоўскага «Янка Купала і бібліятэчная справа». Напісаны ў сувязі з Усесаюзным конкурсам на лепшую сельскую бібліятэку, які праводзіўся ў другой палове 1935 г. Артыкул быў надрукаваны ў спецыяльным «Бюлетэні конкурса на лепшую сельскую бібліятэку» (1936, № 6), які выходзіў дадаткам да газ. «Чырвоная змена».

На жаль, крыніца першадруку не знойдзена. Па меркаванні аўтара публікацыі, артыкул датуецца 1936 годам.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

<*Выступленне на XII Надзвычайным з'ездзе Саветаў БССР*> (с. 165)

Друкуецца па «Бюлетэні Надзвычайнага XII з'езда Саветаў БССР», 1936, № 3.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

XII Надзвычайны Усебеларускі з'езд Саветаў праходзіў у Мінску 20—23 лістап. Янка Купала на вячэрнім пасяджэнні з'езда 21 лістап. прачытаў верш «Табе, правадыр...» (гл. дадзенае выданне, т. 5, с. 90).

*Писатели о Конституции* (с. 165)

Друкуецца па часоп. «Новый мир», 1936, № 8 пад рубрыкай «Люди и факты». Напісаны напярэдадні прыняцця 5 снеж. Канстытуцыі СССР. Змешчаны сярод выказванняў Ф. Гладкова, Л. Лявонава, К. Федзіна і Б. Пільняка.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Верш «А хто там ідзе?».*— Тэкст перакладу цытуецца не зусім

дакладна. У М. Горкага рад. 2, 13: «Огромной такой толпой», «А чего ж теперь захотелось им».

С. 166: *...благодаря мастерскому переводу Алексея Максимовича.*— Пераклад быў зроблены ў 1910 г. (не раней восені). Апублікаваны ў часоп. «Современный мир», 1911, № 2 у арт. «О писателях-самоучках» з аўтарскай паметай: «Прошу Янку Купалу извинить мне дурной перевод его красноречивой і суровой песни».

Я. Купала прыводзіць страфу з свайго верша «Трэба нам песень» (1934), перакладзенага С. Гарадзецкім.

*Памяці Мікалая Астроўскага* (с. 166)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1936, № 294, 24 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны. Адначасова друкаваўся ў газ. «Рабочий», 1936, № 290.

Датуецца годам апублікавання.

С. 166: *...«Як гартавалася сталь»...*— раман (I і II ч.) быў напісаны ў перыяд з 1932-га па 1934 г.

## 1937

*Наше солнечное сегодня* (с. 167)

Друкуецца па часоп. «Книга и пролетарская революция», 1937, № 1, дзе змешчаны пад рубрыкай «Что мы готовим к 20-летию пролетарской революции» разам з артыкуламі Я. Коласа, А. Серафімовіча, А. Фадзеева, Л. Нікуліна.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Редактирую полное собрание моих сочинений.*— Відаць, маецца на ўвазе Збор твораў у 4-х т. (1928—1940).

*Перевожу «Медного всадника» Пушкина...*— Пераклад зроблены ў 1937 г. да 100-годдзя з дня смерці паэта.

*Временами возвращаюсь к лирическим стихам...*— У гэты час напісаны «Украіна», «Сыны», «Сонцу», «Сосны», «Алеся», «Хлопчык і лётчык», «Лён», «Камсамолу» і інш.

*Сталин! Вот чудесное имя... которое проходит через ряд моих стихотворений.*— Вершы «Маё мне сонца правадыр...», «Табе, правадыр...» і інш.

*Александровіч Андрэй Іванавіч* (1906—1963) — беларускі паэт.

*Глебка Пятро* (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969) — беларускі паэт.

*Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч* (1914—1978) — народны паэт БССР.

*...книга моих стихов «Под новым солнцем»...* — Зборнік выйшаў у Маскве ў 1936 г.

*...сдал также однотомник «Избранное».*— Відаць, маецца на ўвазе зб. «Избранные произведения» (М., 1938).

*Ворагі народаў павінны быць знішчаны* (с. 168)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1937, № 4, 28 студз.

Упершыню — газ. «Рабочий», 1937, № 21, 27 студз. на рускай мове пад назвай «Смерть изменникам Родины».

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Друкаваўся таксама: «Литературная газета», 1937, 1 лют. пад назвай «Прокляты навеки».

Розныя назвы артыкула (у газ. «Рабочий» — «Смерть изменникам Родины», у «Литературной газете» — «Прокляты навеки», у газ. «Чыр-

воная змена» — «Ворагі народа павінны быць знішчаны») сведчаць пра адвольнае абыходжанне з купалаўскім тэкстам у рэдакцыях газет.

Судовы працэс над удзельнікамі так званага «параллельного троцкистского центра» адбыўся 23—30 студз. 1937 г. Галоўнымі фігурамі гэтага працэсу сталі Г. Пятакоў і К. Радэк.

*Пятакоў Георгій Леанідавіч* (1890—1937) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1937 г. быў расстраляны. Рэабілітаваны пасмяротна.

*Радэк К. Б.*— гл. камент. да арт. «Створым літаратуру — лепшую ў свеце», с. 399.

*Троцкі Л. Д.*— гл. камент. да арт. «Антанта», с. 379.

*Любімы паэт* (с. 168)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1937, № 33, 10 лют., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся таксама ў газ. «Рабочий», 1937, № 38, 10 лют. Пад назвай «Певец свободы» ў газ. «Советская Белоруссия», 1937.

У Зборы твораў (1972—1976) артыкул друкаваўся з купюрай.

Артыкул напісаны з нагоды 100-годдзя з дня гібелі А. С. Пушкіна (1799—1837).

С. 168: ***«Гляжу я, безумный, на черную шаль, и хладную душу терзает печаль...»*** — У вершы А. С. Пушкіна «Черная шаль»: «Гляжу как безумный на черную шаль, и хладную душу терзает печаль».

*Сардэчнае прывітанне бальшавіцкай «Правде»!* (с. 169)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1937, № 24, 6 мая, дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*«Правда»* — штодзённая агульнапалітычная газета, першы нумар якой выйшаў 5 мая 1912 г. у Пецярбургу, а з сак. 1918 г. выдаецца ў Маскве.

*Я з гордасцю выбіраю свой народны ўрад* (с. 170)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1937, № 54, 22 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Артыкул прысвечаны выбарам у Вярхоўны Савет СССР, якія адбыліся 12 снеж. 1937 г.

*Цяпер воляй Сталінскай Канстытуцыі...*— Канстытуцыя СССР, прынятая 5 снеж. 1936 г.

*Масква, Крэмль.*
*Народнаму камісару ўнутраных спраў тав. Яжову* (с. 171)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1937, № 56, 31 кастр., дзе ўпершыню надрукаваны. Пад тэкстам: *Па даручэнню агульнага схода — народны паэт рэспублікі Янка Купала. г. Менск.*

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Выбары ў Вярхоўны Савет СССР адбыліся 12 снеж. 1937 г.

*Яжоў Мікалай Іванавіч* (1895—1940) — народны камісар унутраных спраў СССР у 1937—1939 гг. Актыўны ўдзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. З 1922 г. на кіруючай партыйнай рабоце — сакратар губкома і крайкома, а з 1927 г. — у апараце ЦК ВКП(б). У 1929—1930 гг.— намеснік наркамзема СССР, затым за-

гадчык аддзелаў ЦК, з 1935 г.— сакратар ЦК ВКП(б). Арыштаваны 10 крас. 1939 г. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 2 лют. 1940 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітацыі не падлягае.

*Успаміны* (с. 172)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1937, № 58—59, 6—7 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны.

У Зборы твораў артыкул надрукаваны са шматлікімі купюрамі.

Прысвечаны XX гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі.

С. 172: *...рабочыя, якія бачылі тры рэвалюцыі...*— Рэвалюцыя 1905 г., Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі 1917 г.

*...сяляне, якія перажылі панаванне і падзенне двух цароў.*— Маюцца на ўвазе Аляксандр III (1845—1894) і Мікалай II (1868—1918).

*Я ж прыход свайго юнацтва сустрэў чатырма магіламі.*— У 1902 г. памёр бацька Я. Купалы Д. А. Луцэвіч. Праз паўгода паміраюць брат Казік і сёстры Сабіна і Гэля.

С. 173: *...Я ператварыўся ў... чорнарабочага ў бровары.*— З восені 1905 г. працуе на бровары Сёмкава Мінскага павета.

*Прыкладна ў гэты перыяд я і пачынаю складаць свае горкія песні.*— У 1902 г. першыя паэтычныя вопыты Купалы на польскай мове (верш прысвечаны сястры Л. Д. Раманоўскай у дзень яе імянін).

*Зборнікі вершаў, як праз турэмныя муры і краты, павінны былі прабрацца праз рагаткі цэнзуры, каб дайсці да чытача.*— Зб. «Жалейка» (1908), «Гусляр» (1910), «Шляхам жыцця» (1913). Зб. «Жалейка» двойчы канфіскоўваўся: у верас. і лістап. 1908 г., а ў зб. «Гусляр» і «Шляхам жыцця» былі зроблены купюры цэнзурнага характару.

*...у той час як пасля рэвалюцыі выдадзена больш 225 тысяч экземпляраў кніг.*— Выйшлі: зб. «Спадчына» (1922), Зб. тв.: У 6 т. (1925—1932), зб. «Творы 1918—28» (1930), Зб. тв.: У 4 т. (1932—1940) і інш.

С. 174: *Да слёз мяне расчуліў тады цёплы водгук Аляксея Максімавіча і яго пераклад верша «А хто там ідзе?».*— М. Горкі ў лісце да М. Кацюбінскага ад 7(20) лістап. 1910 г. пісаў: «У кніжку маю ўкладзены лісток-песня і ноты, нешта накшталт беларускага гімна. Мяне гэта рэч усхвалявала (Горький М. Собр. соч.: В 30 т. М., 1955. Т. 29. С. 138—139).

*...Луцкевічы* — браты І. І. Луцкевіч і А. І. Луцкевіч.

*Луцкевіч Антон Іванавіч* (псеўд. Антон Навіна, Кумельган, Іван Мялешка і інш.; 1884—1941) — дзеяч, ідэолаг нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння. З'яўляўся рэдактарам-выдаўцом газ. «Наша ніва» і «Наша доля». У студз. 1918 — чэрв. 1919 г. абраны старшынёй Віленскай беларускай рады. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці БНР. У 1927 і 1929 гг. арыштоўваўся польскімі ўладамі. Зноў арыштаваны 30 верас. 1939 г. НКУС БССР і асуджаны на 8 гадоў. Загінуў у 1941 г. пры эвакуацыі зняволеных з мінскай турмы. Рэабілітаваны Пракуратурай Літоўскай ССР у 1989 г.

*Луцкевіч І. І.*— гл. камент. да арт. «Моладзь ідзе», с. 378.

*...я ўспомніў дзень сталінскай дэмакратыі 12-га снежня.*— Я. Купала меў на ўвазе выбары ў Вярхоўны Савет СССР 12 снеж. 1936 г.

*<Выступленне на мітынгу на пероне Тбіліскага вакзала>* (с. 175)

Друкуецца па газ. «Заря Востока», Тбілісі, 1937, № 295, 24 снеж., дзе апублікавана пад рубрыкай «Радостная встреча».

Датуецца 23 снеж. 1937 г.

У Зборы твораў (1972—1976) змешчаны з купюрамі.

Выступленне Янкі Купалы на пероне Тбіліскага вакзала на мітынгу ў дзень прыезду на V пленум Саюза савецкіх пісьменнікаў 23 снеж. 1937 г. Юбілейны пленум быў прысвечаны 750-годдзю з дня напісання паэмы Шата Руставелі «Витязь в тигровой шкуре» і праходзіў у Тбілісі з 25-га па 30 снеж. 1937 г.

«З Мінска на пленум выехала беларуская дэлегацыя ў складзе П. Броўкі, М. Лынькова, П. Глебкі і М. Хведаровіча. На станцыі Мінеральныя Воды ў скоры поезд «Масква — Тбілісі», які імчаў у Грузію амаль усё праўленне Саюза пісьменнікаў СССР, падсеў Янка Купала (ён лячыўся ў кіславодскім санаторыі імя М. Горкага)» (Рагойша В. Напісана рукой Купалы. Мн., 1981. С. 77).

*Идеи его поэмы — идеи всего человечества* (с. 176)

Друкуецца па газ. «Вечерний Тбилиси», 1937, 26 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Прысвечаны 750-годдзю з дня напісання паэмы Ш. Руставелі «Витязь в тигровой шкуре». Гл. таксама камент. да папярэдняга арт., с. 406.

Артыкул надрукаваны побач з выказваннямі Ф. Гладкова, У. Стаўскага, К. Федзіна, Г. Лахуці.

*Бальмонт Канстанцін Дзмітрыевіч* (1867—1942) — рускі паэт-сімваліст.

*Любоў усіх нацый* (с. 177)

Друкуецца па газ. «Соціалістична Харківщина», 1937, 30 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

30 снеж. 1937 г. у памяшканні Грузінскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя Паліяшвілі адбыўся пленум Тбіліскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных сумесна з удзельнікамі пісьменніцкага пленума (пленум быў прысвечаны 750-годдзю з дня напісання паэмы Ш. Руставелі «Витязь в тигровой шкуре»).

30 снеж. 1937 г. адзначаліся дзве даты: 15-годдзе з дня ўтварэння СССР і 20-годдзе ўтварэння Украіны.

Карэспандэнтам украінскай газ. «Соціалістична Харківщина» Ф. Атакіным было ўзята інтэрв'ю ў пісьменнікаў, у тым ліку і ў Я. Купалы.

## 1938

*Над чым мы працуем* (с. 177)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1938, № 14, 10 сак., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Адказ Купалы на пытанне газ. «Літаратура і мастацтва» надрукаваны пад загалоўкам «Над чым мы працуем». У гэтым жа нумары змешчаны адказ Якуба Коласа.

*«...аб'яднаныя ў адной смярдзючай купцы «праватрацкісцкага блока»?»* — Маецца на ўвазе сфабрыкаваная справа «праватрацкісцкага блока», у які былі занесены Троцкі, Бухарын, Каменеў, Зіноўеў, Рыкаў, Пятакоў, Томскі і інш. Яны абвінавачваліся ў так

званых тэрарыстычных і дыверсійных актах і шпіянажы, загавары з мэтай забойства Куйбышава і Горкага, падрыве бяспекі Савецкага Саюза і адкрыцці граніц для Германіі і Японіі, перадачы часткі савецкай тэрыторыі замежным дзяржавам, эканамічным сабатажы і ва ўзнаўленні капіталізму.

Бухарын, Рыкаў і 16 іншых абвінавачаных былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. 4 лют. 1988 г. пленум Вярхоўнага суда СССР поўнасцю рэабілітаваў Бухарына, а 21 чэрв. 1988 г. ён узноўлены ў партыі.

Гл. таксама камент. да арт. «Ворагі народа павінны быць знішчаны», с. 404.

С. 178: *...на радзіму вяртаецца гераічная чацвёрка папанінцаў.*— У 1937—1938 гг. дзейнічала першая савецкая дрэйфуючая станцыя «СП-1», якую ўзначальваў палярны даследчык, контр-адмірал І. Дз. Папанін (1894—1986).

*...я перакладаю «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі...»* — «Кабзар» Т. Шаўчэнкі на беларускай мове выйшаў з друку пад рэдакцыяй Я. Купалы і Я. Коласа ў сак. 1939 г.

*Слава бясстрашным* (с. 178)

Друкуецца па газ. «Чырвоная змена», 1938, № 81, 16 сак., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Напісаны ў сувязі з вяртаннем удзельнікаў першай навуковай станцыі «Паўночны полюс-1» на дрэйфуючай ільдзіне ў Цэнтральнай Арктыцы ў 1937—1938 гг. (Івана Папаніна, Эрнста Крэнкеля, Пятра Шыршова і Яўгенія Фёдарава).

*Дружба народов* (с. 178)

Друкуецца па «Литературной газете», 1938, № 24, 1 мая, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся ў Зборы твораў (1972—1976) са значнымі скарачэннямі.

С. 179: *Когда-то я писал стихи о Ивановой ночи* — верш «Заклятая кветка» (1909 г.).

*Я не знаю, как была устроена фантастическая «машина времени», придуманная Гербертом Уэллсом.*— Маецца на ўвазе фантастычны раман «Машына часу» англійскага пісьменніка Герберта Уэлса (1866—1946).

*В одном польском сборнике, вышедшем не так давно в Варшаве...*— Звестак пра кнігу, якую меў на ўвазе Я. Купала, выявіць не ўдалося.

С. 181: *На белорусский язык переведены Пушкин и Гете, Шекспир и Бальзак, Горький и Маяковский.*— Былі ўжо перакладзены «Вязень», «Медны коннік», «Палтава», «Капітанская дачка» А. С. Пушкіна, «Рэйнеке-ліс» Гётэ, урывак з рамана «Яўгенія Грандэ», раман «Габсек» А. Бальзака, некаторыя творы М. Горкага, «Левы марш», уступ да паэмы «На ўвесь голас», «Марш ударных брыгад» У. Маякоўскага.

*Переведены «Слово о полку Игореве», «Витязь в тигровой шкуре», «Кобзарь».*— Я. Купала ў 1921 г. зрабіў празаічны і вершаваны пераклады «Слова аб палку Ігаравым»; у 1938 г. быў зроблены пераклад «Кабзара» (выйшаў у 1939 г. да 125-годдзя з дня нараджэння Т. Р. Шаўчэнкі).

С. 181: *...после разоблачения подлых наемников фашизма — троцкистов и бухаринцев, буржуазных националистов.*— Гл. камент. да арт. «Ворагі народаў павінны быць знішчаны», с. 404 і «Над чым мы працуем», с. 407.

С. 182: *Джамбул Джабаеў* (1846—1945) — казахскі народны паэт-акын. Складаў песні-жальбы, песні-роздумы, гімны, паэмы.

*750-летие «Слова о полку Игореве» будет большим праздником в Советской Белоруссии...*— «Слова аб палку Ігаравым» было створана, верагодней за ўсё, у канцы 1184—1187 гг. у Кіеве.

*...как было праздником 750-летие «Витязя в тигровой шкуре».*— 750-годдзе «Витязя в тигровой шкуре» адзначалася ў канцы снежня 1937 г.

*...князь Голицын.*— Відаць, Аляксандр Мікалаевіч Галіцын (1773—1844) — князь, рускі дзяржаўны дзеяч.

С. 183: *...данные ему Сталинской Конституцией...*— Была прынята 5 снеж. 1936 г.

*Читайте, завидуйте, я — гражданин Советского Союза.*— Заключныя радкі з верша У. Маякоўскага «Стихи о советском паспорте».

*Вялікі кабзар украінскага народа* (с. 184)

Друкуецца па Зб. твораў, 1976, т. 7.

Упершыню — газ. «Комуніст», Кіеў, 1938, № 225, 29 верас. Выступленне Янкі Купалы, прысвечанае Т. Шаўчэнку.

Датуецца 1938 годам.

## 1939

*Как родилась счастливая песня* (с. 185)

Друкуецца па «Литературной газете», 1939, № 7, 5 лют., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

31 студз. 1939 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры Я. Купала ўзнагароджаны ордэнам Леніна.

Артыкул Купалы напісаны ў сувязі з гэтай падзеяй.

*Счастье увидев в родимом народе, Сам бы стал счастлив Янка Купала.*— Радкі з верша Я. Купалы «Я не паэта» (1905—1907) у перакладзе на рускую мову.

*...в 1905 году в первый раз сложились мои стихи.*— Пісаць Я. Купала пачаў раней, у 1902 г. ён прысвяціў верш сваёй сястры Л. Д. Раманоўскай (верш быў напісаны на польскай мове); да 1905 г. адносіцца першае выступленне Купалы ў друку (у газ. «Северо-Западный край» быў надрукаваны верш «Мужык»).

С. 186: *От первой моей книжки, от первой «Жалейки»...*— Першая кніга Я. Купалы — зб. «Жалейка». Выйшаў у 1908 г.

*Тебе, наш учитель, мои все желанья...*— Радкі з верша Я. Купалы «Табе, правадыр...» (1936) у перакладзе на рускую мову.

*Жыццё маё належыць народу, правадыру* (с. 187)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1939, № 8, 9 лют., дзе ўпершыню апублікаваны. Адначасова друкаваўся ў газ. «Звязда», 1939, № 32.

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) артыкул друкаваўся з купюрамі.

Выступленне напісана з нагоды ўзнагароджання Купалы ордэнам Леніна 31 студз. 1939 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «за выдатныя поспехі і дасягненні ў развіцці мастацкай літаратуры» і асобнымі момантамі пераклікаецца з артыкулам «Как родилась счастливая песня» (с. 409).

С. 187: *...у 1905 годзе ўпершыню пачалі складацца мае вершы-песні.*— Гл. камент. да арт. «Как родилась счастливая песня», с. 409.

*...Ад першай маёй кніжкі, ад першай «Жалейкі».*— Гл. камент. да арт. «Как родилась счастливая песня», с. 409.

С. 188: *Табе, правадыр, мае песні і думы...*— Радкі з верша Я. Купалы «Табе, правадыр» (1936).

### <*Интервью «Литературной газете»*> (с. 188)

Друкуецца па «Литературной газете», 1939, № 8, 10 лют., дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «Творческие планы».

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У Маскве з 30 студз. па лют. 1939 г. праходзілі Дні беларускай культуры. Купала быў у складзе дэлегацыі работнікаў літаратуры і мастацтва БССР. У гэтым нумары змешчаны інтэрв'ю А. Адаліс, М. Алігер, П. Антакольскага, М. Асеева, П. Броўкі, Н. Зар'яна, В. Інбер, С. Кірсанава, Я. Коласа.

*Перевожу Лермонтова на белорусский язык.*— Перакладаў з Лермантава не выяўлена.

*Пока еще в голове — стихи о Шевченко... Очевидно, скоро я напишу их.* — 27 лют. была завершана паэма «Тарасова доля».

*Работаю и над сценарием кинокартины по своей поэме «Над рекой Орессой».*— Звестак пра напісанне Купалам сцэнарыя не выяўлена.

### <*Выступление ■ совхозе «Пламя» Раменского района Московской области*> (с. 189)

Друкуецца па «Литературной газете», 1939, № 24, 1 мая, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Литература і воспитание трудящихся».

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Прамова Купалы 22 крас. перад інтэлігенцыяй і калгаснікамі на сходзе ў саўгасе «Полымя» сяла Соф'іна Раменскага раёна Маскоўскай вобласці, куды прыехалі па запрашэнні «Литературной газеты», Раменскага гаркома партыі і Праўлення Янка Купала і Міхаіл Ісакоўскі. Сход быў звязаны з рашэннямі XVIII з'езда ВКП(б) (1939, сак.) — аб вялікай ролі літаратуры ў камуністычным выхаванні працоўных.

*Фадзееў Аляксандр Аляксандравіч* (1901—1956) — рускі пісьменнік.

### <*Прамова на VI юбілейным пленуме ССП СССР у Кіеве, прысвечаным 125-годдзю з дня нараджэння Т. Р. Шаўчэнкі*> (с. 192)

Друкуецца па газ. «Советская Украина», 1939, № 102, 6 мая. Прамова друкавалася ў газ. «Комуніст», Кіеў, 9 мая і газ. «Літ. і мастацтва», № 20, 11 мая.

Выступленне Янкі Купалы 4.5.1939 г.
Датуецца 1939 г.

<*«...Я с радостью приветствую это решение Советского правительства...»*> (с. 194)

Упершыню — газ. «Коммунист», Ерэван, 1939, 18 верас. Прамова Янкі Купалы на 7-м пленуме ССП СССР, які праходзіў 16—20.9.1939 г., у якой ён адгукнуўся на пачатак вызвалення Заходняй Беларусі.

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся са скарачэннямі.

<*Речь на юбилейном VII пленуме ССП СССР, посвященном 1000-летию армянского героического эпоса «Давид Сасунский»*> (с. 195)

Друкуецца па «Литературной газете», 1939, № 52, 20 верас. Упершыню — газ. «Коммунист», Ерэван, 1939, 17 верас.

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкавалася са скарачэннямі цэнзурнага характару.

Выступленне Купалы 17 верас. 1939 г. у Ерэване на VII пленуме ССП СССР, прысвечаным 1000-годдзю армянскага эпасу «Давід Сасунскі».

*«Илиада»* — «Іліяда», адна з паэм Гамера.

*«Нибелунги»* — «Песня пра Нібелунгаў», нямецкі гераічны эпас, узнік каля 1200 г.

*«Слово о полку Игореве»* — «Слова аб палку Ігаравым», помнік літаратуры Кіеўскай Русі XII ст.

*«Витязь в тигровой шкуре»* — паэма грузінскага паэта XII ст. Шата Руставелі.

*Мои любимые писатели* (с. 196)

Друкуецца па часоп. «Интернациональная литература», 1939, № 7—8, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Часопіс «Интернациональная литература» пад рубрыкай «Перекличка через океан» у сувязі з адкрыццём у 1938 г. Міжнароднай выстаўкі ў Нью-Йорку апублікаваў артыкулы савецкіх пісьменнікаў пра амерыканскіх пісьменнікаў, сярод публікацый і артыкул Я. Купалы.

*Уітмен Уолт* (1819—1892) — амерыканскі паэт-рэаліст.

*Купер Фенімор* (1789—1851) — амерыканскі пісьменнік, прадстаўнік рамантызму.

*Брэт-Гарт Фрэнсіс* (1836—1902) — амерыканскі пісьменнік-рэаліст.

*Драйзер Тэадор* (1871—1945) — амерыканскі пісьменнік-рэаліст, прагрэсіўны грамадскі дзеяч.

*Сінклер Эптан Біл* (1878—1968) — амерыканскі пісьменнік.

*Хемінгуэй Эрнэст Мілер* (1899—1961) — амерыканскі пісьменнік. У 1954 г. за аповесць «Стары і мора» яму была прысуджана Нобелеўская прэмія.

*Колдуэл Эрскін* (1903—1987) — амерыканскі пісьменнік.

*По Эдгар Алан* (1809—1849) — амерыканскі пісьменнік. Вядомы сваімі апавяданнямі дэтэктыўнага жанру.

*Культурны прагрэс народаў СССР* (с. 197)

Друкуецца па часоп. «Маладосць», 1974, № 6, дзе ўпершыню апублікаваны ў перакладзе з англійскай мовы Н. А. Ясінскай з прадмовай І. У. Саламевіча.

Артыкул выйшаў асобнай брашурай на англійскай мове ў Маскве ў 1939 г. з нагоды Міжнароднага кірмашу ў Нью-Йорку. Артыкул друкаваўся ў газ. «Tiesa», «Праўда» (Вільнюс), 1940, № 20, 11 ліп.

Датуецца 1939 годам.

У зб. «Пуцявінамі Янкі Купалы» (Мн., 1981) даследчык Г. В. Кісялёў прыводзіць тэкст артыкула, які мае разыходжанне з прапанаваным чытачу тэкстам. Які з варыянтаў тэкста належыць самому Я. Купалу, на дадзены момант не ўдалося выявіць. Таму у том уключаецца варыянт, апублікаваны ў часоп. «Маладосць».

С. 200: *Рэпертуар уключае п'есы Шэкспіра, Лопэ дэ Вэга, Гогаля, Шылера і Бамаршэ...*— На сцэнах тэатраў Савецкага Саюза ідуць: В. Шэкспір «Сон у летнюю ноч», «Рамэо і Джульета», «Гамлет», «Кароль Лір» і інш.; Лопэ дэ Вэга «Сабака на сене», «Дзяўчына са збанам», «Настаўнік танцаў» і інш.; П. Бамаршэ «Севільскі цырульнік», «Вар'яцкі дзень, або Жаніцьба Фігара»; М. Гогаль «Жаніцьба», «Рэвізор» і г. д.; Ф. Шылер «Марыя Сцюарт», «Арлеанская дзева», «Вільгельм Тэль» і г. д.

## 1940

*Моим избирателям* (с. 201)

Друкуецца па газ. «Известия», 1940, № 71, 27 сак., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Напісаны з нагоды абрання паэта дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР працоўнымі ад Лідскай Слабадской выбарчай акругі Гродзенскай (у той час — Баранавіцкай) вобласці.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з купюрамі. У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

*С великой радостью ∞ Белоруссии.*— Выбары дэпутатаў у Вярхоўныя Саветы СССР і БССР у Заходняй Беларусі адбыліся 24 сак. 1940 г.

*Белорусский народ много ∞ польском государстве.*— У выніку савецка-польскай вайны 1919—1920 гг. паводле Рыжскага мірнага дагавора ад 18 сак. 1921 г. Заходняя Беларусь адышла да Польшчы.

*<Академику В. И. Пичета>* (с. 202)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А., воп. 2, адз. зах. 21). На адвароце пазначана: Академику В. И. Пичета.

Датуецца 12 кастр. 1940 г.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Запіска напісана ў час выязной сесіі АН БССР, якая праходзіла ў Беластоку з 12-га па 14 кастр. 1940 г. і была прысвечана гадавіне вызвалення Заходняй Беларусі.

*Пічэта Уладзімір Іванавіч* (1878—1947) — гісторык. Акадэмік АН СССР і АН БССР. З Я. Купалам пазнаёміўся ў 1921 г. і падтрымліваў з ім сяброўскія адносіны.

*В своем прекрасном докладе...*— 12 кастр. 1940 г. У. І. Пічэ-

та выступіў з дакладам «Барацьба беларускага народа за сваё вызваленне».

*...Вы не вспомнили о инквизиции на Беларуси... Также вы не вспомнили о колонизации Беларуси татарами.*— Дзейнасць інквізіцыі на беларускіх землях яўна недастаткова даследавана ў працах гісторыкаў, прычым не толькі сучаснікаў Купалы, але і тых, якія працуюць у нашыя дні. Разам з тым судовыя працэсы па абвінавачванню ў вядзьмарстве сапраўды мелі месца ў Вялікім княстве Літоўскім, у тым ліку і ў Беларусі. Дакументы, якія асвятляюць дзейнасць інквізіцыі ў Вялікім княстве, прадстаўлены ў апублікаваных выданнях, з якіх асобна варта выдзеліць зборнік «Судебные процессы над ведьмами в Литве» (Raganų teismai Lietuvoje Lietuvos teises pamniklai II. Vilnius, 1987).

Росквіт антывядзьмарскіх працэсаў у Вялікім княстве Літоўскім прыпадае на XVI—XVIII стст. У іх правядзенні прымала ўдзел духавенства, але падобныя справы разглядаліся свецкімі судамі — гродскімі (замкавымі), магістрацкімі або вотчыннымі, у залежнасці ад сацыяльнай прыналежнасці абвінавачанага. Пры правядзенні дазнання выкарыстоўваліся катаванні. Па прычыне адсутнасці ў Статуце ВКЛ спецыяльных артыкулаў вынясенне прысуду абгрунтоўвалася цытатамі з Біблii, спасылкамі на кодэкс права «Караліна» імператара Святой Рымскай імперыі Карла V і г. д. Літоўскія даследчыкі К. Яблонскіс і Р. Ясас дапускаюць таксама магчымасць прымянення ў Вялікім княстве Літоўскім сумна вядомага «Молата ведзьм», які быў напісаны нямецкімі манахамі-дамініканцамі ў XV ст. і неўзабаве зрабіўся своеасаблівым падручнікам інквізітараў. (Raganų teismai Lietuvoje Lietuvos teises pamniklai II. Vilnius, 1987. С. 421—428).

З цягам часу мяняўся характар абвінавачванняў, якія прад'яўляліся падсудным у Вялікім княстве Літоўскім. Калі ў XVI ст. судзілі галоўным чынам за нанясенне пры дапамозе чаравання шкоды здароўю, то ў XVII—XVIII стст. сустракаліся прызнанні ў сувязях з д'яблам, адрачэнні ад Бога і г. д., інакшай кажучы — у класічным вядзьмарстве. Аднак у XVIII ст. назіраецца змякчэнне пакаранняў за вядзьмарства. Прыблізна з сярэдзіны гэтага стагоддзя спыняецца масавае спаленне вядзьмарак, якое замяняецца фізічнымі пакараннямі, штрафамі ці выгнаннем. Вядзьмарскія працэсы ў ВКЛ працягваліся, па ўсёй верагоднасці, да 1771 г., калі яны былі афіцыйна забаронены сеймам Рэчы Паспалітай.

Што тычыцца татарскай каланізацыі на беларускіх землях, то варта зазначыць, што Беларусь, у адрозненне ад Украіны і Расіі, не зведала татарскага ярма, хоць паходы сюды татараў у другой палове XIII ст. мелі месца. Ужо ў першай палове XIV ст. у Вялікім княстве Літоўскім з'яўляюцца і першыя татарскія калоніі, прычым эміграцыя сюды татараў першапачаткова мела палітычны характар. Найчасцей татары, якія шукалі ў Літве і Беларусі прытулку ад праследаванняў сваіх апанентаў, прыцягваліся да выканання вайсковай службы. Пік прытоку ў ВКЛ татарскіх каланістаў прыпаў на часы княжання Вітаўта, які сяліў тут палонных татараў, а таксама стымуляваў добраахвотнае пасяленне на землях Беларусі і Літвы спрактыкаваных у вайсковай справе качэўнікаў.

Відавочная прыхільнасць вялікіх князёў да татарскіх каланістаў абумовіла іх адданую службу, у тым ліку і супраць сваіх адзінаверцаў і супляменнікаў. Гэта выявілася, калі татары Крымскага ханства пачалі з канца XV ст. пагражаць землям Вялікага княства Літоўскага.

Так, калі падчас наезду 1508 г. крымчакі, апелюючы да агульнай рэлігіі і паходжання, імкнуліся схіліць татараў Вялікага княства да здрады, то атрымалі адказ: «Ні Бог, ні Прарок не кажуць вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі, мы вас лічым рабаўнікамі, а нашай шабляй вас перамагаючы, мы забіваем гультаёў, а не братоў нашых... мы каля Акі будзем кроў праліваць за літвінаў, якія нас лічаць сваімі братамі» (Plewczyński M. Ludzie Wschodu w wojsku ostatnich Jagiellonów. Warszawa, 1995. S. 74). З нашчадкаў татарскіх ханаў выводзіцца і такі знакаміты род, як Глінскія, найбольш вядомы прадстаўнік якога князь Міхал Глінскі атрымаў бліскучую перамогу над крымчакамі ў бітве пад Клецкам у 1506 г.

Татарская традыцыя аказала значны ўплыў на развіццё вайсковасці ў ВКЛ, у прыватнасці на станаўленне лёгкай, так званай казацкай, конніцы. З цягам часу ўдзельная вага ўласна татараў у войску ВКЛ зніжалася, аднак і зараз беларускія татары з'яўляюцца адметнай і самабытнай часткай насельніцтва Рэспублікі Беларусь. (Каментарый кандыдата гістарычных навук Ю. М. Бохана.)

*Вечна жывая паэзія* (с. 202)

Друкуецца па гукавому запісу прамовы, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (Кп 3763/КнФ30).

Датуецца 1940 годам.

З гэтай прамовай Я. Купала выступіў у Маскве ў Калоннай зале Дома Саюзаў 26 лістап. 1940 г. у сувязі з 85-годдзем з дня смерці А. Міцкевіча. Паэт прачытаў таксама вершы «Песня будаўніцтву» (1931) і «Трэба нам песень» (1934). Вечар, прысвечаны 85-годдзю з дня смерці А. Міцкевіча, трансліраваўся па радыё.

С. 202: *Міцкевіч* — гл. каментарый да арт. «Чаму плача песня наша?», с. 366.

*«Он между нами жил ∞ И песнями...»* — Радкі з верша А. С. Пушкіна «Он между нами жил» (1834).

*І сапраўды, у самым літаральным ∞ беларускай народнай творчасці.* — Тэмы і вобразы, падказаныя жыццём і гісторыяй беларускага народа, гучаць ужо ў ранніх вершах: «Мешка, князь Навагрудка», «Бульба» і інш., асабліва яны ўзмацніліся ў цыкле «Балады і рамансы» (1822), у драматычнай паэме «Дзяды» (ч. 2 і 4, 1823, так званыя віленска-ковенскія «Дзяды»). Героіка-патрыятычныя балады «Свіцязь», «Свіцязянка» пабудаваны на беларускіх народных паданнях.

*У сваіх лепшых лекцыях па гісторыі славянскіх літаратур...* — З 1840 г. А. Міцкевіч узначальваў кафедру славянскіх літаратур у Калеж дэ Франс у Парыжы.

*«Он говорил о временах грядущих, ∞ В великую семью соединятся».* — Радкі з верша А. С. Пушкіна «Он между нами жил» (1834).

С. 203: *...год таму назад была далучана Заходняя Беларусь...* — 12 лістап. 1939 г. III сесіяй Вярхоўнага Савета БССР была прынята Пастанова «Аб прыняцці Заходняй Беларусі ў склад БССР».

*...увайшла і Літва...* — 21 ліп. 1940 г. была ўтворана Літоўская ССР, з 3 жн. 1940 г. — у складзе СССР.

*<Прамова на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 35-годдзю літаратурнай дзейнасці>* (с. 203)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1940, № 41, 14 снеж., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

Я. Купала выступіў 8 снеж. 1940 г. у памяшканні Дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР.

У Зборы твораў (1972—1976) прамова друкавалася з купюрамі. У Збор твораў (1961—1963) не ўключалася.

*«Хай крой пальецца дзень, другі∞Спадуць ад грому вашых сіл».*— Я. Купала прыводзіць радкі з верша «Там» (1906), які разам з вершам «Што ты спіш?..» (1906) быў прычынай канфіскацыі царскай цэнзурай брашуры І. Свянціцкага, дзе яны былі надрукаваны.

С. 204: *...які ў тыя змрочныя часы заўважыў маю песню.*— У верас. 1910 г. М. Горкі даслаў у рэдакцыю газ. «Наша ніва» ліст з просьбаю прыслаць яму верш Я. Купалы «А хто там ідзе?» з нотамі. 7 лістап. 1910 г. разам з лістом М. Горкі даслаў М. Кацюбінскаму і песню «А хто там ідзе?», характарызаваў яе як «штосьці накшталт беларускага гімна» і прызнаваўся: «Мяне гэтая рэч усхвалявала» (Горкі М. Зб. твораў. М., 1955. Т. 29. С. 138—139).

*Глыбока расчуліў мяне тады цёплы водгук Аляксея Максімавіча і яго пераклад верша «А хто там ідзе?».*— М. Горкі падкрэсліў, што ў песні Я. Купалы «А хто там ідзе?» глыбокі сэнс, што яна, «магчыма, на час стане народным гімнам беларусаў». Да свайго перакладу М. Горкі далучыў заўвагу: «Прашу Янку Купалу дараваць мне дрэнны пераклад яго красамоўнай і суровай песні» (Горкі М. Зб. твораў. М., 1953. Т. 24. С. 135).

С. 205: *«Беларусь, мая радзіма, // Як жа расцвіла ты!»* — Радкі з верша Я. Купалы «Беларусі ардэнаноснай» (1935).

*«Як песня, жыве яго імя ў народзе,∞Як песня, жыве яго імя ў народзе».*— Радкі з верша Янкі Купалы «Аб Сталіне-сейбіту» (III частка, 1939).

## 1941

*Пра вялікага Сталіна песня мая* (с. 206)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1941, № 66, 19 сак., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *Грузія. Цхалтуба (Па тэлеграфу). Янка Купала.* Пасля загалоўка памета: Мінск, рэдакцыям газет «Звязда», «Советская Белоруссия».

Адначасова друкаваўся ў газ. «Правда» пад загалоўкам «Все свои силы отдам народу» (пазначана дата напісання: 18 марта 1941 г.) і газ. «Заря Востока» (Тбілісі) пад загалоўкам «Пусть зазвенят песни советские во всем мире».

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

15 сак. 1941 г. Пастановай СНК СССР Я. Купалу прысуджана Сталінская прэмія 1-й ступені за зборнік вершаў «Ад сэрца» (1940). У зборнік увайшлі вершы 1937—1939 гг. і паэма «Тарасова доля», прысвечаная жыццю Тараса Шаўчэнкі. У 1941 г. у Маскве выйшаў зборнік Я. Купалы «От сердца» з перакладамі вершаў і паэм 1933—1941 гг. на рускую мову.

*Будь готов!* (с. 206)

Друкуецца па машынапісным тэксце, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1, адз. зах. 123, л. 1).

Упершыню — газ. «Кам'яніма Ціяса», Вільнюс, 1941, № 102, 1 мая ў перакладзе на літоўскую мову.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 207: *Сегодня Вы первый раз весело ∞ международный праздник пролетариата.*— 21 ліп. 1940 г. была ўтворана Літоўская ССР, з 3 жн. 1940 г.— у складзе СССР.

*Сталин — пример во всем* (с. 207)

Друкуецца па газ. «Пионерская правда», 1941, 1 мая, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Петр Великий, один из...*— Петр I (1672—1725) — рускі цар з 1862 г., першы расійскі імператар (з 1721 г.), дзяржаўны дзеяч, палкаводзец, дыпламат.

С. 208: *Ліней Карл* (1707—1778) — шведскі прыродазнавец. Акадэмік шведскай АН і першы яе прэзідэнт (з 1739 г.). Стварыў сістэму класіфікацыі раслін і жывёл (1735).

*Гайдар Аркадзь Пятровіч* (сапр. Голікаў; 1904—1941) — рускі пісьменнік.

С. 209: *Цэзар Гай Юлій* (102 або 100—44 да н. э.) — старажытнарымскі дзяржаўны і палітычны дзеяч.

*Поднялась Беларусь* (с. 209)

Друкуецца па газ. «Известия, 1941, № 162, 11 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з купюрамі. У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

*...от Ковно...*— Коўна — афіцыйная назва г. Каўнас (Літва) да 1917 г. Я. Купала, вяртаючыся з Рыгі, дзе ўдзельнічаў у рабоце з'езда латышскіх пісьменнікаў (14—15 чэрв.), па запрашэнні літоўскіх пісьменнікаў заехаў у Каўнас. Там яго і заспела вайна.

С. 210: *«Народы Советского Союза ∞ врага».*— Вытрымка з прамовы І. В. Сталіна па радыё 3 ліп. 1941 г.

*Давыдаў Дзяніс Васільевіч* (1784—1839) — удзельнік Айчыннай вайны 1812 г., рускі паэт. Ініцыятар і арганізатар партызанскага руху ў тыле напалеонаўскіх войск, удзельнічаў у вызваленні беларускіх зямель ад французскіх акупантаў. Аўтар ваенна-гістарычных артыкулаў.

*«Еще Россия не подымалась ∞ когда-нибудь подымется».* — Цытата з працы Д. Давыдава «Опыт теории партизанского действия» (1821).

С. 211: *Хмяльніцкі Багдан (Зіновій) Міхайлавіч* (каля 1595—1657) — гетман Украіны, дзяржаўны дзеяч, палкаводзец.

С. 212: *...членом Верховного Совета республики.*— Я. Купала 24 сак. 1940 г. абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

*«Наши силы неисчислимы ∞ за нашу победу!»* — Вытрымка з прамовы І. В. Сталіна па радыё 3 ліп. 1941 г.

*Не будет белорус рабом немецкіх баронов!* (с. 212)

Друкуецца па газ. «Известия», 1941, № 167, 17 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 213: *«Враг жесток ∞ князей и баронов».*— Вытрымка з прамовы І. В. Сталіна па радыё 3 ліп. 1941 г.

*«А кто там идет ∞ Людьми зваться».*— Радкі з верша Я. Купалы «А хто там ідзе?» (1905—1907) у перакладзе на рускую мову.

*...и немецких баронов.*— Гаворка ідзе пра становішча на Беларусі ў часы першай сусветнай вайны (1914—1918).

С. 214: *Някрасаў Мікалай Аляксеевіч* (1821—1878) — рускі паэт, літаратурны дзеяч. Паэзія М. Някрасава — новы крок у развіцці рускай літаратуры. Я. Купала лічыў М. Някрасава адным з духоўных і літаратурных настаўнікаў.

*«...Волосом рус, ∞ человек!»* — Радкі з паэмы М. Някрасава «Железная дорога» (1864).

С. 215: *В сражении под Грюнвальдом ∞ земле.*— Маецца на ўвазе Грунвальдская бітва (1410) — разгром Тэўтонскага ордэна аб'яднанымі арміямі Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства. Удзельнічалі з беларускіх земляў Полацкая, Віцебская, Мсціслаўская, Гарадзенская, Берасцейская, Пінская, Навагародская, Лідская, Ваўкавыская, Дарагічынская, Слуцкая і іншыя харугвы.

### *Германский фашизм — злейший враг белорусского народа* (с. 216)

Друкуецца па газ. «Правда», 1941, № 197, 18 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Паводле сведчанняў Я. Купалы, газета з артыкулам трапіла на фронт, і «товарищи вырезали небольшую мою статейку, размножили статью как листовку и разбросали ее с самолетов над белорусскими лесами» (гл. арт. «О народной войне», с. 234).

У Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) друкаваўся з купюрамі.

С. 216: *«Пушек гром не страшен был ∞ мог народ?»* — Радкі з верша Я. Купалы «Касцу» (1907) у перакладзе на рускую мову.

С. 218: *«На мой клич вечевой, ∞ под крыши».*— Урывак з верша Я. Купалы «Песня званара» (1909) у перакладзе на рускую мову. Строфы падаюцца Я. Купалам ў іншай паслядоўнасці, чым яны размешчаны ў вершы. Пачынаецца ўрывак з чацвёртай страфы, затым ідуць другая, трэцяя і шостая.

### *Белорусский народ не позволит себя закабалить!* (с. 219)

Друкуецца па машынапісным тэксце. Тэкст передрукаваны з газ. «Красный флот», 1941, № 170, 22 ліп., дзе артыкул упершыню апублікаваны. Машынапіс захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А., воп. 1).

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Вытрымкі з артыкула ў перакладзе на беларускую мову пад назвай «Радзіма кліча да помсты!» друкаваліся ў газ. «Савецкая Беларусь», 1941, № 4, 7 лістап.

*«Заиграли громко трубы, ∞ Начались походы».*— Радкі з верша Я. Купалы «Чырвонай Арміі паходы» (1938) у перакладзе на рускую мову.

*«Красная Армия, Красный Флот ∞ народу».*— Вытрымка з прамовы І. В. Сталіна па радыё 3 ліп. 1941 г.

*«Мы море с морем ∞ наполнили страну».*— Радкі з верша Я. Купалы «А мы сабе сеем і сеем...» (1938) у перакладзе на рускую мову.

С. 220: *«Шумят знамена боевые. ∞ нас не собьют с прямой дороги».*— Радкі з верша Я. Купалы «Шляхі» (1939) у перакладзе на рускую мову.

*Суворaў Аляксандр Васільевіч* (1730—1800) — рускі палкаводзец, генералісімус.

*Хмяльніцкі Б.*— гл. камент. да арт. «Поднялась Беларусь», с. 416.

*«Под панами, царями∞пустыри орошали».*— Радкі з верша Я. Купалы «Засвяціла ясна зорка...» (1939) у перакладзе на рускую мову.

С. 221: *Гебельс Пауль Ёзаф* (1897—1945) — палітычны і дзяржаўны дзеяч фашысцкай Германіі. Адзін з галоўных нямецка-фашысцкіх злачынцаў. Пасля ўступлення савецкіх войск у Берлін скончыў жыццё самагубствам разам з жонкай, якая перад гэтым атруціла шэсць сваіх дзяцей.

*«Вперед — неизменно!∞Товарищ і брат!»* — Радкі з верша Я. Купалы «Заўсёды наперад» (1931) у перакладзе на рускую мову.

*Выше знамя борьбы за свободу и независимость!* (с. 221)

Друкуецца па газ. «Правда», 1941, № 222, 12 жн. Адначасова прамова друкавалася ў газ. «Известия» і «Комсомольская правда».

Датуецца годам апублікавання.

З гэтай прамовай Я. Купала ад імя беларускага народа выступіў 11 жн. на 1-м Усеславянскім мітынгу салідарнасці ў змаганні супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Мітынг адбыўся ў Маскве 10—11 жн. 1941 г. Радыё вяло яго трансляцыю. Разам з іншымі ўдзельнікамі мітынгу Я. Купала падпісаў адозву да братоў-славян з заклікам узняцца на вызваленчую барацьбу супраць фашызму. Тэкст адозвы «Братья угнетенные славяне» гл. на с. 348 дадзенага тома.

На аснове прамовы Я. Купала напісаў артыкул «Народная вайна» (1941).

*Народная война* (с. 223)

Друкуецца па газ. «Красная звезда», 1941, № 197, 22 жн., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул напісаны на аснове прамовы Я. Купалы на 1-м Усеславянскім антыфашысцкім мітынгу (11 жн., 1941, Масква).

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся з купюрамі. У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

*Долгие века прошли от боя под Грюнвальдом...*— Грунвальдская бітва адбылася 15 ліп. 1410 г.

С. 224: *«Наше горе, наши слезы,∞Правда выплывает».*— Радкі з верша Я. Купалы «Зашумеў лес разгуканы...» (1906) у перакладзе на рускую мову.

*Талстой Леў Мікалаевіч* (1828—1910) — рускі пісьменнік.

*...писал о причинах гибели наполеоновских полчищ на необъятных просторах России.*— Гаворка ідзе аб рамане-эпапеі Л. Талстога «Вайна і мір» (1865—1869). У гэтым творы Л. Талстой звярнуўся да гістарычнай тэмы — эпохі войн з Напалеонам (1805—1807 і 1812—1814 гг.).

*Земля горит под ногами фашистов* (с. 226)

Друкуецца па машынапісным тэксце. Тэкст перадрукаваны з газ. «За честь Родины», 1941, 5 верас., дзе артыкул упершыню апублікаваны. Машынапіс захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1).

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Артыкул па змесце пераклікаецца з артыкулам «Народная война» (1941).

С. 226: *...Наше горе, наши слезы,∽Правда выплывает».*— Радкі з верша Я. Купалы «Зашумеў лес разгуканы...» (1906) у перакладзе на рускую мову.

*Белорусский народ не пойдет в рабство* (с. 227)

Друкуецца па «Учительской газете», 1941, 8 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 12 верас. 1941 г.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы рукапіс артыкула, які напісаны невядомай асобай. Пад тэкстам рукой Я. Купалы пазначана: *Янка Купала. Москва 12/IX-41 г.*

С. 229: *Бумажкоў Ціхан Піменавіч* (1910—1941) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Айчынную вайну. Герой Савецкага Саюза (1941). Загінуў у баі.

*Паўлоўскі Фёдар Іларыёнавіч* (1908—1989) — адзін з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі ў Айчынную вайну. Герой Савецкага Саюза (1941).

*Партизанский удар* (с. 230)

Друкуецца па машынапісным тэксце. Тэксты перадрукаваны з газ. «Красный флот», 1941, 10 кастр., дзе артыкул упершыню апублікаваны. Машынапіс захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А., воп. 1).

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Бярэзіна* — рака, правы прыток Дняпра. У Айчынную вайну 1812 г. армія Напалеона, адступаючы з Масквы, 14—16(26—28) лістап. пераправлялася цераз Бярэзіну, каля вёскі Студзёнкі. На заходні бераг перабраліся толькі невялікія рэшткі войск.

*...император уронил...*— Напалеон I — французскі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец, імператар (1804—1814 і сак.— чэрв. 1815 г.). 12(24) чэрв. 1812 г. напалеонаўскае войска ўварвалася ў межы Расійскай дзяржавы.

С. 231: *Герынг Герман* (1893—1946) — адзін з кіраўнікоў фашысцкай Германіі. На Нюрнбергскім працэсе як адзін з галоўных нацысцкіх ваенных злачынцаў прыгавораны да пакарання смерцю. Скончыў жыццё самагубствам.

*Рыбентроп Ёахім* (1893—1946) — міністр замежных спраў фашысцкай Германіі. Як адзін з галоўных ваенных злачынцаў па прыгавору Міжнароднага ваеннага трыбунала ў Нюрнбергу пакараны смерцю.

С. 233: *Чырковічы (Чыркавічы)* — вёска ў Светлагорскім раёне Гомельскай вобласці, на рацэ Чырка.

*Бумажкоў Ц. П.* — гл. камент. да арт. «Белорусский народ не пойдет в рабство», с. 419.

*О народной войне* (с. 234)

Друкуецца па кн. «Советским детям» (г. Горкі, 1941), дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

С. 235: *...а река Береза замерзнуть...*— Гл. камент. да арт. «Партизанский удар», с. 419.

*Напалеон I* — гл. камент. да арт. «Партизанский удар», с. 419.

С. 238: *«Партизаны, партизаны,∽Свору черных псов войны»*— верш Я. Купалы «Беларускім партызанам» (1941) у перакладзе на рускую мову.

С. 240. *...и написал как-то в газете...*— Я. Купала ўзгадвае артыкул «Германский фашизм — злейший враг белорусского народа» (1941). Артыкул быў апублікаваны ў газ. «Правда», 1941, № 197, 18 ліп. Я. Купала пісаў:

«Если враг сорвет яблоко, созревшее в нашем саду, оно разорвется ■ его руках гранатой!

Если он сожнет горсть наших тяжелых колосьев, зерна вылетят и поразят его свинцовым дождем!

Если он подойдет к нашим чистым студеным колодцам, они пересохнут, чтобы не дать ему воды!»

*Чырковічы* — гл. камент. да арт. «Партизанский удар», с. 419.

*Народ-мститель* (с. 244)

Друкуецца па брашуры Я. Купалы «Народ-мститель» (М., 1941), дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Я. Купала ў дадзеным артыкуле развівае думкі, выказаныя ім раней у артыкулах «Народная вайна» і «Партизанский удар», а таксама ў артыкуле «О народной войне». У гэтых творах нямала фактычных аналогій, тоесных канкрэтных назваў, імёнаў і выразаў.

У Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) друкаваўся з купюрамі.

*«Красная Армия, Красный Флот∞нашему народу».*— Вытрымка з прамовы І. В. Сталіна па радыё 3 ліп. 1941 г.

С. 245: *...со дня боя ■ Грюнвальдском лесу...*— Грунвальдская бітва адбылася 15 ліп. 1410 г.

*Великий русский∞просторах России.*— Гл. камент. да арт. «Народная война», с. 418.

С. 246: *Давыдаў Д.*— Гл. камент. да арт. «Паднялась Беларусь», с. 416.

*«Еще Россия не подымалась∞когда-нибудь подымется».*— Гл. камент. да арт. «Поднялась Беларусь», с. 416.

С. 248: *Чырковічы* — гл. камент. да арт. «Партизанский удар», с. 419.

С. 249: *Еще в XIII в. Полоцк начал борьбу с немецкими рыцарями.*— У 1203 г. полацкі князь Уладзімір аблажыў нямецкія крэпасці Ікскюль і Гольм.

*Продолженная Новгородом∞немецкой «свиньи» в Чудском озере.*— У 1242 г. адбылася бітва наўгародцаў на чале з Аляксандрам Неўскім з рыцарамі Лівонскага ордэна на Чудскім возеры.

С. 250: *В 1595 г., когда на Украине поднял восстание Наливайко...*— Гаворка ідзе пра рэйд казакаў С. Налівайкі (?—1597) і антыфеадальныя выступленні сялянаў на Беларусі (1595—1596).

*После восстания Хмельницкого на Украине...*— Маецца на ўвазе вайна 1648—1654 гг.

*...издавал для него «Мужицкую правду»...*— «Мужыцкая праўда» — нелегальная рэвалюцыйна-дэмакратычная, першая на беларускай мове газета (друкавалася лацінкай), якую выдаваў у 1862—1863 гг. Кастусь Каліноўскі з Ф. Ражанскім і інш. Выйшла 7 нумароў.

*«Про солдат Вильгельма∞Гитлеровы предки».*— Радкі з паэмы «Барысаў» (1934) у перакладзе на рускую мову.

*Во время оккупации 1918 г. ...*— Маецца на ўвазе першая сусветная вайна (1914—1918 гг.).

*Салтыкоў (Салтыкоў-Шчадрын) Міхаіл Яўграфавіч* (1826—1889) — рускі пісьменнік-сатырык.

*Суворау А. В.*— гл. камент. да арт. «Белорусский народ не позволит себя закабалить», с. 417.

*Хмяльніцкі Б.*— гл. камент. да арт. «Поднялась Беларусь!», с. 416.

*Под панами, царями ∞ пустыри орошали.*— Радкі з верша Я. Купалы «Засвяціла ярка зорка...» (1939) у перакладзе на рускую мову.

С. 252: *Гебельс Г.*— гл. камент. да арт. «Белорусский народ не позволит себя закабалить!», с. 417.

*Привет белорусскому слову!* (с. 252)

Друкуецца па машынапісным тэксце, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1, адз. зах. 147).

Упершыню — зб. «Публіцыстыка», 1972.

Датуецца 1941 годам.

*«За Савецкую Беларусь»...*— франтавая газета. Выдавалася на беларускай мове ў ліп. 1941 — кастр. 1942 гг. Была разлічана на насельніцтва Беларусі, часова акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі, і беларускіх партызан. Змяшчала творы Я. Купалы, Я. Коласа.

*Клянемся уничтожить врага!* (с. 253)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1-р. 12, адз. зах. 5, л. 1—2). Пад тэкстам: *Янка Купала. Народный поэт Белоруссии.*

Датуецца 1941 годам.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Сустракаюцца тэкстуальныя супадзенні з арт. «Белорусский народ не пойдет в рабство».

У ДзЛМЯнК захоўваецца таксама машынапіс артыкула (ф. А, воп. 1-р. 12, адз. зах. 134, л. 1). Пад тэкстам пазначана: *Янка Купала. Народный поэт Белоруссии.*

Аўтограф і машынапіс артыкула перадаў у Купалаўскі музей беларускі пісьменнік І. Барашка. У суправаджальным лісце ён паведаміў:

«Уважаемые товарищи!

Узнав от меня о подготовке к празднованию 80-летия Янки Купалы, мой сослуживец, главный редактор документальных фильмов Министерства культуры РСФСР т. Дурман Гораций Владимирович, любовно согласился передать в дар две статьи Я. Купалы (другі артыкул — «Дорогие товарищи!».— *С. З.*) с его автографом, написанные в 1941 году. Эти статьи хранились у него почти 20 лет (в военные годы он работал в редакции «Учительской газеты»).

С Новым годом!

*3 января 1961 г.* Илларион Барашка».

*<Обращение к участникам*
*I Всеславянского митинга>* (с. 254)

Друкуецца па машынапісе, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1-р. 128, адз. зах. 136, л. 1).

Датуецца 1941 годам.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

10—11 жн. 1941 г. Янка Купала прымаў удзел у І Усеславянскім мітынгу салідарнасці ў змаганні супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Машынапіс перадаў у Купалаўскі музей беларускі пісьменнік І. Барашка (гл. камент. да арт. «Клянемся уничтожить врага!», с. 421).

*З Новым годам, з блізкай перамогай* (с. 255)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 7, 5 студз., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

С. 255: *Новы год пачынаецца бліскучымі∞Арміі на фронце.*— Я. Купала вядзе гаворку аб бітве пад Масквой (30 верас. 1941 — 8 студз. 1942). Бітва пад Масквой была першай вялікай наступальнай аперацыяй Чырвонай Арміі, паваротным этапам у ходзе ўсёй другой сусветнай вайны.

*Кліч да беларускага народа* (с. 256)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, 8, 11 студз., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: *Янка Купала. Народны паэт БССР.*

Датуецца 9 студз. 1942 г.

Зварот напісаны з выпадку першых значных поспехаў савецкага народа ў Айчыннай вайне — разгрому Чырвонай Арміяй нямецка-фашысцкіх войск пад Масквой, вызвалення шэрагу гарадоў.

У час падрыхтоўкі дадзенага тома ў архіве, які захоўваецца ў нашчадкаў К. Чорнага, складальнікі пазнаёміліся з рукапісам артыкула, які напісаны рукою К. Чорнага. Пад тэкстам пазначана: «Напісана мной 9/1 1942 г. Урыўкі з вершаў даў Я. Купала, К. Чорны». Адзначаны факт пацвярджае і запіс, зроблены К. Чорным 5 ліп. 1944 г. у дзённіку: «..."Кліч да беларускага народа" і выступленне на першым беларускім радыёмітынгу з Казані зімой 1941 г. пісаў Купалу я» (Чорны К. Выбраныя творы. Мн., 2000)[1]. Параўнальны аналіз рукапіснага і першадрукаванага тэкстаў паказвае, што артыкул быў надрукаваны са скарачэннямі і нешматлікімі зменамі стылёва-лексічнага характару. Так, тэкст (с. 257 пасля «мілую Беларусь»): *«Мінулася гора, адышло ў нябыт няшчасце народа, знікла бяз следу панства і царская чыноўная чэлядзь. Народ разгарнуў плечы. Мы сталі як роўныя з роўнымі ў вялікай сталінскай сям'і савецкіх народаў. Наша зямля стала нашай, нашы багацці — нашымі, народнымі.*

*І таго, што дала нам бальшавіцкая партыя, ужо ніхто і ніколі ад нас не адбярэ, нягледзячы ні на якія выпрабаванні, якія выпадаюць на нашу долю»* і тэкст (с. 258 пасля «паслухмянасці») *«...іхняму прыхвасту Гітлеру. Яны даводзяць нам, што мы павінны быць заваёваным народам, а немцы будуць нашымі ўладарамі. Яны гавораць аб сваім «новым парадку» і рыхтуюць гэты парадак: яны падбіраюць на нашы землі нямецкіх князёў і баронаў, якія павінны будуць явіцца да нас як паны-немцы, а мы будзем працаваць на іх, і яны будуць смяяцца з нашай роднай беларускай мовы, якую Камуністычная партыя ўзвяла ў стан мовы дзяржаўнай, а яны будуць называць яе моваю сваіх парабкаў. Мы страшны немцам, асабліва цяпер, калі на фронце Чырвоная Армія пачала гнаць ворага з Савецкай зямлі»* — адсутнічаюць у газетнай публікацыі. Адсутнічаюць таксама ў першадруку і радкі (5—8, 13—16, 25—28) з верша Я. Купалы «Грабежнік» (1941), якія былі прыведзены ў рукапісным тэксце.

[1] Улічваючы тое, што «Кліч да беларускага народа» друкаваўся пры жыцці Я. Купалы і К. Чорнага за подпісам Янкі Купалы, рэдакцыйная калегія палічыла мэтазгодным змясціць зварот да беларускага народа ў асноўнай частцы тома, а не ў раздзеле «Калектыўныя творы».

У Зборы твораў (1972—1976) змешчаны з купюрамі. У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

С. 257: *...у стан нашай беларускай нацыянальнай дзяржавы — Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.*— Абвяшчэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі адбылося 1 студз. 1919 г.

С. 260: *«Партызаны, партызаны,∞Кроў за кроў, а смерць за смерць!»* — Радкі (1—5, 36—40) з верша Я. Купалы «Беларускім партызанам» (1941).

*Узнімайся, народзе мой,*
*на вялікую расплату!* (с. 260)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 10, 20 студз.

Упершыню — газ. «Красная Татария», 1942, 18 студз.

Датуецца годам апублікавання.

З гэтай прамовай Я. Купала выступіў на радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа ў Казані, які адбыўся 18 студз. 1942 г.

У Зборы твораў (1972—1976) прамова друкавалася з купюрамі. У Збор твораў (1961—1963) не ўключалася.

С. 261: *«Брыдзе, паўзе слінём∞фюрэр прускі, трупаед, грабежнік».*— Верш Я. Купалы «Грабежнік» (1941) прыводзіцца ў прамове ўпершыню.

С. 262: *...На нашай зямлі знайшлі сабе магілы звыш шасці мільёнаў немцаў.*— Усяго за час Вялікай Айчыннай вайны было забіта, паранена і ўзята ў палон 10 мільёнаў немцаў (Беларуская Энцыклапедыя. Т. 5. С. 181).

*«Партызаны, партызаны,∞Каб не ўскрэслі век яны».*— Прыведзены цалкам верш Я. Купалы «Беларускім партызанам» (1941).

*Отечественная война и белорусская интеллигенция* (с. 264)

Друкуецца па кн. «Материалы мартовской сессии Академии наук Белорусской Советской Социалистической Республики» (Казань, 1942, с. 23—34), дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 1942 годам.

Даклад Я. Купалы на сесіі АН БССР 12 сак. 1942 г. у Казані. У ДзЛМЯнК захоўваецца машынапіс выступлення (ф. А, воп. 1). Тэкст машынапісу супадае з першадрукам.

С. 265: *В январе 1919 года...*— Абвяшчэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі адбылося 1 студз. 1919 г.

*Сразу же после изгнания оккупантов с белорусской земли...*— Маецца на ўвазе выгнанне з усходняй і цэнтральнай частак Беларусі польскіх акупантаў у ходзе савецка-польскай вайны 1920 г.

*...а немного позднее — Институт белорусской культуры и Белорусское государственное издательство.*— Адкрыццё Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта) адбылося 30 студз. 1922 г. Беларускае дзяржаўнае выдавецтва было заснавана ў 1921 г.

*...среди них 25 действительных членов Академии наук.*— Трэба мець на ўвазе, што цягам 30-х гадоў звання правадзейнага члена АН былі пазбаўлены С. Я. Вальфсон, Г. І. Гарэцкі, П. В. Горын (Каляда), З. Х. Жылуновіч (Цішка Гартны), У. М. Ігнатоўскі, В. Ю. Ластоўскі, Я. Ю. Лёсік, С. М. Некрашэвіч, В. К. Шчарбакоў і інш.

С. 266: *Скарына Францыск (Францішак)* (да 1490 — каля 1551) — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, мысліцель-асветнік і гуманіст, вучоны і пісьменнік эпохі Адраджэння. Гуманістычныя ідэі Скарыны зрабілі ўплыў на грамадска-палітычнае жыццё ўсходнеславянскіх народаў. З імем Скарыны звязана станаўленне беларускай літаратурнай мовы і развіццё беларускай пісьменнасці.

*Гаркуша Ілля* — адзін з кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў народна-вызваленчай вайны 1648—1651 гадоў у Украіне і Беларусі.

*Гаркуша Сямён Іванавіч* (каля 1739—?) — кіраўнік паўстанцкіх атрадаў на Украіне і Беларусі ў 1770—1780-я гг. З прыгонных сялян Мазырскага павета. Пра Гаркушу як абаронцу прыгнечаных складзена шмат народных песень і апавяданняў.

*Нябаба Марцін* (?—1651) — чарнігаўскі палкоўнік казацкага войска ў час антыфеадальнай вайны 1648—1651 гг.

*Дунін-Марцінкевіч* — гл. камент. да арт. «Залёты», аперэтка Вінцука Дуніна-Марцінкевіча», с. 372.

*Багушэвіч Францішак Бенядзікт Казіміравіч* (1840—1900) — беларускі паэт, празаік, публіцыст і перакладчык.

*Цётка* — гл. камент. да арт. «Агляд кніг», с. 368.

*Багдановіч* — гл. камент. да арт. «Моладзь ідзе», с. 378.

С. 267: *Любан Ісак Ісакавіч* (1906—1975) — беларускі кампазітар. Быў знаёмы з Я. Купалам, аўтар многіх твораў на вершы паэта.

*Цікоцкі Яўген Карлавіч* (1893—1970) — беларускі кампазітар. Народны артыст СССР і БССР. Быў знаёмы з Я. Купалам. Напісаў музыку да спектакляў «Паўлінка» і «Прымакі», араторыю «Вызваленне» на словы Я. Купалы (1939).

*Багатыроў Анатоль Васілевіч* (н. 1913) — беларускі кампазітар, педагог і грамадскі дзеяч. Народны артыст БССР. Быў знаёмы з Я. Купалам, стварыў кантату «Беларускім партызанам» (1942) і шмат іншых музычных твораў на вершы паэта.

*Наши оперы «Михась Подгорный», «В пущах Полесья», «Цветок счастья», балет «Соловей»...* — Опера «Міхась Падгорны» напісана Я. К. Цікоцкім (лібрэта П. Броўкі); «У пушчах Палесся» — А. В. Багатыровым (лібрэта Я. Рамановіча паводле аповесці Я. Коласа «Дрыгва»), «Кветка шчасця» — А. Я. Туранковым (лібрэта В. М. Барысевіч, П. Броўкі і П. Глебкі). Музыку да першага беларускага балета «Салавей» напісаў кампазітар М. Я. Крошнер.

*Александроўская Ларыса Пампееўна* (1904—1980) — беларуская спявачка і рэжысёр. Народная артыстка СССР і БССР. Была знаёма з Я. Купалам. Выконвала песні на словы Я. Купалы.

З. Бядуля «Салавей» (1927); Э. Самуйлёнак «Пагібель воўка» (1939); К. Крапіва «Партызаны» (1937) і «Хто смяецца апошнім» (1939); К. Чорны «Бацькаўшчына» (1931) і «Ірынка» (1941); П. Глебка «Над Бярозай-ракой» (паст. 1940).

*Глебаў Глеб Паўлавіч* (сапр. Сарокін; 1899—1967) — беларускі акцёр. Народны артыст СССР. З 1926 г. працаваў у Беларускім тэатры імя Я. Купалы (цяпер — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы). Выконваў ролю Пранціся Пустарэвіча ў п'есе «Паўлінка» і гэтую ж ролю ў фільме «Паўлінка» (1952). Па радыё чытаў паэмы Я. Купалы «Курган» і «Нікому» (з Б. Платонавым, 1952), удзельнічаў у перадачы па паэме «Над ракой Арэсай» (1952), у спектаклі «Прымакі» (1959) выконваў ролю Трахіма Сініцы.

*Ждановіч Фларыян Паўлавіч* (1884—1937) — беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра. Паставіў купалаўскую «Паўлінку», дзе стварыў гратэскавы вобраз Быкоўскага, і драму «Раскіданае гняздо», дзе выконваў ролю Сымона.

*Платонаў Барыс Віктаравіч* (1903—1967) — беларускі акцёр. Народны артыст СССР, народны артыст БССР. Быў знаёмы з Я. Купалам з пачатку 1920-х гг. Значнае месца ў творчай біяграфіі займала

роля Адольфа Быкоўскага ў спектаклі «Паўлінка» (з 1944 г.), здымаўся ў фільме «Паўлінка» (1952). Выступаў з мастацкім чытаннем вершаў і паэм Я. Купалы па радыё.

*Сяргейчык Цімафей Мікалаевіч* (1899—1977) — беларускі акцёр. Народны артыст БССР. У 1936 г. у спектаклі «Вечар беларускіх вадэвіляў», куды ўваходзіла і п'еса «Паўлінка», сыграў ролю Сцяпана Крыніцкага. Выконваў ролю Лявона Зябліка ў спектаклі «Раскіданае гняздо».

*Грыгоніс Генрых Юр'евіч* (1889—1955) — беларускі акцёр. Народны артыст БССР. У п'есе «Раскіданае гняздо» сыграў ролю Старца, у «Паўлінцы» — Пранціся Пустарэвіча, а ў п'есе «Прымакі» — ролю Трахіма Сініцы. Чытаў вершы Я. Купалы па радыё.

*Уладамірскі Уладзімір Іосіфавіч* (сапр. Малейка; 1893—1971) — беларускі акцёр. Народны артыст СССР. У спектаклі «Прымакі» выконваў ролю Максіма Кутаса.

*Ільінскі Аляксандр Канстанцінавіч* (1903—1967) — беларускі акцёр. Народны артыст СССР. У спектаклі «Раскіданае гняздо» стварыў вобраз Старца.

*Малчанаў Павел Сцяпанавіч* (1902—1977) — беларускі акцёр. У маі 1936 г. на сцэне БДТ-2 паставіў спектакль «Вечар беларускіх вадэвіляў». Асабліва Янку Купалу спадабаўся П. Малчанаў у ролі Максіма Кутаса ў сцэнічным жарце «Прымакі». Сем'і Я. Купалы і П. Малчанава сябравалі, адзін час на працягу месяца сям'я П. Малчанава жыла ў доме паэта на Кастрычніцкай вуліцы.

*Колас Якуб* (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — класік беларускай літаратуры. Народны паэт БССР. Акадэмік АН БССР. У 1929—1956 гг. віцэ-прэзідэнт АН БССР. На працягу амаль 30 гадоў Я. Купалу і Я. Коласа звязвала творчая і асабістая дружба.

*Лучшие произведения Я. Коласа∾уже при Советской власти.*— Паэмы «Новая зямля» (1911—1923), «Сымон-музыка» (1911—1925), «У палескай глушы» (1923), «У глыбі Палесся» (1927), «На прасторах жыцця» (1926), «Дрыгва» (1934).

С. 268: *Бядуля Змітрок* (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941) — беларускі пісьменнік. З Я. Купалам пазнаёміўся ў Вільні ў пачатку 1913 г. Моцны ўплыў Я. Купалы адчувальны на ўсёй паэзіі З. Бядулі дарэвалюцыйнага і савецкага часу.

«На зачарованых гонях» (1923), «Салавей» (1927), «Язэп Крушынскі» (1928—1932).

*Крапіва Кандрат* (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896—1991) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР. Акадэмік АН БССР. Пазнаёміўся з Я. Купалам у 1925 г.

*Лынькоў Міхась* (Міхаіл Ціханавіч; 1899—1975) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР. Акадэмік АН БССР. Пазнаёміўся з Янкам Купалам у 1930 г. Аўтар артыкулаў пра Я. Купалу.

*Чорны Кузьма* (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900—1944) — беларускі пісьменнік. Быў знаёмы з Я. Купалам, часта сустракаўся з ім.

*Бройка Пятрусь* (Пётр Усцінавіч, 1905—1980) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР Акадэмік АН БССР Пазнаёміўся з Я. Купалам у 1931 г

*Глебка Пятро* (Пётр Фёдаравіч, 1905—1969) — беларускі паэт Акадэмік АН БССР. Пазнаёміўся з Я Купалам вясной 1926 г

*Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч* (1914—1978) — беларускі паэт. Народны паэт БССР. Быў знаёмы з Я. Купалам з пачатку 1930-х гг.

*Танк Максім* (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995) — беларускі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР. Акадэмік АН БССР. Удзельнік вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Пазнаёміўся з Я. Купалам у 1939 г.

*Панчанка Пімен Емяльянавіч* (1917—1995) — беларускі паэт. Народны паэт БССР. Ганаровы акадэмік АН БССР. Ведаў Я. Купалу з 1938 г.

*Гурскі Ілья Данілавіч* (1899—1972) — беларускі пісьменнік. Пазнаёміўся з Я. Купалам у 1925 г.

*«Беларусь на куце∞Пазірае смела...»* — Радкі з паэмы Янкі Купалы «Безназоўнае» (1924).

С. 272: *...геройство генерал-майору Доватору...*— Даватар Леў Міхайлавіч (1903—1941) — генерал-маёр, Герой Савецкага Саюза. Загінуў у баі каля вёскі Палашкіна.

*...комсомолец лейтенант Олейников...*— Алейнікаў Сяргей Пятровіч (1909—1984) — Герой Савецкага Саюза. У Вялікую Айчынную вайну са жн. 1941 г. на фронце, штурман авіяцыі далёкага дзеяння, маёр. Зрабіў 240 вылетаў на разведку і бамбардзіроўку аб'ектаў праціўніка.

*...сержант комсомолец Рыбак.*— Рыбак Ульян Аляксандравіч — Герой Савецкага Саюза. Вызначыўся ў снеж. 1944 г. пры разведцы сіл праціўніка ў Карпатах: з падначаленымі знішчыў і ўзяў у палон шмат гітлераўцаў, здабыў каштоўныя звесткі пра ворага. За час вайны ўзяў 57 «языкоў», знішчыў 10 варожых танкаў.

С. 274: *Бумажкоў* — гл. камент. да арт. «Белорусский народ не пойдет в рабство», с. 419.

С. 276: *Стаховіч Алесь* (Аляксандр Іосіфавіч; 1907—1956) — беларускі пісьменнік.

*«У кожны міг,∞Зямлі святой багатыры!»* — Радкі з верша Я. Коласа «Абаронцам роднай зямлі» (1941).

*«Знай, на чале народ∞збэшчанай пародай».*— Радкі з верша Я. Купалы «Паўстаў народ» (1941).

С. 277: *Бараноўскі Уладзімір Дзмітрыевіч* (1928—?) — беларускі дзеяч самадзейнага мастацтва. Пастаноўшчык гарадскіх і абласных тэатралізаваных народных масавых свят і відовішчаў у Магілёве, у сцэнарыях якіх шырока выкарыстоўваў творы Янкі Купалы. Паставіў спектаклі «Раскіданае гняздо» (1958), «Паўлінка» (1962) у Магілёўскім народным тэатры Дома культуры чыгуначнікаў, падрыхтаваў літаратурную кампазіцыю па творах Я. Купалы (1962).

*Бірыла Сцяпан Сцяпанавіч* (1903—1978) — беларускі акцёр. Народны артыст БССР. Выканаўца ролі Вядучага ў спектаклі «Паўлінка». Чытаў вершы Я. Купалы па радыё.

*Ждановіч Ірына Фларыянаўна* (1906—1994) — беларуская актрыса. Народная артыстка БССР. Выконвала ролі Юркі і Данілкі ў спектаклі «Раскіданае гняздо». Чытала вершы Я. Купалы ў канцэртах («Хлопчык і лётчык», «Алеся», «Беларускім партызанам»).

*Галіна Вольга Уладзіміраўна* (сапр. Александроўская; 1899—1980) — беларуская актрыса, педагог. Народная артыстка БССР.

*Ржэцкая Лідзія Іванаўна* (1899—1977) — беларуская актрыса. Народная артыстка СССР. Выконвала ролі Зоські («Раскіданае гняздо») і Альжбеты («Паўлінка»). Здымалася ў фільме «Паўлінка» (1952).

*Міронава Кацярына Эдуардаўна* (1883—1946) — беларуская актрыса. Стварыла вобраз Агаты ў спектаклі «Паўлінка», а таксама вобраз Паланеі ў спектаклі «Прымакі».

С. 278: *Грубэ Аляксандр Васільевіч* (1894—1944) — беларускі скульптар. Народны мастак БССР.

*Зайцаў Яўген Аляксеевіч* (1908—1992) — беларускі жывапісец. Народны мастак БССР. Аўтар карціны «Янка Купала і Максім Горкі» (1945).

*Азгур Заір Ісакавіч* (1908—1995) — беларускі скульптар. Народны мастак БССР. Стварыў помнік-бюст паэту, які быў устаноўлены ў Цэнтральным скверы г. Мінска (з 1972 г.— у Вязынцы).

*Малкін Барыс Яўсеевіч* (1908—1972) — беларускі тэатральны мастак.

*Забораў Абрам Барысавіч* (1911—1984) — беларускі жывапісец.

*Гаўрыленка Павел Нічыпаравіч* (1902—1961) — беларускі жывапісец.

*<Тэлеграма ўдзельнікам антыфашысцкага мітынгу прадстаўнікоў беларускай моладзі>* (с. 278)

Друкуецца па машынапісным тэксце, які захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (ф. 63, воп. 13, спр. 10, л. 76). Пад тэкстам: *Янка Купала.*

Датуецца 25 крас. 1942 года.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У ДзЛМЯнК захоўваецца машынапіс тэлеграмы на рускай мове (ф. А, воп. 1, адз. зах. 145). Пад тэкстам: *Казань, Союз писателей, Я. Купала.* Уверсе машынапісу: Москва, Филипповский, 22, СНК БССР.

Антыфашысцкі мітынг прадстаўнікоў беларускай моладзі адбыўся 25 крас. 1942 г. у Маскве.

Удзельнікі мітынгу паслалі адказ Янку Купалу на яго тэлеграму:

Народнаму паэту БССР
Янку Купалу

Дарагі Іван Дамінікавіч!

Антыфашысцкі мітынг прадстаўнікоў беларускай моладзі шле Вам, песняру беларускага народа, шчырае юнацкае прывітанне. Вашы вершы і паэмы натхняюць нас на свяшчэнную барацьбу з нямецка-фашысцкімі бандытамі. Мы цвёрда ўпэўнены, што хутка наша Беларусь будзе зноў свабодная і шчаслівая і Вашы песні будуць яшчэ званчэй гучаць над роднай старонкай.

Жадаем Вам многа сіл і здароўя, шмат гадоў жыцця і плённай працы на карысць нашай любімай Радзімы.

*Удзельнікі антыфашысцкага мітынгу прадстаўнікоў беларускай моладзі.*

Машынапіс, па якім друкуецца тэлеграма, і адказ удзельнікаў антыфашысцкага мітынгу Я. Купалу, а таксама год і месца праўдзення яго выявіў доктар гістарычных навук А. А. Каваленя.

*Край мой родной! Мой любимый народ!* (с. 279)

Друкуецца па машынапісе, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1-р, 12, адз. зах. 144, л. 1—2).

Паводле зместу артыкул можна аднесці да 1941—1942 гг

У Збор твораў уключаецца ўпершыню

## КАЛЕКТЫЎНЫЯ ТВОРЫ

### 1909

*<Віншаванне М. Федароўскаму>* (с.283)

Друкуецца па кн.: Саламевіч Я. Міхал Федароўскі. Мн., 1972. С. 50—51.

Датуецца 10 лістап. 1909 г.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Федароўскі Міхал* (1853—1923) — беларускі і польскі фальклnetwork-рыст, этнограф. Аўтар фундаментальнай працы «Люд беларускі» (т. 1—8), у якой змешчана больш за 500 казак, каля 3 500 народных павер'яў, забабонаў, парад па народнай медыцыне і г. д.

### 1911

*К русскому обществу* (с. 283)

Друкуецца па газ. «Речь» (Санкт-Пецярбург), 1911, 30 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Судовы працэс над М. Бэйлісам, якога абвінавачвалі ў рытуальным забойстве хлопчыка, працягваўся да 28 кастр. 1913 г. Бэйліс быў апраўданы.

Гэты зварот напісаў У. Караленка, які ў гэты час знаходзіўся ў Пецярбургу. Зварот быў перадрукаваны ўсімі газетамі, за выключэннем манархічных і чарнасоценскіх. «Здесь рядом стояли имена людей разных, зачастую прямо враждебных мировоззрений, объединившихся в одном протесте: Леонид Андреев, Алексей Толстой, С. Н. Сергеев-Ценский, Н. Д. Анненский, С. Я. Елпатьевский, А. А. Блок, А. С. Серафимович, Янка Купала, Д. Крачковский, Д. С. Мережковский, З. Н. Гиппиус, Федор Сологуб, П. Б. Струве, М. И. Туган-Барановский и многие другие»[1].

### 1927

*Да навуковых працаўнікоў Захаду* (с. 287)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1927, № 21, 27 студз., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*<Запіска>*
*у Народны камісарыят унутраных спраў БССР*

Друкуецца па аўтографе, які знаходзіцца ў Нацыянальным архіве РБ (ф. 34, воп. 1, спр. 719, л. 2—6).

Датуецца 28 снеж. 1927 г.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у фондзе № 34

---

[1] Миронов Г. Короленко. М., 1962. С. 315—316.

(НКУС БССР) захоўваюцца рэгістрацыйныя справы грамадскіх арганізацый Беларусі 1920-х гг., у тым ліку літаратурнага аб'яднання «Полымя» з аўтографамі яго заснавальнікаў.

Уверсе злева на першым лісце праекта Статута аб'яднання беларускіх пісьменнікаў «Полымя» ёсць рэзалюцыя: «Статут зацвярджаецца. Нам. Нар. Кам. Унутр. Спраў Б. С. С. Р. Кроль. 16 студзеня 1928 г.».

Ніжэй зроблена памета: «Атрымаў В. Сташэўскі. 16/1-28 г.».

Заснавальнікі падпісаліся пад праектам Статута і суправаджальнай запіскай да яго. Подпісы зроблены чарнілам і алоўкам.

Праект Статута і запіску да яго Янка Купала падпісаў хімічным звычайным алоўкам. Якуб Колас, напрыклад, падпісаў праект Статута чарнілам сіняга колеру, а запіску хімічным алоўкам[1].

## 1928

*Супроць катаржнага прысуду над Грамадой* (с. 294)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1928, № 119, 25 мая, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Працэс над Грамадой пачаўся 23 лют. 1928 г. у Віленскім акруговым судзе. 26 лют. на сходзе літаратараў і вучоных Мінска быў створаны Камітэт работнікаў і пісьменнікаў БССР па абароне «Беларускай сялянска-работніцкай Грамады» (старшыня — Янка Купала, намеснікі — Якуб Колас і Я. Вальфсон).

## 1930

*Пратэст пісьменнікаў БССР* (с. 297)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1930, № 237, 10 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад агульным загалоўкам «Хваля пратэстаў у БССР супроць крывавай расправы польскага фашызму над сялянствам Заходняй Украіны».

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## 1932

*Беларускія пісьменнікі на Днепрадэсе* (с. 299)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1932, № 20, 24 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 15 кастр. 1932 г.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Ліст у газету з нагоды паездкі на Днепрадэс і Харкаў брыгады беларускіх пісьменнікаў (10—15 кастр.).

---

[1] Упершыню паведамленне аб гэтым прагучала 15 верас. 1998 г. на Першых кнігазнаўчых чытаннях у Нацыянальнай бібліятэцы РБ (гл. Куркоў І. М. З гісторыі Усебеларускага таварыства бібліяфілаў // Матэрыялы Першых кнігазнаўчых чытанняў. Нац. б-ка Беларусі. Склад. Т. І. Рошчына. Мн., 2000. С. 136. Публікацыю падрыхтаваў І. М. Куркоў).

*Пісьменнікі БССР пратэстуюць супроць фашыстоўскага суда над тав. Б. Тарашкевічам* (с. 300)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1932, № 267, 30 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Тарашкевіч Б.*— гл. камент. да арт. «Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 год», с. 386.

## 1933

*Адказ камсамольцам Случчыны* (с. 302)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1933, № 25, 18 верас., дзе ўпершыню апублікаваны. Адказ пісьменнікаў на ліст камсамольцаў, змешчаны ў газ. «Чырвоная змена», 1933.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## 1934

*Писатели Белорусской ССР, делегаты Первого Всесоюзного съезда,— товарищу Сталину* (с. 303)

Друкуецца па газ. «Правда», 1934, № 233, 28 жн., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Першы Усесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў праходзіў у Маскве з 17 жн. па 1 верас.

## 1935

*Барацьбіту за перадавыя ідэі чалавецтва* (с. 305)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1935, № 33, 28 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны.

Прывітанне беларускіх пісьменнікаў Р. Ралану ў сувязі з яго прыездам у Савецкі Саюз.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Трохкутніку Магілёўскай фабрыкі штучнага шоўку* (с. 306)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1935, № 64, 1 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

7 лістап. 1930 г. у Магілёве была ўведзена ў строй фабрыка штучнага шоўку (з 1962 г.— завод штучнага валакна імя В. Куйбышава).

Т. зв. *«трохкутнік»* — адміністрацыя, партыйная і прафсаюзная арганізацыі прадпрыемства.

*Памяти великого человека* (с. 307)

Друкуецца па газ. «Правда», 1936, № 168, 20 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Бывай, наш Горкі!* (с. 308)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1936, № 39, 20 чэрв. Некралог савецкіх пісьменнікаў з прычыны смерці М. Горкага.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Родны, любімы Іосіф Вісарыёнавіч!* (с. 309)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1936, № 149, 29 жн., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Троцкі Л. Д.* — гл. камент. да арт. «Антанта», с. 379.

*Зіноўеў* (сапр. Радамысльскі) *Рыгор Яўсеевіч* (1883—1936) — з 1907 г. член ЦК Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі, кандыдат у члены Палітбюро (1917, 1921—1926 гг.), старшыня Выканаўчага Камітэта Камуністычнага Інтэрнацыянала. У 1926 г. узначаліў апазіцыю Сталіну. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання па «Справе трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра». Рэабілітаваны ў 1988 г.

*Каменеў* (сапр. Разенфельд) *Леў Барысавіч* (1883—1936) — з 1901 г. член Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі, старшыня Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У 1919—1926 гг.— член Палітбюро. У 1936 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання па «Справе трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра». Рэабілітаваны ў 1988 г.

*Кіраў* (сапр. Кострыкаў) *Сяргей Міронавіч* (1886—1934) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч.

*Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!* (с. 311)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1936, № 234, 11 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Напісаны з нагоды 30-гадовага юбілею літаратурнай творчасці Якуба Коласа.

*Гікала Мікалай Фёдаравіч* (1897—1938) — ваенны і партыйны дзеяч. Са студз. 1932 г. да студз. 1937 г. першы сакратар ЦК КП(б)Б.

*Гераічнаму народу Іспаніі.*
*Ларга Кабальера, Хасэ Дыясу, Далорэс Ібаруры,*
*Рафаэлю Альберці* (с. 311)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1936, 7 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню

*Ларга Кабальера* (1869—1946) — дзеяч іспанскага рабочага руху. У 1918—1937 гг.— генеральны сакратар Усеагульнага саюза працоўных.

*Дыяс Хасэ* (1895—1942) — дзеяч іспанскага і міжнароднага рабочага руху.

*Ібаруры Далорэс* (1895—1989) — дзеяч іспанскага і міжнароднага рабочага руху. У 1942—1959 гг.— генеральны сакратар КП Іспаніі.

*Альберці Рафаэль* (1902—1999) — іспанскі паэт, камуніст.

*Правадыру народаў вялікаму Сталіну* (с. 313)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1936, № 62, 7 лістап. Напісаны ў сувязі з падзеямі ў рэспубліканскай Іспаніі, дзе 17—18 ліп. пачаўся ваенны мяцеж пад кіраўніцтвам генерала Ф. Франка.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Гётэ Ёган Вольфганг* (1749—1832) — нямецкі пісьменнік.

*Сервантэс Сааведра Мігель дэ* (1547—1616) — іспанскі пісьменнік.

*Дантэ Аліг'еры* (1265—1321) — італьянскі паэт.

*Паэты і пісьменнікі*
*пра Дом Чырвонай Арміі* (с. 314)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1936, 17 лістап.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Дом афіцэраў (як ён стаў называцца пазней) будаваўся ў Мінску ў перыяд з 1934-га па 1939 г. Першая чарга была завершана ў 1936 г.

*Беларускія савецкія пісьменнікі*
*тав. С. Арджанікідзе* (с. 315)

Друкуецца па часоп. «Полымя», 1936, № 10.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Арджанікідзе Рыгор Канстанцінавіч* (Сярго; 1886—1937) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч.

## 1937

*Бессмертный образ* (с. 316)

Друкуецца па «Литературной газете», 1937, № 10, 20 лют., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Артыкул напісаны з нагоды смерці Сярго Арджанікідзе (скончыў жыццё самагубствам).

С. 317: *Творческие походы Серго Орджоникидзе за освобождение Белоруссии от белопольского нашествия...*— Сярго Арджанікідзе наведваў Беларусь як прадстаўнік ЦК РСДРП(б) у 1917 г. і як член Рэўваенсавета 16-й арміі Заходняга фронту ў 1919 г.

*Против фашистских вандалов,*
*против поджигателей войны!* (с. 317)

Друкуецца па газ. «Известия», 1937, № 65, 16 сак., дзе ўпершыню апублікаваны з падзагалоўкам: «Советские работники культуры — друзьям передового и прогрессивного человечества».

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Артыкул напісаны ў сувязі з вайной у Іспаніі.

